**Uniwersytet Warszawski**
Варшаўскі Універсітэт

**Studium Europy Wschodniej**
Студыюм Усходняй Еўропы

**Centrum Studiów Białoruskich**
Цэнтр Беларускіх Студыяў

# Rocznik Centrum Studiów Białoruskich
# Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў

**Nr 4 / № 4**

*Dedykuję się 100-leciu*
*Białoruskiej Republice Ludowej*

*Прысвячаецца 100-годдзю*
*Беларускай Народнай Рэспубліцы*

**Warszawa / Варшава 2018**

**Над нумарам працавалі:**

**Henadź Semianchuk / Генадзь Семянчук**
(redaktor / рэдактар)

**Tacciana Kasataja / Таццяна Касатая**
(sekretarz redakcji / сакратар рэдакцыі)

**Aleksander Wójcicki / Аляксандр Вуйціцкі**
(sekretarz techniczny / тэхнічны сакратар)

**Filip Urbański / Філіп Урбаньскі**
(tłumaczenia białorusko-polskie / пераклады беларуска-польскія; korekta tekstów polskich / карэктура польскіх тэкстаў)

**Aliaksandr Perahudau / Аляксандр Перагудаў**
(projekt okładki / праект вокладкі)

**Katsiaryna Krot / Кацярына Крот**
(korekta tekstów w j. białoruskim / карэктура беларускіх тэкстаў)

**Iurii Tkachuk / Юрій Ткачук**
(korekta tekstów w j. ukraińskim / карэктура ўкраінскіх тэкстаў)

**Dr Anna Rędzioch-Korkuz /Анна Рэндзёх-Коркуз**
(tłumaczenia polsko-angielskie / пераклады польска-англійскія)

**Zmicer Hupianiec / Зміцер Гупянец**
(skład i łamanie / камп'ютарная вёрстка)

## Recenzenci / Рэцэнзенты:

Prof. dr hab. Eugieniusz Mironowicz, prof. dr hab Antoni Mironowicz, dr hab. Oleg Łatyszonek prof. UwB, doc. dr Aliaksiej Shalanda, doc. dr. Albina Semianchuk, dr Andrej Miacelski / праф. др. габ. Яўген Мірановіч, праф. др. габ. Антоні Мірановіч, др. габ. Алег Латышонак праф. Універсітэта ў Беластоку, дац. к.г.н. Аляксей Шаланда, дац. к.г.н. Альбіна Семянчук, к.г.н. Андрэй Мяцельскі

**Druk i oprawa:** Drukarnia Duo Studio




Карта
Беларускай Народнай
Рэспублікі
Масштаб 1:2000000
границы Рэспублікі
„ старых расейскіх губэрняў
„ паветаў
Carte
de la République Democratique
Blanche-Ruthénienne
Echelle 1:2000000
Limites de la République
„ des anciens gouvernements russes
„ des districts
RUSSIE
BLANCHE RUTHÉNIE
LETTONIE
LITHUANIE
ALLEMAGNE
POLOGNE
UKRAINE
MER BALTIQUE
Golf de Riga
RIGA
MOSCOU
Smolensk
Witebsk
MINSK
WILNA
Mohilew
Grodno
Bielystok
Brest
Pinsk
Kowno
Dünaburg
Homel
Orel
Briansk
KIEW
WARSOVIE
Königsberg
De Greenwich

# Spis treści / Змест

## Госці



## Працы сяброў ЦБС

## Маладыя навукоўцы



## Крыніцы:



## Рэцэнзіі:

**Віталь Галубовіч**
**(Гродна)**

# *„Мы, Корсакі Залескія і Бабыніцкія...”*: кланавая салідарнасць як элемент шляхецкай культуры Полаччыны ў XVII ст.

Палітычная і культурна-гістарычная адметнасць Полаччыны ў складзе Вялікага Княства Літоўскага даўно стала агульнапрызнаным фактам. Праяўлялася яна найперш ва ўласцівым палачанам імкненні да самастойнасці, што было не толькі вынікам больш чым 400-гадовага існавання Полацкага княства. Уласцівыя палачанам традыцыі сумеснага вырашэння актуальных грамадскіх праблем трансфармаваліся ў часы ВКЛ, з аднаго боку, у гарадское самакіраванне, а з другога — у мясцовыя соймы, сумесныя нарады лакальнай эліты:ураднікаў, баярства і мяшчан. Пазней прадстаўнічыя інстытуты сталі асобнымі, выключна шляхецкімі, установамі. Выдатным прыкладам рэгіянальнай самасвядомасці з'яўляецца гісторыя змагання полацкай шляхты за права выбару ваяводаў у XVI–XVII стст[1]. Апроч таго, Полацк быў духоўным цэнтрам Падзвіння, галоўным асяродкам культуры, дзякуючы царкве[2], якая была ці не адзіным грамадскім інстытутам, які дбаў пра культурную спадчыну, праўда, у межах пэўнай тэндэнцыі.

Але мазаіка, з якой складаецца ўнікальнасць Полаччыны, будзе няпоўнай, бадай, нават незразумелай, калі не бачыць іншыя кантынуумы, без якіх не мае сэнсу ўвогуле „рэканструяваць” гісторыю, тым больш ёй ганарыцца. Маем на ўвазе найперш людзей, грамадскія адносіны

[1] В. Галубовіч, *Полацкая шляхта і дынастыя Вазаў,* Мінск 2016, с. 15–30, 48–50.

[2] В. Варонін, *Полаччына і палачане ў нацыянальна-культурным і рэлігійным жыцці Вялікага княства Літоўскага першай паловы XVI ст.*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne”, 2002, № 17, s. 216–218.

і структуры. Пры ўсёй зменлівасці і нетрываласці жыцця ў мінулым людзі тым не менш выпрацавалі механізмы выжывання, адным з якіх, магчыма найважнейшым, была родавая салідарнасць. У традыцыйным саслоўным грамадстве сваяцкія адносіны адыгрывалі выключную ролю. Дарэчнымі тут будуць словы французскага гісторыка Марка Блока: *„… росквіт асабістага заступніцтва і падпарадкавання, так уласцівы для соцыума, які мы называем феадальным, быў азнаменаваны таксама ўмацаваннем сваяцкіх сувязей; часіны былі цяжкія, дзяржаўная ўлада бяссільная, і чалавек быў зацікаўлены ў невялікай групе людзей, якой бы яна ні была, якая б магла яго падтрымаць і аказаць дапамогу"*[3]. Гэта датычылася ўсіх сацыяльных груп, у тым ліку і шляхты. Зразумела, што далёка не кожны род выжываў у генетычным спаборніцтве, а ў лакальную гісторыю сваю разнастайнасць уносілі ўнутраныя і знешнія мігранты, тым не менш, бадай кожны рэгіён ВКЛ можна маркіраваць шэрагам кланаў, якія з'яўляліся нязменнай і арганічнай часткай мясцовага грамадства. Здольнасць выжываць і дамінаваць, несумненна, з'яўляецца вынікам спалучэння біялагічных і сацыяльных фактараў. Сярод апошніх для ўласна выжывання фактар салідарнасці адыгрываў вельмі істотную ролю. Якія роды полацкай шляхты аказаліся здольнымі прадэманстраваць стабільнае генетычнае і сацыяльнае здароўе ў XVI–XVIII стст.? Корсакі, Глазкі, Эпімахі, Цяпінскія, Мяніцкія і інш. Уласна яны і былі тымі гарызантальнымі і вертыкальнымі ланцужкамі, якія вызначалі ў прамым і пераносным сэнсе слова „фізіяномію" Полаччыны ў гэты час. Прадстаўнікі гэтых кланаў як носьбіты лакальнай самасвядомасці выступалі салідарна ад імя свайго рэгіёна, баранілі яго інтарэсы.

Усталяванне саслоўнай мадэлі грамадства ў ВКЛ да сярэдзіны XVI ст., што было звязана ў першую чаргу з фармаваннем шляхецкага стану, змяняла і формы салідарнасці ў грамадстве. У шляхты, якая набыла ў выніку рэформаў сярэдзіны XVI ст. „пакет" прывілеяў, стала больш выразна выяўляцца агульнаграмадзянская і kastава-саслоўная салідарнасць. Прывілеяванаму стану ВКЛ была ўласціва і родавая салідарнасць. Класічныя ўзоры такой кансалідацыі дэманстравалі Радзівілы, якія маглі належаць да розных галін і канфесій, нават канфліктаваць, але ў пэўных прэстыжных для ўласнага Дому пытаннях выступалі кансалідавана. Гэтага не магла не бачыць шляхта, якая шмат у чым капіравала паводзіны *„першых сярод роўных"*. Такая стратэгія была ўласціва і прадстаўнікам найбольш уплывовага шляхецкага роду Полаччыны — Корсакам.

3 М. Блок, *Феодальное общество*, Москва 2003, с. 142.




**Выява герба Корсакаў**

Тое, што азначала „гісторыя" Корсакаў для Полаччыны, можна праілюстраваць вельмі красамоўнымі фактамі. Корсакі з'яўляюцца самым старажытным полацкім баярскім родам, чыя генеалогія ўзыходзіць да XIV ст. З гэтага пункту гледжання канкурэнтамі іх маглі быць толькі князі Друцкія[4]. Пратапласта роду — Фёдар — уваходзіў у склад баярскай рады пры полацкім князі Андрэі[5]. У XV ст. заслугі Корсакаў былі нагэтулькі значныя, што вялікія князі прызначалі іх сваімі намеснікамі ў Полацку, што з'яўлялася сведчаннем асаблівага даверу, паколькі пасада гэтая надзвычай рэдка перадавалася прадстаўнікам мясцовага грамадства[6]. Пра памеры магутнасці Корсакаў яскрава сведчаць даныя перапісу войска ВКЛ 1528 г., паводле якіх яны выстаўлялі амаль палову (49,5 %) усіх шляхецкіх вершнікаў. Паводле рэвізіі 1552 г., гэта лічба была больш сціплай, але вельмі значнай — 31,6 %[7]. Пры гэтым у 1552 г. амаль 10 % усяго шляхецкага войска ваяводства фармаваў найбольш заможны шляхціц Дмітр Корсак[8]. Найбольш жа ўражвае статыстыка, паводле якой у маёнтках Корсакаў жыло больш за 40 % усіх сялян шляхты Полаччыны[9].

Цікавым фактам з'яўляецца тое, што з ліку полацкай шляхты толькі Корсакі аказаліся здольнымі на стварэнне сваёй родавай „міфалогіі" па матывах вядомых летапісных апавяданняў, і, напэўна, ім імпанавала паданне пра сваяцтва з вялікім князем Свідрыгайлам, што „рабіла" кроў у іх жылах надзвычай высакароднай[10]. Абыйсці ўвагай і гонарам такіх „князёў-паўкровак" не маглі і складальнікі геральдычна-генеалагічных прац ужо ў XVI ст. У адным з найбольш аўтарытэтных выданняў таго часу, гербоўніку Барташа Папроцкага *„Gniazdo cnoty"*, адмыслова змешчаны

4 С. Рычбонок, *Родословие князей Друцких в XIV–XVII вв.,* [в:] *Друцк: Друцк и Друцкая волость (княжество) в IX–XII вв., летопись древних слоёв, князья Друцкие и их владения в XIII–XVIII вв., ремесло, промыслы, торговля (по данным археологии, нумизматики, письменных источников), памятники архитектуры и объекты туризма,* Минск 2014, с. 219–234.

5 *Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв.*, Москва 2015, том II, с. 385.

6 Тамсама, том II, с. 413–414.

7 В. Варонін, *Сацыяльна-эканамічнае і палітычнае развіццё Полацкага ваяводства ў першай палове XVI стагоддзя* / Дысертацыя на суісканне вучонай ступені кандыдата гістарычных навук, Мінск 2000, с. 69.

8 Тамсама, с. 71.

9 Тамсама, с. 71.

10 В. Галубовіч, *Miscellanea historica Polocensia = Даследаванні па гісторыі Полаччыны XII–XVII стст.*, Гродна 2014, с. 29.

Dom zacny Korſakow ſtárodawny y możny.



**Выява Корсакаў з гербоўніка Б. Папроцкага (1578)**

корсакаўскі герб „Катвіца" і шаблонная выява прадстаўнікоў роду з адзнакай: *„Дом паважаны Корсакаў, старадаўні і магутны"*[11].

У эпоху праўлення манархаў дынастыі Вазаў Корсакі ў цэлым захоўвалі трывалыя ўплывы на Полаччыне, што выявілася ў іх заўсёднай прысутнасці ў мясцовай адміністрацыі, выкананні пасольскіх і дэпутацкіх функцый[12]. Корсакі былі ў першых шэрагах грамадскіх актывістаў і ўвогуле былі здольныя на мабілізацыю свайго „дэмаграфічнага" патэнцыялу на масавыя антыпраўныя акцыі: разбурэнне полацкага кальвінскага збора ў 1638 г., штурм полацкага замка ў 1641 г.[13]

Унікальным прыкладам магчымасцей роду Корсакаў дзейнічаць салідарна ў імя агульных інтарэсаў з'яўляецца невядомая пастанова, копія якой захавалася ў адзінай земскай кнізе Полацкага ваяводства першай паловы XVII ст[14]. Аўтарамі пастановы, якая была разгледжана на сесіі земскага суда ў 1623 г., выступілі полацкія зямяне, прадстаўнікі выключна аднаго роду — Корсакаў: Міхал, полацкі гродскі суддзя, Ёзаф, Багдан, Мізаэль, Аляксандр, Габрыэль, Ян, Тобіяш.

Ухвалены Корсакамі дакумент меў прынятую ў практыцы шляхецкага справаводства форму. Звычайна соймікавыя пастановы, у тым ліку і полацкай шляхты, пачыналіся з шаблону *„Мы, ураднікі, саноўнікі…"*, які засведчваў кансалідаваную пазіцыю адносна прынятых рашэнняў. Цікава, што выкарыстанне займенніка *„Мы"* з'яўляецца дастаткова архаічнай формай выказвання аднадумства[15]. Корсакі выкарысталі ўласцівую для соймікавых пастаноў інтытуляцыю не для адзначэння свайго сацыяльнага стутусу, а для таго, каб падкрэсліць craналежнасць да аднога роду: *„Мы, Корсакі Залескія і Бабыніцкія… абвяшчаем нашым*

[11] B. Paprocki, *Gniazdo cnoty, skąd herby rycerstwa sławnego Krolewstwa Polskiego, Wielkiego Księstwa Litewskiego, Ruskiego… i inszych państw do tego krolewstwa należących książąt y panow początek swoj maią*, Krakow 1578, s. 198.

[12] В. Галубовіч, *Полацкая шляхта і дынастыя Вазаў,* Мінск 2016, с. 65–66, 74–77, 169–170.

[13] В. Галубовіч, *Miscellanea historica Polocensia*, с. 159, 176–181.

[14] *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі,* ф. 1778, воп. 1, адз. зах. 1, арк. 108 адв.-110.

[15] Інтытуляцыі з праекта гандлёвай дамовы Полацка з Рыгай ад 21 чэрвеня 1405 г., пацвярджальнай граматы аб гандлёвай дамове Полацка з інфлянцкім магістрам і Рыгай ад 14 мая 1407 г. выразна сведчаць пра ўласцівую жыхарам Полаччыны самасвядомасць, якая адлюстроўваецца ў выразах: *„Мы полочане…"*, *„А се мы, полочане, вси добрыи люди и малыи…"*, *„Мы, мужи полочяне…"* (*Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв.*, Москва 2015, том II, с. 137–138, 151–153.

*супольным лістом…”*. Адметнасць гэтай пастановы палягае ў тым, што Корсакі фактычна выступалі ад імя асобнага сямейнага „схода”, тым больш што колькасць прысутных на ім прадстаўнікоў роду склала ці не палову складу некаторых нарад полацкай шляхты[16]. Для большай веры дакумент быў засведчаны подпісамі, якіх па арыгінальнай характарыстыцы было *„немало”*. Цікава, што параўнанне спісаў падаўцаў заявы і падпісантаў дазваляе сцвярджаць, што Корсакаў было на сходзе не восем, а больш. Магчыма, яны не адносіліся да залескай і бабыніцкай галін: Абрам і Дмітр Корсакі.

Інтытуляцыя актыкаванага дакумента выклікае пэўную цікавасць у кантэксце не толькі супольнага выступлення прадстаўнікоў роду, але і фактычнай колькасці залескіх і бабыніцкіх Корсакаў. Справа ў тым, што на 1623 г. дзеяздольных прадстаўнікоў залескай лініі было, мякка кажучы, няшмат, а менавіта: полацкі падкаморы Крыштап Раман і, магчыма, яго бяздзетны брат Аляксандр, калі дапусціць, што апошні і Аляксандр Корсак, які падпісаў дакумент, адна і тая ж асоба[17]. Пры любым раскладзе большасць подпісаў пад дакументам належала прадстаўнікам бабыніцкай лініі, аднак Корсакі Залескія ў інтытуляцыі названыя першымі, больш за тое, згодна з пастановай, менавіта полацкі падкаморы Крыштап Раман Корсак[18] павінен быў прадстаўляць інтарэсы і залескай, і бабыніцкай галін роду. Абранне прадстаўніком схода Крыштапа Корсака, аднаго з вышэйшых павятовыхураднікаў, які меў сувязі пры двары, бо з'яўляўся каралеўскім струкчашнікам, ды быў не самым бедным прадстаўніком роду як галоўны спадчыннік па сваім бацьку і братах[19], сведчыла пра рэальныя ўплывы асобных галін роду. Дарэчы, Корсакі Залескія ў вачох сваіх менш заможных сваякоў выглядалі сапраўднымі „дабрадзеямі”. Варта толькі прыгадаць, што іншы бяздзетны брат Крыштапа Рамана — Ян Мікалай, які зрабіў кар'еру на дзяржаўнай службе і памёр, займаючы пасаду земскага ашмянскага суддзі ў 1618 г., у тэстаменце, напісаным у 1616 г., фундаваў у Вільні так званую Корсакаўскую бурсу на 20 студэнтаў, з ліку якіх 10 павінны былі быць *„Корсакамі”*: на гэтыя мэты ён прызначыў

16 В. Галубовіч, *Полацкая шляхта і дынастыя Вазаў,* с. 52–57.

17 Таксама вядомыя імёны сыноў Крыштапа Рамана Корсака — Казімір Уладзіслаў, Геранім, Марцін і Уладзіслаў Ян, але іх няма ў спісе падпісантаў дакумента: A. Boniecki, *Herbarz Polski,* cz. I, *Wiadomości historyczno-genealogiczne o rodach szlacheckich,* Warszawa 1907, t. XI, s. 173–174.

18 Пасаду падкаморыя займаў у 1618–1642 гг.: А. Радаман, В. Галубовіч, Д. Вілімас, *Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства (другая палова XVI – першая палова XVII стст.),* „Commentarii polocenses historici”, 2004, т. I, с. 73.

19 A. Boniecki, *Herbarz Polski,* t. XI, s. 173–174.

свой віленскі дом, маёнтак Яшаў і 800 коп літоўскіх грошаў[20]. Уплывовыя ўладары Залесся, якія былі каталікамі ў першым пакаленні, сталі прыкладам таго, што давала канверсія ў эпоху Жыгімонта Вазы.

На вялікі жаль, імёны шляхціцаў, якія падпісалі ўхвалу, амаль не суадносяцца са звесткамі пра бабыніцкую галіну ў гербоўніках[21]. З пэўнай доляй упэўненасці можна сцвярджаць, што адзін з ініцыятараў ухвалы, Мізаэль, быў сынам Рамана Васільевіча Корсака з бабыніцкай лініі, які толькі сыноў меў 15, калі верыць генеалогіі XVIII ст[22]. Такая „ўраджайнасць" стымулявала Корсакаў шукаць любыя шляхі для ўласнага ўтрымання, у тым ліку не скідаўся з рахункаў шанец на вяртанне ўладанняў, якія некалі належалі Корсакам. Унікальны характар мае згадка пра Міхала Грыгоравіча Корсака, які займаў пасаду полацкага гродскага суддзі ў 1623 г. Корсакі з імёнамі Багдан, Абрам, Тобіяш Дмітравіч, Міхаіл (Міхал?) вядомыя, але па больш позніх матэрыялах[23]. Хто такія Ёзаф, Ян і Габрыэль Корсакі, на падставе гербоўнікаў высветліць не атрымалася.

Несумненна, што пра прынятую пастанову ведалі прадстаўнікі іншых галін роду Корсакаў, у тым ліку тыя з іх, што займалі высокія пасады: у 1622 г. полацкім кашталянам з'яўляўся Ян з галубіцкай галіны роду, войскім полацкім — яго брат Астафі Корсак, а харужым — сын Яна Грыгоры[24]. Але ініцыятыву сваіх залескіх і бабыніцкіх сваякоў паны на Галубічах ізноў жа „салідарна" праігнаравалі. Пра падставы такой сітуацыі можна толькі здагадвацца.

Каталізатарам правядзення Корсакамі ўласнага „схода" і прыняцця адпаведнай пастановы была перадсоймавая кампанія 1622 г. Падчас яе, 13 снежня 1622 г., у Полацку адбыўся перадсоймавы соймік, які папярэднічаў скліканаму на 24 студзеня 1623 г. сойму[25]. Парламенцкая кампанія праходзіла на тле росту міжканфесійнага супрацьстаяння на Полаччыне, дзе ўніяты на чале з Язафатам Кунцэвічам уступілі ў адкрыты канфлікт з праваслаўнымі[26]. Сітуацыю, якая склалася ў Полацкай епархіі,

---

20 *Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku: spisy*, t. 1: *Województwo wileńskie XIV–XVIII wiek*, Warszawa 2004, s. 281; A. Boniecki, *Herbarz Polski,* t. XI, s. 173.

21 A. Boniecki, *Herbarz Polski,* t. XI, s. 178–181.

22 Тамсама, с. 179.

23 Удзельнікі штурму полацкага замка ў 1641 г.: В. Галубовіч, *Miscellanea historica Polocensia,* с. 176.

24 J. Wolff, *Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego 1386–1795,* Kraków 1885, s. 126; А. Радаман, В. Галубовіч, Д. Вілімас, *Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства (другая палова XVI – першая палова XVII стст.)*, с. 74–75.

25 А. Радаман, *Сойм,* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т.,* Мінск 2001, т. 6, кн. 1, с. 381.

26 З сакавіка 1621 г. уніяты сталі адбіраць цэрквы ў праваслаўных найперш у Полацку і Віцебску: T. Kempa, *Wobec kontrreformacji. Protestanci i prawosławni w obronie swobód wyznaniowych w Rzeczypospolitej w końcu XVI i pierwszej połowie XVII wieku,* Toruń 2007, s. 335.

ведалі за межамі ВКЛ, і праваслаўная шляхта той жа Валыні склала адпаведную скаргу, дзе выступала ў абарону сваіх аднаверцаў[27]. Больш за тое, на сойм у Варшаву прыбыла асобная дэлегацыя ад праваслаўных палачан са скаргамі на пераслед з боку Кунцэвіча[28]. Малаверагодна, каб полацкі соймік быў у баку ад гэтых падзей[29]. На ім, відавочна, быў абмеркаваны шырокі спектр як актуальных, так і звычайных для „шляхецкай рэспублікі" і яе рэгіёнаў праблем. Але адно „традыцыйнае" лакальнае пытанне — справа паноў Корсакаў — на гэты раз фактычна выключалася з абавязковай кампетэнцыі соймавых паслоў.

Справа ў тым, што полацкі перадсоймавы соймік быў выкарыстаны як нагода для асобнай сустрэчы па *„патрэбах дамоўства нашага Корсакаўскага"*. У выніку ў Полацку адбылася ўнікальная падзея — сход прадстаўнікоў аднаго шляхецкага роду. Асобным пытаннем з'яўляецца статус гэтага мерапрыемства, якое было адной з форм так званых *„з'ездаў, арганізаваных самім грамадствам"*, якія, па-сутнасці, былі тымі ж павятовымі соймікамі[30]. У тым, што „соймік" Корсакаў праходзіў па звычайнай для такіх шляхецкіх сходаў схеме, не выпадае сумнявацца, больш за тое, ён быў праведзены не адзін раз!

Непасрэднай мэтай схода прадстаўнікоў „сям'і" ў снежні 1622 г. была арганізацыя пасольства да манарха. Удзельнікі сойміка „згодна" абралі свайго пасла *„брата нашага"* да караля. Місію гэту мусіў выканаць полацкі падкаморы Крыштап Корсак. Яму даручалася прадставіць манарху просьбу аб вяртанні некалі страчанай Корсакамі на карысць Маскоўскай дзяржавы маёмасці. Актуальнасць гэтага пытання была выклікана вяртаннем Севершчыны ў склад Рэчы Паспалітай, з чым Корсакі звязвалі надзеі на „рэстытуцыю". Змест жа пастановы непасрэдна датычыўся вырашэння праблемы, якая ўзнікла ў сувязі з выпраўленнем пасла ў Варшаву.

Удзельнікі корсакаўскага „сойміка" не толькі абралі пасла, але і прынялі пастанову аб фінансаванні падарожжа. Памер „страўных"

[27] Тамсама, с. 338–339.

[28] Тамсама, с. 344–345.

[29] Выправа адмысловай „антыкунцэвіцкай" дэлегацыі на сойм можа сведчыць пра тое, што полацкі перадсоймавы соймік прайшоў, па меншай меры часткова, пад уплывам уніяцкага архіепіскапа і пракаралеўскай „партыі", што даказвае абранне паслом „рэгаліста" Даніэля Шчыта Забельскага. На сойме 1623 г. у склад адной з камісій быў прызначаны Д. Шчыт Забельскі, прадстаўнік Полацкага ваяводства. З гэтага вынікае, што ён быў паслом, паколькі камісараў прызначалі *„з Пасольскага Кола"*. (*Volumina legum*, Petersburg1859, t. III, 1859, s. 218–219). Цікава, што ён жа прысутнічаў(?) пры актыкацыі пастановы як земскі падсудак!

[30] A. Rachuba, *Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569–1763*, Warszawa 2002, s. 288–291.

грошай, якія належала атрымаць падкаморыю на падарожжа ў Варшаву, склаў 300 злотых, што было сумай вялікай. Стандартная стаўка, вызначаная Статутам 1588 г. для Полацкага ваяводства, складала 160 коп літоўскіх грошаў, альбо ў пераліку — 400 злотых[31]. З улікам таго, што ў першай чвэрці XVII ст. кошт побыту на сойме складаў 100–150 злотых, прызначаных падкаморыю грошай было больш чым дастаткова[32]. Цікава, што суму належала ўзяць з арэнды *„млына нашага, які размяшчаўся ля полацкага замка”*[33] ад Яна Корсака на Галубічах, полацкага кашталяна. Пастанова абавязвала яго перадаць грошы на працягу аднаго тыдня, але *„Пан Полацкі”* свайго абяцання не выканаў і грошы не аддаў[34]. У выніку Крыштап Корсак стаў адмаўляцца ехаць на сойм і, адпаведна, плаціць за агульную справу з уласнай кішэні. Рашэнне было знойдзена ізноў жа дзякуючы непераадольнаму жаданню вырашыць *„вельмі патрэбную справу для нашага дамоўства”*. Праз месяц пасля правядзення перадсоймавага сойміка Корсакі сабраліся ў Полацку яшчэ раз. На сходзе, які адбыўся 12 студзеня 1623 г., была прынята пастанова, якую 14 студзеня адмыслова актыкавалі ў кнігі земскага суда. З мэтамі кампенсацыі выдаткаў падкаморыя на падарожжа да Варшавы Корсакі прынялі пастанову аб перадачы яму на чатыры гады права арэнды млына. Калі б млын на працягу тых чатырох гадоў зламаўся, то тэрмін арэнды належала падоўжыць. Больш за тое, падкаморыю нават дазволілі не рабіць *„лічбы”*, г. зн., справаздачы з таго, колькі ён заробіць. Дадзеная пастанова была падмацавана і абяцаннем салідарнай падтрымкі падкаморыя ў выпадку, калі б Ян Корсак адмовіўся перадаваць млын ці чыніў падкаморыю шкоды. Залескія і Бабыніцкія Корсакі гарантавалі супольную падтрымку і абарону: *„мы маем заступацца”*. Была агаворана і яшчэ адна акалічнасць. Паколькі млын быў здадзены ў субарэнду пану Сакоўскаму, то пастанова дазваляла яму датрымаць арэнду да 1624 г., а дакладней, да дня Святых Пятра і Паўла па рымскім календары, пасля чаго арэнда пераходзіла да падкаморыя.

31 Тамсама, с. 139.

32 Тамсама, с. 140.

33 Пад „нашым” маецца на ўвазе млын на Палаце, які знаходзіўся ў супольным карыстанні роду Корсакаў яшчэ з XVI ст.: *„…вси панове Корсаки на реце Полоте, под замкомъ Полоцъкимъ мають млынъ, с которого им вымелки идуть”*, (*Полоцкая ревизия 1552 года* / Ред. И. И. Лаппо, Москва 1905, с. 104).

34 Не маючы іншых сведчанняў, акрамя ўхвалы, складана казаць пра тое, што сапраўды абяцаў Ян Корсак Галубіцкі сваім „братам”. Рэпутацыя кашталяна, несумненна, пацярпела, бо, згодна ўхвале, ён не стрымаў сваё абяцанне. Але, з іншага боку, Корсак, які шмат гадоў займаў розныя пасады ў павятовай адміністрацыі, быў некалькі разоў намінаваны манархам на сенатарскія пасады, у тым ліку на ўрад Смаленскага ваяводы, наўрад ці моцна залежаў ад меркавання дзясятка сваіх „далёкіх” сваякоў. (A. Boniecki, *Herbarz Polski,* t. XI, s. 188).

Вынікі сойма 1623 г. былі адносна сціплымі: 30 пастаноў, але ніводная з іх „*Дому Корсакаў*" не датычылася, у адрозненне ад полацкага ваяводы, якому асобнай канстытуцыяй было пацверджана права на Больніцкую дзяржаву[35]. Невядома, ці трапіў падкаморы на прыём да манарха, але нават калі і так, то сумніўна, каб той нейкім чынам адрэагаваў, бо „проста так" аддаваць землі на Севершчыне манархі з дынастыі Вазы не збіраліся і пасля далучэння тэрыторыі да Рэчы Паспалітай.

Для полацкіх Корсакаў змаганне за „страчаную спадчыну" ператварылася ў зацягнуты на дзесяцігоддзі „працэс". Так, іх намаганнямі патрабаванне аб кампенсацыі за свае землі было ўнесена ў інструкцыю полацкім паслам на сойм 1611 г.,[36] а ў інструкцыі на сойм 1638 г. аказаўся наступны красамоўны пункт: „*Петыцыя за Дом іх міласцей паноў Корсакаў, ад тых асоб, якія да гэтага Дому належаць і якія на кожным сойме нагадваюць пра сваю ўласнасць… і правы маюць на розныя ўладанні на Севершчыне…*"[37]. З гэтага вынікае, што эфектыўнасці такія звароты не мелі. Сама ж практыка раздачы зямель на Смаленшчыне і Севершчыне, далучаных да ВКЛ пры Жыгімонце Вазе, напэўна, не засноўвалася на прынцыпе рэстытуцыі. Але гэта не азначае, што Корсакі не мелі магчымасці атрымаць землі ў Смаленскім ваяводстве: рэестр падымнага падатку Смаленскага ваяводства 1650 г. сярод сплатнікаў падаткаў фіксуе некалькіх Корсакаў, у тым ліку Рамана з бабыніцкай лініі, які ў 1631 г. атрымаў маёмасць Чаплін у Бельскім тракце[38].

Род Корсакаў можна і трэба лічыць знакавым для Полаччыны. Дамінацыя Корсакаў была вынікам іх разгалінаванасці і „кроўнай" салідарнасці. Уплывы іх праяўляліся не толькі ў кантролі часткі павятовых урадаў, валоданні значнымі матэрыяльнымі рэсурсамі, але і ва ўнікальнай для рэгіёна і, напэўна, для ўсяго ВКЛ здольнасці да самаарганізацыі і кансалідацыі супольных інтарэсаў, што знайшло адлюстраванне ў правядзенні „сходаў" на ўзор шляхецкіх соймікаў з удзелам толькі прадстаўнікоў свайго роду. Наколькі такая практыка была распаўсюджана, сказаць складана, але арганізацыя „сямейных сустрэч" практыкавалася, прынамсі, у другой палове XVII ст[39]. Важнай

---

35 *Volumina legum*, Petersburg 1859, t. III, s. 220–221.

36 *Biblioteka PAU i PAN w Krakowie,* Rks. 365, s. 52–52 v.

37 *Российская Национальная Библиотека в Санкт-Петербурге,* Архив Дубровского, № 124, с. 168.

38 *Metryka Litewska: rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego: województwo smoleńskie 1650,* Warszawa 2009, s. 117; A. Boniecki, *Herbarz Polski,* t. XI, s. 180.

39 Так, 15 чэрвеня 1668 г. у Полацку адбыўся чарговы „корсакаўскі соймік", на якім было пастаноўлена перадаць той самы млын на Палаце пану Міхалу Корсаку ў карыстанне да 1669 г. Сярод падпісантаў дакумента былі, па аўтэнтычным выразе, выключна „*шляхціцы Корсакі*": Юры, Геранім, Сымон,

падставай для сходаў было пачуццё прыналежнасці да аднаго роду (своеасаблівым „перажыткам” гэтага была супольная маёмасць, што стагоддзямі знаходзілася ў агульным распараджэнні), хаця далёка не ўсіх Корсакаў гэта прымушала да салідарызацыі са сваякамі.

## Дадатак

***14 студзеня 1623 г. / Полацк — Актыкацыя ў кнігі Полацкага земскага суда пастановы, прынятай 12 студзеня 1623 г. на сходзе (сойміку) прадстаўнікоў роду Корсакаў аб перадачы Крыштапу Корсаку, полацкаму падкаморыю, у арэнду млына на Палаце ў якасці кампенсацыі за выдаткі на выправу да манарха ў Варшаву.***

|| [Арк. 108 адв.]

**Року тисеча шестсот двадцат третего м(е)с(е)ца генъвара чо|тырнадъцатого дня, листъ запис их м(ило)сти его м(ило)сти п(а)на | Михала || [арк. 109] Михала Грыгоревича Корсака суди кгродского полоцъкого П(а)на Езофа, | Пана Мизаеля, Пана Алекъсандра, П(а)на Кгабрыеля, Пана | Яна и П(а)на Тобияша Корсаковъ даный его м(ило)сти Пану | Крышътофу Корсаку подкоморому воеводства Полоцкого | на млын Корсаковский на Полоте у Полоцку стоячый.**

На рокох судовых земъских трикрольских порадкомъ права поспо|литого прыпалых и судовне у Полоцку отправованых перед на|ми Алекъсандромъ Тишкевичом, судею, Даниелемъ Щитомъ Забельским, | подсудъкомъ, а Михалом Тишкевичом, писаромъ, врадниками г(оспо)д(а)рскими | судовыми земъскими воеводства Полоцкого постановившысе | очевисто их м(и)л(ос)ть, его м(и)л(ос)ть Панъ Михал Корсакъ, судя кгродский по|лоцкий, Панъ Езофъ, Панъ Богданъ, Панъ Мизаель, Панъ Алекъсан|дер, панъ Кгабрыель, Панъ Ян, Панъ Тобияш Корсаки, оповеда|ли и покладали листъ свой доброволный запис под печатми и с под|писами рукъ своих такъ теж под печатми и с подписами рукъ людей | зацъных печатаров на то от их м(и)л(ос)ти упрошоных, земян воеводства | Полоцкого даный его м(и)л(ос)ти Пану Крышътофу Корсаку подкоморому | воеводства Полоцкого, на реч нижей в томъ листе помененую, а по|кладаючы тот листъ свой и зезволившы на все то, што в нем описа|но естъ, стверъжаючы его во всем устне а доброволне прызнали | и просили абы до книгъ земъских Полоцких вписан былъ,

Самуэль, Захарыяш, Уладзімір, Самуэль (іншы), Стэфан, Марцыян Збігнеў, Канстанцін Казімір, Траян, Максіміліян, Станіслаў Казімір, Аляксандар і сам Міхал Крыштапавіч (*Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской*, Витебск 1900, вып. 28, с. 234–235).

ко*то*|рого лис*ту* мы су*д* огледавъшы и чытано*го* выслуха*вшы* велели | есмо до книг уписа*ть* и уписуючы слово о*т* слова *та*къ се в собе | мае*ть*.

My, Korsacy Zaliescy y Bobyniscy, osoby nizey pomie|nieni, ktorzysmy się przy pieczęciach naszych do tego listu naszego | rękoma swemi podpisali, oznaymuiemy tym listem naszym spolnym | yz zyachawszy się my tu do Połocka na seimik od Je*go* Kro(lewskiey) m(iło)sci przed | seymem złozony w roku przeszłym tysiąc szescset dwudziestym | wtorym m(iesią)ca Decembra trzynastego dnia, będących własnych potrze|bach domowstwa naszego Korsakowskiego potrzebach uzywszy | zgodnie Pana brata naszego Je*go* m(iłos)ci Pana Krzysztofa Korsaka | podkomorzego połockiego na ten blisko przeszły seim do Warsza|wy do Je*go* Kro(lewskiey) m(iłos)ci posłem wyprawilismo poruczywszy | Jego m(iłos)ci prozby domowstwa naszego do Je*go* Kro(lewskiey) m(iłos)ci o maiet|nosci nasze do Ziemie Siewierskiey zagraniczonych posta|nowiwszy Jego m(iłos)ci dac na strawę złotych trzysta, ktorze pie|niodze Jego m(iłos)ci Pan Jan Korsak na Hołubiczach, kasztelan | połocki z arędy młynu naszego pod zamkiem Połockim będące*go* | do || [Арк. 109 адв.] do Jego m(iłos)ci Pana podkomorzego potym postanowieniu naszym | nadaley w tydzien oddac miał, a yz Jego m(iłos)c Pan Połocki[40] wed|ług obietnicy swey z arędy tego młyna, ktory iuz od kilka liat | trzyma tych trzech set złotych do Jego m(iłos)ci Pana podkomorze*go* | nie oddał, a iego m(iłos)c Pan podkomorzy dla niedania tych pieniędzy | na seim jachac nie chciał, tedy my za tym niedosic uczynieniem | obietnicy y słowu Jego m(iłos)ci, a widząc rzecz barzo potrzebną | Domowstwu naszemu, aby Je*go* m(iłos)c Pan podkomorzy s prozbą | naszą do Jego K(rolewskiey) m(iłos)ci od nas obrany iachał, ten młyn po wyisciu | terminu arędarzu od Je*go* m(iłos)ci Pana Połockie*go* dzierżą|cemu Jego m(iłos)ci Panu podkomorzemu w tych strawnych pienią|dzach na lat cztyry na wytrzymanie pozytkow daiem, ktorzy | młyn yego m(iło)sci przez te lat cztyry trzymaiąc komu chcąc | arędowac y według upodobania swego pozytki wybierac | wolno będzie. A yz ten młyn iuz się nadwotlit tedy gdzie by | się w tych cztyrech lat młyn popsował tedy Je*go* m(iłos)ci na wytrzy|manie y wybiranie pozytkow po wysciu *tych*[41] cztyrzech liat y daliey | trzymac pozwolamy nie potrzebuiąc od Jego m(iło)sci czynienia | liczby gdzie by tez Jego m(iło)sc Pan Połocki z dzierzania swego | Je*go* m(iłos)ci Panu podkomorzemu ustąpic nie chciał, albo by pow|stępieniu y wzięciu w posesyię od Jego m(iło)sci Pana podkomorzego | do wytrzymania Jego m(iło)sci przeszkodę yaką czynił my zastę|powac mamy, ktorei to arzędzie

[40] „*Панам Полацкім*” называлі мясцовага кашталяна.

[41] Слова вынесена над радком.

Jego m(iło)sci Pana Połockiego | yz iuz expirował czas minął, zaczym iuz ten młyn w dy|spozycię naszę przyszedł, iednak respe*k*tuiąc my na Je*go* m(iłos)c | Pana Sakowskiego, aby w koscie swym nie szkodował, tedy przy|wolamy Jego m(iłos)ci Panu Sakowskiemu arędy iego dotrzymac | mianowicie do roku tysią(c) szesc set dwudziestego czwartego do d|nia Swiętego Piotra y Pawła swięt rymskich, a po wysciu tego | roku y czasu arzędy Jego m(iło)sci Pan podkomorzy ten młyn | według te*go* listu naszego dzierzenie y uzywanie swę wziąc |y na tos my dali ten nasz list pod naszemi pieczęci y s podpi|sami ręk naszych, do ktorego listu prosilis my o przyłoze|nie pieczęciey y o podpis ręk Jch m(iłos)ci Pana Andrzeia Konin|skiego[42], Pana Stanisława Lieszczyłowskiego[43], a Pana Jana | Piotrowicza[44] co ych m(iłos)ci na prozbę naszę uczynic raczyli. |

Pisan w Połocku roku tysiąc szesc set dwudziest*ego* trzeciego | m(iesią)ca January dwunastego dnia.

У того ли*ст*у печа*тей* пры*ти*|сненых |немало|| [Арк. 110] немало, а по*д*пи*с*рукъ […] Korsak | ręką swą, Jozehp Korsakrę […] swą, Miza|el Korsak ręką swą, Alexa(n)der […] ręką, Gabryel Kor|sak, Jan Korsak ręką swą, Dmidr […]asz Korsak, Abram Kor|sak yako pieczętarz ustnie od Jchm(iłos)ci Panow Korsakow pro|szony Andrzey Kuninsky Misopad ręką swą, yako pieczętarz |ustnie proszony od Jchm(iłos)ci Panow Korsakow Stanisław Lieszczy|łowsky ręką swą, устне прошоны*й* печата*р* Янъ Петрови*ч*| рукою.

Которы*й* то*т* листъ у суду покладаны*й* и очевисто пры*з*|наны*й* естъ до кни*г* земъски*х* Поло*ц*ки*х* вписанъ.

Выпи*с* выда*н*.

*НГАБ. Ф. 1778. В. 1. Спр. 1. Арк. 108 адв.-110.*

## Streszczenie

Wital Hałubowicz, *„My Korsakowie Zalescy i Babiniccy…": rodowa solidarność jako element kultury szlacheckiej Połocczyzny w XVII w.*

Artykuł poświęcony jest rodowi Korsaków — najbardziej wpływowemu na Połocczyźnie w XVI i XVII w. Dominacja Korsaków była rezultatem ich rozgałęzienia i rodzinnej solidarności. Jej przejawem była kontrola części urzędów powiatowych, posiadanie znacznych zasobów materialnych i, co

42 Андрэй Місапад Дунін Канінскі, полацкі шляхціц, сведка пастановы. Вядомы па іншых крыніцах як мясцовы актывіст: A. Boniecki, *Herbarz Polski,* t. XI, s. 85–86.

43 Станіслаў Лешчылоўскі, полацкі шляхціц, сведка пастановы. Вядомы па іншых крыніцах як уладальнік часткі маёнтка Лешчылава: A. Boniecki, *Herbarz Polski,* Cz. I. *Wiadomości historyczno-genealogiczne o rodach szlacheckich,* t. XIV, Warszawa 1911, s. 132.

44 Ян Пятровіч, полацкі(?) шляхціц, сведка пастановы. Асоба неідэнтыфікавана.

charakterystyczne dla regionu i całego WKL, zdolność do samoorganizacji i konsolidacji wspólnych interesów, co znalazło swe odzwierciedlenie w przeprowadzaniu „zjazdów" na wzór sejmików szlacheckich z udziałem jedynie przedstawicieli swego rodu. Niniejszy artykuł analizuje decyzje jednego z „sejmików" reprezentantów rodu Korsaków, który odbył się 12 stycznia 1623 r.

## Abstract

Vital Halubovich, *„We, the Zalescy and Bobynnicy Korsaks…": Family Solidarity as an Element of Nobility of the Polotsk Region in the 17th Century*

The article is devoted to the Korsaks family, the most influential family of the Polotsk region between the 16th and 18th century. The predominance of the Korsaks was mainly the consequence of their expansion and the idea of family solidarity. It was reflected in their control of local administration, ownership of considerable resources and the ability to self-organise and join common interests, which was unique to the region or even the whole Grand Duchy of Lithuania. This, in turn, was visible in special „meetings" of the family organised in accordance with the rules common to local parliaments of the nobility, the so-called sejmiks. The article describes a meeting of the Sejmik of the Korsaks, which was held on the 12th January 1623.

**Вячаслаў Швед**
**(Варшава/Гродна)**

# Вялікае Княства Літоўскае 1812 года: структура кіраўнічых устаноў

Гарачым прыхільнікам ідэі аднаўлення ВКЛ стаў у 1811 г. Міхал Клеафас Агінскі. Ён расчараваўся ў Напалеоне і пісаў: „*Але якім чынам можна дапусціць, што гэты абраннік фартуны, які лічыць сябе чалавекам, ніспасланым Богам і прадвызначаным для навядзення парадку ва ўсім свеце; што гэты прадпрымальнік, які знішчыў столькі тронаў, які пахіснуў асновы існуючых яшчэ тронаў, ліквідаваў некалькі з іх толькі для таго, каб яны былі апорай яго велічы; які нічога не пакінуў некранутым; які змяняе пастановы і праекты з такой хуткасцю, з якой іх прымае; які ніколі не думае пра шчасце людзей; які клапоціцца пра іх толькі настолькі, наколькі яны з'яўляюцца здольнымі да выканання ягоных намераў; якім чынам, кажу я, можна дапусціць, што гэты чалавек незвычайны, нячулы да няшчаснага лёсу цэлай Еўропы, якую ён разбурыў, будзе крануты смутным становішчам палякаў, і што ён захоча вярнуць ім іх бацькаўшчыну, гарантуючы вольны і незалежны ўрад*"[1].

Але менавіта Напалеон Банапарт, а не Аляксандр I, аднавіў Вялікае Княства Літоўскае. 1 ліпеня 1812 г. выйшаў загад Напалеона аб арганізацыі ўлады ў Літве і Беларусі:

„*§ 1. Прызначаецца Часовы Урад Вялікага княства Літоўскага, які складаецца з 5 членаў і генеральнага сакратара.*

*§ 2. Камісіі Часовага Урада ВКЛ давяраецца кіраванне фінансамі краю, дастаўка правіянту, арганізацыя мясцовага апалчэння, народнай гвардыі і жандармерыі.*

*§ 3. Пры Камісіі Часовага Урада ВКЛ будзе знаходзіцца імператарскі камісар.*

*§ 4. Губерні Віленская, Гродзенская, Мінская і Беластоцкая будуць у сваю чаргу ўпраўляцца асобнымі камісіямі, якія складаюцца з 3 членаў пад кіраўніцтвам інтэнданта*"[2].

---

[1] *Запіска графа Агінскага, пададзеная Аляксандру I 15 мая 1811 г.,* [у:] *Адраджэнне. Гістарычны альманах,* Мінск 1995, с. 200 (Пераклад на беларускую мову Анатоля Грыцкевіча).

[2] *Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов,* Минск 1961, т. 3, с. 16.

*„Преувеличив силы и влияние виленских политических мечтателей,* піша гісторык Юры Тацішчаў пра Напалеона, *он бросил им игрушку, которая была ему даже отчасти полезна, т.к. за разрешение вертеть её в руках и тешиться её призрачным блеском Литва должна ему дать все, что он от неё требовал”*[3]. Гаворка ідзе пра Камісію Часовага ўрада ВКЛ (далей — КЧУ), якая замяніла ўстановы польскай канфедэрацыі асобнымі органамі кіравання знізу даверху: ад вёскі да сталіцы ў Вільні. КЧУ стала вышэйшым урадавым органам, улада якога распаўсюджвалася на значную тэрыторыю былога ВКЛ у межах 1793 г.

2 ліпеня 1812 г. адбылося першае пасяджэнне КЧУ ВКЛ у зале бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта. Прысутнічалі толькі тры чалавекі: Аляксандр Сапега, Юзаф Серакоўскі, Францішак Ельскі. Яны выслалі запрашэнне да адсутных Станіслава Солтана і Караля Прозара, а таксама падзялілі паміж сабой абавязкі: Ю. Серакоўскаму былі даручаны фінансы, Аляксандру Сапегу — войска і харчаванне, Францішаку Ельскаму — абодвум дапамагаць. Сакратаром выбралі Юзафа Ігнацыя Касакоўскага. 7 ліпеня ў склад КЧУ увайшлі Ян Снядэцкі і Аляксандр Патоцкі. 18 ліпеня прыбыў старшыня КЧУ Солтан (яго абавязкі выконваў Серакоўскі). 8 кастрычніка прыбыў затрыманы на Белай Русі Караль Прозар[4].

Выбар людзей на пасады кіраўніцтва ВКЛ нельга прызнаць добрым. У разлік прымаліся іх былыя заслугі, пасады, радавітасць і маёмасны стан. Гэта былі „добрыя палякі” і заслужаныя людзі, але ўжо ў большасці старыя, ветэраны публічнай службы, удзельнікі Вялікага сейму, сябры Тадэвуша Касцюшкі, адарваныя ад грамадскай працы апошнія 20 год. Яны не былі прыстасаваныя да ўмоў і часу, у якія ім выпала дзейнічаць. Ім не хапала энэргіі, ведання сучасных умоў і французскай адміністрацыйнай сістэмы. Трэба прызнаць слушнай характарыстыку членаў КЧУ, якую дае польскі даследчык Юзаф Івашкевіч: *„Ельскі, Прозар, Солтан — „слабыя галовы”, хаця добрыя заслужаныя палякі, але ва ўзросце, не здольныя да энэргічнай і інтэнсіўнай працы; Патоцкі, кіраўнік унутраных спраў, не меў вопыту палітычнай дзейнасці; толькі пасля смерці А. Сапегі стаў членам А. Тызенгаўз, расольскі стараста; А. Сапега — член Таварыства Сяброў Навук, галава прыхільнікаў Напалеона ў Літве, яго разведчык да вайны, інтрыган, прыдворны чалавек, які не ведаў армейскай справы; Ю. Серакоўскі — больш*

[3] Ю. В. Татищев, *Вильна и Литовские губернии в 1812–1813 гг.,* [в:] *Виленский временник, кн. V. Акты и документы архива виленского, ковенского и гродненского генерал-губернаторского управления, относящиеся к истории 1812–1813 гг.,* ч. 2. *Переписка по части гражданского управления,* Вильна 1913, с. 28.

[4] J. Iwazkiewicz, *Litwa w roku 1812*, Kraków-Warszawa 1912, s. 132; D. Nawrot, *Litwa i Napoleon w 1812 roku,* Katowice 2008, s. 280.

*геральдыст і археолаг, чым дзяржаўны дзеяч, не ведаў ніводнай з трох спраў, якімі ўзяўся кіраваць (фінансы, прадукты, паліцыя)"*[5].

*„Не было ў Вільні чалавека,— пісаў польскі гісторык Міхал Кукель,— які быў бы не толькі аўтарытэтам але і натхняльнікам, не толькі арганізатарам, але здольным да смелай імправізацыі. Не мог яго замяніць нават разумны і вельмі адданы польскай справе Марэт, або князь Басана, міністр замежных спраў, які быў у Вільні цягам усёй кампаніі, ці моцна звязаны з Польшчай імперскі камісар барон Біньён, а тым больш прызначаны генеральным губернатарам галандзец генерал Гагендорп, з адміністрацыйнай практыкай на Яве і каланіяльным стаўленнем да палякаў. Цуд магло б зрабіць з'яўленне Касцюшкі перад магіяй яго імя: але той ад запрашэння Напалеона адмовіўся з-за яго дэспатызму, хаця жадаў „каб загналі расіян аж да Сібіры"*[6].

Напалеон хацеў мець у Вільні Адама Ежы Чартарыйскага, аўтарытэтнага чалавека. Князь Басана ў Вільні намякаў, што Напалеон прыняў бы карону польскую, а Чартарыйскі стаў бы віцэ-каралём. Гэтых двух ліцвінаў (Касцюшкі і Чартарыйскага) не хапала ў Вільні. Юзаф Панятоўскі — паляк, мог бы тут таксама нешта зрабіць, але ён патрэбны быў на чале польскага корпуса ў арміі Жэрома Банапарта. Літоўскі даследчык Броніс Дундуліс называў яшчэ такіх палітыкаў, як: Міхал Агінскі, Томаш Ваўжэцкі, Людвік Плятэр, Казімір Сулістроўскі, Ксаверы Друцкі-Любецкі і Станіслаў Ракіцкі.

КЧУ ВКЛ складалася з калегіі старшынь камітэтаў **(схема 1)**:

1. Камітэт харчавання і магазінаў — былы літоўскі маршалак Станіслаў Солтан.
2. Камітэт паліцыі — граф Юзаф Серакоўскі.
3. Камітэт фінансаў — былы літоўскі абозны Карл Прозар.
4. Ваенны камітэт — князь Аляксандр Сапега.
5. Судовы камітэт — граф Францішак Ельскі.
6. Камітэт унутраных спраў — вялікі канюшы, генерал Княства Варшаўскага граф Аляксандр Патоцкі.
7. Камітэт народнай асветы і рэлігіі — рэктар Віленскага ўніверсітэта, прафесар астраноміі Ян Снядэцкі.

Склад КЧУ ВКЛ быў апублікаваны 25 ліпеня ў газеце „*Kurier Litewski*". Сакратар урада меў канцылярыю, у якой былі сакратар ад'юнкт, сакратар

---

5 J. Iwaszkiewicz, *Litwa w roku 1812*, s. 79, 132. Характарыстыку сяброў урада гл. таксама ў D. Nawrot, *Litwa i Napoleon w 1812 roku,* s. 280–282.

6 M. Kukieł, *Dzieje Polski porozbiorowej. 1795–1921,* wyd. 4, Paris 1984, s. 148–149.

экспедыцыі, архівіст і 4 канцылярысты. Пасяджэнні камісіі адбываліся спачатку ў зале бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта, а з 15 ліпеня — у доме сакратара Касакоўскага[7].

Сістэма кіравання, пабудаваная па прынцыпе калегіяльнасці, была ў вядомай ступені лагічнай і закончанай, але не мела рэальных сіл, на якія магла б абапірацца ў выкананні сваіх задач. Ю. Івашкевіч слушна лічыў, што прызначаць членаў КЧУ старшынямі аддзелаў было памылкай, бо гэта адымала час, пытанні на камісію падаваліся непадрыхтаванымі і вырашаліся ў спешцы[8].

Улада КЧУ ВКЛ ахоплівала тэрыторыю **(схема 2)** Віленскай, Гродзенскай, Мінскай губерняў і Беластоцкай вобласці і складала 3 787 кв. міль з насельніцтвам у 1 333 889 душ мужчынскага полу (паводле іншых даных: 2,5–3,5 млн. чал.). Губерні і вобласць сталі называцца на французскі ўзор дэпартаментамі. Апошнія падзяляліся на дыстрыкты. Паколькі тэрытарыяльна дыстрыкт супадаў з паветам, дык у Віленскім дэпартаменце было 11 дыстрыктаў: Ашмянскі, Браслаўскі, Віленскі, Вількамірскі, Завілейскі, Ковенскі, Расіенскі, Трокскі, Упіцкі (Паневежскі), Цяльшэўскі, Шавельскі. Гродзенскі дэпартамент дзяліўся на 8 дыстрыктаў: Брэсцкі, Ваўкавыскі, Гродзенскі, Кобрынскі, Лідскі, Навагрудскі, Пружанскі, Слонімскі. Мінскі дэпартамент меў 10 дыстрыктаў: Бабруйскі, Барысаўскі, Вілейскі, Дзісенскі, Ігуменскі, Мазырскі, Мінскі, Пінскі, Рэчыцкі, Слуцкі. Беластоцкі дэпартамент складаўся з чатырох дыстрыктаў: Беластоцкага, Бельскага, Сакольскага, Драгічынскага. ВКЛ 1812 г. мела такім чынам 33 дыстрыкты, некаторыя з якіх былі занятыя рускімі войскамі ўвесь час вайны, а частку Гродзенскага дэпартамента ў кастрычніку занялі войскі адмірала Паўла Васільевіча Чычагава. Такім чынам увесь час пад уладай КЧУ ВКЛ было каля 17 дыстрыктаў, з якіх 4 ужо ў лістападзе адышлі да Расіі[9]. Кожны дыстрыкт падзяляўся на кантоны, якімі сталі былыя воласці.

А цяпер засяродзімся на кіраўніцтве названых вышэй органаў цывільнага кіравання **(схема 3)**. Главой дэпартамента быў прэфект, выканаўчым органам — адміністрацыйная камісія, члены якой прызначаліся ад мясцовага насельніцтва паіменна загадам Напалеона. Напрыклад, у Гродзенскай камісіі на першым пасяджэнні (25 ці 26 ліпеня 1812 г.) прысутнічалі: былы палкоўнік польскіх войск Ігнаці Ляхніцкі,

7 D. Nawrot, *Litwa i Napoleon w 1812 roku,* s. 294, 296.

8 J. Iwaszkiewicz, *Litwa w roku 1812,* s. 135.

9 J. Iwaszkiewicz, *Litwa w roku 1812,* s. 150; D. Nawrot, *Litwa i Napoleon w 1812 roku,* s. 264; В. В. Швед, *Дыстрыкт,* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі,* т. 3, Мінск 1996, с. 327; В. В. Швед, *Дэпартамент,* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі,* т. 3, Мінск 1996, с. 342.

былы маршалак Гродзенскай губерні Людвік Панцэржынскі, Тадэвуш Андржэйкавіч (да 28.08 замяшчаў адсутнага Яна Нямцэвіча, былога брэсцкага павятовага маршалка)[10]. У 1836 г. нейкі служачы губернскай канцылярыі, які збіраў звесткі для гісторыка Аляксандра Іванавіча Міхайлоўскага-Данілеўскага, наступным чынам ахарактарызаваў названых вышэй людзей: *„З папер камісіі бачныя гатоўнасць і незвычайная стараннасць яе чыноўнікаў”*[11].

Адміністрацыйную камісію Віленскага дэпартамента складалі былы шэф літоўскай гвардыі і ўдзельнік паўстання 1794 г. Ігнаці Тызенгаўз, сябра камісіі эдукацыйнага фундушу Адам Храптовіч, Фэрдынанд Плятэр. У адміністрацыйную камісію Мінскага дэпартамента ўваходзілі: Юзаф Валадковіч, Ксаверы Абуховіч і старшыня грамадзянскага дэпартамента Галоўнага суда Адам Гінтэр. Адміністрацыйная камісія Беластоцкага дэпартамента мела ў сваім складзе маршалка Віктара Градскага, старшыню трыбунала Міхала Дашкевіча, члена Галоўнага камітэта вайсковых павіннасцей Міхала Дзеконскага. Усе вышэйназваныя (камісары) былі прызначаны Напалеонам асобнымі загадамі ад 1 чэрвеня 1812 г.[12]

Далучэнне жыхароў Літвы і Беларусі да самакіравання было з боку французаў прыёмам іх супакаення, спынення панікі і арганізацыі сіл насельніцтва ў мэтах заваёўнікаў. Адміністрацыйная камісія мела тры аддзяленні: харчавання (або правіянцкае), фінансаў (з дапаўненнем спраў духоўных і народнай асветы), паліцыі (або юстыцыі і ўнутраных спраў). Галоўнымі функцыямі камісіі былі зборы, падаткі, публікацыя ўрадавых указаў і распараджэнняў і кантроль за іх выкананнем. Пасяджэнні адбываліся штодзённа. Старшынёй быў французскі інтэндант, акрамя таго, удзельнічаў французскі ваенны губернатар.

Інтэндантамі ў дэпартаментах былі аўдытары імператарскай Рады Францыі: у Віленскім — Луіс Ніколя Сцыпіён, у Гродзенскім — Франсуа Касімір Шассенон, у Мінскім — Себасцьян Луіс Сальнэ, у Беластоцкім — Андрэ Луіс Сашэлет. Названыя асобы не падпарадкоўваліся КЧУ ВКЛ, а толькі імператарскаму камісару Эдуарду Бігнону. Па сутнасці інтэнданты выконвалі ролю цывільных губернатараў часоў Расійскай імперыі[13].

Кіраванне дыстрыктаў было арганізавана на аснове *„Інструкцый па арганізацыі кіравання ў паветах”*, падрыхтаваных у кожным

[10] J. Iwaszkiewicz, *Litwa w roku 1812*, s. 86, 143; *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродна* (далей — НГАБ у Гродна), ф. 1, воп. 1, адз. зах. 348, арк. 3 адв.

[11] НГАБ у Гродна, ф. 1, воп. 19, адз. зах. 1141, арк. 122.

[12] D. Nawrot, *Litwa i Napoleon w 1812 roku*, s. 304, 324.

[13] Ibidem, s. 306, 308.

дэпартаменце згодна з правіламі, дасланымі Часовым урадам Вялікага Княства Літоўскага. У кожным дыстрыкце галавой быў падпрэфект (у асноўным імі былі былыя маршалкі паветаў), які сачыў за парадкам, бяспекай і грамадскай маёмасцю. Яму дапамагалі некалькі радцаў, а таксама акруговыя камісары. Выканаўчай уладай валодала павятовая камісія ў складзе 5 чалавек. Яна падзялялася на 3 аддзяленні: харчавання, паліцыі і фінансаў (у першых двух па 2 чалавекі, у апошнім — 1 чалавек). Камісія выбірала сабе сакратара і патрэбную колькасць канцылярыстаў. Падпрэфектура дзейнічала па ўсіх частках паліцэйскага і грамадзянскага ведамства, а самай галоўнай была справа дастаўкі харчавання і фуражу для французскіх войск, выкананне іх патрабаванняў.

Падпрэфектурам падпарадкоўваліся падкамісары — кіраўнікі адміністрацыі кантона (воласці). Яны выконвалі ўсе загады павятовай камісіі дыстрыкта і ваенных чыноўнікаў французскай і польскай арміі. У склад адміністрацыі ўваходзілі асобы *„з абывацеляў, здольных па сваім узросце, талентах і руплівасці да служэння айчыне"*. Галоўная іх задача — выкананне розных патрабаванняў французскай арміі: забеспячэнне харчаваннем, фуражом, расквятараванне, абмундзіраванне.

У гарадах чатырох дэпартаментаў на тэрыторыі Беларусі паводле *„Правіл для заснавання муніцыпальнага кіравання ў Літве"* (17.08.1812) былі створаны муніцыпалітэты. Напэўна вядома пра іх існаванне ў Гродне, Віцебску, Барысаве, Мінску, Беластоку. Улада муніцыпалітэтаў распаўсюджвалася на горад і яго ваколіцы. У склад муніцыпалітэтаў уваходзілі прэзідэнт (мэр), яго памочнікі (ад'юнкты), сябры муніцыпальнай рады. Усе яны мелі вырашальны голас. Звычайна гэта былі вядомыя памешчыкі, ксяндзы, чыноўнікі рымска-каталіцкага веравызнання, а былыя маршалкі шляхты рабіліся старшынямі рады. Напрыклад, гродзенская муніцыпальная рада была створана 17 ліпеня 1812 г., а ў яе склад уваходзілі: былы паўстанец 1794 г. Францішак Мучынскі (мэр Гродна), Станіслаў Задарноўскі, Аляксандр Крыдзель, земскі суддзя Ян Сакалоўскі[14]. Мэрам у Мінску стаў Ксаверы Ліпскі, у Беластоку — Францішак Вількавіцкі[15].

У кампетэнцыю муніцыпалітэтаў уваходзіла заведванне гарадской маёмасцю, паліцыяй, дабрачыннымі ўстановамі, але галоўным было задавальненне патрэб і рэквізій французскай арміі, яе расквятараванне. Муніцыпалітэт меў 3–4 аддзелы: паліцыі, фінансаў, кватэрнае, богаўгодных

[14] НГАБ у Гродна, ф. 1, воп. 19, адз. зах. 1141; J. Iwaszkiewicz, *Litwa w roku 1812,* s. 150.

[15] D. Nawrot, *Litwa i Napoleon w 1812 roku*, s. 320–321.

*і заселена невяскоўцамі”*[30]. Паспрабуем з гэтых пазіцый паглядзець на пачаткі і першыя перыяды існавання найстаражытнейшага беларускага горада Полацка.

Гісторыя археалагічнага вывучэння сярэднявечнага Полацка на працягу амаль ста апошніх гадоў грунтоўна прадстаўлена ў манаграфічным даследаванні Дзяніса Дука *„Полацк і палачане (IX–XVIII стст.)”*[31], што вызваляе нас ад падрабязнага інфармавання. Ужо пасля кнігі Д. Дука пабачыла свет манаграфія расійскага археолага Івана Ерамеева, прысвечаная раннесярэднявечным старажытнасцям Полацкай зямлі[32]. Трэба адзначыць, што дадзеная кніга вельмі сучасная з пункту гледжання археалогіі (як метадаў даследаванняў, так і метадаў інтэрпрэтацый наяўнага археалагічнага матэрыялу), а таксама пастаўленых навукова-даследчых задач і праблем. Адпаведныя фрагменты яе можна лічыць своеасаблівым падсумаваннем доўгага археалагічнага і гістарычнага вывучэння і асэнсавання пачатковага перыяду мінулага горада Полацка.

На 2012 год агульная плошча культурных напластаванняў Полацка, якія вывучаліся стацыянарнымі археалагічнымі раскопкамі, склала 6 360 кв. м, а ячшэ каля 20 000 кв. м было ахоплена так званымі археалагічнымі наглядамі[33]. Прадставім найбольш значныя вынікі, якія па сённяшні дзень вызначаюць накірункі і змест навуковых канцэпцый. Першыя грунтоўныя археалагічныя даследаванні Полацка правёў у 1928 г. Аляксандр Ляўданскі, што дазволіла яму вызначыць месца першапачатковага гарадзішча і сфармуляваць першую канцэпцыю сацыятапаграфічнага развіцця горада[34]. Гэтая канцэпцыя да сённяшняга

[30] P. Urbańczyk, *Trudne początki Polski*, s. 130–131.

[31] Д. У. Дук, *Полацк і палачане (IX–XVIII стст.)*, Наваполацк 2010, с. 10–24. Зацікаўленыя асобы канкрэтную інфармацыю пра археалагічныя справаздачы раскопак і назіранняў у Полацку за час з 1928 па 2010 год знойдуць у адмысловай табліцы, складзенай Вольгай Мядзведзевай, — *Сведения, извлеченные из отчетов по г. Полоцку за 1928–2010 гг.*, [в] *Полоцк: Полоцк и Полоцкое княжество (земля) в IX–XIII вв., летопись древних слоев, Полоцк и его округа в XIV–XVIII вв., ремесло, денежное обращение и торговые связи Полоцка в средневековье (по данным археологии, нумизматики и письменных источников), культура и просвещение в средневековом Полоцке,* Минск 2012, с. 535–542. З археалагічных даследаванняў, праведзеных у Полацку пасля складання названай табліцы, якія дадаюць новыя матэрыялы да пытанняў пачатковай гісторыі горада, варта адзначыць раскопкі Дзяніса Дука на тэрыторыі Запалоцця ў 2011–2012 гадах.

[32] И. И. Еремеев, *Древности Полоцкой земли в историческом изучении Восточно-Балтийского региона (очерки средневековой археологии и истории Псковско-Белорусского Подвинья),* Санкт-Петербург 2015 (Труды ИИМК; том XLIV).

[33] *Полоцк: Полоцк и Полоцкое княжество (земля) в IX–XIII вв., летопись древних слоев, Полоцк и его округа в XIV–XVIII вв., ремесло, денежное обращение и торговые связи Полоцка в средневековье (по данным археологии, нумизматики и письменных источников), культура и просвещение в средневековом Полоцке,* Минск 2012, с. 34–35.

[34] А. М. Ляўданскі, *Археолёгічныя досьледы ў Полацкай акрузе,* „Запіскі аддзелу гуманітарных навук БАН”, кн. 2. Працы археолёгічнай камісіі, т. 2, Мінск 1930, с. 161–170.

дня захоўвае сваю значнасць і вартасць. Натуральна, што з пашырэннем плошчаў, даследаваных археалагічнымі раскопкамі і назіраннямі, павелічэннем крыніцазнаўчай базы, удасканальваннем метадаў і методык раскопак і апрацоўкі матэрыялаў канцэпцыя А. Ляўданскага грунтоўна дапоўнена. Найбольшая заслуга ў гэтым Леаніда Аляксеева, Георгія Штыхава, Сяргея Тарасава, Дзяніса Дука і Мікалая Плавінскага.

Як адзначалася намі раней, пытаннямі паходжання горада Полацка займаюцца выключна археолагі. Таму не дзіўна, што ўвага ў першую чаргу была скіравана на выяўленне адпаведных культурных напластаванняў, іх характарыстык і храналогіі, а таксама на рэканструкцыю тапаграфічнай структуры паселішча на першапачатковых этапах.

На сённяшні дзень прапанаваны дзве канцэпцыі храналогіі генезісу горада Полацка, якія грунтуюцца на археалагічных матэрыялах. Адну мы назавем „міфічнай", бо яе прадстаўнікі беспадстаўна шукаюць пачаткі горада ў VIII/IX стст., абапіраючыся больш на штучныя канструкцыі савецкай марксісцкай гістарыяграфіі (Мікалай Ціхаміраў[35], Пётр Талочка[36]). Да іх адносяцца амаль усе беларускія даследчыкі (Георгій Штыхаў[37], Сяргей Тарасаў[38], Дзяніс Дук[39]), а таксама Леанід Аляксееў[40]. Прадстаўнікі другога, „рэалістычнага", падыходу ў сваіх высновах больш цвяроза абапіраюцца на выяўлены археалагічны матэрыял і мяркуюць, што пра Полацк як горад можна казаць з сярэдзіны X ст. (Сяргей Бялецкі і Юры Лесман[41], Мікола Плавінскі[42], Іван Ерамееў[43]).

Усе даследчыкі генезіс і развіццё Полацка звязваюць з тэрыторыяй на р. Палата пад назвай „першапачатковае гарадзішча", альбо „гарадзішча Рагвалода". Як ужо было сказана, першым на дадзеным помніку правёў археалагічныя раскопкі Аляксандр Ляўданскі. Пазней яго вывучалі Георгій Штыхаў, Дзяніс Дук і Марат Клімаў. Праўда, Дз. Дук выказаў думку на перспектыву, што ў якасці магчымых месцаў размяшчэння

35 М. Н. Тихомиров, *Древнерусские города,* с. 9–32.

36 П. П. Толочко, *Древнерусский феодальный город,* с. 34–48.

37 Г. В. Штыхов, *Древний Полоцк IX–XIII вв.,* Минск 1975, с. 21–26.

38 С. В. Тарасаў, *Полацк IX–XVII стст.: гісторыя і тапаграфія,* Мінск 1998, с. 25–26, 36–38.

39 Д. Дук, *Полацк і палачане (IX–XVIII стст.),* Наваполацк 2010, с. 32–33, 61; ён жа, *Полацк IX–XI стагоддзяў: шлях да дзяржаўнасці,* „Беларускі гістарычны часопіс", 2012, № 5, с. 5, 6.

40 Л. В. Алексеев, *Полоцкая земля в IX-XIII вв. (очерки истории Северной Белоруссии),* Москва 1966, с. 136–137.

41 С. В. Белецкий, Ю. А. Лесман, *Новые публикации материалов раскопок средневековых городов Белоруссии,* „Советская археология", 1979, № 1, с. 304–306, 312.

42 М. Плавінскі, *Полацк да Рагвалода (пытанні тапаграфіі і храналогіі культурнага слою),* „Acta archaeologica Albaruthenica", vol. II, Мінск 2007, с. 26–27, 30.

43 И. И. Еремеев, *Древности Полоцкой земли в историческом изучении Восточно-Балтийского региона,* с. 82–92.

*„альтэрнатыўнага першапачатковага цэнтра альбо цэнтраў”* магло быць гарадзішча на тэрыторыі Запалоцця ці на Востраве[44].

Сярод даследчыкаў няма згоды пра шляхі ўзнікнення і сацыяльныя функцыі першапачатковага Полацка. Прычынай паўставання ўмацаванага вайсковага і адміністрацыйнага пункта на берагах Палаты, на думку Г. Штыхава, з’явіліся каланізацыйныя працэсы славян у беларускім Падзвінні на працягу VIII–IX стст. Ён залічваў Полацк да паселішча полацкіх крывічоў[45]. За ім дадзены тэзіс паўтараюць большасць даследчыкаў (Сяргей Тарасаў[46], Дзяніс Дук[47], Іван Ерамееў[48]). Выключэннем з’яўляецца пазіцыя Васіля Булкіна, які ініцыятыву збудавання горада на р. Палаце аддае „палачанам”– невялікай групе славян, якія ў VIII–IX стст. вярнуліся з Дуная на ўласную лясную прарадзіму[49]. Мусіць, варта прыглядзецца да меркавання В. Булкіна. Супраць Полацка як цэнтра ўсходнеславянскай каланізацыі выступае Эдуард Загарульскі. Ён не знаходзіць у археалагічным матэрыяле пацверджання ваенна-адміністрацыйнага характару, які павінен мець падобны цэнтр[50].

У ранняй гісторыі горада Полацка можна вылучыць тры асобныя перыяды, розныя па сацыяльным і палітычным змесце: 1) палачанскі (славянскі); 2) варажскі; 3) княжацкі. Усе яны непасрэдна звязаныя з галоўнымі тапаграфічнымі адзінкамі, сучасныя назвы якіх — „гарадзішча Рагвалода”, Ніжні і Верхні замак, Запалоцце, Вялікі пасад. Але нібы відавочная стабільнасць тапаграфічных структур пры аналізе наяўных археалагічных матэрыялаў не пацвярджае бесперапыннага эвалюцыйнага развіцця горада. Наадварот, выяўляюцца вельмі радыкальныя змены, у выніку якіх занепадалі папярэднія функцыі і лад жыцця, саступаючы месца навацыям.

I. *Палачанскі перыяд.* Яго храналагічныя межы на падставе выяўленых археалагічных матэрыялаў можна акрэсліць VIII — першай паловай X ст. Прычыны і шляхі з’яўлення групы насельніцтва, якую летапісец назваў

44 Д.В. Дук, *Состояние, актуальные проблемы и перспективы развития археологии Полоцка,* [в:] *Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: Матэрыялы IV Міжнароднай канферэнцыі,* Полацк 2003, с. 108–110.

45 Г. В. Штыхов, *Города Полоцкой земли (IX–XIII вв.)*, Минск 1978, с. 14, 26.

46 С.В. Тарасаў, *Полацк IX–XVII стст.,* с. 24.

47 Д. Дук, *Полацк IX–XI стагоддзяў: шлях да дзяржаўнасці,* „Беларускі гістарычны часопіс”, 2012, № 5, с. 5, 6.

48 И. И. Еремеев, *Древности Полоцкой земли в историческом изучении Восточно-Балтийского региона,* с. 17–21, 25, 46.

49 Вал. А. Булкин, Вас. А. Булкин, *Древний Полоцк: у истоков культуры*, [в:] *Проблемы археологии.* Вып. 3. *Памятники древнего и средневекового искусства. Сборник статей в память профессора В.И. Равдоникаса,* Санкт-Петербург 1994, с. 162.

50 Э. Загарульскі, *Заходняя Русь IX–XIII стст.: вучэбны дапаможнік,* Мінск 1998, с. 155–156.




**Тапаграфічная структура Полацка ў X ст. (паводле: М. Плавінскі, *Полацк да Рагвалода (пытанні тапаграфіі і храналогіі культурнага слою)*, „Acta archaeologica Albaruthenica", vol. II, Мінск 2007, с. 34)**

„палачанамі", з дунайскага басейна, а таксама механізмы ўкаранення іх на новых тэрыторыях яшчэ чакаюць асобнага даследавання. Сёння можна выказаць толькі пэўныя назіранні ў пацверджанне гэтага.

Пачынаючы з VIII ст. археалогія адзначае заўважальныя змены ў культуры і сацыяльным жыцці насельніцтва заходнедзвінскага рэгіёна. У гэты час тут з'яўляюцца новыя ўмацаваныя паселішчы — Полацк (гарадзішча Рагвалода), Лукомль, Віцебск, Гарадзец на Мнюце (прыток Дзісны). Археолагі таксама адзінагалосна сцвярджаюць, што на беларускіх землях з IX ст. назіраецца радыкальная змена

ў пахавальным абрадзе мясцовага насельніцтва (незалежна ад прыналежнасці да той ці іншай археалагічнай культуры). На змену грунтовым могільнікам на поўдні і ўсходзе, доўгім курганам на поўначы і паўночным усходзе, „таямнічым/невядомым” пахаванням у цэнтры і на захадзе распаўсюджваюцца пахаванні ў паўсферычных курганах па абрадзе крэмацыі, каб у наступным Х ст. зрабіцца дамінуючай формай[51]. Падобныя з'явы не маглі быць вынікам эвалюцыйнага развіцця мясцовага насельніцтва, а, хутчэй за ўсё, адлюстроўвалі эфект міграцыйных працэсаў. Зноў жа, гісторыкі, археолагі і этнолагі з рэдкім для навукі паразуменнем бачаць у „мігрантах” на беларускія землі „славян”. Разам з новым насельніцтвам на беларускую тэрыторыю пранікаюць традыцыі ганчарнага кола, а таксама з'яўляюцца раней невядомыя прадметы ўзбраення і ўпрыгожванні, бліжэйшыя аналогіі якіх выяўляюцца ў паўднёвых рэгіёнах — Падунаўі і на Балканах, месцах ужо сталага пражывання носьбітаў славянскай мовы і свядомасці[52].

У адрозненне ад іншых народаў, якіх летапіс надзяляе даволі вялікімі тэрыторыямі (напрыклад, дрыгавічы, севяране, вяцічы), месцы пражывання палачан, палян і славенаў вызначаны вельмі дакладна і кропкава — рака Палата, кіеўскія пагоркі і берагі возера Ільменя. Тут, у адрозненне ад іншых славянскіх груп, якія рассяліліся на тэрыторыі Усходняй Еўропы, амаль адразу цэнтрамі палітычнага і эканамічнага жыцця парабіліся паселішчы — Полацк, Кіеў, Ноўгарад[53].

За расійскімі археолагамі Васілём Булкіным і Валерам Сядых зададзімся пытаннем: чаму дадзеныя археалагічныя комплексы ўзнікаюць там, дзе іх фіксуе археалогія і застаюць пісьмовая гісторыя і сучаснасць?[54] Нас пераконвае аргументацыя Вас. Булкіна, які лічыў, што галоўным фактарам, паспрыяўшым вылучэнню полацкага гарадзішча як вядучага месца ў басейне сярэдняй Заходняй Дзвіны, з'яўляецца яго выключна карыснае геаграфічнае размяшчэнне. Прыгледзімся

[51] Г. В. Штыхаў, *Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганаў у Паўночнай Беларусі,* Мінск 1992, с. 41–53; Е. А. Шмидт, *Кривичи Смоленского Поднепровья и Подвинья (в свете археологических данных),* Смоленск 2010, с. 67–71, 79–80; П. Ф. Лысенко, *Дреговичи,* Минск 1991, с. 43–48; В. В. Богомольников, *Радимичи (по материалам курганов X–XII вв.): Монография,* Гомель 2004, с. 89–93; О. А. Макушников, *Гомельское Поднепровье в V — середине XIII вв.: социально-экономическое и этнокультурное развитие,* Гомель 2009, с. 24–27.

[52] Г. Семянчук, *Пачаткі дзяржаватворчых працэсаў на тэрыторыі Беларусі ў IX — пачатку XI ст.,* „Rocznik Centrum Studiów Białoruskich / Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў”, Warszawa 2015, № 1, с. 22–23.

[53] Вал. А. Булкин, Вас. А. Булкин. *Древний Полоцк: у истоков культуры,* с. 162–163.

[54] В. А. Булкин, В. Н. Седых, *„Что город, то норов; что деревня, то обычай?” Археологический комментарий к проблеме формирования городских центров Древней Руси,* [в:] *Диалог культур и народов средневековой Европы: К 60-летию со дня рождения Евгения Николаевича Носова,* Санкт-Петербург 2010, с. 107.

да геаграфіі рэгіёна рассялення „палачан". У дадзеным месцы перакрыжоўваюцца шляхі з унутраных рэгіёнаў Усходняй Еўропы да розных і аддаленых адзін ад аднаго ўзбярэжжаў Балтыйскага мора — Рыжскага заліва (уласна па Заходняй Дзвіне) і Фінскага заліва (праз рэкі Палата і Дрыса да вярхоўяў р. Вялікая)[55]. Беларускія даследчыкі аспрэчваюць падобнае меркаване: *„…пытанне аб прычынах, паводле якіх Полацк адыграў вядучую ролю ў рэгіёне. Відавочна, што гэта не маглі быць выгоды ў арганізацыі гандлю, паколькі Полацк хаця і размяшчаўся на шляху „з варагаў у грэкі", тым не менш не меў пераваг у параўнанні з іншымі раннегарадскімі цэнтрамі"*[56]. Як альтэрнатыва распаўсюджваецца погляд Эдуарда Загарульскага, што асноўным фактарам, які б вылучаў Полацк з ліку сінхронных пасяленняў, з'яўляецца вядучая палітычная, а як вынік,— і сацыяльна-эканамічная роля горада. *„Стартавыя магчымасці для развіцця пасялення, відаць, адыгрываў менавіта факт размяшчэння ў гарадзе княжацкай адміністрацыі"*[57]. Праўда, названыя навукоўцы не прыводзяць дадзеным сцвярджэнням ні гістарычных, ні археалагічных пацвярджэнняў, як і не канкрэтызуюць храналогію падзей. Са свайго боку заўважым, што вядучая палітычная роля кожнага паселішча — гэта вынік яго геапалітычнага становішча. Княжацкая адміністрацыя таму і выбірала тое ці іншае месца, што яно было вельмі зручным па сваім геаграфічным размяшчэнні.

Першапачатковае гарадзішча Полацка (вядомае як „гарадзішча Рагвалода") размешчана на мысе на левым беразе р. Палаты, прыкладна ў 1000 м ад яе ўпадзення ў Заходнюю Дзвіну. Яго памеры, паводле Георгія Штыхава,— 73 x 75 м, верхняя галоўная пляцоўка яшчэ меншая — 75 x 40 м.[58] Да сярэдзіны X ст. умацаванні Полацкага гарадзішча былі вельмі нязначныя — вышыня вала складала недзе 1,5 м.[59] Культурныя напластаванні на гарадзішчы, якія датуюцца апошняй чвэрцю I тыс. н.э., адкладаліся пераважна каля валоў, а ў цэнтральнай частцы яны менш выразныя і выяўлены выключна ў мацерыковых ямах. Гэта сведчыць пра выкарыстанне дадзенай зоны менш інтэнсіўна.

Паселішча на полацкім гарадзішчы мае даволі архаічную планіроўку, вельмі малалікую калекцыю слабапрафіляванай ляпной керамікі і адзінкавыя індывідуальныя прадметы (срэбная паясная бляшка, ланцэтападобны

[55] Вал. А. Булкин, Вас. А. Булкин, *Древний Полоцк: у истоков культуры*, с. 163.
[56] Д. Дук, *Полацк і палачане,* с. 36.
[57] Э. Загарульскі, *Заходняя Русь IX–XIII стст.,* с. 158–159.
[58] Г. В. Штыхов, *Древний Полоцк IX–XIII вв.,* с. 21.
[59] Тамсама, с. 24–25, мал. 12.

наканечнік стралы), якія датуюцца, з вялікім дапушчэннем, раней сярэдзіны X ст., а таксама 5 фрагментаў дырхамаў. Усё гэта дазваляе сцвярджаць аб шэраговым і вузкарэгіянальным значэнні паселішча на берагах Палаты, якое больш нагадвае „банцараўскія гарадкі" Усходняй і Цэнтральнай Беларусі (Старое Сяло, Лужасна, Жабіна, Буракова, Зазоны, Дзядзілавічы, Гарадзішча (Княгіна), Свіла I, Чаркасава, Багрынава, Нікадзімава) і шэраг гарадзішчаў на Смаленшчыне (Рокат і Навасёлкі), на р. Ільмень (Халопі Гарадок, Гарадзішча Георгі, Гарадок на Маяце) і на р. Луга (Надбелле і Гарадзец)[60].

Названыя гарадзішчы не маюць прамой генетычнай сувязі з папярэднімі паселішчамі на іх, нават калі яны лакалізуюцца на тых самых месцах. Дарэчы, няма таксама пераканаўчых сведчанняў аб уплывах палачанскага (славянскага) ладу і парадкаў, якія мелі самадастатковы аграрны характар, на факт зараджэння гарадскога жыцця ў Полацку. Таму праблема кантынуітэта славянскага паселішча і княжацкага горада Полацка надалей застаецца нявырашанай. Археалагічная характарыстыка полацкага гарадзішча не пацвярджае яго сталага засялення значнай папуляцыяй. Адсутнасць грунтоўных умацаванняў дазваляе сумнявацца ў іх важным мілітарна-стратэгічным значэнні, невялікія памеры выключаюць магчымасць штодзённага пражывання значных груп людзей. Не было яно таксама ані сталым цэнтрам спецыялізаванай рамесніцкай вытворчасці, ані рынкам абмену, якія б мелі вялікае значэнне для большай папуляцыі. Нам падаецца, што мы маем дачыненне з самадастатковым аграрным грамадствам, якое яшчэ не карысталася дасканалымі прыладамі працы і не патрабавала спецыялізаваных паслуг, а таксама раскошных тавараў здалёк. Аднатыпная, слабаспецыялізаваная гаспадарка не магла прыносіць адчувальных прыбыткаў, якія патрабавалі б іх сталай аховы ад ваяўнічых суседзяў і дазволілі б утрымліваць адмысловыя групы (уладныя і вайсковыя эліты), якія б гэтую ахову выконвалі. Аднак кожная камунікатыўная супольнасць на беларускіх землях большая за лакальную ў той час (IX ст.— пачатак X ст.) адчувала патрэбу ў сваёй ідэнтыфікацыі з нейкім сімвалічным цэнтрам. У гэтым пытанні мы далучаемся да меркаванняў тых даследчыкаў, якія бачаць у падобных умацаваных паселішчах цэнтральныя месцы з галоўнай функцыяй падтрымліваць грамадскі лад і наладжваць пачатковыя элементы ўладных структур[61].

[60] И. Еремеев, *Древности Полоцкой земли в историческом изучении Восточно-Балтийского региона,* с. 47–59, 85–86.

[61] W. Syzmanski, *Baiträge zum Problem der Entstehung von Burgen beiden Slawen,* „Archaeologia Polona", 1983, t. 21–22, s. 98; Z. Kobyliński, *Early medieval hill forst in Polish lands in the 6$^{th}$ to the 8$^{th}$ centuries: Problems*

Гэта абсалютна не выключае адначасовага выкарыстання названых гарадзішчаў як сакральных цэнтраў.

Сёння можна ўпэўнена казаць, што „варажскі" ўплыў на пачаткі ўмацаванага паселішча на р. Палаце не прасочваецца. Аналіз храналогіі і тапаграфіі скарбаў арабскіх срэбных манет — дырхамаў, а таксама колькасць і лакалізацыя скандынаўскіх вырабаў у басейне Заходняй Дзвіны па ўсёй даўжыні ракі паказвае, што на працягу VIII–IX стст. дадзены рэгіён быў у пэўным сэнсе „перыферыйным" у сістэме транзітнага агульнаеўрапейскага тавараабмену[62]. Нешматлікія скандынаўскія знаходкі з тэрыторыі Беларусі, за рэдкім выключэннем, датуюцца X — сярэдзінай XI ст. і прадстаўлены пераважна элементамі ўзбраення[63].

II. *Варажскі перыяд* гісторыі Полацка датуецца 50–80-мі гадамі X ст. і звязаны з гаспадараннем *„прыбыша из-заморья"* Рагвалода — родапачынальніка полацкай княжацкай дынастыі. З'яўленне скандынаўскага ярла ў Падзвінні прыпадае на 950-я гады[64] і звязана гэта было са зменамі ў камунікацыйных сістэмах Усходняй Еўропы. У гэты час галоўнай прыцягальнай сілай для варагаў становіцца Днепр са сваімі прытокамі. Менавіта па Дняпры, а не па Волзе ці іншаму маршруту, праходзіла вызначальная вось. Полацк апынуўся на скрыжаванні шляхоў з поўначы на поўдзень і заходнедзвінскага адгалінавання, што, безумоўна, прынесла княству Рагвалода вялікую карысць[65].

Даследчыкі даўно звярнулі ўвагу на адну акалічнасць: яскравыя сведчанні пісьмовых крыніц аб наяўнасці і актыўнасці ў Полацку варагаў не адпавядаюць вядомым на сёння вынікам археалагічнага вывучэння культурных напластаванняў, сінхронных гістарычным паведамленням. Можна пералічыць адзінкавыя знаходкі, якія адносяцца да матэрыяльнай культуры Скандынавіі: меч X ст. (выпадковая знаходка па-за межамі старажытнага паселішча), ланцэтападобны наканечнік стралы,

*of origins, function and spatial organization,* [w:] *From the Baltic to the Black Sea,* Boston 1990, s. 150–154; M. Dulinicz, *Miejsca, które rodzą władze (najstarsze grody słowiańskie na wschód od Wisły),* [w:] *Człowiek, sacrum, środowisko. Miejsca kultu we wczesnym średniowieczu*, Wrocław 2000, s. 92–95; P. Urbańczyk, *Trudne początki Polski,* s. 115–117.

62 И. И. Еремеев, *Полоцкая земля,* [в:] *Русь в IX–Хвеках: Археологическая панорама,* Москва – Вологда 2012, с. 276–279, 297.

63 С. А. Дернович, *Скандинавские древности эпохи викингов в Беларуси,* Минск 2006; В. Н. Рабцэвіч, М. А. Плавінскі, А. В. Іоў, *Брылёўскі скарб,* Мінск 2011. У 2016–2017 гг. беларускімі археалагамі праводзіліся раскопкі на цікавым археалагічным комплексе каля в. Кардон Шумілінскага р-на, які па папярэдніх дадзеных можна характарызаваць як „варажскае паселішча" к. IX–X стст. (гл.: *Беларусь праз прызму рэгіянальнай гісторыі: Шумілінскі край: зб. навук. артыкулаў,* Мінск 2018. Артыкулы Вольгі Ляўко, Вадзіма Шадыры і Паўла Кенькі, Сяргея Дзярновіча, Тацяны Бубенькі, Паліны Курловіч і Мікалая Памазанава).

64 И. И. Еремеев, *Полоцкая земля,* с. 290.

65 С. Франклин, Д. Шепард, *Начало Руси: 750-1200,* Санкт-Петербург 2000, с. 225.

6 рубленых дырхамаў. У археалогіі звычайна падобныя з'явы тлумачацца абмежаванасцю палявых даследаванняў, спадзяванні ўскладаюцца на лепшыя часы ў будучыні. Натуральна, гэта адносіцца і да Полацка, хаця, як адзначалася вышэй, раскапаная плошча ў горадзе складае больш за 5 тыс. кв. метраў, а археалагічнымі наглядамі ахоплена тэрыторыя панад 20 тысяч кв. метраў.

Адзначаная асаблівасць не мае больш-менш пераканаўчага тлумачэння сярод даследчыкаў. Шведскі археолаг Інгмар Янссан бачыць у гэтым абстрактнае „выключэнне": *„…можно предположить, что достаточно большие группы скандинавов переселились на Русь и что они играли важную роль не только в экономическом, но также в военных и политических процессах. Полоцк является исключением. Классических скандинавских находок в этом городе не найдено, хотя летопись рассказывает, что князь Полоцка Рогволод „пришел из-за моря"*[66]. Расійскі археолаг Васіль Булкін спрабуе растлумачыць гэты парадокс асаблівым „норавам" палачан: *„…трудно объяснить и отсутствие серийных скандинавских находок и, пусть даже случайных, предметов скандинавского женского убора, столь типичных для большинства мест пребывания скандинавов в Восточной Европе. Возможно, и в этом случае проявился традиционный характер полочан, которые, как и их предки, не имея собственных металлических украшений, одновременно отторгали влияние чужой среды"*[67]. У асяроддзі акадэмічных беларускіх археолагаў на гэты конт пануе своеасаблівы „антынарманізм" у тлумачэннях полацкай асаблівасці: *„Особенность формирования Полоцка как раннегосударственного центра состоит в отсутствии видимых признаков влияния варягов на этот процесс. Комплекс предметов IX–XI вв. с полоцкого городища и синхронных ему поселений исторической округи Полоцка характерен для населения восточноевропейского региона в целом, что способствовало быстрому сложению древнерусской культуры на большом пространстве"*[68]. Вядомы і аўтарытэтны полацкі даследчык Дзяніс Дук упэўнены, што *„прысутнасць варагаў (скандынаваў) на полацкім гарадзішчы і вакольным горадзе па рэчавым матэрыяле практычна не прасочваецца. (…) Знойдзены археолагамі на Полацкім гарадзішчы і паселішчах комплекс*

[66] И. Янссон, *Королевские/княжеские центры эпохи викингов в Скандинавии и на Руси,* [у:] *Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі,* Полацк 2009, с. 208.

[67] Вал. А. Булкин, Вас. А. Булкин, *Древний Полоцк: у истоков культуры,* с. 164–165.

[68] О. Н. Левко, *Заключение,* [в:] *Полоцк: Полоцк и Полоцкое княжество (земля) в IX–XIII вв., летопись древних слоев, Полоцк и его округа в XIV–XVIII вв., ремесло, денежное обращение и торговые связи Полоцка в средневековье (по данным археологии, нумизматики и письменных источников), культура и просвещение в средневековом Полоцке,* Минск 2012, с. 520.

*рэчаў IX–X стст. з'яўляецца тыповым для гістарычнай акругі Полацка і славянскага насельніцтва ўсходнееўрапейскага рэгіёна ў цэлым. Усё гэта пацвярджае, што пачатковая крэпасць на гарадзішчы была заснавана славянамі-крывічамі і функцыянавала без шырокага ўдзелу скандынаваў"*[69].

Праўда, у сярэдзіне X ст. назіраецца рэзкі скачок у сацыяльна-эканамічным і палітычным развіцці беларускага Падзвіння, які складана растлумачыць „эвалюцыйным развіццём мясцовага славянскага грамадства". Археалогія фіксуе значныя змены на Полацкім гарадзішчы, вядомым пад назвай „гарадзішча Рагвалода". Там распачынаюцца інтэнсіўныя фартыфікацыйныя працы, якія дазволілі давесці магутнасць вала з унутранага боку да 3 м. Тэрыторыя культурных напластаванняў з ляпной і раннеганчарнай керамікай узрастае да 8 га, ахопліваючы пераважна Ніжні Замак і Запалоцце[70].

У самім Полацку і бліжэйшых ваколіцах выяўлены шэраг сапраўды ўнікальных скарбаў. У першую чаргу гэта знойдзены ў 1984 г. на тэрыторыі так званага Полацкага Ніжняга замка рэчавы скарб, які складаўся з 6 залатых (проба 958) рэчаў: бранзалета з 4-граннага дроту; бранзалета з круглага тоўстага дроту з завязанымі канцамі (разламаны альбо рассечаны на дзве часткі); бранзалета з круглага дроту; бранзалета (альбо часткі грыўні), скручанага з 4 дратоў; фрагмента грыўні (скручанага з 4 дратоў) з часткай яе замка. Скарб быў схаваны ў трэцяй чвэрці X ст[71]. Каля 20 кг важыў скарб срэбраных арабскіх дырхамаў, знойдзены ў 1973 г. мясцовымі жыхарамі ў ваколіцах Полацка каля в. Каз'янкі[72]. Сёння колькасць манет з названага скарбу складае 7890, з іх на 7 манетах захаваліся выявы „сегнеравага кола" — сімвала готландскіх камянёў і серыі скандынаўскіх падвесак, а на 8 манетах выяўленыя літарападобныя знакі, якія атаясамліваюцца са скандынаўскімі рунамі. На думку спецыялістаў, Каз'янкаўскі скарб быў схаваны каля 940 г. Яшчэ адзін скарб арабскіх манет, блізкі па часе папярэднім (972/973 гг.), быў знойдзены ў 1888 г. у маёнтку Струнь амаль пад самым Полацкам[73]. Сёння ў беларускім Падзвінні вядомы таксама іншыя скарбы дырхемаў і асобныя знаходкі,

---

69 Д. Дук, *Полацк і палачане,* с. 35.

70 С. В. Тарасаў, *Полацк IX–XVII стст.,* с. 24–39. E. Mühle, *Die städtischen Handelszentren der nordwestlichen Rus´: Anfänge und frühe Entwicklung altrussicher Städte (bis gegen Ende des 12. Jh.),* Stuttgart 1991, s. 211.

71 Г. В. Штыхов, *Клад из Полоцка,* [в:] *Археологические открытия 1984,* Москва 1986, с. 353–354; И. И. Еремеев, *Полоцкая земля,* с. 293–295.

72 В. Н. Рябцевич, *Дирхемы арабского халифата в денежном хозяйстве Полоцкой земли (IX–X вв.),* [в:] *Славяне и их соседи (археология, нумизматика, этнология),* Минск 1998, с. 72; Е. А. Мельникова, *Скандинавские рунические надписи,* Москва 2001, с. 146–147.

73 В. Н. Рябцевич, *Дирхемы арабского халифата в денежном хозяйстве Полоцкой земли (IX–X вв.),* с. 73.

звязаныя са скандынаўскай традыцыяй, якія датуюцца сярэдзінай X — першай паловай XI ст[74]. Гэта сведчыць аб тым, што з сярэдзіны X ст. роля нарманаў у гэтым рэгіёне Беларусі становіцца больш заўважнай і значнай. Як вынік, у дадатак да Полацка новыя якасці набываюць таксама добра ўмацаваныя паселішчы: Віцебск, Лукомль, Гарадзец на Мнюце (як пункты кантролю і дамінавання вікінгаў над мясцовым насельніцтвам)[75].

Полацк, які значна пашырыў сваю прастору на суседнія неўмацаваныя тэрыторыі па правым і левым баках Палаты, у час гаспадарання Рагвалода набывае рысы паселішча, падобнага да Гнёздава пад Смаленскам[76], Рурыкава гарадзішча пад Ноўгарадам[77], Цімерава пад Яраслаўлем, Шэставіцы пад Чарнігавам[78]. З адным значным адрозненнем — ён быў сціплейшы па памерах і гандлёва-вайсковай актыўнасці, што адлюстравалася ў археалагічных матэрыялах і помніках. Прычына нам бачыцца ў другасным значэнні заходнедзвінскай гандлёвай камунікацыі ў X ст. у параўнанні з дняпроўскай і па Волзе. Таксама на развіцці Полацка адмоўна адбілася прайграная вайна Рагвалода з Уладзімірам Святаполкавічам і звязаныя з гэтым разбурэнні.

III. Пачатак *княжацкага перыяду* ў гісторыі Полацка непасрэдна звязаны са старэйшым сынам Уладзіміра Святаполкавіча і Рагнеды — Ізяславам (памёр паводле летапісу ў 1001 г.), якому перадаецца ўлада над горадам у выніку „адміністрацыйнай рэформы", праведзенай на мяжы X–XI стст. Летапіс „адміністрацыйную рэформу" кіеўскага князя адносіць да часу, блізкага іншаму мерапрыемству, — хрышчэнню Русі ў 988 г. — і асвятляе яе як „маментальны" акт: Уладзімір адным загадам рассадзіў сваіх сыноў па розных гарадах. На самой справе наданне княжацкага стала таму ці іншаму сыну было звязана з фізічным сталеннем княжычаў, а гэта значыць, што тэрытарыяльны падзел абшараў, якія кантраляваліся з Кіева, пачаўся бліжэй да сярэдзіны 90-х гадоў X ст. і меў некалькі этапаў. У першую чаргу

74 В. Н. Рябцевич, *Дирхемы арабского халифата в денежном хозяйстве Полоцкой земли (IX–X вв.)*, [в:] *Славяне и их соседи (археология, нумизматики, этнология)*, Минск 1998, с. 66–80; С. Д. Дернович, *Скандинавские древности эпохи викингов в Беларуси*, Минск 2006.

75 Г. В. Штыхов, *Города Полоцкой земли (IX–XIII вв.)*, Минск 1978, с. 31–53.

76 Н. В. Ениосова, Т. А. Пушкина, *Гнёздово как раннегородской центр эпохи формирования Древнерусского государства и некоторые вопросы его интерпретации*, [в:] *Древнейшие государства Восточной Европы. 2014 год: Древняя Русь и средневековая Европа: возникновение государства*, Москва 2016, с. 258-303.

77 Е. Н. Носов, *Новгородское (Рюриково) городище*, Ленинград 1990; Е. Н. Носов, В. М. Горюнова, А. В. Плохов, *Городище под Новгородом и поселения северного Приильменья (Новые материалы и исследования)*, Санкт-Петербург 2005, с. 8–32.

78 И. В. Дубов, *Северо-Восточная Русь в эпоху раннего средневековья (историко-археологические очерки)*, Ленинград 1982, с. 124-187. В. П. Коваленко, А. П. Моця, *Шестовица — южная „сестра" Рюрикова городица*, [в:] *Диалог культур и народов средневековой Европы: К 60-летию со дня рождения Евгения Николаевича Носова*, Санкт-Петербург 2010, с. 91–102.

прыярытэт аддаваўся цэнтрам, якія кантралявалі важнейшыя гандлёвыя камунікацыі: па Заходняй Дзвіне ў Балтыку (дзеля гэтага ў Полацку быў пасаджаны Ізяслаў), па Волзе (дзе ў Растове апынуўся Яраслаў, а потым Барыс), на пачатку шляху з Вараг у Грэкі (дзе ў Ноўгарадзе да смерці сваёй сядзеў Вышаслаў, а далей Яраслаў), на выйсце з Дона ў Чорнае мора (дзе ў Тмутаракані апынуўся Мсціслаў). Наступным крокам было распаўсюджванне кантролю Кіева над тэрыторыямі, якія раней ніколі не былі звязаны з далёкасяжным гандлем: Святаполк апынуўся ў Тураве, Святаслаў — „у Деревех", Усевалад — ва Уладзіміры Валынскім[79].

Прызначэнне Ізяслава намеснікам кіеўскага князя Уладзіміра ў Полацк паўплывала на ўнутранае жыццё рэгіёна. Князь не быў статычным і пасіўным гульцом, ён з'яўляўся актыўным выканаўцам палітыкі пераўладкавання падпарадкаваных кіеўскаму князю тэрыторый Сярэдняга Падзвіння. Дзейнасць Ізяслава праявілася ва ўкараненні і пашырэнні новай ідэалогіі ў выглядзе „хрысціянскай веры", а таксама ў палітыцы „ўрбанізацыі" — заснавання новых адміністрацыйных і вайсковых цэнтраў, якія ад самых пачаткаў набываюць уласна („чыста") гарадскія рысы. Гэта Полацк, Віцебск, Друцк, Лукомль, Ізяслаўль. Відавочна, што змены функцый паселішчаў з гарадскімі рысамі адлюстроўвалі змены ў сістэме палітычнай улады.

Археалагічны матэрыял і параўнанне з працэсамі зараджэння і першапачатковага развіцця гарадскога жыцця Кіева[80], Ноўгарада[81], Пскова[82] і Смаленска[83] дазваляюць нам сцвярджаць, што класічныя гарадскія рысы Полацк пачынае набываць у часы „намесніцтва Ізяслава" ў 90-я гады X ст. У першую чаргу ўзмацняецца яго адміністрацыйная функцыя — як грунт княжацкай улады і цэнтр хрысціянізацыі (абавязкова пачынаецца будаўніцтва першага храма, сляды якога археолагамі пакуль не выяўлены). Альтэрнатывы Полацку ў гэты час у беларускім Падзвінні проста не было.

Гарадское жыццё ў Полацку з'яўляецца ў апошнім дзесяцiгоддзі X ст. і бесперапынна развіваецца ў першай палове XI ст. Яно зараджаецца на абсалютна новай тэрыторыі, амаль не заселенай у папярэднія часы,— сучасным Верхнім Замку і бліжэйшых да яго землях будучага Вялікага Пасада. Гэта месца пры ўпадзенні р. Палаты ў Заходнюю Дзвіну, са

79 А. Толочко, *Очерки начальной Руси,* Киев – Санкт-Петербург 2015, с. 300–301.

80 М. А. Сагайдак, *Город и власть*, [в:] *Древняя Русь и средневековая Европа: возникновение государств: материалы конференции,* Москва 2012, с. 219–223.

81 Е. Н. Носов, *Новгородское (Рюриково) городище,* Ленинград 1990.

82 С. В. Белецкий, *Начало Пскова,* Санкт-Петербург 1996.

83 *Смоленск и Гнездово,* Москва 1999; *Гнездово. Результаты комплексных исследований,* Санкт-Петербург 2007.

зручнымі ўмовамі для затрымлівання, пагрузкі і разгрузкі судоў, арганізацыі гандлю і рамяства.

У першай палове XI ст. значна павялічваецца колькасць гарадскіх функцый Полацка, што безумоўна паўплывала на павелічэнне плошчы гарадской тэрыторыі. Магчыма, з пачаткам горадабудаўнічай дзейнасці Ізяслава Уладзіміравіча, яго сына Брачыслава і ўнука Усяслава трэба звязваць знікненне абедзвюх курганных груп — усходняй на правым беразе Заходняй Дзвіны і паўночнай у Запалоцці[84]. Пры Усяславе сканчаецца працэс будавання новага гарадского ансамбля Полацка, што канчаткова зацвердзіла за горадам статус сталіцы Полацкай Русі, не залежнай ад Кіеўскай і Наўгародскай.

Полацк на мяжы X–XI стст., у часы „намесніцтва" Ізяслава Уладзіміравіча і ў наступныя дзесяцігоддзі пачынае пераўтварацца ўжо ў сталую сядзібу рэальнай улады. Як палітычна-адміністрацыйны цэнтр ён вызначыў новую сістэму палітычных адносін і ўплываў на фармаванне новай структуры грамадскага ладу. Як сталая сядзіба рэгіянальных эліт Полацк генерыраваў попыт на эксклюзіўныя рэчы і паслугі, які, са свайго боку, прыцягваў да „града" вытворцаў розных спецыялізацый і купцоў. Для апошніх найважнейшымі былі гарантаваныя дзяржавай стабільнасць і бяспека. Такім чынам, росквіт гаспадарчай сферы быў не прычынай узнікнення гарадскіх пунктаў, а вынікам арганізацыі сіламі цэнтральнай улады мясцовых асяродкаў палітычнага нагляду. Уласна такія цэнтры палітычнага кіравання дзяржаўнымі тэрыторыямі са спецыфічнай тапаграфічнай і планіровачнай структурамі, у якіх знаходзяцца сляды далёкасяжнага гандлю і высокаспецыялізаванай прадукцыі, прынята прызнаваць першымі гарадамі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, рэгіёне, які не быў раней у зоне непасрэдных уплываў рымскай цывілізацыі[85]. Набыццё шматфункцыянальнага аблічча гэтымі ўмацаванымі асяродкамі было адным з важнейшых элементаў працэсу канчатковага пераафармлення традыцыйных грамадскіх структур у дзяржаўную арганізацыю. Без сумнення, горад Полацк быў плацдармам еўрапейскай цывілізацыі з яе рэлігійнымі, мастацкімі, праўнымі і літаратурнымі традыцыямі. Больш за тое, ён зрабіўся ў пэўным сэнсе зонай кантактаў паміж візантыйскай і заходне- і паўночнаеўрапейскай культурамі. Палітычныя практыкі, хрысціянізацыя і фіскальныя патрабаванні стваралі ўмовы для развіцця пісьменнасці сярод гарадскога

---

84 Д. У. Дук, М. А. Плавінскі, *Аб Полацкім некропалі X–XIII стст.*, „Гісторыка-археалагічны зборнік", 2006, № 22, с. 173–186.

85 P. Urbańczyk, *Trudne początki Polski*, s. 123–124.

насельніцтва, спрыялі фармаванню новых накірункаў аздобы і моды. Шматлікія пацвярджэнні сказанага вышэй знаходзяцца ў разнастайных археалагічных матэрыялах і культавых будынках Полацка XI–XII стст.


## Streszczenie

Hienadź Siemianczuk, *O początkach miasta Połocka*

Artykuł rzuca nowe światło na początkowy okres istnienia najważniejszego miasta wczesnośredniowiecznej Białorusi — Połocka. Autor odchodzi od radzieckiej marksistowsko-pozytywistycznej koncepcji pochodzenia miast Europy Wschodniej, której główne założenia to: 1) miasta powstały w wyniku kolonizacji słowiańskiej, a ich poprzednikami zazwyczaj były grody słowiańskie stanowiące ośrodki (plemienne, wspólnotowe) obszarów rolniczych; 2) uznanie ewolucyjnego łańcucha: ośrodek plemienny — protomiasto/pramiasto/embrion miasta — miasto; 3) podkreślenie uwarunkowań społeczno-ekonomicznych — rzemiosła i handlu — jako podstawowych przyczyn powstawania miasta lub też najistotniejszej przesłanki funkcjonowania życia miejskiego. Współczesna nauka europejska odchodzi od teorii ewolucyjnych etapów urbanizacji i więcej uwagi poświęca zmianom strukturalnym, jakie zachodziły w życiu społecznym i politycznym w średniowieczu. Należy podkreślić, iż władze polityczne celowo i planowo inicjowały powstawanie wczesnych ośrodków miejskich, których pochodzenia nie można wyjaśnić, jako naturalnej konsekwencji postępowego wzrostu czynników społeczno-ekonomicznych.

We wczesnej historii Połocka można, ze względu na uwarunkowania społeczno-polityczne, wyróżnić trzy odrębne okresy: 1) połoczański (słowiański) (VIII — I poł. X w.); 2) wareski (lata 50.-60. X w.); 3) książęcy (lata 90. X w. — I poł. XI w.). Rzeczywiste życie miejskie pojawiło się w Połocku w ostatnim dziesięcioleciu X w. i nieustannie rozwijało się w I poł. XI w. Pojawiło się ono na zupełnie nowym terenie, niemal nie zasiedlonym w przeszłości — na obszarze obecnego Zamku Wysokiego i przylegających do niego ziemiach przyszłego Wielkiego Przedmieścia. Głównymi budowniczymi miasta byli Iziasław Włodzimierzowicz, jego syn Braczysław i jego wnuk Wsiesław. W okresie panowania tego ostatniego zakończono proces budowy nowego zespołu miejskiego Połocka, co ostatecznie potwierdziło jego stołeczny status na Rusi Połockiej, niezależnej od Rusi Kijowskiej i Nowogródzkiej.

## Abstract

Henadź Semianchuk, *The Beginnings of the City of Polotsk*

The article discusses the beginnings of the most significant city of medieval Belarus — Polotsk. The author rejects the Soviet theory of Marxism and positivism, which is applied to explain the origin of cities in Eastern Europe. The main assumptions of this theory are as follows: 1) the city was established in the process of Slavic colonisations, which transformed former Slavic gords, which used to be the centre (meaning tribes or communities) of rural life; 2) there is an accepted chain of evolution: tribe centre — proto-gord / pre-gord / city embryo / city; 3) social and economic conditions of crafts and trade are the main reasons for creating a city or the most glaring features of city life. Modern European science rejects the evolutionary stages of urban development and pays more attention to structural changes in social and political life in the Middle Ages. It is clear that political authorities planned to establish some cities on purpose, cities of which origins cannot be explained by means of natural processes of social or economic growth.

The early history of Polotsk may be divided into three periods characterised by differing social and political circumstances: 1) the Polotsk-based period (i.e. Slavic; between the 7$^{th}$ century and the first half of the 10$^{th}$ century); 2) the Varangian period (between the 50s and 80s of the 10$^{th}$ century); 3) the prince period (between the 90s of the 10$^{th}$ century and the first half of the 11$^{th}$ century). City life in Polotsk appeared as late as in the 90s of the 10$^{th}$ century and began developing in the first half of the 11$^{th}$ century. It stretched into completely new territories that used to be barely inhabited, including the contemporary buildings of the High Castle and the future location of the Great Posad. The main builder of the city was Iziaslaw Uladzimiravich along with his son Brachyslaw and grandson Usiaslaw. Soon after Usiaslaw had finished the process of creating a new city of Polotsk, it was accepted as the official capital of the Principality of Polotsk, which remained independent from Kiev and Novgorod.

**Святлана Куль-Сяльверстава**
**(Беласток/Варшава)**

# Эра як элемент лічэння часу ў паўсядзённым жыцці беларускіх зямель у XVI стагоддзі

XVI стагоддзе ў гісторыі Беларусі адзначана лёсаноснымі падзеямі, пачаткам глыбінных працэсаў у эканоміцы, сацыяльным жыцці, культуры, якія акрэслілі на некалькі стагоддзяў перспектывы гістарычнага шляху беларускіх зямель. Сярод такіх важных вех, якія непасрэдным чынам паўплывалі на адчуванне, асэнсаванне і лічэнне часу, варта адзначыць пачатак кнігадрукавання Францішкам Скарынам і прапанаваныя ў яго выданнях сістэму летазлічэння і прывязку да літургічнага календара; Люблінскую і Брэсцкую уніі, якія акцэнтавалі працэс вестэрнізацыі беларускіх зямель і паскорылі паланізацыю эліты, адначасова ствараючы ўмовы для пераўладкавання эканамічнага і сацыяльнага жыцця і пераасэнсавання значэння часу як эканамічнай і сацыяльнай каштоўнасці. Да важных вех у аспекце гісторыі летазлічэння належыць аднесці ўнармаванне заканадаўства ў Статутах ВКЛ і рэфармаванне сістэмы справаводства, што адбілася на стаўленні да дакладнага вымярэння і пазначэння часу. Да працэсаў, якія найбольш, на нашую думку, паўплывалі на ўспрыняцце часу як адной з каардынат жыцця грамадства, можна аднесці рост гарадоў і фармаванне гарадской супольнасці; рэфармацыйныя працэсы ў канфесійным жыцці, пашырэнне сістэмы асветы і іншае.

Рэканструкцыя лічэння, успрыняцця і асэнсавання часу, як каардынаты чалавечага жыцця, для дадзенай эпохі не можа быць аднолькава поўнай для розных слаёў насельніцтва. Калі гарадская, магнацкая і шляхецкая культуры пакінулі нам у распараджэнне даволі вялікую колькасць пісьмовых крыніц, дык вясковая, сялянская культура рэпрэзентуецца ў гэтых крыніцах у значна меншай ступені. Прадставіць, якім чынам лічыўся і ўспрымаўся час гэтай часткай насельніцтва, можна фрагментарна, выкарыстоўваючы, апрача пісьмовых помнікаў, фальклор, а таксама метады рэтраспекцыі.

Фактычна кожны элемент летазлічэння, які ўжываўся на беларускіх землях у папярэднія стагоддзі, у XVI ст. быў зменены ці пераасэнсаваны.

Адной з важных з'яў, якую можна адзначыць у гэты час, было завяршэнне пераходу з візантыйскай сістэмы летазлічэння на заходнееўрапейскую. Гэты працэс ішоў пастунова, ягоная спецыфіка акрэслівалася не толькі зменай цывілізацыйнага вектара, але таксама існаваннем уласных традыцый лічэння і ўспрыняцця часу, поліканфесійнай і мульцікультурнай сітуацыяй, якая склалася на беларускіх землях у той перыяд.

На Беларусі на працягу стагоддзяў у якасці пункта адліку лічэння гадоў выкарыстоўваліся розныя эры. Гэтая найвялікшая адзінка лічэння часу не заўсёды прысутнічала ў даце, а часам у датаванні дакументаў маглі ўжывацца некалькі эр, што было абумоўлена канфесійнымі і палітычнымі прычынамі. Тэрмін „эра" (лац. — *aera*) мае лацінскае паходжанне, але яго генезіс не цалкам высветлены. У літаратуры па гістарычнай храналогіі на гэтую праблему існуе некалькі поглядаў. Эліяс Джозеф Бікерман, спасылаючыся на этымалагічны слоўнік лацінскай мовы Альфрэда Эрно і Антуана Мейе, акрэслівае гэты тэрмін як „*лічба, цыфра*"[1]; існуе таксама меркаванне, што слова „эра" з'яўляецца абрэвіятурай выразу „*Abex oridio regni Augusti*", паколькі ў Александрыі, дзе храналогія ў антычны час атрымала выдатнае развіццё, існавала лічэнне гадоў ад пачатку царавання імператара Аўгуста Актавіяна[2]. Гэтая эра і пасля атрымала распаўсюджанне ў Еўропе. Лік „*ад імператара*" замацаваўся пасля ўвядзення ў практыку пры Юстыніяне I у 537 г. пазначэння дакумента годам праўлення манарха. У гістарычнай храналогіі тэрмін „эра" вызначаецца як пачатковы пункт, пачатак адліку.

У XVI ст. завяршаецца працэс пераходу ад эры ад Стварэння Свету (далей — СС) да эры Дыянісія Малога, ці эры ад Раства Хрыстовага (далей — РХ). Гэты пераход быў не толькі заменай аднаго элемента лічэння часу іншым — ён можа разглядацца ў якасці своеасаблівай храналагічнай і светаўспрымальнай рэвалюцыі. У дадзеным выпадку быў зроблены крок у бок аддзялення дзвюх вех: старазапаветнай гісторыі аб стварэнні ўсяго існага і пункта, ад якога вядзецца адлік гадамі. Эра, пазначаная момантам стварэння свету, — найбольш архаічная, яна ўзыходзіць да пачаткаў нараджэння сістэмы лічэння часу; у розных формах (ад Адама, ад стварэння чалавека з зернейка маісу і інш.) яна прысутнічала ў народаў на золку цывілізацыі. Увядзенне новага пункта адліку — эры ад Раства Хрыстовага — падзяліла гісторыю сусвету і чалавека на два перыяды: да нараджэння Хрыста і пасля, прычым тое, што было да Хрыста, у новай

[1] Э. Бикерман, *Хронология древнего мира. Ближний Восток и Античность*, Москва 1975, с. 65.
[2] С. И. Селешников, *История календаря и хронология*, 3-е изд., Москва 1977, с. 186.

сістэме каардынат губляла канкрэтнае месца на стужцы часу, ужо не мела канкрэтнай даты і яшчэ болей міфалагізавалася. На той час яшчэ не было вынайдзена акрэсленне „да эры ад Раства Хрыстовага", той адваротны адлік, які сёння дазваляе дакладна пазначыць падзеі, што адбываліся перад I векам. Такім шляхам гісторыя чалавецтва ва ўспрыняцці асобы з XVI ст. набывала дыскрэтны, перарыўны характар, падзяляючыся на частку, якая не акрэсліваецца канкрэтным месцам на стужцы часу, і частку, якая мае канкрэтныя даты і паслядоўнасць падзей. Такое ўспрыманне часу добра ілюструюць наратыўныя крыніцы, створаныя на беларускіх землях у XVI ст.

Усе летапісы і хронікі XVI ст., якія дайшлі да нас, ствараліся на падставе больш ранніх твораў, прычым самі гэтыя творы таксама мелі пратографы. Дзякуючы даследаванням нашага летапісання, праведзеным як беларускімі, так і расійскімі, і польскімі даследчыкамі, сёння вядома, што аўтары *Хронікі Літоўскай і Жамойцкай, Хронікі Быхаўца, Летапісу Панцырнага і Аверкі, Баркулабаўскага летапісу* выкарыстоўвалі для сваіх твораў працы Мацея Стрыйкоўскага, Яна Длугаша, Марціна Кромера, Марціна Бельскага, „*Трактат аб дзвюх Сарматыях*" Мацея Мяхоўскага; а таксама карысталіся паданнямі і фрагментамі *Бібліі*, магчыма, нейкімі больш раннімі кірылічнымі летапісамі. Між іншым, аналізуючы выкарыстанне той ці іншай эры, можна з вялікай доляй верагоднасці вызначыць, ці гэта быў даўні кірылічны пратограф, ці аўтар хронікі дае датаванне паводле польскай ці іншай заходнееўрапейскай крыніцы, або запіс зроблены ім паводле ўласных назіранняў і памяці. Польскія крыніцы гэтых твораў ужывалі толькі эру ад РХ, таму і фрагменты, запазычаныя з іх, ці перапрацаваныя паводле іх, таксама датуюцца гэтай эрай. Што ж тычыцца эры ад СС, яе ўжыванне даволі спецыфічнае. Так, у *Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай* яна ўжываецца толькі адзін раз — ёй датуецца дата нараджэння Хрыста: „*Сталося втѢлене сына божия през духа святаго с пречистой девы Марии от початку свѢта 5508 лѢта*"[3]. У дадзеным выпадку, на нашую думку, храніст наўмысна падаў дату па эры ад СС, бо інакш належала пісаць 1 год ад РХ, што было б паўторам зместу гэтага запісу.

Ананімны аўтар *Хронікі Быхаўца* амаль не ўжывае канкрэтных дат і нават такіх элементаў летазлічэння, як месяц, сезон, дзень, замяняючы іх словамі „*па малым часе*", „*у тыя часы*", „*пасля*" і інш. Маргінальныя запісы, якія дадазены да хронікі, утрымліваюць дакладныя даты і крыніцы, адкуль гэтыя даты ўзятыя, але паколькі *Хроніка Быхаўца* дайшла да нас

[3] *Хроника Литовская и Жмойтская*, [у:] *Полное собрание русских летописей*, том 32, Москва 1975, с. 15.

толькі ў публікацыі Тэадора Нарбута, магчыма, што і даты ў тэксце, і, тым больш, у маргіналіях — пазнейшая ўстаўка. Аўтары *Летапісу Панцырнага і Аверкі* не выкарыстоўваюць эру ад СС, што тлумачыцца дастаткова познім з'яўленнем помніка, калі дадзеная эра ўжо выйшла з паўсядзённага ўжытку. У *Летапісе Красінскага*, час стварэння якога дакладна не акрэслены, але, мяркуючы па межах падзей, апісаных у помніку, яго можна аднесці да XVI ст., эра ад СС ужываецца некалькі разоў. Перш за ўсё, у пачатку аповеда для лакалізацыі ў часе падання пра Палемона. Тут прынцып датавання падобны на той, што ўжыты ў *Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай*, з якой *Летапіс Красінскага* звязаны і падабенствам зместу. Дата ў гэтым летапісе пададзена іншая: „*воплощение сына божьего со святого духа в благословенное девице пречистое Марии от початку сотворения всего свѢта лѢта пяттысячного пятсотного двадцать шестого*"[4]. У датаванні зроблена яўная памылка, бо пры рэдукцыі Раство Хрыстовае прыпадае, паводле аўтара летапісу, на 18 год па эры ад РХ. Памылка, нават калі яна была звязаная з неахайнасцю перапісчыка, можа сведчыць пра тое, што эра ад СС у час стварэння ці перапісвання летапісу ўжо не ўжывалася, ці была мала знаёмай стваральніку тэксту. Бо ў дадзеным выпадку пераклад даты надзвычай просты.

Наратыўныя помнікі, на нашую думку, не могуць служыць вычарпальнай крыніцай для характарыстыкі таго, як успрымаўся, лічыўся ці пазначаўся час у эпоху, якая з'яўляецца прадметам нашай цікавасці. Нягледзячы на тое, што іх мэтай была пагадовая, ці, ва ўсялякім выпадку, паслядоўная фіксацыя падзей, яны не цалкам адлюстроўвалі стаўленне сучаснікаў да часу як каардынаты чалавечага жыцця. Па-першае, на такую фіксацыю накладалі адбітак традыцыі летапісання і ўжо назапашаныя помнікі падобнага характару, што адбівалася на прынцыпах адбору фактаў гісторыі для фіксацыі. Па-другое, як можна лічыць па захаваўшыхся тэкстах, аўтараў летапісаў менш клапаціла дакладнасць даты, больш важным для іх было слушна перадаць паслядоўнасць падзей, паказаць бег гісторыі ў яго непарыўнасці. На карысць гэтага меркавання сведчыць частае ўжыванне выразаў накшталт „*потом*", „*того ж лета*", „*по малых часах*" і інш., якія замяняюць дакладныя даты. Адзначым пры гэтым, што падобны падыход да мінулага быў характэрным для традыцыйнага грамадства, у якім час не з'яўляўся яшчэ адмысловай каштоўнасцю, якую трэба дакладна вымяраць і фіксаваць, цёк павольна і мерна.

[4] *Летапіс Красінскага,* [у:] *Летапісы і хронікі Беларусі. Сярэднявечча і раньнемадэрны час*, рэд. Васіль Варонін, Смаленск 2013, с. 178.

Уяўленне аб успрыняцці эры як адзінкі летазлічэння, а таксама аб успрыняцці вялікіх адрэзкаў часу даюць актавыя дакументы, якія дастаткова добра прадстаўлены ў корпусе крыніц XVI ст. Для нашай тэмы надзвычай важнае значэнне мае тая акалічнасць, што менавіта ў XVI ст. з'яўляюцца дакументы, адной з асноўных задач якіх была фіксацыя дакладнай даты, у т.л. квітанцыі аб выплаце падаткаў, упісы ў гродскія і земскія кнігі, пратаколы копных судоў і інш., а таксама выпрацоўваецца і замацоўваецца на ўсіх узроўнях тагачаснага справаводства фармуляр актаў, у якім дата з'яўлялася абавязковым элементам.

Згадка нумара года паводле акрэсленай эры з'яўляецца, на нашую думку, своеасаблівым ідэнтыфікатарам стаўлення да катэгорыі часу ў грамадстве. Паказальна, што ў XVI ст. мы маем канкрэтную дату канчатковай замены эры ад СС эрай ад РХ у дзяржаўным справаводстве ВКЛ — змена манарха, калі Аляксандра замяніў на вялікакняскім пасадзе ягоны брат Жыгімонт I Стары.

Эра ад Раства Хрыстовага, створаная як элемент летазлічэння Дыянісіем Малым у 525 г., пачала з'яўляцца ў пісьмовых крыніцах, якія паходзілі з беларускіх зямель, у XIV ст., а знаёмства з ёй адбылося яшчэ раней, пад час кантактаў з заходнееўрапейскімі народамі, а таксама блізкімі суседзямі. У палякаў эра ад РХ была прынятая разам з хрысціянствам, адзінай яна была і ў крыжакоў. Эра ад РХ актыўна ўжывалася ў дакументах вялікакняскай канцылярыі, якія пісаліся на латыні, з часоў Вітаўта.

Пры Аляксандры, да яго абрання польскім каралём, у дакументах вялікакняскай канцылярыі нумар года пісалі па эры ад СС, пасля 1501 г. гэтая практыка захавалася для кірылічных дакументаў, прычым эра ад СС і індыкт ставіліся нават у тым выпадку, калі дакумент, што датычыў спраў ВКЛ, падпісваўся ў Кракаве. Дастаткова часта нумар года ўвогуле не ставілі, замяняючы яго індыктам. Такім чынам, да прыкладу, датавана большасць дакументаў, прадстаўленых у адпаведнай кнізе *Літоўскай Метрыкі*[5]. Пасля абрання Аляксандра польскім каралём эра ад СС захавалася толькі ў кірылічных дакументах, у лацінскамоўных жа ставілася дата па эры ад РХ. Ужо ў першым падпісаным новым каралём дакуменце, які дэклараваў умовы яго ўзыходжання на польскі пасад, *Мельніцкім трактаце*, утрымлівалася дата, пазначаная паводле польскіх (лацінскіх) традыцый датавання: „*Actum et datum in Melnik, Sabbatho poxsimo ante Beatorum Simoniset Judae Apostolorum Anno D(omi)ni 1501*"[6]

[5] *Lietuvos Metrika=Lithuanian Metrica=Литовская Метрика,* Kn.6, (1496–1506), Vilnus 2007.

[6] *Volumina Legum,* t.1, Petersburg 1859, s. 133. (далей — VL).

(*„Складзены і дадзены ў Мельніку ў суботу бліжэйшую перад блажэнным Сымонам і Юдам апосталамі у год Гасподні 1501*", 25 кастрычніка 1501 г.).

Такая практыка існавала ўвесь час знаходжання на вялікакняскім пасадзе Аляксандра. На нашую думку, у дадзеным выпадку ўжыванне эры ад СС было, апрача іншага, наступствам палітычнай сітуацыі, якая склалася ў той час: Аляксандр, запрошаны на вялікакняскі трон, не меў моцнай пазіцыі як манарх, і мусіў улічваць традыцыі, якія існавалі ў ВКЛ. Апрача таго, візантыйская эра лічылася эрай праваслаўнай, у адрозненне ад эры Дыянісія, якая была „*рымскай*", ці „*лацінскай*", а праваслаўныя нобілі ў той час вырашалі лёсы дзяржавы. Пэўную ролю адыгрывала ў гэтым выбары і памкненне акцэнтаваць адрозненне ВКЛ ад Кароны, якое набыло моц пасля смерці Казіміра Ягелончыка і фактычнага скасавання персанальнай уніі. Прыгадаем таксама, што жонкай Аляксандра была праваслаўная Алена, дачка Івана III.

Ужо з першых дзён праўлення Жыгімонта Старога эра ад РХ зноў вярнулася і ў кірылічныя дакументы і замацавалася ў іх на наступныя стагоддзі. Перавод дакументаў канцылярыі ВКЛ на „лацінскую" эру пры Жыгімонце I Старым абумоўлены некалькімі меркаваннямі: па-першае, узмацніліся інтэграцыйныя і ўнійныя сувязі паміж Княствам і Каронай, што патрабавала ўніфікацыі справаводства, у тым ліку — аднастайнасці ў спосабах летазлічэння; па-другое, Жыгімонт Стары не быў, у адрозненне ад Аляксандра, у значнай залежнасці ад паноў-рады Княства і не быў зацікаўлены ў падтрымцы адрозненняў, у тым ліку, у захаванні візантыйскай „праваслаўнай" эры; і, па-трэцяе, эра ад РХ была звыклай для новага караля, яе выкарыстанне ў дакументах уключала і Карону, і Княства ў сістэму адліку часу, прынятую ў Еўропе, што, апрача іншага, спрашчала міжнародныя стасункі, бо ў пэўнай ступені легітымізавала акты, якія падпісваў кароль, у вачах іншых еўрапейскіх манархаў і папы.

Эра ад РХ не адразу прыжылася ва ўсім справаводстве краіны. Паказальным у гэтым выпадку, пэўна, з'яўляецца прывілей гродзенскім мяшчанам на права свабоднага ўваходжання ў каралеўскую пушчу ў ваколіцах Прудцоў, падпісаны Жыгімонтам I Старым у Гродне „*w poniedziałek w wigilją poczęcia panny Maryj roku od Narodzenia Pańskiego 1506*"[7] (23 сакавіка). Гэты дакумент пацвярджаў прывілей, выдадзены Аляксандрам, прычым сам прывілей быў цалкам уключаны ў тэкст, што было звычайным у тыя часы. Пры перапісванні прывілея Аляксандра пісар захаваў яго дату па эры ад РХ, але зрабіў памылку пры рэдукцыі:

7 *Акты Виленской археографической комиссии* (далей — АВАК), Вильна 1874, том 7, с. 65.

*„roku 7014 (to iest 1405), miesiąca Maia 11 indykty 9*”[8]. Насамрэч прывілей Аляксандра датуецца 11 мая 1506 г. Памылка пры рэдукцыі даты можа быць звязаная з адсутнасцю ў пісара вопыту працы з эрамі. Адзначым, што прывілей Жыгімонта Старога быў адным з першых дакументаў, у якім ужывалася новае датаванне. Паказальна, што дакумент з памылкай быў падпісаны каралём і складзены ў прысутнасці членаў паноў-рады. Падобныя памылкі — няслушная рэдукцыя дат ці несуаднясенне характару напісання даты з нормай, якая адпавядала канкрэтнаму перыяду, — трапляюцца і ў больш позні часы. У другой палове XVI ст., калі адбывалася рэфармаванне велікакняскай канцылярыі і рабіліся копіі і транслітарацыя старажытных дакументаў, пісаных кірыліцай г. зв. *„рускім пісьмом”*, з дапамогай лацінкі, пісары захоўвалі пазначэнне даты па візантыйскай эры і не рабілі яе рэдукцыю на эру ад РХ. Так, да прыкладу, пазначаны дакумент 1392 г.[9]: *„6898. Listy ruskiego pisma Swydrygala kx(iążęcia) ku wyczytaniu trudne, pod datą roku oth stworzenia swiata; w miessączu czer*wczu”[10]. Можна меркаваць, што пры капіраванні і разборы дакументаў пісары і дзякі канцылярыі ўжо слаба валодалі летазлічэннем па эры ад СС, а таксама чытаннем кірылічнага паўустава, рабілі памылкі ў перадачы дат або паказвалі іх непрымальным спосабам. Так, да прыкладу, памылкова пададзена дата прывілея на вёску Сяльцо, які даў Вітаўт Гіацынту Ланевічу: 6905 г.[11]; спецыфічна запісвалася дата, у якой фігуравалі сем тысяч гадоў — 700014 год[12] і г.д.

Падобная памылка была зроблена ў 1604 г. пры ўпісанні да Віленскіх гродскіх кніг прывілея на права валодання зямлёй, прадстаўленага баярамі. Дата гэтага кірылічнага дакумента была пазначана як 12 лютага 1505 г.,[13] што можа сведчыць ці пра несапраўднасць дакумента, ці пра памылку пісара пры актыкаванні: у 1505 г. падобныя дакументы не датаваліся па эры ад РХ.

У далейшым, пачынаючы ад часоў панавання Жыгімонта Старога, дакументы велікакняскай канцылярыі пачалі датавацца нумарам года па эры ад РХ і візантыйскім індыктам. Але апрача канцылярыі справаводства вялося і ў іншых урадах і органах самакіравання. Новая для беларускіх зямель эра не адразу са зменай манарха распаўсюдзілася

8 Там же, с. 66.

9 Дата рэдуцыравана паводле вераснёўскага стылю.

10 *Lietuvos Metrika=Lithuanian Metrica=Литовская Метрика,* Kn. 1 (1380–1584), Vilnus 1998, № 5, p. 23.

11 Ibidem, № 357, p. 81.

12 Ibidem, № 188, p. 54.

13 АВАК, т. 24, Вильна 1897, с. 9–11.

на ўсё справаводства. Паводле нашых назіранняў, гэты працэс заняў два-тры дзесяцігоддзі, пры тым ён па-рознаму ішоў ў розных рэгіёнах і ў розных інстанцыях. Да прыкладу, у полацкіх гродскіх кнігах упісы і праз два дзесяцігоддзі датаваліся эрай ад СС[14]. Апрача таго, у праваслаўным асяроддзі „лацінская" эра доўгі час успрымалася як чужая, „іншаверная". Пры фундушавых запісах на цэрквы і праваслаўныя манастыры, ці пры складанні дакументаў праваслаўнымі святарамі візантыйская эра магла ўжывацца і праз стагоддзе пасля 1506 г. Так, да прыкладу, фундушавы запіс на Лаўрышаўскі манастыр, складзены манастырскім дыяканам, меў дату 15 лістапада 7029 г., індыкта 9 (1520 г. па вераснёўскім стылі)[15], фундушавы запіс жонкі валынскага кашталяна Агапы Пясечынскай на праваслаўны манастыр, які мусіў быць закладзены ў яе маёнтку, датаваўся 20 красавіка 7025 г. і пятым індыктам (1517 г. па вераснёўскім стылі)[16].

Эра ад СС не магла быць у той час адразу выключанай з ужывання ў справаводстве па некалькіх прычынах. Па-першае, такое датаванне мелі прывілеі і граматы, якімі ў папярэднія часы надавалі правы і вольнасці, дарылі зямлю ці зацвярджалі іншыя маёмасныя ці сацыяльныя правы. Гэтыя дакументы на працягу некалькіх стагоддзяў фігуравалі ў разнастайных судовых ці іншых справах, ва ўпісах у гродскія і земскія кнігі, пацвярджаліся ці скасоўваліся манархамі і такім чынам траплялі ў кнігі *Літоўскай Метрыкі*. За вельмі рэдкім выключэннем рэдукцыя даты гэтых дакументаў не рабілася, і яны фігуравалі з пазначэннем дня па эры ад СС. Візантыйская эра была таксама неабходным інструментам у кампутыстыцы, паколькі на падставе яе вылічваліся пасхаліі як у праваслаўных, так і ў каталікоў. У гэтай функцыі, да прыкладу, яна была ўжыта Францыскам Скарынам у „*Малой падарожнай кніжыцы*"[17]. Аднак пачынаючы ад часоў Жыгімонта I Старога дамінуючае месца ў сістэме лічэння часу займала эра ад Раства Хрыстовага. Гэтая эра ў XIV ст. абавязкова мела пазначэнне, у адрозненне ад эры ад СС: „*по нароженіи Христове*", „*нарожения сына божия*", „*нарожения нашего спасителя Ісуса Христа, сына божия*", „*воплощения слова божия*", „*лета Христова*" і інш.

Пачатковы пункт, ад якога вялося лічэнне часу, мог быць не толькі візантыйскай ці „лацінскай" эрай; у якасці яго маглі ўжывацца і іншыя

14 АВАК, т. 11, Вильна 1880, с. 8.

15 Тамсама, с. 11. Пры публікацыі зроблена памылка ў рэдукцыі даты, не ўлічаны вераснёўскі стыль, які ў той час ужываўся з эрай ад СС, таму дакумент пазначаны 1521 г.

16 Тамсама, с. 10.

17 Гл. С. Куль-Сяльверстава, *Летазлічэнне Францыска Скарыны*, „Rocznik Centrum Studiów Białoruskich / Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў", 2018, № 3, с. 121–135.

падзеі ці з'явы. Для XVI ст. актуальным было ўжыванне ў якасці пункта адліку года ўступлення на вялікакняскі, каралеўскі ці іншы пасад канкрэтнай асобы. Гэты спосаб адліку ўжываўся значна радзей, чым традыцыйная эра, і амаль выключна ў дакументах, падпісаных манархам. Падобная традыцыя існавала з часоў Рымскай імперыі, калі з пачаткам праўлення новага імператара нанова пачынаўся адлік часу. У Еўропе яна праіснавала больш чым два тысячагоддзі, прычым такім спосабам лічэння карысталіся не толькі свецкія манархі, але і папа: „*Actum in Conventione Generali Radomiensi, Sabbatho Inventionis S. Crucis, anno Domini 1505, Regnino strianno quarto*”[18] („*Дадзены на Сейме генеральным Радомскім у суботу знаходжання св. Крыжа у год Госпада 1505, каралявання года чацьвёртага*”[19]); „*Działo się na zamku Krakowskim, na Seymie Walnym Koronacyi naszey trzydzestego dnia Maia. Roku Bożego tysiącznego pięcetnego siedmdziesiątego szostego. Koronowania naszego roku pierwszego*”[20]; „*datum Avinion… Idus Aprilis Pontificatus nostri lanno tertio*”[21] („*дадзены ў Авіньёне ў іды красавіка, у трэці год панціфіката*”). Звычайна год праўлення пісаўся побач з годам ад акрэсленай эры, быў не асноўным, а дадатковым элементам даты.

Эра, як элемент летазлічэння, не была запатрабавана ўсімі слаямі насельніцтва беларускіх зямель у той час. Актуальнай яна рабілася тады, калі трэба было зафіксаваць канкрэтную дату падзеі, калі час для дадзенай асобы ці сацыяльнага слоя меў лінейны характар і рухаўся ад мінулага ў будучыню, як непарыўная стужка. Для большасці насельніцтва ВКЛ, якую складалі сяляне, дадзены элемент летазлічэння не быў патрэбны. Традыцыйная культура, заснаваная на натуральнай гаспадарцы, аперыравала іншай сістэмай успрыняцця часу. Паводле класіфікацыі стаўлення да часу, прапанаванай Эдмундам Лічам (Edmund Leach), дадзеную сістэму можна ахарактарызаваць як „*першасную паставу*”. Згодна з ёй час уяўляецца як цыкл пэўных падзей, якія паўтараюцца ў акрэсленай паслядоўнасці. Успрымаецца менавіта паслядоўнасць падзей, прычым гэтая паслядоўнасць не мае пачатку і канца, падзеі не ўкладаюцца ў адну лінію. Можна казаць толькі аб адной, няпоўнай бесперапыннасці гэтага тыпу часу. Няма ў ім выразнага адрознення паміж мінулым і цяперашнім. „*Успрымаецца, перш за ўсё, цыклічнасць работ і дзеянняў, звязаных з парой года і з'явамі чалавечага жыцця. Менавіта*

[18] VL, t. 1, s. 162.

[19] У дадзеным выпадку паказаны тэрмін знаходжання Аляксандра на польскім троне.

[20] VL, t. 2, Petersburg 1859, s. 157.

[21] VL, t. 1, s. 154.

*таму ў свядомасці фіксуюцца цыкл прыроды і чалавечы цыкл, прычым абодва яны разглядаюцца як цыклы аднаго і таго ж тыпу. У першасным вобразе мыслення пра час няма храналогіі, час не вымяраецца (у нашым разуменні, еўрапейца XX стагоддзя)"*[22]. У свядомасці селяніна эра як пачатковы пункт адліку часу замянялася неакрэсленым канкрэтна-гістарычна паняццем „*даўніны*". Гэтае паняцце было адным з асноўных у звычаёвым праве, ім карысталіся пры доказах маёмасных ці сацыяльных правоў, аперыравалі пры вымярэнні павіннасцей ці адстойванні недатыкальнасці існуючых звычаяў і норм.

У паўсядзённым жыцці „*даўніна*" мела розныя вызначэнні і вымярэнні. Шмат згадак пра „*даўніну*" маецца ў „*Рэвізіі пушч і пераходаў звярыных*", складзенай Рыгорам Валовічам у 1559 г. Гэтыя згадкі занатаваныя паводле сведчанняў сялян, бортнікаў, асочнікаў і добра ілюструюць сялянскае ўспрыняцце часу: „*ПовѢдили подданые короля его милости Ноинскіе всѢ о остров Заглининье, ижъ дей съ-стародавна кгрунтъ Ноинскій былъ"; „ижъ дей панъ Левъ Образцовъ, черезъ границу стародавнюю перешедши*"; „*тые жъ осочники Слонимскіе повѢдили, ижъ дей люде опата Троцкого Оборовскіе, переходечи чарезъ границы стародавные*"; „*Бортники войтовства Яруцкого волости Слонимской повѢдели, ижъ… дей есмо и сѢножати свои звѢчистые мѢли*"[23] і інш.

Паняцце „*даўніна*" выкарыстоўвалася не толькі сялянамі, але і іншымі слаямі насельніцтва ў тым выпадку, калі на маёмасныя ці іншыя правы не было дакументаў. Так, да прыкладу, у застаўным лісце Усейна Малікбашыча на маёнтак Крошын, складзеным у 1582 г., „*даўніна*" вызначаецца наступным чынам: „*тые именья нашы з давныхъ часов сами въ собе и в обыходах своихъ мающь*"[24]. Менавіта XVI ст. стала той пераломнай эпохай, калі звычаёвае права замянялася пісанымі законамі, а паняцце „*даўніны*" паступова знікала з прававога поля. На працягу XVI ст. адбылася масавая рэгістрацыя ў гродскіх і земскіх кнігах, у актах Галоўнага Трыбунала і іншых падобных натарыяльных кнігах прывілеяў і грамат, якія на працягу стагоддзяў захоўваліся шляхтай, баярамі, мяшчанамі, цэрквамі, касцёламі і кляштарамі. Пры ўпісанні даўніх прывілеяў і грамат у натарыяльныя кнігі рэдукцыя дат па эры ад СС не рабілася, яна была непатрэбная, бо цяпер у маёмасных справах фігуравала

---

22 E. Tarkowska, *Czas w społeczeństwie. Problemy, tradycje, kierunki badań*, Warszawa-Wrocław-Kraków-Gdańsk 1987, s. 24.

23 *Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском с присовокуплением грамот и привилегий на входы в пущи и на земли*, Вильна 1867, с. 6, 15, 19.

24 АВАК, т. 31, Вильна 1891, с. 2.

дата ўпісання. Прывілей захоўваўся, але юрыдычную моц набываў выпіс з упісу да кніг гродскіх ці земскіх, які ў далейшым выкарыстоўваўся ў якасці доказу маёмасных і іншых правоў.

Адметнасцю сістэмы летазлічэння ў дадзены перыяд была адсутнасць у звароце такой адзінкі лічэння, як век. Гэтая адзінка ніяк не звязаная наўпрост ні з астранамічнымі цыкламі, ні з цыкламі жыцця чалавека, яна носіць абстрактны характар. Стогадовыя адрэзкі адзначаюцца пры лічэнні, змяняючы дату, пазначаюцца ў сістэме высакосу і ў юліянскім, і ў грыгарыянскім календары. Але лічэнне стагоддзямі прадугледжвае дастаткова высокі ўзровень гістарычных ведаў, гістарычнай памяці на падставе канкрэтна-храналагічнай фіксацыі падзей, узнікненне канцэпцый гістарычнага працэсу. Для XVI ст., калі складванне гістарычных ведаў было ў самай пачатковай стадыі, век як адзінка лічэння яшчэ не быў патрэбны. Яго ролю на гэтым этапе выконвалі згадкі пра часы праўлення манархаў.

Эра, як адзінка лічэння часу, можа быць добрым ідэнтыфікатарам для вызначэння ўзроўню развіцця грамадства, яго стаўлення да часу, прыналежнасці да той ці іншай цывілізацыйнай супольнасці. У Беларусі ў XVI ст. пераход ад эры ад Стварэння Свету да эры ад Раства Хрыстовага выразна пазначаў змену цывілізацыйнага вектара: беларускія землі ўсё больш інтэграваліся ў еўрапейскую супольнасць, вымяраючы сваю гісторыю і свой час па прынятых у лацінскім свеце нормах. Эра ад СС здавала пазіцыі паступова, захоўваючыся, хутчэй, як традыцыя, як спадчына папярэдняй эпохі. У XVI ст. пазначэнне года паводле акрэсленай эры, а не з дапамогай індыкта ці іншага спосабу (праз нейкую падзею ці з'яву, якой адзначыўся гэты год) стала абавязковым атрыбутам актавых дакументаў. У паўсядзённым жыцці, асабліва гарадскога насельніцтва, а таксама шляхты дакладнае вымярэнне часу, фіксаванне дакладнай даты падзей становіцца нормай. Гэта можа сведчыць, апрача іншага, і аб зменах у сацыяльных працэсах: менавіта дакладнае вымярэнне і пазначэнне часу характэрна для грамадства, дзе развіваюцца таварныя адносіны, камерцыя, дзе фармуюцца новыя сацыяльныя слаі — для грамадства Новага часу.

## Streszczenie

Swiatłana Kul-Sialwierstawa, *Era jako element obliczania czasu w życiu codziennym ziem białoruskich w XVI w.*

Wiek XVI był na Białorusi okresem, wyznaczającym ostateczne przejście z bizantyjskiego systemu obliczania czasu na system zachodnioeuropejski. Proces

ten dotyczył głównie punktu początkowego obliczeń — ery. System bizantyjski, który przyjmował za początek ery Stworzenie Świata, ustąpił miejsca systemowi wykorzystywanemu w krajach katolickich, wyznaczającemu początek ery na moment narodzin Jezusa Chrystusa. W dokumentach prawnych proces ten nastąpił w pierwszym trzydziestoleciu XVI w., zaś w innego rodzaju źródłach pisanych — do końca wieku. Zmiana punktu początkowego obliczania czasu świadczyła nie tylko o cywilizacyjnym zbliżeniu WKL i Europy Zachodniej, ale także była jednym z wyznaczników rozwoju nowych procesów społecznych. W XVI w. następowała masowa rejestracjanotarialna dawnych aktów i przywilejów, formował się efektywny system administracyjny, w którym dokładność i jednorodność oznaczania daty stawała się elementemkoniecznym. Era od Narodzenia Chrystusa zastąpiła nie tylko erę od Stworzenia Świata, ale również jednostkę, tak niedokładną jak bizantyjski indykt — powiązany z erą od Stworzenia Świata i bardzo często ją zastępujący. Zastosowanie dokładnej daty, unifikacja datowania we wszystkich typach dokumentów świadczyła o postępujących procesach modernizacji, o przejściu do społeczeństwa nowego czasu.


## Abstract

Sviatlana Kul-Sialverstava, *Time Measurement in Everyday Life in the Territory of Belarus in the 16th Century*

The 16th century in Belarus is a landmark which represents the final conversion from the Byzantine calendar to the West European traditions of time measuring. This conversion was particularly visible in the shift of the first year — the beginning of the era. In the Byzantine calendar it was marked as *Anno Mundi*, i.e. the foundation of the world. It was replaced by *Anno Domini*, i.e. the date of the birth of Jesus, used commonly in Catholic countries. This change was introduced to legal documents in the first half of the 16th century and to other written sources until the end of the century. This conversion was not only a sign of a forward step towards Western Europe, but also a sign indicating the development of new social processes. The 16th century experienced a massive phenomenon of notary registration of older acts and privileges; a new and effective system of bureaucracy, in which a precise and consistent system of time measurement seemed necessary, was formed. Not only did the *AD* year replace the *AM* year, but it also replaced the inaccurate unit of *indictio*, which used to be connected with the *AM* era and would often be applied instead of it. Using a precise date as well as unifying time measurement systems in all types of documents may be indicative ofmodernising processes and moving into a society of a new time.

**Аляксандр Смалянчук**
**(Варшава/Гродна)**

# „Нямецкі напрамак” знешняй палітыкі БНР: першы крок (люты–сакавік 1918 г.)

Савецкая гістарыяграфія адназначна асуджала ўсе кантакты паміж дзеячамі беларускага руху і нямецкай акупацыйнай адміністрацыяй у 1918 г. Аднак, ацэньваючы „нямецкі напрамак” знешняй палітыкі БНР, трэба сыходзіць з пункту гледжання інтарэсаў не савецкай улады, а беларускай зямлі і яе народа. Відавочна, што найбольш аптымальным шляхам развіцця Беларусі з’яўляецца існаванне ў якасці незалежнай дзяржавы. Між тым на працягу 1917 г. і на пачатку 1918 г. усе кантакты з прадстаўнікамі расейскай палітычнай эліты, незалежна ад іх сацыяльна-палітычнай арыентацыі, выявілі катэгарычнае непрыманне ідэі беларускага нацыянальнага самавызначэння і, тым больш, незалежнасці Беларусі. Апрача таго, ні імперыя Раманавых, ні бальшавіцкая дзяржава не з’яўляліся для беларускіх адраджэнцаў, як слушна заўважыў гісторык Станіслаў Рудовіч, Радзімай у поўным сэнсе гэтага слова[1].

Зразумела, што войскі Германіі не прыйшлі ў Беларусь дзеля яе вызвалення і забеспячэння народу права на свабоднае развіццё. Іх найбольш цікавілі прыродныя, гаспадарчыя і чалавечыя рэсурсы дзеля патрэб германскай эканомікі і войска. Але менавіта германскія войскі спынілі бальшавіцкую палітыку татальнага разбурэння гаспадаркі і культуры Беларусі, якая скаланула край на рубяжы 1917–1918 гг.

Да таго ж, у адрозненне ад дзяржавы Раманавых і яе бальшавіцкай пераемніцы, немцы прынамсі дэманстравалі прыхільнасць да нацыянальна-культурных памкненняў прыгнечаных Расеяй народаў. Тут варта прыгадаць, што яшчэ ў снежні 1915 г. Галоўнакамандуючы Усходнім фронтам генерал Пауль фон Гіндэнбург падпісаў загад пра арганізацыю школьнай адукацыі на акупаванай тэрыторыі. Мовай навучання станавілася родная мова вучняў. У пералік моваў навучання ўпершыню трапіла і беларуская. У лютым 1916 г. у Вільні пачала выходзіць газета *„Гоман”*, рэдакцыяй якой фактычна кіравалі Антон Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі.

Віленскія краёўцы як прадстаўнікі мясцовых беларускай, польскай, літоўскай і габрэйскай супольнасцей паспрабавалі выкарыстаць палітычныя

[1] С. Рудовіч, *„…Беларускі дзеяч з вялікіх паноў”*, „Гістарычны альманах”, 1999, т. 2, с. 44.

перамены. Ужо ў верасні 1915 г. яны абвясцілі пра стварэнне Часовай Рады Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага, якая выказала намер адраджэння дзяржаўнасці ў межах былога ВКЛ у саюзе з Германіяй і Аўстра-Венгрыяй[2]. Важную ролю ў гэтай ініцыятыве адыгралі беларускія дзеячы, асабліва Іван Луцкевіч. Менавіта беларусы працяглы час захоўвалі прыхільнасць да краёвай ідэі ў форме беларуска-літоўскай федэрацыі ці канфедэрацыі.

У 1915–1917 гг. беларускія палітыкі на тэрыторыі г. зв. „старой акупацыі" сапраўды разлічвалі на падтрымку з боку Германіі. Менавіта таму пад зваротам да прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Вудра Вільсана (май 1916 г.), які павінен быў засведчыць падтрымку палітыкі Берліна народамі акупаванай тэрыторыі Расеі, стаялі подпісы Вацлава Ластоўскага і Язэпа Салаўя[3].

Нямецкія акупацыйныя ўлады забяспечылі ўдзел беларускіх прадстаўнікоў у працы III з'езда нацыянальнасцей у Лазане ў чэрвені 1916 г. Гэта дазволіла ўпершыню вынесці „беларускае пытанне" на міжнароднае абмеркаванне. У беларускім мемарандуме выказвалася надзея, што, незалежна ад вынікаў вайны, *„еўрапейскія народы выступяць гарантамі прадастаўлення Беларусі ўсіх палітычных і культурных праў, якія забяспечаць свабоднае развіццё інтэлектуальных, духоўных і эканамічных сіл нашага народа і дазволяць яму быць гаспадаром на ўласнай зямлі"*[4].

У сакавіку 1917 г. Антон Луцкевіч у адмысловым звароце, дасланым канцлеру Германіі, сфармуляваў галоўную мэту беларускага руху: *„Стварэнне з трох аб'яднаных абласцей Беларусі, Літвы і Курляндыі, занятых нямецкімі войскамі, незалежнай дзяржаўнай арганізацыі […]"*[5]. Сталіцай гэтай федэрацыі/канфедэрацыі бачылася Вільня.

У верасні 1917 г. сход віленскіх беларускіх арганізацый накіраваў у рэйхстаг тэлеграму, у якой выказваў надзею, што Германія дапаможа *„рэалізацыі палітычных ідэалаў падзеленага фронтам 9-мільённага беларускага народа на падставе адзінства з этнаграфічнай Літвой і Курляндыяй"*[6].

---

2 А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 — люты 1917,* Санкт-Пецярбург 2004, с. 312–314; ён жа, *„Краёвая ідэя" ў беларускай гісторыі,* Мінск 2017, с. 30–31.

3 W. Sukienicki, *Początki Ober-Ostu i sprawa Konfederacji Wielkiego Księstwa Litewskiego w 1915–1916,* „Zeszyty Historyczne", 1974, zeszyt 28, s. 103.

4 *Litwa podczas wojny: zbiór dokumentów, uchwał, odezw i t. p,* zebrał i do druku przygotował L. A. [L. Abramowicz], Warszawa 1918, s. 124.

5 *Цэнтральная бібліятэка імя Урублеўскіх АН Літвы,* аддзел рукапісаў, F 21–277, p. 12. Цытаты з беларускамоўных дакументаў падаюцца з захаваннем усіх асаблівасцей правапісу (заўвага аўт.).

6 *Litwa podczas wojny: zbiór dokumentów, uchwał, odezw i t.p.*, s. 128.

Трэба прызнаць, што менавіта „краёвая ідэя" істотна прычынілася да кансалідацыі беларускага руху ў зоне „старой акупацыі" (з верасня 1915 г.). Газета „*Гоман*" стала цэнтрам падрыхтоўкі Віленскай беларускай канферэнцыі, якая працавала з 23 па 25 студзеня 1918 г. Выніковыя дакументы сведчаць пра поспех канферэнцыі. Прадстаўнікі беларускіх арганізацый пагадзіліся з раней выпрацаванай віленскім беларускім асяродкам канцэпцыяй беларускай дзяржаўнасці: „*Будучы глыбока пераканаты, што толькі поўная дзяржаўная незалежнасць можа забяспечыць беларускаму народу магчымасць усебаковага эканамічнага і культурна-нацыянальнага развіцця, […] прадстаўнікі беларусаў […] патрабуюць, каб акупаваныя літоўска-беларускія землі ўтваралі незалежную дэмакратычную дзяржаву, якая б складалася з дзвюх падставовых нацыянальна-тэрытарыяльных адзінак — беларускай і літоўскай, цесна звязаных з незалежнай Курляндыяй*"[7].

Сталіцай дзяржавы павінна была стаць Вільня. Упершыню ідэя беларускай дзяржаўнасці (у саюзе з Літвой) прагучала як патрабаванне прадстаўнікоў беларускага народа. На канферэнцыі была абраная Віленская Беларуская Рада, якая павінна была каардынаваць намаганні ўсіх беларускіх арганізацый.

Нямецкія акупацыйныя ўлады не пагадзіліся з беларускай праграмай. Яны нават не дазволілі змясціць паведамленне пра канферэнцыю ў органах друку. Іх фаварытамі заставаліся літоўцы. І тым не менш на „нямецкім напрамку" барацьбы за незалежнасць нельга было апускаць рукі.

На тэрыторыі „новай акупацыі" (з канца лютага 1918 г.) усё магло скласціся па-іншаму. Усё ж падтрымка нямецкімі ўладамі адраджэння польскай дзяржавы ў саюзе з Германіяй і Аўстра-Венгрыяй, прызнанне незалежнасці Украінскай Народнай Рэспублікі, прыхільнасць да нацыянальна-дзяржаўных намаганняў літоўскага руху сведчылі, што і беларусы маюць пэўны шанс, разыгрываючы „германскую карту". Тым больш што ўвесну 1918 г. усё больш відавочнай станавілася немагчымасць для Германіі працягваць вайну на два франты. Яна была вымушаная шукаць новых саюзнікаў, у т.л. і сярод народаў былой Расейскай імперыі.

Аднак першыя кантакты паміж Народным Сакратарыятам Беларусі, абвешчаным Першай Устаўнай граматай 20 лютага 1918 г., і нямецкай адміністрацыяй удалымі не назавеш. Як вядома, немцы не прызналі беларускі ўрад, занялі сядзібу Народнага Сакратарыята, рэквізавалі маёмасць.

7 Ibidem, s. 130.

Цяжка было спадзявацца на паразуменне акупацыйных улад з беларускімі арганізацыямі, дзе дамінавалі прарасейскі настроеныя сацыялісты. Магчыма, менавіта таму ў Менску ў гэтыя ж дні Раман Скірмунт ды іншыя сябры Беларускага народнага камітэта паспрабавалі аб'яднаць тыя палітычныя сілы, якія дэманстравалі больш „правыя" ці памяркоўна-сацыялістычныя погляды і не мелі ніякіх ілюзій наконт „федэратыўнай і дэмакратычнай Расеі".

У выніку 25 лютага 1918 г. узнікла Менскае беларускае прадстаўніцтва (МБП). У друку таксама сустракалася назва *„Беларускае народнае прадстаўніцтва ў Менску"*, якая была адпаведнікам назвы па-нямецку: *„Das Minsker Weissruthenisches Volks-Komitet"*[8].

У склад Камітэта Прадстаўніцтва ўвайшлі 9 асобаў — Раман Скірмунт, протаіерэй Менскай епархіі Стэфан Кульчыцкі, генерал Кіпрыян Кандратовіч, ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, Аляксандр Уласаў, Павел Аляксюк, Віктар Чавусаў, Вільгельм Русецкі і Рамуальд Зямкевіч.

Пазней Вінцэнт Гадлеўскі сцвярджаў: *„Прадстаўніцтва паставіла сабе мэту паддзяржаць традыцыі даўнейшага Бел[арускага] Нац[ыянальнага] Камітэту, разьбітага ў ліпні 1917 г. Б[еларускай] Сац[ыялістычнай] Грамадою і быць нацыянальным цэнтрам, злучаўшым і прадстаўляўшым не адну, але ўсе беларускія партыі, апынуўшыяся па-за Радай Рэспублікі. Апроч гэтага, Прадстаўніцтва паставіла ясна і адкрыта незалежнасьць Беларусі"*[9].

У Аўтабіяграфічным нарысе ён жа адзначаў, што мэтаю новай арганізацыі было *„навязаць нейкія зносіны зь нямецкімі ўладамі, якія не прызнавалі і не хацелі нават гаварыць з прадстаўнікамі Беларускай Рады. Прадстаўніцтва (на чале са Скірмунтам) сабрала каля сябе людзей паважнейшых, якіх немцы не маглі ўважаць за нейкіх крыкуноў і маладжавых палітыкаў як Мамонька, Грыб, Воронка ды іншыя. Да Прадстаўніцтва далучыўся і генерал Кандратовіч, будучы арганізатар беларускага войска. Дык Прадстаўніцтву скора ўдаецца наладзіць сякія-такія зносіны зь немцамі. Абудзілася надзея, што пры нямецкай помачы можна будзе адбудаваць Беларусь"*[10].

Сапраўды, адным з першых крокаў МБП стаўся візіт яго дэлегацыі ў складзе Скірмунта, Алексюка і Чавусава да нямецкага камандавання, якому ўручылі „беларускі мемарандум". Пра гэта пісала газета *„Минский голос"* 27 лютага. На жаль, пра змест пададзенага дакумента нічога

---

[8] В. Гадлеўскі, *Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску*, „Спадчына", 1997, № 5, с. 30.

[9] Тамсама.

[10] *З жыцця і дзейнасці В. Гадлеўскага: Аўтабіяграфічны нарыс*, „Гарадзенскія запісы", 1993, с. 125–126.

не паведамлялася. Цалкам магчыма, што ён утрымліваў асноўныя палажэнні праграмы Прадстаўніцтва. У адрозненне ад Народнага Сакратарыята яно не прэтэндавала на тое, каб прадстаўляць інтарэсы ўсяго беларускага народа.

Галоўнай фігурай Менскага Беларускага прадстаўніцтва быў Раман Скірмунт. Але з фармальнага пункту гледжання гэта стала відавочным толькі 4 красавіка 1918 г., калі быў абраны Прэзідыум Прадстаўніцтва, у які ўвайшлі Раман Скірмунт (старшыня), Аляксандр Уласаў (віцэ-старшыня) і Павел Аляксюк (сябра)[11]. Цікава, што стварэнне МБП не азначала аўтаматычнай ліквідацыі Беларускага народнага камітэта, які быў арганізаваны пры ўдзеле Рамана Скірмунта ў снежні 1917 г., пасля разгону бальшавікамі Усебеларускага з'езда. Гэты Камітэт працягваў сваю дзейнасць і пасля стварэння МБП і неўзабаве заявіў пра сябе галасным зваротам да нямецкіх улад.

Моцны непакой беларускіх палітыкаў выклікалі перамовы ў Берасці. Пасля адмовы савецкай дэлегацыі дапусціць беларускіх прадстаўнікоў да ўдзелу Народны сакратарыят і Менскае беларускае прадстаўніцтва шукалі магчымасці паўплываць на пазіцыю нямецкага боку. Паводле гісторыка Сяргея Хоміча, 27 лютага 1918 г. Народны Сакратарыят накіраваў германскаму камандаванню мемарандум, у якім распавядаў пра мэты беларускага руху і спрабаваў высвятліць адносіны немцаў да ідэі беларускай дзяржаўнасці. Адказу не было[12]. Але, магчыма, якраз гэты дакумент прычыніўся да фактычнага прызнання акупантамі Народнага Сакратарыята ў якасці прадстаўніка беларускага насельніцтва. Праўда, ні сядзібы, ні маёмасці немцы не вярнулі.



**Раман Скірмунт. Фотаздымак 1906 г.**

[11] „Беларускі шлях", 1918, № 12, 6 красавіка.

[12] *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст.,* у 2-х кн, кн. 1, рэд. А. Каваленя і інш., Мінск 2011, с. 356.

Паводле ўспамінаў Ежы Асмалоўскага, напачатку сакавіка 1918 г. землеўласнікі з „групы Эдварда Вайніловіча" дасягнулі паразумення з палітыкамі МБП аб сумесным мемарандуме да германскіх улад. Дэлегацыя ў складзе Эдварда Вайніловіча і графа Чапскага ўручыла генералу Эрыку фон Фалькенгайму мемарандум, які прапанаваў адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага пад нямецкай апекай на падмурку беларускіх зямель. Аднак камандуючы 10-й нямецкай арміяй заявіў, што пасля Берасцейскага міру гэта ўжо немагчыма[13].

У адказ на Берасцейскі мір 9 сакавіка 1918 г. Выканкам Рады Усебеларускага з'езда выдаў Другую Устаўную грамату, якая абвяшчала Беларускую Народную Рэспубліку ў межах рассялення і колькаснай перавагі беларускага народа. Пытанне яе суверэнітэту, межаў і адносін да суседніх дзяржаў абміналася[14].

Трэба прызнаць, што ўсе намаганні Народнага Сакратарыята наладзіць стасункі з акупацыйнымі ўладамі і знайсці падтрымку ў справе абароны беларускіх нацыянальных інтарэсаў былі безвыніковымі. Чаму яны ігнараваліся Берлінам? Відавочна, Германія не жадала раздражняць Расею, парушаючы ўмовы Берасцейскага трактата, і не бачыла ў Радзе БНР сур'ёзнага палітычнага партнёра.

Наогул, напачатку вясны геапалітычнае становішча Беларусі ўскладнілася. У Берліне разглядалася пытанне пра магчымасць перадачы Польшчы Гарадзеншчыны і часткі Меншчыны ў якасьці кампенсацыі за адмову палякаў ад прэтэнзій на Познаньшчыну. У сувязі з гэтым Віленская Беларуская рада 17 сакавіка накіравала тэлеграму з пратэстам на імя рэйхсканцлера Георга фон Гертлінга.

Адначасна пратэставалі Рада БНР і Народны Сакратарыят. У іх тэлеграме да рэйхсканцлера сцвярджалася, што такое пагадненне паміж Германіяй і Польшчай парушае *„жыццёвыя інтарэсы беларускага народу і значнай большасьці нацыянальных меншасьцяў Беларусі"* і з'яўляецца *„цяжкай знявагай"*. Спасылаючыся на права нацый на самавызначэнне, аўтары тэлеграмы заяўлялі, што будучыню Беларусі павінна вызначыць яе насельніцтва *„шляхам вольнага народнаго голасавання"*. Выказвалася просьба дапусціць беларускіх прадстаўнікоў да польска-нямецкіх перамоў, якія ішлі ў Берліне[15].

13 *Biblioteka Narodowa,* dział mikroform, (далей — BN) akc. 6798: J. Osmołowski, *Wspomnienia z lat 1914–1921,* t. 2, s. 329.

14 Ф. Турук, *Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белорусов,* Москва 1921, с. 112.

15 „Вольная Беларусь", 1918, № 9, 17 сакавіка.

Таксама 18 сакавіка германскаму рэйхсканцлеру і кіраўніцтву „Обэр-Ост" быў накіраваны зварот Беларускага Народнага камітэта. Віленскі *„Гоман"* апублікаваў яго ўжо 19 сакавіка, *„Dziennik Miński"* паведаміў пра яго 21 сакавіка, а *„Вольная Беларусь"* змясціла тэкст звароту 24 сакавіка.

Гэты зварот істотна адрозніваўся ад ранейшых беларускіх пратэстаў. Беларускі народны камітэт як *„нацыянальны надпартыйны орган Беларускаго народу"* адвяргаў тэрытарыяльныя прэтэнзіі Польшчы і Украіны, а таксама *„літоўскіх і балтыйскіх суседзяў"*. Адначасна віталася дзяржаўнае збліжэнне з апошнімі. Камітэт выказваўся за самастойнае дзяржаўнае існаванне Беларусі на падмурку *„заходняй культуры"* і разлічваў на дапамогу нямецкай дзяржавы як прадстаўніцы гэтай культуры. Ён прасіў германскай падтрымкі дзеля захавання роднага краю ад *„ніспраўядліваго і шкадліваго разьдзелу"* і прапанаваў правядзенне нарады з удзелам прадстаўнікоў Камітэта[16].

Фактычна ўпершыню голасна прагучала ідэя беларускай дзяржавы *„еўрапейскага тыпу"*. У тагачасных умовах яна не ўсведамлялася як цалкам самастойная. Аўтары адозвы шукалі падтрымкі нямецкага боку, але першы крок быў зроблены.

Варта прывесці ўвесь змест гэтай тэлеграмы паводле публікацыі *„Вольнай Беларусі"*:

*„Беларускі Народны Комітэт у Мінску як нацыянальны надпартыйны орган Беларускаго народу, каторы дамагаецца палітычнаго, культурнаго і эконамічнаго адраджэння, просіць захаваць родны край ад ніспраўядліваго і шкадліваго разьдзелу. Гістарычныя і этнаграфічныя граніцы Беларусі сягаюць на ўсход да ракі Сожы, абнімаюць паўночную і заходнюю даліну Дзвіны, а на заходзі займаюць значную большасьць Гродзеншчыны і Віленшчыны разам з гарадамі Беластокам і Берэсьцям. На поўдні — граніцы сходзяцца з граніцамі Гродзеншчыны і Міншчыны.*

*Мы рашуча і станоуча протэстуем проці жадання суседніх народаў разглядаць гэтыя землі як безпанскія. З радасьцю вітаючы дзяржаўнае збліжэнне з нашымі літоўскімі і балтыцкімі суседзямі, мы цвёрда протэстуем проці літоўскіх нізаконных дамаганняў на Вільню і вялікую часьць Віленшчыны і Гродзеншчыны. Гэтае пытанне можа быць аканчацельна разьвязана толькі на аснові узаемнай угоды.*

*Усе прэтэнзіі палякоў на часьці Віленшчыны і Гродзеншчыны мы, безумоўна, адкідаем як безпраўныя захватныя дамаганні. Мы просім*

16 „Вольная Беларусь", 1918, № 10, 24 сакавіка.

*паправіць палудзенную граніцу краю з Украінаю згодна з палудзеннаю граніцаю Гродзеншчыны і Міншчыны, каторая 600 гадоў станавіла старую гістарычную дзяржаўную мяжу.*

*Мы жадаем нізалежнага дзяржаўнага істнення і бачым спаўненне гэтаго толькі ў апоры на заходнюю культуру і яе прэдстаўніцу — Гэрманскую імперыю.*

*Мы просім абараніць нашыя справядлівыя дамаганні і прызнаць нашых прэдстаўнікоў дзеля перагавораў.*

*Падпісалі: Р. Скірмунт, Р. Земкевіч, П. Алексюк".*

Гэты зварот перадрукавалі берлінскія газеты (!), а таксама „*Der Zeitung der 10. Armee*", якая выдавалася ў Вільні. У варыянце нямецкай публікацыі падпісанты фігуравалі як Раман фон Скірмунт, Аляксандр фон Зянкевіч і Пауль Аляксюк[17]. Ёсць пэўная загадка, звязаная з „*Аляксандрам Зянкевічам*". Насамрэч мы сустракаем тут старога знаёмага Рамуальда Зямкевіча, які выкарыстаў іншы варыянт напісання імя і прозвішча.

Зварот Беларускага народнага камітэта аказаўся адзіным беларускім зваротам, які нямецкія ўлады не праігнаравалі. Ужо на наступны дзень (!) на старонках згаданай газеты 10 арміі з'явіўся адказ. Ягоны аўтар (крыптонім — *О. В.*) заявіў, што немцы разумеюць патрабаванні беларусаў, пацвярджэннем чаго з'яўляецца дазвол выдання газеты „*Гоман*", і гатовыя іх падтрымаць (!). Ён адзначаў, што зварот Беларускага народнага камітэта дазваляе зразумець нацыянальную праблему ва ўсім яе аб'ёме. Паводле аўтара, гэты зварот „*указвае літоўцам на іх неабгрунтаваныя прэтэнзіі, выяўляе анексіяністцкія амбіцыі палякаў*". Ён сведчыць, што „*стабільная дамова паміж народамі, якія пасля працяглага сядзення ў расейскім балоце імкнуцца да лепшага і задавальняючага існавання, немагчымы без дапамогі моцнай рукі і справядлівага пасярэдніка*". А паколькі гэтым пасярэднікам беларусы бачаць Германію, то „*тым самым уся ўсходняя праблема прасоўваецца на крок наперад*". Напрыканцы падкрэслівалася, што забеспячэнне межаў народаў, вызваленых ад расейскага панавання, і абарона праў нацыянальных меншасцей застаюцца важнымі задачамі палітыкі нямецкай адміністрацыі[18].

На беларускую дэкларацыю звярнуў увагу вядомы палітык і краёвец Міхал Ромэр (1880–1945), які ва ўласным „*Дзённіку*" адзначыў, што ўмовы Берасцейскага трактата не дазваляюць немцам падтрымліваць беларускія памкненні да адыходу ад Расеі і стварэння самастойнай

[17] *Die weiβruthenischen Ansprüche,* „Der Zeitung der 10. Armee", 1918, nr 521.

[18] „Der Zeitung der 10. Armee", 1918, nr 522.

дзяржавы. Тамсама адзначалася, што дэкларацыя Скірмунта можа выклікаць тэрытарыяльныя спрэчкі як з Літвой, так з Польшчай і Украінай: *„Дэкларацыя Нацыянальнага Камітэту ў Менску, падпісана між іншым Раманам Скірмунтам, які адназначна вырашыў стаць беларусам і актыўна працаваць пад нацыянальным беларускім сцягам. Гэтая Дэкларацыя, зрываючы сувязі паміж Белай Руссю і Расеяй і абвяшчаючы пастулат дзяржаўнай незалежнасці Белай Русі ў саюзе або пры падтрымцы Германіі, адначасна выказвае трайны пратэст супраць дзеянняў трох вялікшых суседзяў — Літвы, Польшчы і Украіны"*. І далей: *„Немцы ўхіліліся ад публікацыі гэтай Дэкларацыі [Скірмунта] на той падставе, што паводле ўмоў Берасцейскага трактату з Расеяй, Беларусь была прызнана прыналежнай да фармальнай сферы дамінавання расейскай дзяржаўнасці. Адпаведна Германія не мае права аказваць фармальную падтрымку беларускім намаганням да разрыву з Расеяй і стварэння самастойнай дзяржавы"*[19].

Міхал Ромэр памыляўся. Зварот быў апублікаваны ў берлінскім друку. Гэтая публікацыя, як і адказ на яе ў вельмі прыхільнай танальнасці, зрабілі моцнае ўражанне на палітычную эліту ў Менску, Вільні і Варшаве. Першапачаткой рэакцыяй беларускіх дзеячаў было імкненне адмежавацца ад „здраднікаў". 20 сакавіка старшыня Народнага Сакратарыята і сакратар па міжнародных справах Язэп Варонка заявіў, што Раман Скірмунт, Аляксандр Зянкевіч і Павел Аляксюк не маюць нічога агульнага з органамі БНР[20].

Аднак даволі хутка стаўленне беларускіх сацыялістаў да аўтараў тэлеграмы, як і да саміх кантактаў з нямецкай адміністрацыяй, пачало змяняцца. Магчыма, на гэта паўплывала пазіцыя сяброў Віленскай Беларускай Рады, якія з восені 1915 г. спрабавалі разыгрываць „нямецкую карту", а таксама сітуацыя ва Украіне. У студзені 1918 г. немцы прызналі незалежнасць Украінскай Народнай Рэспублікі, а ў сакавіку згадзіліся на далучэнне да яе тэрыторыі значнай часткі беларускага Палесся, у т.л. Піншчыны.

Нямецкі адказ на тэлеграму дзеячаў Беларускага народнага камітэта, здаецца, даваў зразумець беларусам, што немцы гатовыя падтрымаць іх рух, як падтрымлівалі літоўскі і ўкраінскі.

Паводле ўспамінаў Ежы Асмалоўскага, у гэтыя дні Раман Скірмунт, Павел Аляксюк і Віктар Чавусаў накіраваліся ў Берлін. Яны спрабавалі

19 Цытата паводле: Я. Героўска-Калаўр, *Міхал Ромэр і „беларускае пытанне". На падставе запісаў „Дзённіка" М. Ромэра паміж 25 сакавіка 1918 г. і 6 сакавіка 1920 г.*, „Arche-Пачатак", 2016, № 4 (149), с. 192–221. (M. Romer. *Dziennik.* Zapiska z 29 marca 1918 roku).

20 *Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь*, ф. 325, воп. 1, адз. зах. 19, арк. 254.

наладзіць кантакты з вышэйшымі ўладамі Германіі, заявілі пра гатоўнасць прыезду прадстаўнічай беларускай дэлегацыі і прасілі аўдыенцыі ў імператара Вільгельма[21]. Праўда, іншыя гістарычныя крыніцы не пацвярджаюць гэтага візіту.

Як бы ні было, але пазіцыі МБП і Беларускага народнага камітэта значна ўзмацніліся. Магчыма, якраз у гэты момант беларускія сацыялісты ўпершыню задумаліся пра аднаўленне былых палітычных кантактаў з Раманам Скірмунтам. У тагачаснай геапалітычнай сітуацыі „нямецкі напрамак" знешнепалітычнай дзейнасці БНР выглядаў даволі перспектыўным.

Згаданы зварот і нямецкі адказ на яго таксама былі заўважаны прадстаўнікамі польскай супольнасці Меншчыны. „*Dziennik Miński*" ўжо 21 сакавіка са спасылкай на берлінскія газеты падрабязна пераказаў змест тэлеграмы[22]. А ў наступным нумары быў апублікаваны артыкул аднаго з лідараў мясцовай польскай супольнасці адваката Эдмунда Івашкевіча, які адзначыў, што беларускі зварот выклікаў сярод палякаў даволі спрэчныя каментары і ацэнкі.

Польскі дзеяч пазітыўна ацэньваў заяву, якая ўпершыню абвяшчала выбар беларусамі не толькі шляху ўласнай дзяржаўнасці, але таксама іх існавання ў супольнасці дзяржаў і народаў „заходняй культуры". Івашкевіч канстатаваў пэўнае працвержанне беларусаў, якія зусім нядаўна цалкам паддаліся „ўсходнім уплывам". Намер аўтараў заявы будаваць беларускую дзяржаўнасць, абапіраючыся на Германію, ён лічыў доказам іх палітычнага рэалізму. Тым больш што нямецкія акупацыйныя ўлады прыхільна паставіліся да яго.

Жорсткасць заявы адносна прэтэнзій суседзяў на беларускія землі Івашкевіч назваў „дзіцячай хваробай" маладога нацыяналізму і правёў аналогіі з колішнімі выказваннямі дзеячаў польскага руху. У адказ на беларускія прэтэнзіі на Віленшчыну і Гарадзеншчыну ён прапанаваў даведацца пра нацыянальна-дзяржаўны выбар жыхароў гэтых рэгіёнаў. Але пры гэтым Івашкевіч фактычна падтрымаў гэтыя прэтэнзіі, заявіўшы, што *„найважнейшае для Беларусі, а г. зн. і для кожнага з нас — мясцовых палякаў, — далучэнне да яе як мага большай колькасці дзяржаваства́ральных элементаў, якімі па волі лёсу з'яўляюцца якраз палякі або здаўна паланізаваныя беларусы"*. Ён сцвярджаў, што сярод „крэсовых палякаў" і беларускіх палітыкаў дамінуе перакананне, што

[21] BN, dział mikroform, akc. 6798: J. Osmołowski. *Wspomnienia z lat 1914–1921,* t. 2, s. 330, 485.

[22] *Odezwa białoruska,* „Dziennik Miński", 1918, nr 54.



# ТРЭЙЦЯЯ УСТАЎНАЯ ГРАМАТА

## Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо Расійскаго царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; ні пытаючыся народу, ен укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднаго краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтом накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтаго часу БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА АБВЕШЧАЕЦЦА НЕЗАЛЕЖНАЮ І ВОЛЬНАЮ ДЗЕРЖАВАЮ. Самі народы Беларусі, у асобе свайго Установчаго Сойму, пастановяць аб будучых дзержаўных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтаго тратяць сілу усе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасць чужому ураду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі. На моцы гэтаго урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае увайсьці у адносіны з зацікаўленымі старонамі, прапануючы ім перагледзіць тую часьціну Берасьцейскаго трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць мiравую умову з усімі ваеваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную пераваґу беларускі народ, а ласьне: Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.) Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігоўшчыны і сумежныя часьці суседніх губэрняў, заселеныя беларусмі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі пацьверджае усе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 г.

Абвешчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада не пакладае свае надзеі на тое, што усе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу у поўнай меры здзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.*

Дана у Менску-Беларускім
25 сакавіка 1918 году.

**Трэцяя Устаўная грамата Рады БНР. 25 сакавіка 1918 г.**

найбольш адпаведнай формай існавання з'яўляецца Беларуска-Літоўская дзяржава з лозунгам: *„Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі!”*[23]

Падобна, што, гаворачы пра папулярнасць ідэі Беларуска-Літоўскай дзяржавы сярод „крэсовых палякаў”, Івашкевіч выдаваў жаданае за рэчаіснасць. Большасць прадстаўнікоў польскай супольнасці ў гэты час пачалі арыентавацца на Польшчу, і многіх сяброў Польскай Рады Менскай зямлі насцярожыла заява Беларускага народнага камітэта наконт арыентацыі на Германію.

Абвяшчэнне незалежнасці БНР змяніла сітуацыю ў беларускім руху. МБП знаходзілася ў апазіцыі да Рады БНР і Народнага Сакратарыята. Апошнія ўспрымаліся Скірмунтам як органы Беларускай Сацыялістычнай Грамады, якія кіруюцца партыйнымі інтарэсамі і не з'яўляюцца агульнанацыянальнымі органамі ўлады. Аднак акт ад 25 сакавіка 1918 г. прымусіў пераглядзець стаўленне да сацыялістаў. Барацьба за незалежнасць станавілася тым падмуркам, на якім павінны былі з'яднацца ўсе беларускія сілы.

Першы крок да паразумення зрабілі сацыялісты, але не менскія, а віленскія. Публікацыі на старонках *„Гомана”* сведчаць, што віленчукі ўсведамлялі прыярытэтнасць барацьбы за незалежнасць і сцвярджалі, што *„пры цяперашніх палітычных варунках ніякіх социальных рэформ агульнага характэру зрабіць нельга, і іх можна будзе праводзіць у жыццё як Беларусь па праўдзі будзе незалежнай дзержавай”*[24].

Антон Луцкевіч пазней прыгадваў перамовы з МБП, падчас якіх ён здолеў пераканаць Рамана Скірмунта і ягоных калег у тым, што яны павінны ўвайсці ў склад Рады і *„будаваць Бацькаўшчыну супольна з сацыялістамі, паклаўшымі першы камень пад гэту будоўлю”*[25].

На пачатку красавіка ў Менск прыехаў Іван Луцкевіч, які правёў перамовы са старшынём Народнага Сакратарыята Язэпам Варонкам, фракцыяй БСГ у Радзе БНР, незалежнымі сацыялістамі, а таксама сустракаўся з прадстаўнікамі МБП. Ён перадаў Варонку і кіраўніцтву МБП лісты ад Антона Луцкевіча, датаваныя 7 красавіка.

У лісце да Варонкі той пісаў пра існаванне нямецкіх планаў прызнання незалежнасці Беларусі, калі будзе пазітыўна вырашана пытанне „злучэння” Ліфляндыі і Эстляндыі з Германіяй. Пры гэтым немцы не давяраюць сацыялістам і будуць рабіць стаўку на *„элементы больш умеркаваныя”*.

---

[23] E. I-cz [E. Iwaszkiewicz], *Z powodu odezwy białoruskiej,* „Dziennik Miński”, 1918, nr 57.

[24] „Гоман”, 1918, № 32.

[25] А. Луцкевіч, *За дваццаць пяць гадоў (1903–1928). Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацыяў,* Менск 1991, с. 51.

Луцкевіч выказваў апасенне, што ў бліжэйшыя дні немцы паспрабуюць абаперціся на МБП, а гэта паставіць пад пагрозу існаванне Народнага Сакратарыята, які *„як зачатак першай законнай* (вылучана аўтарам — *А. С.*) *беларускай народнай уласьці трэба ўдзяржаць за ўсялякую цану”*[26].

Антон Луцкевіч прапанаваў, не адкладаючы *„ні на адну лішнюю мінуту”*, прыняць у склад Рады БНР і „эвэнтуальна” Народнага Сакратарыята кіраўніцтва Менскага Беларускага прадстаўніцтва. Разумеючы, што сацыялісту цяжка будзе паразумецца са Скірмунтам, Луцкевіч раіў *„знасьці „залатую сярэдзіну” між жаданьнямі народных мас і вымаганьнямі палітычнае кан'юнктуры”*. Адначасна папярэджваў, што *„далейшыя яркія сацыяльныя выступленьні могуць Вам прыдбаць папулярнасьць у народных масах, але разам з тым могуць разбіць наша дзяржаўнае будаўніцтва і вярнуць нас у межы Расейскай дзяржавы”*[27].

У лісце да Скірмунта і сяброў МБП прызнаны лідар беларускіх сацыялістаў і чалавек, які ўжо спрабаваў разыграць „германскую карту” ў беларускіх інтарэсах, сцвярджаў прыхільнасць Германіі да справы незалежнасці Беларусі. На яго думку, першачарговай задачай станавіўся пошук *„элементаў, якія б цвёрда стаялі бы на грунце беларускай гасударственнасці”*, бо немцы *„не зусім вераць, што такія элементы ёсць”*[28].

Выказваючы ўпэўненасць, што сябры МБП значна ўмацуюць дзяржаўніцкі патэнцыял беларускага руху, А. Луцкевіч прапанаваў ім увайсці ў склад Рады БНР: *„Вы, панове, можаце і павінны памагчы першаму зачатку дзяржаўнага будаўніцтва нашае Бацькаўшчыны. Вядома, Ваша праца магчыма тады, калі Вы войдзеце да беларускага ўраду. У гэтым кірунку і павінны быць зроблены крокі. Грунт дзеля гэтага ўжо прыгатован. Вы, як людзі, свядомыя спраў палітычных больш, чым хто іншы, найлепей зразумееце вагу ролі, якая Вам прыпадае. Вы можаце ўнясьці новы дух у Раду Рэспублікі — дух еўропейскай дыплёмацыі. А ён цяпер асабліва патрэбен”*[29].

А. Луцкевіч сцвярджаў, што злучэнне ўсіх беларускіх сіл будзе сігналам для нямецкай палітыкі, што з беларусамі можна і варта мець справу: *„Прыйшоў крытычны момант. І ад таго, што здарыцца ўжо ў найбліжэйшыя дні, адносіны нямецкіх уласцей да справы Беларускай дзяржаўнасці могуць павярнуцца ў той або іншы бок”*[30].

[26] Цыт. паводле: А. Сідарэвіч, *Урады БНР і кабінэт Рамана Скірмунта*, „Arche-Пачатак”, 2008, № 4, с. 111.

[27] Тамсама.

[28] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі,* уклад.: Сяргей Шупа (уклад., падрыхтоўка тэксту, камент., пер.), Вільня-Нью-Ёрк–Менск-Прага 1998, т. 1, кн. 1, с. 88.

[29] Тамсама.

[30] Тамсама.

Сацыялісты зноў спрабавалі выкарыстаць аўтарытэт Рамана Скірмунта. Невядома, ці думаў Раман Скірмунт пра тое, што, даючы згоду, ён нагадвае чалавека, які ў другі раз наступае на тыя ж граблі? А можа 1917 г. так і не стаў для яго засвоеным урокам, і ў складанай палітычнай гульні ён заставаўся рамантыкам, які паверыў у тое, што агульнабеларускія нацыянальныя інтарэсы перамогуць вузкакласавы падыход?

Газета МБП *„Беларускі шлях"* вітала кааліцыйнае пагадненне. 11 красавіка праблеме аб'яднання беларускіх сіл быў прысвечаны артыкул *„Тры цэнтры"*. Ананімны аўтар сцвярджаў, што перамены міжнароднай сітуацыі патрабуюць стварэння ўжо не сацыялістычнага, а адзінага *„нацыянальнага фронту"*. *„Усе беларусы злучаюцца ў адну сямью,*— пісаў ён,— *бо яны хочуць ратаваць ні праграмы і лёзунгі, а нішчасную Бацькаўшчыну. На іх адных ляжыць гэты гістарычны абавязак, за іх ніхто гэтаго ні зробіць"*. Аўтар быў пэўны, што аб'яднанне беларускіх сіл будзе з поспехам супрацьстаяць *„расійскаму цэнтралізму і імперыялізму"*, пад сцягам якога злучыліся чарнасоценцы, эсэры, эсдэкі і бальшавікі[31].

У артыкуле *„Чароднае заданне"* сцвярджалася, што такім заданнем з'яўляецца стварэнне *„моцнаго, адналітаго па духу і аўторытэтнаго нацыянальнага прэдстаўніцтва"* (падкрэслена аўтарам — *А. С.*). Рада БНР і Народны Сакратарыят, на яго думку, не мелі *„праўдзівай сілы"*. Яны *„ганяліся за ўладай"* і не займаліся *„арганічнай працай над злучэнням народу"*. Аўтар артыкула сцвярджаў, што *„праўдзівае нацыянальнае прэдстаўніцтва* (падкрэслена аўтарам — А. С.), *ні адкідаючы нават прэдстаўніцтва меншасьцяў, але як меншасьцяў, можа зрабіць цяпер шмат болей карысьці для Беларусі, чым уроеная сабе ніпраўдзівая ўлада. Трэба адказацца ад ідэі ўлады, калі яе фактычна німа, і ўстаць на дарогу заступніцтва за народ і яго інтарэсы. Гэта ні значыло-б, што такое прэдстаўніцтво ні магло-б спаўняць некаторых абавязкаў улады: празь іх даць народу ўсю ўладу — павінна быць яго мэтай"*[32].

На наступны дзень, 12 красавіка, на пасяджэнні II сесіі Рады БНР у яе склад увайшлі сябры МБП Раман Скірмунт, Павел Аляксюк, Аляксандр Уласаў, Рамуальд Зямкевіч, Казімір Гадыцкі-Цвірка, Вільгельм Русецкі, ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, праваслаўныя святары Стэфан Кульчыцкі і Васюкевіч, генерал Кіпрыян Кандратовіч. Склад Рады павялічыўся да 80 чалавек, сярод якіх па-ранейшаму пераважалі прыхільнікі сацыялістычнай ідэалогіі. Дзеячы МБП утварылі ў Радзе БНР фракцыю Цэнтра.

[31] б/п, *Тры цэнтры*, „Беларускі шлях", 1918, № 16.

[32] б/п, *Чароднае заданне*, „Беларускі шлях", 1918, № 16.

Каптацыя сяброў МБП выклікала дэбаты, якія засведчылі яднанне беларускіх палітычных сіл. Рашэнне, прынятае 12 красавіка, было надзвычай важным для беларускага руху, які на працягу ўсёй сваёй гісторыі меў праблемы з адзінствам.

У красавіку 1918 г. было відавочным, што прэтэнзіі Рады БНР на палітычнае кіраўніцтва беларускімі землямі не прымаліся не толькі акупацыйнымі ўладамі, але таксама многімі мясцовымі акторамі палітычнай сцэны. У сваю чаргу Раман Скірмунт і кіраўнікі МБП разумелі, што для паспяховай палітычнай дзейнасці недастаткова самога факта наладжвання кантактаў з нямецкай адміністрацыяй. Найперш была патрэбна кансалідацыя наяўных беларускіх сіл. Відавочным станавілася тое, што немцы будуць лічыцца толькі з моцным партнёрам, які б абапіраўся на рэальныя сілы.

Як вядома, знешнепалітычная дзейнасць Рады БНР на „нямецкім напрамку" скончылася паразай. Немцы не прызналі незалежнасці БНР і не аказалі ніякай рэальнай падтрымкі дзяржаўніцкім намаганням беларускай эліты. І тым не менш актыўнасць беларускіх палітыкаў у спробе паразумення з Берлінам засведчыла сур'ёзнасць намераў у змаганні за незалежнасць БНР і прымусіла лічыцца з імі іншыя палітычныя сілы ў Беларусі і ва ўсім рэгіёне.

## Streszczenie

Aliaksandr Smalianczuk, *„Kierunek niemiecki" polityki zagranicznej BRL: krok pierwszy (luty-marzec 1918 r.)*

W zewnętrznej aktywności politycznej kierownictwa Białoruskiej Republiki Ludowej dominował „kierunek niemiecki". To właśnie z Niemcami wiązano nadzieje na międzynarodowe uznanie jej niepodległości. Pierwszy krok ku normalizacji kontaktów z Berlinem został wykonany przez członków Mińskiego Przedstawicielstwa Ludowego — Romana Skirmunta, Pawła Aleksiuka i Romualda Ziemkiewicza. 18 marca 1918 r. w liście do władz niemieckich kategorycznie odrzucili oni pretensje Litwy, Polski i Ukrainy do części terytoriów białoruskich i poinformowali o woli Białorusi chcącej, z pomocą Niemiec, stać się niezależnym państwem podtrzymującym „zachodnią kulturę". Niemcy odpowiedzieli na list, co sprzyjało normalizacji kontaktów pomiędzy białoruskim ośrodkiem władzy w Mińsku i administracją okupacyjną. W kwietniu 1918 r. Mińskie Przedstawicielstwo Ludowe weszło w skład socjalistycznej Rady BRL. Nastąpiła wtedy konsolidacja najbardziej wpływowych

białoruskich partii i organizacji celem aktywizacji działalności zagranicznej. Mimo tego Niemcy i tak nie uznały państwa białoruskiego, jednak aktywność białoruskich polityków na „kierunku niemieckim" nakazywała liczyć się z nimi zarówno siłom politycznym na Białorusi, jak i w całym regionie.


## Abstract

Alyaksandr Smalianchuk, *„The German Direction" of the Foreign Policy of the Belarusian People's Republic (BNR): The First Step (February–March 1918)*

The article highlights the „German direction" in the foreign policy of the Belarusian People's Republic, which raised hopes for the international recognition of its independence. The first step to improve the relationship with Berlin was undertaken by the membersof the Minsk People's Representative Council, Raman Skirmunt, Pavel Aliaksiuk and Ramuald Ziamkevich. In a letter of 18th March 1918 they openly dismissed territorial claims of Lithuania, Poland and Ukraine to Belarusian lands and informed that Belarus was willing to become an independent country, following Western patters and seeking help from Germany. The Germans addressed the letter, which gave rise to improving the relationship between the Belarusian government in Minsk and the occupation administration. In April 1918 the Minsk People's Representative Council became a member of the socialist government of the BNR. At that time the most influential parties and political organisations of Belarus consolidated in order to support the foreign policy. Germans failed to accept the new country, but the actions undertaken by some Belarusian politicians and directed at Germany led to the situation when the latter had to take into consideration the former and other political forces residing in Belarus and the whole region.

**Іна Соркіна**
**(Варшава/Гродна)**

# У пошуку Айчыны: жыхары мястэчак у эпоху нацыяналізмаў (на прыкладзе Капыля)

100-гадовы юбілей Беларускай Народнай Рэспублікі — добрая нагода паглядзець на важнейшыя дзяржаватворчыя працэсы і падзеі стогадовай даўніны праз прызму лакальнай гісторыі. Падчас навуковай канферэнцыі, арганізаванай Цэнтрам беларускіх студыяў Варшаўскага ўніверсітэта 24 лістапада 2017 г., якая стала першым юбілейным мерапрыемствам да стагоддзя БНР, сярод іншага разглядаліся і некаторыя аспекты развіцця беларускага нацыянальнага руху ў рэгіёнах (на Гродзеншчыне, Палессі). Першым юбілейным выданнем, якое выйшла з друку да пачатку вясны 2018 г., была калектыўная манаграфія *„Шляхамі БНР: да 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі”*[1]. У ёй разглядаюцца звязаныя з БНР падзеі, асобы, адрасы ў Вільні, Мінску, Гродне, Магілёве, Брэсце, Гомелі, Слуцка-Капыльскім рэгіёне; паказваецца, што ідэя стварэння ўласнага гаспадарства, незалежнай краіны апанавала ўсю Беларусь — ад Буга і Нёмана да Дняпра; падзеі, звязаныя з гісторыяй БНР, адбываліся ў розных кутках Беларусі — ад Палесся на поўдні да Віцебшчыны на поўначы.

У працяг спробы стварэння лакальнай гістарычнай панарамы нацыя- і дзяржаватворчых працэсаў у Беларусі прапаноўваецца дадзенае мікрагістарычнае даследаванне, мэтай якога з’яўляецца вызначэнне ўплываў нацыянальных рухаў ды ўвогуле працэсаў мадэрнізацыі XIX — пачатку XX ст. на жыццё і лёс жыхароў мястэчка Капыль. Узнятая праблема раскрываецца з апорай на дакументальныя і апавядальныя крыніцы, з шырокім выкарыстаннем магчымасцей гістарычнай біяграфістыкі.

[1] *Шляхамі БНР: Да 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.* Манаграфія / Еўрапейскі Гуманітарны Універсітэт, пад рэд. І. Соркінай, С. Харэўскага. Гродна: ЮрСаПрынт 2018, 158 с. (аўтарскі калектыў: Захар Шыбека, Сяргей Харэўскі, Андрэй Чарнякевіч, Аляксандр Агееў, Ігар Пушкін, Ірына Лаўроўская, Іна Соркіна, Валянціна Лебедзева, Юрась Бачышча). Кніга пабачыла свет, дзякуючы падтрымцы Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, і была прадстаўлена грамадскасці 1 сакавіка 2018 г. у Мінску, падчас круглага стала, арганізаванага выкладчыкамі ЕГУ Сяргеем Харэўскім, Інай Соркінай, Юрасём Бачышчам, Андрэем Чарнякевічам.

## Насельніцтва мястэчка

Агульнай асаблівасцю гарадоў і мястэчак Вялікага Княства Літоўскага была іх этнічная і канфесійная гетэрагеннасць ды полікультурнасць. Пасля анексіі беларуска-літоўскіх зямель Расійскай імперыяй у канцы XVIII ст. развіццё гарадскіх цэнтраў знаходзілася пад моцным прэсінгам вялікадзяржаўнай шавіністычнай палітыкі расійскіх улад, аднак яе рэалізацыі ў нашым краі перашкаджалі традыцыі самакіравання і самаарганізацыі, а таксама шматкультурнасці. Гарады і мястэчкі здолелі пераадолець цывілізацыйную манаполію Расійскай імперыі і не пакінуць сваёй шматкультурнай прасторы.

Не быў выключэннем у гэтым сэнсе і Капыль — сталіца ўдзельнага Капыльскага княства, пазней — мястэчка Слуцкага павета Мінскай губерні. Пасля спрэчак аб Нойбургскіх маёнтках Капылём валодалі Радзівілы Нясвіжскай лініі. З 1828 г. у выніку шлюбу Стэфаніі Дамінікаўны Радзівіл і Льва Пятровіча Вітгенштэйна Капыль перайшоў у валоданне роду Вітгенштэйнаў. Гістарычныя крыніцы XVII–XIX стст. адлюстроўваюць канфесійную і этнічную стракатасць насельніцтва мястэчка, якое складалася з шасці канфесійных (праваслаўныя, каталікі, уніяты (да 1839 г.), пратэстанты, іўдзеі, мусульмане) ды чатырох этнічных (беларусы, габрэі, палякі, татары) груп.

Большасць насельніцтва Капыля ў перыяд Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай складалі мяшчане-хрысціяне, а менавіта праваслаўныя. Разам з тым жыхары каталіцкіх юрысдык, шляхта з Капыля і наваколля былі прыхаджанамі капыльскага касцёла. Пры касцёле ў першай чвэрці XIX ст. існавала філіяльная капыльска-аножкаўская[2] ўніяцкая царква, якая, аднак, не мела ўласнага будынка. Прыход яе складаўся з невялікай часткі мяшчан і жыхароў некалькіх навакольных вёсак. Існаваў у Капылі і кальвінскі збор, прыход якога складала пратэстанцкая шляхта з Капыля і наваколля. На працягу XVIII–XIX стст. расла колькасць габрэйскага насельніцтва мястэчка. Найбольш ранні вядомы нам інвентар Капыля 1642 г. фіксуе наяўнасць 289 пляцаў, з якіх 4 былі заселены габрэямі (1,4 % ад агульнай колькасці двароў у мястэчку). У 1669 г. Капыль налічваў 253 дымы, 13 з якіх належалі габрэям (каля 5 %), у 1765 г. габрэі валодалі 54 (каля 30 %) з 234 дымоў. Паводле звестак інвентара за 1818 г., у Капылі было 308 двароў: 134 габрэйскіх (каля 43 %), 172 хрысціянскіх і 2 татарскіх. Да 1848 г. колькасць татарскіх двароў павялічылася да 7, а габрэйскіх —

[2] Аножкі — вёска побач з Капылём.

да 172. У 1870 г. у мястэчку налічвалася 2 783 жыхары, з іх 1 708 іўдзеяў (61,4 %)[3].

Паводле інвентара 1846 г., у Капылі існавалі драўляныя праваслаўная царква, рымска-каталіцкі касцёл, кірха евангелічная, 3 габрэйскія малітоўныя школы, 1 з іх была мураванай[4]. У гадавой справаздачы па Мінскай губерні, накіраванай у Цэнтральны статыстычны камітэт у 1857 г., у м. Капыль значыліся 897 праваслаўных мяшчан (прыхаджане Уваскрасенскай царквы), 28 мяшчан і дваран евангеліцка-рэфармацкай веры (пазначаныя як палякі), 526 мяшчан-іўдзеяў[5]. Гэтыя звесткі няпоўныя, бо ў Капылі здаўна жылі каталікі, пра што сведчыць факт існавання з 1439 г. драўлянага касцёла, які згарэў у 1856 г., а новы парафіяне пабудавалі ў 1859 г.[6] З канца XVIII — пачатку XIX ст. у Капылі стала пражываλі татары-мусульмане. У пачатку 1880-х гг. быў атрыманы дазвол на пабудову мячэці. У канцы XIX ст. мужчыны Капыля па веравызнанні размяркоўваліся наступным чынам: праваслаўныя — 1 511 (59 %), каталікі — 73 (каля 2,9 %), іўдзеі — 868 (каля 33 %), мусульмане — 109 (4,3 %)[7].

Размеркаванне местачковага насельніцтва паводле нацыянальнай прыкметы ў канцы XIX ст. магчыма паказаць толькі на падставе крытэрыя роднай мовы, паводле даных перапісу насельніцтва 1897 г. па купцах і мяшчанах усіх мястэчак Слуцкага павета[8]. У мястэчках Случчыны налічвалася 25 асоб купецкага звання — усе назвалі роднай габрэйскую мову. Мяшчане мястэчак Слуцкага павета паводле крытэрыя роднай мовы складалі 12 груп, самай масавай сярод якіх была габрэйская.

**Табліца 1. Размеркаванне мяшчан мястэчак Слуцкага павета паводле роднай мовы, 1897 год**

| Родная мова | Мужчыны | Жанчыны |
|---|---|---|
| Габрэйская | 12 429 | 13 385 |
| Беларуская | 2 407 | 2 379 |
| Польская | 318 | 301 |

3 І. Соркіна, М. Мароз, *Сакральнае і секулярнае беларускага мястэчка XVIII–XIX стст. (на прыкладзе Капыля)*, „Гістарычна-археалагічны зборнік", Мінск 2017, выпуск 32, с. 139.

4 *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі* (далей — НГАБ), ф. 142, воп. 1, адз. зах. 1601, арк. 1 адв.

5 *Российский государственный исторический архив* (далей – РГИА), ф. 1290, воп. 4, адз. зах. 79, арк. 728, 751, 753.

6 *Nasze Kościoły,* Warszawa 1912, t. I, cz. 2, s. 14.

7 НГАБ, ф. 242, воп. 5, адз. зах. 103, арк. 268.

8 У Слуцкім павеце паводле даных на 1867 г. налічвалася 11 мястэчак: Бабоўня, Вызна, Клецк, Капыль, Ляхавічы, Нядзведзічы, Раманаў, Семежава, Сіняўка, Старобін, Цімкавічы.

| | | |
|---|---|---|
| Руская | 62 | 45 |
| Украінская | 27 | 1 |
| Нямецкая | 12 | 15 |
| Цыганская | 7 | 5 |
| Татарская | 1 | – |
| Шведская | 2 | – |
| Французская | - | 2 |
| Літоўская і латышская | 2 | 1 |
| Чэшская | 1 | – |
| **Усяго** | **15 268** | **16 135** |

Крыніца: Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 года. т. XXII. Минская губерния. Санкт-Петурбург 1904, с. 234.

Акрамя купцоў і мяшчан значную групу насельніцтва мястэчак складалі сяляне. Яны, як правіла, былі беларусамі і лічылі сваёй роднай мовай беларускую („простую", „тутэйшую"). Частка сялян каталіцкага веравызнання магла назваць падчас перапісу сваёй роднай мовай польскую. Татарскае насельніцтва Слуцкага павета належала пераважна да дваранства: усяго татар налічвалася 315 мужчын і 330 жанчын, сярод іх дваран было 310 мужчын і 329 жанчын[9].

Мяшчане-беларусы Капыля на працягу канца XVIII–XIX ст. вялі ўпартае змаганне за вяртанне страчанай свабоды і зямлі. Справа ў тым, што пасля далучэння беларускіх зямель да Расіі і скасавання Магдэбургскага права жыхары большасці мястэчак, якія раней знаходзіліся на становішчы „местаў" і якія гарадскіх правоў у Расійскай імперыі не атрымалі, былі запрыгоненыя: страцілі статус мяшчан і пераведзены ў катэгорыю прыгонных сялян. Такі лёс напаткаў і капылян: у 1795 г. падчас „рэвізіі" (перапісу насельніцтва) мяшчане Капыля былі запісаны прыгоннымі, што значна ўзмацняла павіннасны прыгнёт. Гэта выклікала моцнае супрацьдзеянне з боку капыльскай мяшчанскай грамады. У выніку ў 1833 г. капыляне былі прызнаныя асабіста вольнымі, але зямля заставалася ўласнасцю памешчыка. Зацятасць, з якой мяшчане змагаліся за волю і зямлю, веданне імі сваіх правоў, валоданне даўнімі дакументамі (нягледзячы на амаль пагалоўную непісьменнасць), сведчаць пра добры ўзровень самаацэнкі капылян, высокае развіццё грамадскай актыўнасці. У архіўных дакументах, якія адлюстроўваюць гэтыя старонкі

[9] *Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 года,* Санкт-Петербург 1904, т. XXII. Минская губерния, с. 80–83.

гістарычнага мінулага Капыля, узгадваюцца імёны актывістаў дадзенага змагання: прадстаўнікоў капыльскіх мяшчанскіх родаў Малевічаў, Гурло, Жылуновічаў, Шкілевічаў, Рубісаў, Радзечкаў, Татаржыцкіх, Чарнушэвічаў, Гамзаў, Зарамбоўскіх, Дземідовічаў, Красуцкіх ды інш[10]. Як будзе паказана ніжэй, прадстаўнікі шэрагу пералічаных сем'яў уключацца ў палітычныя падзеі пачатку XX ст.

Паводле звестак 1909 г., у Капылі налічвалася 5 968 жыхароў[11]. Колькасць насельніцтва значна скараціла Першая сусветная вайна. З аўтабіяграфіі ўраджэнца Капыля пісьменніка Міколы Хведаровіча вынікае, што з набліжэннем фронта да мястэчка капылян прымушалі падавацца ў бежанства: *„Капыляне пачалі збірацца ў далёкую дарогу. Ужо стаялі на дварэ спецыяльна абсталяваныя вазы з будамі, на якіх укладваўся бежанскі „скарб". Чакалі толькі сігналу. Казацкія сотні распраўляліся з тымі, хто не хацеў пакідаць родную хату"*[12]. Паводле статыстыкі, прыведзенай у 1928 г. Мікалаем Азбукіным, у 1916 г. у Капылі было 3 721 чал., у тым ліку *„без гаспадарак"* — 2 260, у 1917 г. — 5 325 чал., 1919 г. — 3 807 чал., 1923 г. — 3 562, у тым ліку занятых па-за сельскай гаспадаркай — 2 054 чал., у 1926 г. — 3 929 чал. Даследчык зрабіў выснову аб тым, што Капыль належаў да групы буйных мястэчак, што ён заняпаў у 1916 г., падняўся ў 1917 г., зноў заняпаў у гады польскай акупацыі і пачаў адраджацца толькі ў сярэдзіне 1920-х гг.[13]

## Міжэтнічныя і міжканфесійныя стасункі

Міжэтнічныя ўзаемаадносіны ў Капылі ў XVIII — пачатку XX ст. будаваліся ў асноўным па лініі беларусы — габрэі. Шматвекавое жыццё на адных і тых жа вуліцах, а часам і пад адным дахам, сумесныя заняткі рамяством і сельскай гаспадаркай, узаемавыгадныя інтарэсы ў гандлі спрыялі ўзаемапаразуменню і пераважна мірнаму суіснаванню прадстаўнікоў розных этнагруп.

З архіўных крыніц нам вядома, што пэўная напружанасць у адносінах паміж габрэямі і беларусамі Капыля існавала з-за выканання павіннасцей. Мяшчане-хрысціяне дамагаліся, каб і габрэі нараўне з імі ўдзельнічалі ў адпрацовачных павіннасцях. Тут варта адзначыць, што нормы грашовага

---

10 *Капыль і магдэбургскае права: нарысы гісторыі горада XIV–XIX стст.*, Гродна 2012, с. 133–157.

11 М. Азбукін, *Паселішчы гарадскога тыпу ў БССР*, [у:] *Матэрыялы да геаграфіі і статыстыкі Беларусі*, Менск 1928, с. 211.

12 *Памяць: Капыльскі раён: Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі,* Мінск 2001, с. 541.

13 М. Азбукін, *Паселішчы гарадскога тыпу ў БССР*, с. 210–211.

чыншу былі для габрэяў у два разы вышэйшыя: так, па інвентары 1846 г., *„габрэі з аселых прутаў удвая плаціць абавязаныя”*[14].

Пра рэгламентацыю ўзаемаадносін паміж габрэямі і беларусамі Капыля сведчыць дамова, заключаная паміж бакамі ў 1776 г. У тэксце дамовы гаворыцца, што былых ад колькіх год прэтэнзій адных да другіх быць не павінна, і што калі адзін з бакоў *„клатніцу і праўнасць распачне міма таго запісу”*, дык будзе павінны на скарб князя заплаціць 1000 злотых[15].

Габрэі ўспрымаліся праваслаўнымі мяшчанамі як *„іншыя свае”*. Розныя манеры паводзін, адзенне, рэлігійныя традыцыі, заняткі ды і наогул увесь лад жыцця спрыялі захаванню выразных адрозненняў паміж дзвюма групамі насельніцтва. Акрамя гэтага існавала розніца ў адміністрацыйным падпарадкаванні. Так, калі мяшчане падпарадкоўваліся войту, а жыхары юрысдык ксяндзу альбо папу, дык для габрэяў галоўным органам улады быў кагал.

Змяшаныя шлюбы альбо пераход у іншае веравызнанне з’яўляліся падзеямі выключна рэдкімі, амаль немагчымымі. Пра адзін такі выключны выпадак кахання і шлюбу паміж габрэйкай і беларусам у Капылі захавалася сведчанне вядомага дзеяча сіянізму родам з Капыля Іоселя Маргенштэрна, які ў сваіх успамінах апісвае каханне габрэйскай дзяўчыны, адзінай дачкі мясцовага меламеда[16] рэб Шломы, да суседняга сялянскага хлопца-беларуса: *„(…) і нічога нельга было зрабіць, каб выратаваць яе, (…) яна выйшла замуж у царкве і вянчаў яе мясцовы святар”*[17]. Гэты шлюб адбыўся ў 1880 г.

Часам паміж мяшчанамі-хрысціянамі і габрэямі мястэчка здараліся канфлікты, найперш на эканамічнай глебе. Так, у 1811 г. адміністратар мястэчка Капыль паведамляў пра тое, што габрэі Меєровічы напалі на вуліцы на цэхмістра шавецкага цэха Базыля Манкевіча, які набываў драўніну. Нападнікі, якім Базыль быў вінаваты грошы, здзіралі з яго кажух, *„біючы ў карак і лаячы срамотна”*. Але ён, мешчанін малады і моцны, рэціруючыся ад *„зласлівых ізраілёў”*, на карку сваім уцягнуў іх да дома адміністратара *„з вялікім галасам”*[18]. На прызначанае пазней разбіральніцтва габрэі не з’явіліся.

---

[14] НГАБ, ф. 142, воп. 1, адз. зах. 1601, арк. 9адв.

[15] НГАБ, ф. 694, воп. 3, адз. зах. 3572, арк. 1.

[16] Меламед — настаўнік хедара (пачатковай рэлігійнай школы).

[17] Лоренс А. Кобен, *Анин штетл* / Пер. с англ. К. Колесниковой, О. Кричкер, Т. Поляковой, под ред. К. Колесниковой, Корсунь-Шевченковский 2013, с. 261.

[18] І. Соркіна, М. Мароз, *Сакральнае і секулярнае беларускага мястэчка XVIII–XIX стст. (на прыкладзе Капыля)*, с. 142.

А вось мемуарная літаратура паказвае добразычлівыя адносіны паміж прадстаўнікамі розных этнаканфесійных груп насельніцтва мястэчка. Ва ўспамінах класіка літаратуры на ідышы, ураджэнца Капыля Мендэле Мойхера Сфарыма адзначалася: *„У мястэчку габрэі і хрысціяне жылі паміж сабой у ладзе, дружна, не хавалі адзін ад аднаго ні сваіх радасцей, ні няшчасцяў. У выпадку, калі хто-небудзь з габрэяў гуляў вяселле, знаёмыя хрысціяне рабілі падарункі: хто курыцу, хто некалькі дзясяткаў яек, хто каравай хлеба, а хто куліч — кожны па сваім стане. Тое ж было ў выпадку ўрачыстасці ў каго-небудзь з хрысціян"*[19].

Цікава адзначыць, што Абрам Паперна, апісваючы функцыі рабінскага суда ў Капылі, сцвярджаў, што да рабіна з поўным даверам звярталіся і мясцовыя хрысціяне ў сваіх спрэчках з габрэямі[20]. Такім чынам, аўтарытэт рабіна быў высокі і сярод хрысціянскага насельніцтва мястэчка.

Як правіла, у мястэчку мела месца эканамічнае супрацоўніцтва паміж прадстаўнікамі розных этнічных груп насельніцтва. Гэта добра ілюструюць успаміны А. Паперны: *„Капыль меў каля 3000 душ насельніцтва, якое складалася з трох розных па народнасці і веравызнанні груп: габрэяў, беларусаў і татараў. Гэтыя тры групы, аб'яднаныя адной тэрыторыяй і адным начальствам, былі чужымі адна другой па мове, звычаях, вераваннях і гістарычных паданнях, былі як па знешнім выглядзе, так і па духу прадстаўнікамі трох розных сусветаў, але тым не менш жылі паміж сабою мірна. Зблізілі іх непазбежныя суседскія і эканамічныя інтарэсы. Не было паміж імі зайздрасці: усе з цяжкасцямі знаходзілі сродкі для існавання, а галоўнае, што не было паміж імі канкурэнцыі, бо кожная з гэтых груп, як бы па дагаворы, адмежавала для сябе асобнае поле дзейнасці, такім чынам яны хутчэй дапаўнялі адна другую, чым сапернічалі паміж сабой"*. Габрэі Капыля займаліся гандлем, карчмарствам, возніцтвам, рамяством, настаўніцтвам. Беларусы ў Капылі, акрамя земляробства, займаліся ткацтвам. Габрэйскія гандляры і беларускія ткачы працавалі ў тандэме: *„мяшчане-беларусы ткалі палатно і тонкія белыя пакрывалы, якія выкарыстоўваліся ў той час габрэйскімі жанчынамі як частка галаўнога ўбору. Працавалі яны па заказах мясцовых габрэйскіх гандляроў, якія давалі ім патрэбны сыры матэрыял, плацілі штотыднёва за выкананую працу і прадавалі гэты тавар на кірмашы ў Зэльве"*[21].

19 Менделе Мойхер Сфорим, *История одной жизни: воспоминания писателя*, „Еврейский мир", май 1909, с. 56.

20 А. Паперна, *Из Николаевской эпохи. Воспоминания*. Санкт-Петербург 1910, т. 2. с. 36.

21 А. Паперна, *Из Николаевской эпохи. Воспоминания*, с. 5–6.

Татары займаліся агародніцтвам і славіліся сваёй гароднінай. Традыцыйным заняткам местачковых татараў былі і некаторыя рамёствы, асабліва апрацоўка скур, а таксама возніцтва. Па назіраннях Паперны, татары-магаметане ў Капылі былі ўсімі паважанымі за працавітасць, цвярозасць і ахайнасць. Яны трымаліся бліжэй да габрэяў, чым да хрысціян, што аўтар паспрабаваў патлумачыць агульнасцю азіяцкай крыві, падабенствам рэлігійных паняццяў і традыцый[22].

Сведчанне пра капыльскіх татараў пакінуў найбольш вядомы іх прадстаўнік — беларускі пісьменнік і літаратуразнаўца Сцяпан Хусэйнавіч Александровіч (1921–1986): „*Радзіма мая — старадаўні Капыль (…). Бацькі — беларускія татары. У Капылі здаўна жыла жменька нашчадкаў мангольскіх плямён. Сядзібы іх туліліся на дзвюх вулачках — Татарскай і Замкавай, ля плыценькай рэчкі Каменкі, побач з высокім замчышчам. Паводле падання, усе яны некалі складалі асабістую ахову капыльскага князя. У этнаграфічным аблічччы мясцовых татар захаваліся яшчэ ўсходнія рысы, сяк-так ліпелі свае звычаі і абрады, але родную мову яны даўно страцілі і гаварылі па-беларуску. Увогуле капыльскія татары цесна зжыліся з мясцовым насельніцтвам і ў сваім штодзённым побыце мала адрозніваліся ад беларусаў*”[23].

Яшчэ адной лініяй адносін, ужо міжканфесійных, у Капылі XVIII–XIX стст. былі стасункі паміж праваслаўнымі і каталікамі. Не абыходзілася без канфліктаў. Так, у 1732 г. была прызначана адмысловая камісія для даследавання скаргаў на капыльскага ксяндза Яна Пенскага з боку праваслаўнага духавенства і мяшчан, якія скардзіліся на нанесеныя ім крыўды, забарону праваслаўнага богаслужэння і гвалтоўны перавод праваслаўных у каталіцтва. Допыт сведкаў паказаў, што ксёндз сапраўды быў нораву досыць буйнага — ад яго даставалася і мяшчанам, і шляхціцам. Асаблівую лютасць у яго выклікала, калі хтосьці з хрысціян наймаўся на службу да габрэяў. Незадаволенасць ксяндза выклікалі і яго праваслаўныя падданыя на каталіцкай юрысдыцы, якія хрысцілі дзяцей у царкве. Аднаго разу ён са стрэльбай, разам з памагатымі, перагарадзіўшы вуліцу, спрабаваў перашкодзіць аднесці з юрысдыкі ў царкву цела памерлага Алеся Кісяля, пра якога спрачаліся: быў ён праваслаўным ці ўніятам. Зрэшты, большасць апытаных згаджалася, што да каталіцкай веры ксёндз намаўляў і прымушаў тых, чые продкі былі каталікамі[24].

---

[22] Тамсама.

[23] *Памяць: Капыльскі раён*, с. 520–521.

[24] І. Соркіна, М. Мароз, *Сакральнае і секулярнае беларускага мястэчка XVIII–XIX ст.*, с. 143.

З уваходжаннем Капыля ў склад Расійскай імперыі рэлігійная сітуацыя змянілася. У другой палове XIX ст. капыльскія ксяндзы траплялі пад рэпрэсіі ўлад у сувязі з непадпарадкаваннем патрабаванню весці дадатковае набажэнства на рускай мове. Так, у 1871 г. на разгляд мінскага губернатара паступіла „*Справа аб звальненні з пасады вікарнага капыльскага касцёла ксяндза Гаўронскага і змяшчэнні яго ў Нясвіжскі дамініканскі манастыр за палітычную нядобранадзейнасць*”, дзе сярод іншага адзначалася, што Гаўронскі „*удаляет от копыльских прихожан мысль о необходимой возможности свыкнуться с новым порядком вещей и быть со временем искренне русскими как по сердцу, так равно и языку…*”[25]. У 1882 г. за такую ж „правіннасць” настаяцель капыльскага касцёла ксёндз Антоній Глаз быў зняволены ў Віленскі кармеліцкі манастыр на 6 месяцаў, а пазней пазбаўлены духоўнага сану і высланы ў г. Праскураў Падольскай губерні[26].

У 1896 г. капыльскі ксёндз Андрэй Герачынскі абвінавачваўся ў чытанні казаняў і спяванні рэлігійных гімнаў на польскай мове. У сваіх пісьмовых тлумачэннях ён адмаўляў гэтыя факты, сцвярджаў, што гімны — на латыні, і што нават вянчальныя наказы чытаюцца на рускай мове. Аднак інфармацыю з рапартаў слуцкага павятовага спраўніка пацвердзілі арганіст Уладзіслаў Гудовіч, жыхар Капыля селянін Ігнат Чарапавіцкі, паліцэйскі ўраднік Сцяпан Папоў, прыстаў 3-га стану Слуцкага павета Міхаіл Сарокін. Па меркаванні чыноўнікаў, нядобранадзейнасць капыльскага ксяндза А. Герачынскага заключалася таксама і ў тым, што ён „*позволяет себе преподавать духовные требы присоединенным к православию и упорствующим в католицизме крестьянам (…). Повенчал по римско-католическому обряду присоединенного к православию крестьянина Иосифа Францева Карповича (…). Если принять во внимание ежегодно повторяющееся оживление прихожан католиков во время престольного праздника в Копыльском костеле в день Св. Роха, выражающееся в громадном стечении народа и крупных пожертвованиях, можно предположить, что ксендз Герочинский действительно снискал себе расположение прихожан и польских помещиков (…)*”[27]. З ксяндза Герачынскага ўзялі распіску аб тым, што ён абавязваецца выкарыстоўваць рускую мову ў дадатковых набажэнствах.

---

25 НГАБ, ф. 295, воп. 1, адз. зах. 2238, арк. 1.

26 *Lietuvos valstybės istorijos archyvas* (далей — LVIA), f. 378, b/s 1882, b. 319.

27 НГАБ, ф. 295, воп. 1, адз. зах. 6209, арк. 24–26.

Даволі вострыя ўнутрыканфесійныя супярэчнасці былі ўласцівы іўдзеям. Яны ў разглядаемы перыяд не ўяўлялі сабой адзінства. У XVIII ст. з Валыні на Беларусь пачала пранікаць новая містычная рэлігійная плынь — *хасідызм*. Паміж хасідамі і прыхільнікамі артадаксальнага рабінскага іўдаізму (іх хасіды называлі „*міснагдым*" — апаненты) разгарнулася актыўная барацьба ў форме ўзаемных даносаў уладам, памфлетаў, адлучэння хасідаў ад сінагогі (херэм) і інш. Арыгінальнай па форме была барацьба паміж хасідамі і міснагдым у Капылі: „*Як толькі хасіды збіраліся ў сваю „шчібль" (малельню) для малітвы альбо для размоў пра цуды свайго цадзіка, капыляне з'яўляліся з барабанамі і білі ў іх з такой лютасцю, што ні пра малітву, ні пра якія-небудзь гутаркі і думаць было нельга. Так яны рабілі да той пары, пакуль „шчібль" не была зачынена назаўсёды*"[28].

Хасідскаму містыцызму міснагдым супрацьпастаўлялі рабінскую вучонасць, дзеля чаго была значна пашырана сетка вышэйшых рэлігійных установаў — ешываў. Неафіцыйнае прымірэнне паміж бакамі адбылося на глебе агульнай барацьбы супраць габрэйскага асветніцкага руху — *Гаскалы*. Пераважная большасць іўдзейскіх абшчын Беларусі, у тым ліку і ў Капылі, заставалася пад уплывам рабінаў. Аднак ідэі Гаскалы знаходзілі сваіх прыхільнікаў нават у невялікіх мястэчках.

## Уплывы Гаскалы і яе наступствы

Гаскала выступала супраць культурна-рэлігійнай адасобленасці габрэйства і бачыла ў засваенні свецкай еўрапейскай адукацыі і ў прадуктывізацыі працы заклад паляпшэння становішча габрэйскага народа. Гаскала, зарадзіўшыся ў другой палове XVIII ст., была паваротным пунктам у новай габрэйскай гісторыі і стала ідэйнай крыніцай усіх цэнтральных плыняў габрэйскай нацыянальнай думкі наступных двух стагоддзяў. Парадаксальным чынам як асімілятарскія, так і нацыянальна-рэлігійныя ідэалагічныя плыні бяруць свой пачатак у ідэалогіі Гаскалы. У рэлігіі Гаскала стымулявала як рэфармізм у іўдаізме, так і рэакцыю ў выглядзе неаартадоксіі і галахічнага рыгарызму[29] ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. У свецкай сферы Гаскала пацягнула за сабой не толькі шырокую моўную і культурную асіміляцыю еўрапейскага габрэйства, але і ўзнікненне новай літаратуры

---

[28] А. Паперна, *Из Николаевской эпохи. Воспоминания*, с. 4.

[29] Рыгарызм — строгасць правядзення якога-небудзь прынцыпу (нормы) у паводзінах і думцы, поўнае і абсалютнае падпарадкаванне правілам і нормам.



**Мендэле Мойхер Сфарым**

на іўрыце і ідэалагічных плыняў нацыянальнага характару — гебраізма (руху за адраджэнне мовы іўрыт), ідышызма (як праявы секулярнага нацыяналізму) і палітычнага сіянізму[30].

Пад уплыў ідэй Гаскалы патрапіў бадай самы знакаміты ў свеце ўраджэнец Капыля — ***Мендэле Мойхер Сфарым*** (1835, Капыль — 1917, Адэса; сапраўднае імя Шалом Якаў Бройдэ, па пашпарце Абрамовіч Саламон Майсеевіч), заснавальнік новай габрэйскай класічнай літаратуры (пісаў на іўрыце і на ідышы).

Яго бацька, Хаім Мошэ, загадваў „коробочным” зборам і бясплатна выконваў абавязкі казённага рабіна; цікавіўся больш Бібліяй, чым Талмудам, за што лічыўся вальнадумцам.

Мендэле Мойхер Сфарым атрымаў традыцыйную габрэйскую адукацыю. Па патрабаванні бацькі вывучаў таксама граматыку мовы, іўрыт і Біблію, якую да 10 гадоў ведаў на памяць. Пасля смерці бацькі (ва ўзросце 40 гадоў) сям'я апынулася ў стане жабрацтва, і 14-гадовы Мендэле, які ўжо добра ведаў Талмуд, быў адпраўлены вучыцца па-за домам і харчавацца ў членаў габрэйскіх абшчын. У гэты ж час ён пазнаёміўся з хасідамі і некаторы час знаходзіўся пад іх уплывам. Правучыўшыся тры гады ў розных месцах (у тым ліку ў Слуцку і Вільні), Мендэле вярнуўся ў сям'ю, якая жыла пасля другога замужжа маці ў мястэчку Мельніца. Там ён напісаў першыя вершы на іўрыце. Нядоўга пражыўшы ў доме айчыма, Мендэле вярнуўся ў Капыль, дзе займаўся самастойна ў мясцовай сінагозе. У Капылі ён сышоўся з жабраком-бадзягай Аўрэмлам Кульгавым, які завабіў яго ў падарожжы па Літве і Украіне. Бадзянні па мястэчках на разбітым возе, начоўкі ў сінагогах і багадзельнях далі пасля матэрыял для яго аповесцей *„Фішка Кульгавы”* і *„Кляча”*.

У Камянцы-Падольскім Мендэле зблізіўся з паэтам і публіцыстам, прыхільнікам ідэй Гаскалы Аўрахамам Готлаберам, з яго дапамогай

30 *Гаскала*, [в:] Электронная еврейская энциклопедия, https://eleven. co. il/jewish-history/haskalah/11073/.

падрыхтаваўся і здаў экзамены ў мясцовае габрэйскае вучылішча і ў 1855 г. атрымаў дыплом настаўніка. Выкладаў у Камянец-Падольску да 1858 г. Тут жа быў напісаны першы твор *„Ліст аб выхаванні"*, прысвечаны неабходнасці навучаць габрэйскіх дзяцей рускай мове і прафесіям, апублікаваны ў штодзённай газеце *„Га-Магід"* (1857). У 1858 г. пераехаў у Бярдзічаў, дзе займаўся самаадукацыяй і працаваў над першымі мастацкімі творамі на старажытнагабрэйскай мове, заснаваў Публічную бібліятэку. У Бярдзічаве Мендэле пазнаёміўся з даследчыкам ідыша І. М. Ліфшыцам, які абудзіў у ім цікавасць да гэтай мовы. З 1862 г. у Адэсе пачала выходзіць штотыднёвая газета на ідышы *„Коль Мевасер"*, у якой на працягу 1864–1865 гг. быў апублікаваны першы твор Мендэле на ідышы *„Маленькі чалавек"*, упершыню падпісаны псеўданімам Мендэле Мойхер Сфарым (Мендэле-кнiганоша), які прынёс аўтару шырокую вядомасць. Па прызнанні Мендэле, ён перайшоў на ідыш, каб быць зразумелым і *„служыць свайму народу"*, нягледзячы на тое, што *„нашыя пісьменнікі глядзелі на жаргон пагардліва"*[31].

Вялікай папулярнасцю карыстаўся раман *„Падарожжы Веньяміна Трэцяга"* (1878) — першы белетрыстычны твор Мендэле, у якім асветніцка-выхаваўчая тэндэнцыя не зніжае яго мастацкай каштоўнасці. У 1885 г. ён быў апублікаваны пад назвай *„Габрэйскі Дон Кіхот"* у польскім перакладзе. У 1881 г. Мендэле перасяліўся ў Адэсу, атрымаўшы там пасаду загадчыка рэфармаванай габрэйскай школы. У 1886 г. ён вярнуўся да творчасці на іўрыце, але працягваў пісаць і на мове ідыш. Пры гэтым Мендэле ствараў новы іўрыт, выкарыстоўваючы моўныя нормы ўсіх этапаў развіцця мовы — біблійнага, талмудысцкага і сярэднявечнага. Гэты моўны сінтэз быў настолькі жыццяздольным, што пераважаў у прозе на іўрыце ажно да 50-х гг. XX ст. Бязлітасная крытыка ўбоства местачковага жыццёвага ўкладу ў творчасці Мендэле Мойхер Сфарыма доўгі час знаходзіла водгук у колах сіяністаў і дзеячаў нацыянальнага адраджэння; аднак пасля таго, як свет мястэчка быў знішчаны Катастрофай, сярод дзеячаў літаратуры праявілася настальгічная туга па свеце ўсходнееўрапейскага габрэйства, які адышоў у нябыт, і яны сталі бачыць у творах Мендэле Мойхер Сфарыма знарочыста гратэскны, карыкатурны малюнак мястэчка[32].

З Капыля паходзіць паэт, публіцыст, педагог ***Абрам Ізраілевіч Паперна*** (1840, Капыль — 1919, Адэса) — прадстаўнік другой хвалі Гаскалы.

---

31 *Менделе Мойхер Сфорим*, [в:] Электронная еврейская энциклопедия, http://eleven. co. il/jewish-literature/in-yiddish/12711/.

32 Тамсама.



**Абрам Паперна**

Ён атрымаў традыцыйную габрэйскую рэлігійную адукацыю. Аднак захапіўся ідэямі *маскілім* (асветнікаў) — прыхільнікаў Гаскалы. Паводле яго сведчанняў, каля 1858 г. у Капылі склаўся гурток „*маскілім*", якія марылі пра падзенне цесных сценаў, што аточвалі мястэчка, пра захаванне каштоўнасцей іўдаізму пры далучэнні да лепшых дасягненняў еўрапейскай цывілізацыі, у першую чаргу да адукацыі. Шлях у вялікі свет ляжаў праз авалоданне мовамі — найперш рускай і нямецкай, праз чытанне кніг нямецкіх асветнікаў, паплечнікаў Майсея Мендэльсона. Габрэйская моладзь Капыля шукала і знаходзіла кнігі „берлінцаў" рознымі спосабамі: на дальніх паліцах бацькоўскіх кніжных шафаў, калі бацькі самі ўдыхнулі „забруджанае" паветра „знешняга свету" ў той час, калі былі, як у выпадку Паперны, прыказчыкамі купцоў Царства Польскага; альбо замаўлялі маскільскія выданні ў вандроўных „кніганошаў". Вынікам стала барацьба паміж традыцыйна настроенымі „бацькамі" і радыкальнымі „дзецьмі", яна магла набываць камічныя формы, але часцей мела даволі трагічны фінал — зыход моладзі з бацькоўскага дому[33].

Насуперак традыцыям свайго мястэчка, Абрам Паперна абраў шлях свецкай адукацыі з далейшай акультурацыяй у расійскае інтэлектуальнае асяроддзе. Ва ўзросце 22 гадоў Абрам паступіў у Жытомірскае, а затым Віленскае рабінскае вучылішча, якія заслужылі рэпутацыю цэнтраў русіфікацыі габрэяў. Скончыўшы педагагічнае аддзяленне, Паперна з 1868 па 1908 гады выкладаў *„габрэйскія прадметы"* ў гімназіях польскага Плоцка, быў загадчыкам габрэйскага вучылішча ў гэтым горадзе. Паралельна з педагагічнай дзейнасцю развівалася пісьменніцкая і навуковая кар'ера Абрама Ізраілевіча. З 1860-х гг. ён друкаваў літаратуразнаўчыя работы на старажытна-габрэйскай мове, пісаў вершы, навуковыя артыкулы па педагогіцы. Друкаваўся ў выданнях на іўрыце і рускай мове, выпусціў некалькі падручнікаў іўрыта і ідыша, а таксама рускай мовы.

33 О. Соболевская, *Еврейский Копыль в воспоминаниях А. Паперны*, [в:] *Капыль: гісторыя горада і рэгіёна,* Мінск 2012, с. 294.

Успаміны Паперны *„З Мікалаеўскай эпохі"* з'яўляюцца адным з самых яркіх сведчанняў пра габрэйскае жыццё XIX ст. праз прызму *„маскільскіх"* перакананняў аўтара. Так, у першай частцы сваіх мемуараў, апісваючы мястэчка Капыль, Паперна паказвае яго як свет, пакрыты павуціннем даўніны, які аджыў сваё ў эпоху *„пары і электрычнасці"*. Невыносная беднасць, бяспраўе, цемната… Але, дзякуючы піянерам габрэйскага асветніцтва, *„габрэйства прабудзілася ад доўгай спячкі, каб навярстаць упушчанае"*. Як прафесійны педагог Паперна асаблівую ўвагу надаў крытыцы габрэйскай традыцыйнай адукацыі ў Капылі, праз якую прайшоў сам.

У сваіх літаратуразнаўчых крытычных працах Паперна імкнуўся даць чытачу ўяўленне пра еўрапейскія літаратурныя плыні, выяўляючы адначасова слабасці большай часткі габрэйскай „асветніцкай" літаратуры і адзначаючы яе, хоць і рэдкія, дасягненні. Творы Паперны выклікалі актыўную палеміку. Асабліва вострыя спрэчкі разгарэліся вакол яго брашуры *„Драма наогул і габрэйская драма ў прыватнасці"* (1868), у якой ён патрабаваў ад літаратуры перш за ўсё мастацкай прастаты і жыццёвай праўды, і апублікаванай у газеце *„Ха-Меліц"* (1869) „разгромнай" рэцэнзіі Паперны на раман Мендэле Мойхер Сфарыма *„Бацькі і дзеці"* пра канфлікт артадаксальных бацькоў са сваімі дзецьмі[34]. Раман яшчэ не быў вольны ад высакамоўнага біблейскага стылю ў духу мастацкай літаратуры Гаскалы і ўяўляў хутчэй грамадскі, чым мастацкі інтарэс.

З Капыля ў „вялікі свет" крочыў ***Аўрам Зінгер*** (1864, Капыль — 1920, Бабруйск) — габрэйскі празаік, перакладчык. Пісаў на іўрыце і ідышы. Рана застаўся сіратой. Вучыўся ў ешывах Капыля, Мінска, Слуцка, Пінска і Міра. З 1888 г. жыў у Варшаве. Быў настаўнікам старажытна-габрэйскай мовы. Пачынаючы з 1885 г. пісаў апавяданні на іўрыце, друкаваўся ў газетах і часопісах *„Га-Меліц"*, *„Кнэсет Ісраэль"*, *„Ахіа-саф"*. У 1890 г. выдаў першую кнігу апавяданняў, затым яшчэ некалькі зборнікаў прозы. Крытыка пісала, што А. Зінгер валодае вострай назіральнасцю і адрозніваецца вытанчанасцю стылю. На мове ідыш дэбютаваў у 1901 г. у штотыднёвіку *„Дэр'юд"*, а пазней друкаваўся і ў іншых выданнях. У 1896 г. пераклаў з англійскай на іўрыт *„Хаціну дзядзькі Тома"* Гарыет Бічэр-Стоу[35].

***Залман-Вігдар Храпкоўскі*** — збіральнік габрэйскага фальклора, нарадзіўся ў 1883 г. у Капылі. Вучыўся там у хедары, народнай школе,

[34] *Паперна Аврахам Яков,* [в:] Электронная еврейская энциклопедия, http://eleven. co. il/jewish-literature/in-hebrew/13141/.

[35] *Зингер Авром,* [в:] Российская еврейская энциклопедия, https://www. rujen. ru/index. php/%D0%97%D0%98%D0%9D%D0%93%D0%95%D0%A0_%D0%90%D0%B2%D1%80%D0%BE%D0%BC.

затым скончыў сярэднюю школу ў Гарадку Віцебскай губерні і вытрымаў экзамен на званне народнага настаўніка. Першы час пасля гэтага настаўнічаў у казённых габрэйскіх школах у Лёзна і Оршы, затым перабраўся ў Віцебск. Тут ён пачаў актыўна ўдзельнічаць у габрэйскім рабочым руху. Пасля рэвалюцыі працягваў працаваць настаўнікам, жыў у доме № 9 на Валадарскай вуліцы. Памёр даволі маладым — у 1924 г. Справай жыцця Храпкоўскага стала вывучэнне габрэйскага фальклору. Ён захапіўся гэтым ужо ў ранняй маладосці — як сам ён пісаў, з пятнаццаці гадоў. І вынікі яго працы атрымалі прызнанне: у пачатку XX ст. іх змясціла на сваіх старонках пецярбургская газета *„Фрайнд"*, што выдавалася на мове ідыш. Праз шмат гадоў іншыя матэрыялы са збору Храпкоўскага былі апублікаваныя ў аўтарытэтным навуковым часопісе *„Цайтшрыфт"*, які выдаваўся Беларускай Акадэміяй навук. У 1922 г. Храпкоўскі выпусціў у Віцебску невялікую кніжку *„Ваенны жарт"*. Як абвяшчае падзагаловак, яна аб'ядноўвае *„Легенды, анекдоты, прыказкі і прымаўкі, галаваломкі, каламбуры і да таго падобнае, створаныя вакол войнаў наогул і асабліва — Вялікай вайны 1914–1917 гадоў, а таксама фальклор аб прызыве"*. Храпкоўскі паспеў зафіксаваць тое, ад чаго праз дзесяцігоддзе не засталося і следу[36].




**Тытул кнігі Залмана-Вігдара Храпкоўскага „Ваенны жарт"**

Пашырэнне сярод габрэйскага насельніцтва мястэчак, у тым ліку і сярод капылян, ідэй ***сіянізму*** адлюстроўваюць сведчанні Зм. Жылуновіча, а таксама кароткія біяграмы сіяністаў родам з Капыля.

[36] В. Кнорринг, *Еврейские педагоги первой четверти XX в. и Белоруссия,* „Белорусский сборник", выпуск 6, Санкт-Петербург 2015, с. 47. Доступ праз: http://nlr. ru/news/20150615/BelSbornik6. pdf.
Большасць змешчаных у кнізе Храпкоўскага жартаў носіць вельмі „салёны" характар, нават з адценнем непрыхаванай грубасці. Але ўсё гэта — сапраўдныя ўзоры салдацкай дасціпнасці. Вось некаторыя вытрымкі з кнігі Храпкоўскага:
*„З размовы ў лазарэце:*
*- Хаім, выпісвайся! Трэба наступаць на Львоў!*
*- Наступайце хоць на тыграў, а мяне пакіньце ў спакоі!"*
*„Эх, жыдоўская морда,— уздыхае камандзір,— і тут падмануў! Сказаў, што толькі паранены, а ён — без галавы!"*
*„Салдат вырашыў даведацца праўду і пытаецца ў фельдфебеля:*
*- А дзе тут вайна?*
*- Ды вось яна самая і ёсць!*
*- Ды гэта ж не вайна, а чысты разбой…".*

Так, Жылуновіч засмучаўся, што яго родныя капыляне-беларусы абыякавыя да палітыкі, і зайздросціў у гэтым сэнсе бундаўцам ды іншым сіяніцкім арганізацыям. *„(…) Перадавая моладзь — майстравыя рабочыя ў часы рэакцыі 1907, 1908, 1909 гадоў паўцякалі ў Амэрыку, а новае пакаленне — пайшло па панскай сцежцы (…). Вайна парабіла шмат афіцэраў, і гэтым палітыка непатрэбна. А салдаты (…), калі крыху і былі захоплены ёю, то прыбыўшы да хаты, забываюць і прычэшваюцца да жыцця абыватэльшчыны. Газэты ня выпісваюцца, і толькі чуткамі людзі кормяцца… Праўда, гэта ўсё датычыць капылян беларусаў: ня тое зусім сярод жыдоў: у іх жыве (…) арганізацыя „Бунда” і гурток сыяністаў, якія вядуць добра партыйную працу: маюць бібліятэку, робяць вечарыны і інш.”*[37]

***Герш (Цві) Аронавіч Вайнбаўм*** (1904, Капыль —?) — сябра Нацыянальна-працоўнага (правага) крыла *„Хе-Халуц”*[38] і партыі *„Хіт’ахадут”*[39]. Быў арыштаваны 27 верасня 1927 г. у Капылі. Высланы ў Чымбай (Каракалпакія), хадайнічаў аб свабодным праездзе да месца высылкі. У жніўні 1928 — кастрычніку 1929 г. знаходзіўся ў Чымбаі. У кастрычніку 1929 г. атрымаў візу на выезд у Палестыну, куды прыбыў у тым жа годзе. Далейшы лёс невядомы[40].

***Ёсеф Моргенштэрн*** (1889, Капыль —?) — у юнацтве належаў да сіяніцкага гуртка *„Пірхэй Цыён”* (*„Кветкі Сыёна”*). У 1902 г. ён пераехаў у Варшаву, каб вывучаць гандаль, але за ўдзел у рабочай дэманстрацыі быў арыштаваны, кінуты ў турму на месяц, пасля — адпраўлены назад у Капыль катаржным шэсцем. У 1903 г. ён эміграваў у Нью-Ёрк, дзе працаваў краўцом. У 1905 г. пасяліўся ў Кліўлендзе і быў разносчыкам, вытворцам цыгарэт, а пазней стаў вытворцам электрычных прыбораў. Ён браў актыўны ўдзел у дзейнасці супольнасці Працоўных сіяністаў, у сацыялістычнай тэрытарыяльнай партыі, а затым і ў прасавецкай *IKOR*

---

37 Капыльскі, *М. Капыль, Мінскае губ.*, „Дзяньніца”, 1918, № 4, 19 марта (цытата паводле матэрыяла сайта Радыё Свабода: https://www. svaboda. org/a/zylunovic-130/28833745. html).

38 *Хе-Халуц* („першапраходзец”, „піянер”) — моладзевы сіяніцкі рух, мэтай якога была падрыхтоўка габрэйскіх юнакоў і дзяўчат да перасялення ў Эрэц-Ізраэль (Зямлю Ізраіля). Першыя групы „Хе-Халуца” ўзніклі ў пачатку ХХ ст. Да жніўня 1923 г., калі „Хе-Халуц” атрымаў афіцыйнае прызнанне савецкіх улад, рух быў расколаты на дзве фракцыі — легальную „Гехалуц СССР”, што падзяляла ідэалогію класавай барацьбы і камуністычнага калектывізму, і нелегальную „Нацыянальна-працоўную арганізацыю Хе-Халуц”, якая бачыла ў „Хе-Халуцы” габрэйскі нацыянальны працоўны рух (паводле *Электроннай габрэйскай энцыклапедыі*: http://eleven. co. il/zionism/parties-institu).

39 *Хіт’ахадут* („аб’яднанне”) — сіяніцкая рабочая партыя, створаная ў 1920 г., канцэнтравала сваю дзейнасць на садзейнічанні руху „Хе-Халуц” у дыяспары і стымуляванні рэпатрыяцыі ў Эрэц-Ізраэль (паводле *Электроннай габрэйскай энцыклапедыі*: http://eleven. co. il/zionism/parties-institutions/11202/).

40 *Российские социалисты и анархисты после октября 1917 г.: история, идеи, традиции демократического социализма и судьбы участников левого сопротивления большевистскому режиму*: http://socialist. memo. ru/lists/bio/l4. htm.

(Yidishe kolonizatsye organizatsye in Rusland) — Габрэйскай каланізацыйнай арганізацыі ў Расіі) і *Ambidzhan* (Усеамерыканскага таварыства дапамогі ў Біграбіджане). Ён пісаў артыкулы па пытаннях габрэйскай іміграцыі для *„Idishe velt”* (*„Габрэйскі свет”*) у Кліўлендзе і апублікаваў главы сваіх успамінаў у *„Yidishe kultur”* (*„Габрэйская культура”*) у Нью-Ёрку. Свае мемуары ў выглядзе кнігі ён апублікаваў на ідышы пад загалоўкам *„Ikh gedenk di teg”* (*„Я памятаю тыя дні”*) — Нью-Ёрк, 1962, 262 старонкі. У 1959 г. Ё. Моргенштэрн заснаваў у Тэль-Авіве спецыяльны фонд для перакладу сваёй працы з ідыша на іўрыт. Апошнія гады жыў у Галівудзе, штат Фларыда[41].

## Леў Клейнбарт

Надзвычай цікавай, неардынарнай постаццю быў ***Леў Навумавіч Клейнбарт*** (1875, Капыль — Ленінград, 1950) — публіцыст, журналіст, літаратар, крытык; актыўны ўдзельнік рабочага руху, прытрымліваўся ліберальных пазіцый, падзяляў погляды меншавікоў; даследчык асноўных тэндэнцый і кірункаў беларускага літаратурнага руху, аўтар першай фундаментальнай працы пра беларускую літаратуру ў паўтысячы старонак — „*Молодая Белоруссия*” (1928); першы біёграф Янкі Купалы і адзін з першых даследчыкаў яго творчасці.

Важнай крыніцай для вывучэння жыцця і творчасці Льва Клейнбарта з’яўляюцца дакументы з яго асабістага фонду ў архіве Інстытута рускай літаратуры Расійскай акадэміі навук (доступ да іх я атрымала дзякуючы копіям, якія захоўваюцца ў Цэнтральным архіве яўрэйскага народа ў Іерусаліме).

Яго сапраўднае імя — Лейб Нахманавіч. Паводле сацыяльнага паходжання — мешчанін. Бацька Лейбы, Нахман Аронавіч, быў вядомым у Капылі ўрачом. Акрамя лекавання трымаў ямскую пошту, арганізаваў у мястэчку пажарнае таварыства. У *„Нашай Ніве”* ў сакавіку 1909 г. адзначалася, што *„старшыня пажарнага таварыства (ён і зрабіў гэтае таварыства), самы найбагацейшы і самы вучоны ў Капылі жыд Наха Клейнбарт (бацька вядомага журналіста Лёвы Клейнбарта) нешта цяпер апусціў рукі і адмовіўся ад старшынства, а на яго месца няма ахвотнікаў, дык пажарнай дружыны як бы і няма…”*[42].

Нахман Клейнбарт у студэнцкія гады (вучыўся ў Кёнігсбергскім універсітэце) зведаў уплыў марксісцкага нямецкага рабочага руху.

[41] Yoysef Morgenshtern, *Yiddish Leksikon,* http://yleksikon. blogspot. com/2017/08/yoysef-morgenshtern. html.
[42] *Памяць: Капыльскі раён*, с. 95.

Яго сын Леў у аўтабіяграфіі адзначаў, што бацька прымаў удзел *„як у расійскім, так і ў германскім рэвалюцыйным руху”*. Дзякуючы яго народніцтву, у Капылі з'яўляюцца часопісы тых гадоў *„Отечественные записки”*, *„Дело”*, *„Слово”*, творы Міхаіла Салтыкова-Шчадрына, Мікалая Някрасава, Дзмітрыя Пісарава, Мікалая Шалгунова, з аднаго боку, Якаба Малешотта, Георга Бюхнера, Чарльза Дарвіна, Герберта Спенсера — з другога[43].



**Нахман Клейнбарт з дачкой і зяцем**

Жонкай Нахмана была простая, малаадукаваная, але добрая жанчына па імені Мальвіна. Дзеці — сыны Марк і Лейба, дочкі Роза і Яўгенія. У свой час Марк скончыў Кіеўскі камерцыйны інстытут, падчас Першай сусветнай вайны быў кіраўніком ваенна-санітарнага цягніка. Леў скончыў Петраградскі ўніверсітэт, Роза стала стаматолагам, Яўгенія — цудоўным педагогам, выкладала курс рускай літаратуры ў Дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва (ГИТИС) у Маскве[44].

Лейба Клейнбарт у 1896 г. скончыў Слуцкую гімназію. Там малады марксіст не асабліва вылучаўся ў вучобе, лічачы сябе пры гэтым інтэлектуаль-

43 *Цэнтральны архіў гісторыі габрэйскага народа, фонд Льва Клейнбарта, аўтабіяграфія* (далей — ЦАГГН, фонд Льва Клейнбарта), ф. 586, № 429.

44 В. Шуракова, *История дома и его обитателей*, „Слава працы”, сайт газеты Капыльскага раёна: http://www.kopyl. by/?p=51570.



**Сям'я Клейнбартаў (Леў у верхнім раду першы справа)**

на вышэй, чым школьныя выкладчыкі. Замест вучобы ён займаўся вывучэннем праблем рэвалюцыі. Сам Клейнбарт піша: *„Ужо з гімназічных гадоў я быў настроены рэвалюцыйна, чытаў нелегальную літаратуру, якой забяспечваў мяне ў тыя гады Станіслаў Трусевіч-Залеўскі*[45]*, пасля польскі сацыял-дэмакрат — камуніст"*[46].

У 1896–1897 гг. Леў Клейнбарт вучыўся на фізіка-матэматычным, затым — на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта; быў выключаны за ўдзел у рэвалюцыйным руху. У 1901 г. прыняў праваслаўе.

Актыўны ўдзельнік расійскага сацыял-дэмакратычнага руху, марксіст і меншавік. З РСДРП быў звязаны з 1897 г. у якасці прадстаўніка сацыял-дэмакратычнай групы студэнцтва. Неаднаразова арыштоўваўся, высылаўся, сядзеў у турме. Першы арышт і высылка — у 1899 г. (паводле справы аб студэнцкіх беспарадках), наступныя арышты: 1901 г. (паводле абвінавачання ў палітычнай прапагандзе сярод рабочых), 1903 г. (па справе *„Союза борьбы за освобождение рабочего класса"*), 1908 г. (за рэдагаванне выданняў Вольгі Паповай), 1910 г. (па літаратурнай справе). Літаратурную дзейнасць Леў Клейнбарт пачаў у лютым 1902 г. з публікацый артыкулаў пра народную асвету ў земскіх выданнях Саратава і Пскова. Затым супрацоўнічаў з шэрагам перыядычных выданняў: *„Новое Дело"*, *„Образование"*, *„Мир божий"*, *„Народное хозяйство"*, *„Вестник жизни"*, *„Вестник знаний"*, *„Журнал для всех"*, *„Современный мир"*, *„Вестник Европы"*, выдавецтвам В. Паповай. Паводле характарыстыкі самога аўтара, усе працы дарэвалюцыйнага перыяду *„выдержаны в тонах журнального марксизма"*[47].

[45] Трусевіч Станіслаў Станіслававіч (псеўданім: Казімір Залеўскі; 1870, в. Вераскава Навагрудскага пав.— 1918, Масква), удзельнік рэвалюцыйнага руху, публіцыст. У 1894 г. пад яго кіраўніцтвам створана Мінская сацыял-дэмакратычная арганізацыя. Адзін з заснавальнікаў Рабочага саюза Літвы, Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы.

[46] ЦАГГН, фонд Льва Клейнбарта, ф. 586, № 429.

[47] Тамсама.

Адной з дарэвалюцыйных публікацый Л. Клейнбарта з'яўлялася брашура *„Капитализм и еврейский вопрос"* (1906), дзе аўтар аналізуе з дапамогай статыстычных звестак эканамічнае становішча габрэйскага народа Расійскай імперыі, апісвае праявы антысемітызму, разглядае наступствы антыгабрэйскіх пагромаў: эміграцыю на Захад, пашырэнне сіянізму, паказвае рост папулярнасці сацыял-дэмакратычных (сацыялістычных) ідэй сярод шырокіх колаў насельніцтва, у тым ліку ў мястэчках. Аўтар называе прыблізную лічбу ў адзін мільён габрэяў, што эмігравалі ў ЗША і Заходнюю Еўропу з Расіі. Пра актывізацыю дзейнасці прыхільнікаў розных напрамкаў сіянізму Клейнбарт адзначае: *„В самом захудалом уголке вы встретите литературу, услышите сионистскую проповедь, увидите сбор пожертвований"*. Клейнбарт крытыкуе гэту ідэалогію і рух, адзначае цесную сувязь габрэйства з мясцовым насельніцтвам (*„сплетены тысячами экономических нитей"*). Ён вітае пашырэнне сацыял-дэмакратычнага руху, канстатуе, што рэвалюцыйная атмасфера, дух пратэсту былі характэрнымі для самых закінутых куточкаў мяжы габрэйскай аселасці, падкрэслівае вялікі попыт на адпаведную літаратуру — *„нужные книги", окруженные ореолом, те, что „будят много дум в голове, много в сердце огня", что учат сознавать человеческое достоинство, бороться за него"*. Цікавыя назіранні аўтара наконт сітуацыі ў невялікіх мястэчках: *„Люди прямо от азбуки переходят к „Известиям Бунда", „Искре", „Началу", „Новой Жизни"… В малых местечках, где обитают несколько десятков семейств, вы можете застать бедняка-еврея за чтением Плеханова, Каутского, Бебеля…"*[48].

Такім чынам, у гэтай невялікай па аб'ёме брашуры (40 старонак) фактычна адлюстраваліся ўсе галоўныя фактары, якія кардынальна змянілі жыццё габрэйскай супольнасці мяжы аселасці ў другой палове XIX — пачатку XX ст. Чатыры рухі — эміграцыя, асіміляцыя, сацыялізм і сіянізм — нароўні з такімі фактарамі, як працэсы індустрыялізацыі і ўрбанізацыі, пашырэнне чыгуначных зносін, вызначылі новую эпоху, што мела дэстабілізуючае ўздзеянне на традыцыйнае мястэчка. Сам аўтар, выхадзец з яго, як і многія яго землякі, абраў шлях свецкай адукацыі з далейшай акультурацыяй у расійскае інтэлектуальнае асяроддзе, стаў марксістам і рэвалюцыянерам, прафесійным літаратарам і журналістам (на рускай мове), напісаў вялікую колькасць артыкулаў, брашур, больш за 20 аб'ёмных кніг па гісторыі рабочага руху, журналістыкі, літаратуры. Леў Клейнбарт займаўся і педагагічнай дзейнасцю: у 1919–1920 гг. быў

[48] Л. Клейнборт, *Капитализм и еврейский вопрос*, Санкт-Петербург 1906, с. 16–17.

загадчыкам літаратурных студый Народнага камісарыята асветы, у 1921–1923 гг.— лектар і кіраўнік заняткаў па літаратуры ў літаратурных студыях Ленінградскага Пралеткульта[49].

Жонкай Льва Клейнбарта была Марыя Францаўна Лесгафт, дачка вядомага хіміка і пісьменніка Франца Францавіча Лесгафта і пляменніца педагога і лекара Пятра Францавіча Лесгафта. Дзяцей у іх не было. Памерла яна маладой у 1909 г. Больш Леў Навумавіч не ажаніўся, жыў у Лясным пад Пецярбургам, дзе ў яго былі дача, сад і любімы сабака Трэзор, там пастаянна бывалі маладыя паэты і празаікі, якім вядомы ўжо ў той час літаратар Л. Клейнбарт дапамагаў зацвердзіць сябе ў творчасці[50].

Клейнбарт з увагай ставіўся да творчай моладзі. Яму ў свой час накіраваў рукапіс сваёй першай кнігі паэзіі *„Радуница”* Сяргей Ясенін. З вясны 1910 г. Клейнбарт быў знаёмы з Янкам Купалам (праз свайго земляка Цішку Гартнага). Ён сустракаўся і перапісваўся з Купалам на працягу многіх гадоў. Ліст Янкі Купалы да Клейнбарта 1910 г. стаў першай вядомай аўтабіяграфіяй паэта (ён экспануецца ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску). Пазней у кнізе *„Молодая Белоруссия”* Клейнбарт напіша: *„Товарищ моей юности Александр Порфирьевич Еремич — директор Елисеевской больницы в Лесном — сказал мне, что у него имеется на руках свободная наличность, которую он предназначает для издания какого-нибудь поэта из народа. У меня же лежали на столе в это время „Радуница” Есенина, присланная мне им в рукописи, и стихи Янки Купалы, с чем я и пошел к Еремичу на встречу. Белорус по происхождению, он предпочел Купалу… Так и появилась „Шляхам жыцця”*[51].

Леў Навумавіч стаў аўтарам першага манаграфічнага раздзела пра Купалу ў кнізе *„Молодая Белоруссия. Очерк современной белорусской литературы. 1905–1928 гг.”*, прадмовы да *„Сборника стихов”* Купалы на рускай мове. Ён з’яўляецца аўтарам першай манаграфіі пра Янку Купалу *„Янка Купала. Опыт характеристики литературной и биографической”*, якая не была надрукавана з-за нападаў на Клейнбарта і Купалу вульгарна-сацыялагічнай крытыкі. Машынапіс манаграфіі захоўваецца ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. Дарэчы, Клейнбарт адным з першых убачыў у асобе Купалы цэнтральную фігуру беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Ён вызначаў творчы метад Купалы як рамантычны

49 ЦАГГН, фонд Льва Клейнбарта, ф. 586, № 429.

50 В. Шуракова, *История дома и его обитателей,* „Слава працы”, сайт газеты Капыльскага раёна: http://www.kopyl. by/?p=51570.

51 Л. Клейнборт, *Молодая Белоруссия*, Минск 1928, с. 186.

рэалізм, які зусім не ўпускаў з поля зроку рэчаіснасці. Леў Клейнбарт лічыў Купалу глыбока народным і арганічна нацыянальным паэтам. У асобе Клейнбарта Купала меў аднаго са сваіх самых значных біёграфаў і даследчыкаў-інтэрпрэтатараў[52].

Пра фундаментальную працу Клейнбарта па беларускай літаратуры Уладзімір Бонч-Бруевіч у 1929 г. пісаў, што кніга Клейнбарта пра маладую Беларусь, якая змяшчае нарысы развіцця беларускай літаратуры з 1905 года да нашых дзён, сабрала велізарны матэрыял не толькі друкаваны, але і рукапісны, што гэта першая кніга, якая дае шырокім колам рускіх пісьменнікаў магчымасць пазнаёміцца з усімі плынямі і этапамі сучаснай беларускай літаратуры на фоне сацыяльнай гісторыі Беларусі[53].

А трохі пазней з-за сваёй кнігі *„Молодая Белоруссия"* Клейнбарт быў абвінавачаны ў буржуазным нацыяналізме і пазбаўлены магчымасці публікаваць свае наступныя працы. Аб тым, што ён падпаў пад рухавік сталінскіх рэпрэсій ужо на пачатку 1930-х гг., сведчыць, у прыватнасці, адзін з дакументаў яго асабістага архіва — вопіс маёмасці палітвысланага Л. Клейнбарта ад 20 снежня 1931 г.[54] Нягледзячы на гэта, працягваючы плыць супраць цячэння, пажылы рэвалюцыянер вырашыў азнаёміць новае пакаленне з добрымі якасцямі інтэлігенцыі свайго часу. Клейнбарт заняўся сваім апошнім літаратурным праектам — стварэннем успамінаў пра мінулыя сустрэчы. У гэтых мемуарах падкрэсліваліся значэнне старой інтэлігенцыі для сучаснасці і перавага жыцця над догмамі. Цыкл мемуарных нарысаў Клейнбарта *„Встречи"* адлюстраваў шырокі спектр імёнаў. Гэта Уладзімір Караленка, Сяргей Ясенін, Давід Айзман, Міхаіл Туга-Бараноўскі, Мікалай Міхайлоўскі, Максім Горкі, Васіль Розанаў і інш. Успаміны і апавяданні былі напісаныя ў перыяд з 1938 па 1946 гады, у цяжкія для аўтара і краіны часы: арышт самога Клейнбарта, блакада Ленінграда, у якім ён пражываў[55], эвакуацыя. Яго сачыненні — унікальнае люстэрка таго часу, хоць гэта люстэрка ў пэўнай ступені можна лічыць крывым. Магчыма, менавіта гэта і прывяло да таго, што Клейнбарт быў

52 *Клейнбарт Л.,* [у:] *Янка Купала: Энцыклапедычны даведнік,* Мінск 1986, с. 298–299.

53 В. Шуракова, *История дома и его обитателей,* „Слава працы", сайт газеты Капыльскага раёна: http://www.kopyl. by/?p=51570.

54 ЦАГГН, фонд Льва Клейнбарта, ф. 586, № 455.

55 Дакументы з асабістага фонду Клейнбарта гэта адлюстроўваюць: даведка ад 18.04.1942 г., выдадзеная Ленінградскім навукова-даследчым нейрахірургічным інстытутам аб тым, што Л. Клейнбарт два месяцы знаходзіўся ў стацыянары для дыстрофікаў і пераведзены ў шпіталь для хранічна хворых імя К. Маркса (ЦАГГН, фонд Льва Клейнбарта, ф. 586, № 454).

забыты і вёў вартае жалю існаванне[56]. У 1936 г. стары марксіст, які жыў у вострай нястачы, з цяжкасцю дамагаецца пенсіі — з дапамогай водгукаў пра яго мінулыя заслугі вядомых літаратараў[57].

Цікава, што сярод эпісталярных крыніц з асабістага фонду Льва Клейнбарта ёсць лісты да яго І. Л. Шафрановіча з Капыля перыяду 1900–1903 гг. З іх вынікае, што гэты капыльскі настаўнік пісаў мастацкія і публіцыстычныя творы (напрыклад, пад загалоўкамі *„На заре”, „Безответный”, „Крызіс”, „На базаре”)* і дасылаў іх у сталічныя перыядычныя выданні (*„Будущность”, „Русское богатство”, „Образование”).* Шафрановіч прасіў Клейнбарта пацікавіцца наконт аўтарскіх экзэмпляраў і ганарару, адзначаў, што для яго літаратурная работа — мэта жыцця, але шмат часу забірае настаўніцкая праца — з 7 гадзін раніцы да 9 вечара, і калі б ён атрымліваў ганарары за публікацыю сваіх твораў, то змог бы адмовіцца ад 2–3 урокаў у дзень, каб пісаць[58]. З лістоў Шафрановіча бачна, што Леў Клейнбарт знаходзіў час, каб паклапаціцца пра выкананне просьбаў земляка.

Вельмі цеснымі і плённымі былі стасункі Клейнбарта з земляком Цішкам Гартным. У прадмове да манаграфіі *„Молодая Белоруссия”* аўтар выказаў глыбокую падзяку Гартнаму, адзначаючы: *„Ежели такие люди как Ив. Касаткин, Ал. Чапыгин, Ал. Неверов, С. Есенин, А. Новиков-Прибой, Н. Ляшко, П. Низовой и др. были для меня окном в „Рассею”, то Гартный был для меня окном в „Белорушчину”. С давних, давних лет Гартный не упускает случая, чтобы вручить мне все, что выходит на родном ему языке; рядом рукописных документов, использованных мною частью в статьях, частью в настоящей работе, обязан я ему. Едва ли я преувеличу, если скажу: без помощи этого пролетария, преданного и белорусской, и русской литературе, эта работа была бы неосуществима”*[59].

Прадмова да *„Молодой Белоруссии”* ўтрымлівае важную згадку аб уваходжанні Льва Клейнбарта ў пецярбургскае беларускае кола прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы: *„Настоящая работа задумана мною еще в пору петербургских встреч с Янкой Купалой, Тишкой Гартным, Б. И. Эпимах-Шипилой”*[60].

[56] К. Мондей, *Когда начальник вернулся: Лев Клейнборт, Василий Розанов и национализм,* „Белорусский сборник”, выпуск 6, Санкт-Петербург 2015, с. 106.

[57] *Фонды Капыльскага краязнаўчага музея,* папка № 20.

[58] ЦАГГН, фонд Льва Клейнбарта, ф. 586, № 223.

[59] Л. Клейнборт, *Молодая Белоруссия*, с. 5–6.

[60] Тамсама, с. 5.

Цікава, што Цішка Гартны стаў для Льва Клейнбарта „акном у Беларушчыну", а для Цішкі Гартнага такім „акном у Беларушчыну" стала газета *„Наша Ніва"*, падпісчыкам якой у Капылі быў доктар Клейнбарт — бацька Льва. Менавіта ад доктара першая беларуская газета трапіла ў рукі маладым капыльскім сацыял-дэмакратам, у тым ліку Жылуновічу[61].

**Зміцер Хведаравіч Жылуновіч / Цішка Гартны** (1887, Капыль — 1937, Магілёў) — няпростая, унікальная постаць у нашай гісторыі і культуры. За пералікам у біяграфічных даведках яго іпастасей — дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, беларускі паэт, празаік, публіцыст, драматург, перакладчык, літаратурны крытык, гісторык, дзяржаўны і грамадскі дзеяч БССР, старшыня першага савецкага ўрада Беларусі (1919), Акадэмік БАН (1928) — хаваецца складаны жыццёвы шлях ад простага хлопца-гарбара з Капыля да першага кіраўніка Савецкай Беларусі, і, урэшце, да палітзняволенага ў сталінскіх засценках, дзе яго дапытвалі ў тры змены і днём, і ноччу (тым, як яго катавала НКВД, палохалі іншых зняволеных)[62]. Палітычныя погляды Жылуновіча на працягу жыцця мяняліся. Ён прайшоў складаны шлях ад сацыял-дэмакрата леванародніцкага кірунку да нацыянал-бальшавіка. Анатоль Сідарэвіч пісаў: *„…Мы памятаем, што ён быў у шэрагу першых. Мы ведаем, што ў сілу сваіх здольнасцяў ён паслужыў беларушчыне. Жылуновіч прыйшоў у беларускі рух у перыяд рэакцыі і застаўся ў гэтым руху назаўжды. Ён быў пралетар? Але ён заслужаны перад Беларуссю пралетар. Ён быў камуністам? Але ніхто ня будзе аспрэчваць, што перш ён быў беларусам"*[63].

Жылуновіч паходзіць з беднай мяшчанскай сям'і чорнарабочых. Першапачатковую адукацыю Зміцер атрымаў дома, потым вучыўся ў „дарэктараў", хатніх настаўнікаў. У 1902 г. ён паступіў у двухкласнае Капыльскае народнае вучылішча, якое закончыў у 1905 г.

У лютым 1906 г. Зміцер уладкаваўся на працу ў гарбарню ў родным мястэчку. У Капылі працавалі гарбарныя і шавецкія майстэрні, піваварны завод, некалькі млыноў. Сярод рабочых было нямала тых, хто паспытаў шчасця ў буйных прамысловых цэнтрах. Цікава, што пазней Зм. Жылуновіч будзе параўноўваць капыльскіх рабочых з менскімі і здзіўляцца нізкаму ўзроўню свядомасці апошніх: *„Усе на падбор яны былі несвядомымі,*

[61] А. Сідарэвіч, *Рэвалюцыю рабілі чыстыя сэрцам рамантыкі, якія паверылі дэмагогам,* „Наша Ніва", https://nn. by/?c=ar&i=83058.

[62] Пісьменьнік Станіслаў Шушкевіч успамінаў: *„У суседнім пакоі (…) дапытвалі Гартнага. Чутно было — білі. Рамянямі і, відаць, нагамі… Дык мне [казаў] сьледчы Шчураў: „Не прызнаесься, Шушкевіч, добраахвотна… і ты трапіш да таварыша Цэйтліна"* (В. Дранько-Майсюк, *20 фактаў пра Зьмітра Жылуновіча*, https://www. svaboda. org/a/28422703. html).

[63] А. Сідарэвіч, *Заслужаны перад Беларуссю пралетар*, „Наша Ніва", https://nn. by/?c=ar&i=54056.




**Зміцер Жылуновіч, фрэзероўшчык (кваліфікаваны рабочы) на піцерскім заводзе „Вулкан", у руках – газета „Речь" (орган партыі кадэтаў)**

*малапісьменнымі, распуснымі. Змест іх гутарак не выходзіў з вузкага кола абгавору плянаў выпівак і залётаў за дзяўчатамі. Здарэнні, якія вынікалі з гэтага, смакаваліся, выклікалі рогат, рашучасць на працяг у далейшым. Мяне дзівіла, каб у Менску можна было стрэць гэтак адсталых у свядомасці і развіцці рабочых-гарбароў. Капыль пасля гэтага стаяў на недасягальнай вышыні…*"[64].

Рэвалюцыйную школу З. Жылуновіч прайшоў дзякуючы ўзгаданаму вышэй настаўніку-самавуку І. Шафрановічу — вядомай асобе ў капыльскім сацыял-дэмакратычным руху. Памешчык Ёдка дапамог Шафрановічу навучыцца слясарству, пасля чаго юнак паехаў у Пецярбург, працаваў на заводзе, удзельнічаў у рэвалюцыйным руху. Адседзеўшы ў турме, вярнуўся ў родны Капыль[65].

Жылуновіч упершыню трапіў на мітынг сацыял-дэмакратаў у 1904 г., пасля чаго ён на доўгі час звязаў свой лёс з Капыльскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыяй, стаў адным з найбольш дзейсных яе сяброў. Ён удзельнічаў у маёўцы 1904 г., у дэманстрацыях 1905 г. Гэта паслужыла галоўнай перашкодай пры паступленні ў 1906 г. у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, куды яго не прынялі з-за адсутнасці даведкі пра добранадзейнасць[66]. На працягу ўсяго жыцця займаўся самаадукацыяй.

Група РСДРП узнікла ў Капылі ў 1903 г., хутка ў ёй налічвалася больш за 100 чалавек. У капыльскіх сацыял-дэмакратаў была свая невялікая нелегальная бібліятэка, гектограф для друкавання пракламацый і адозваў, некалькі рэвальвераў. У 1905 г. група вырасла ў Капыльскую раённую

[64] Ц. Гартны, *„Дваццаць гадоў назад" (Успаміны зь мінулага),* „Полымя", № 5, 1929, https://www. svaboda. org/a/28422703. html.

[65] *Памяць: Капыльскі раён*, с. 81.

[66] Т. Дасаева, *Цішка Гартны і „Наша Ніва",* [у:] *Філасофія нацыянальнай медыяпрасторы (да 110-годдзя выхаду газет „Наша доля" і „Наша Ніва"): матэрыялы Рэспубл. навук.-практ. канф., 21 кастр. 2016 г.,* Мінск 2016, с. 42.

арганізацыю Паўночна-Заходняга камітэта РСДРП[67]. Жылуновіч быў сябрам бюро камітэта, кіраўніком культурна-асветніцкага аддзела.

Маці Зм. Жылуновіча вельмі злавалася, што яе сын — сябар РСДРП: *„Каб які неўдаль быў… бач, звязаўся з гэтымі дэмакратамі, каб на іх цураха… Глядзі, каб табе омегам ня вылезла гэта хеўра…”*,— цытуе яе словы Сцяпан Александровіч[68].

Цікава, што Змітра без узаемнасці кахала „бундаўка”, якой ён у Капылі выкладаў рускую мову: *„[У] Менску я зусім выпадкова спаткаўся з Сорай Блеўчыцкай, для якое наша спатканне мела характар шчаслівага выпадку.* — успамінаў Жылуновіч. — *Справа ў тым, што, закахаўшыся ў мяне, Сора не знаходзіла ў Капылі магчымасці часта сустракацца са мною… Яе маці, фанатычная законніца, пільна сачыла за дачкою, лаючы яе за належнасць да Бунду і знаёмства з гоямі. Нягледзячы [на гэта] я на працягу зімы вучыў Сору расейскай мове. Гэта зблізіла нас, і спатканне ў Менску мела ўрачысты характар”*[69].


Голос Низа.
№8. — 1911
Двухнедѣльный журнал кружка „Саморазвитiе и самообразованiе”

**Тытульная старонка аднаго з нумароў капыльскага рукапіснага часопіса**

Зм. Жылуновіч прымаў удзел у працы палітычнага гуртка ў Капылі пад назвай „Самаразвіццё і самаадукацыя”, у тым ліку ў выданні рукапісных часопісаў *„Заря”*, *„Голос низа”*, *„Вольная думка”*. Пра гэта напісаў Леў Клейнбарт у кнізе *„Молодая Белоруссия”*, адзначыўшы, што ініцыятарам і літаратурным натхняльнікам капыльскага самвыдата быў Цішка Гартны. Ён жа, а таксама Алесь Гурло і Фёдар (Хведар) Чарнушэвіч рабілі свой унёсак вершамі і апавяданнямі; публіцыстычныя артыкулы пісаў Фёдар Станілевіч; літаратурная крытыка была замацаваная за Фабіянам Шантарам. На гэтых жа людзях ляжала і тэхнічная праца па перапісванні часопісаў: *„Переписать же десять тетрадей для людей, над которыми висит двенадцатичасовой рабочий день, представляет*

[67] *Памяць: Капыльскі раён*, с. 81.

[68] В. Дранько-Майсюк, *20 фактаў пра Зьмітра Жылуновіча:* https://www. svaboda. org/a/28422703. html.

[69] Ц. Гартны, *„Дваццаць гадоў назад” (Успаміны зь мінулага),* „Полымя”, № 5, 1929: https://www. svaboda. org/a/28422703. html.

*задачу, конечно, не из лёгких"*. Паводле высновы Клейнбарта, *„Вольная думка"* па змесце была вытрымана ў духу *„Адраджэння"*. Артыкул *„Колькі слоў аб стварэнні журнала"* вызначаў мэту выдання — *„каб умацаваць роднае беларускае слова і разам з тым будзіць гэтым словам ад сну наша грамадства, няхай расце „Вольная Думка" беларуса-мужыка, няхай становіцца вялікай і свабоднай"*[70]. Клейнбарт назваў падобныя рукапісныя выданні сцяжынкамі, па якіх блукае пісьменнік-беларус, перш чым дабярэцца да *„Нашай Долі"* і *„Нашай Нівы"*[71].

У сваіх успамінах Жылуновіч апісаў першае выпадковае знаёмства з беларускім друкаваным словам. Восенню 1905 г. у Капыль трапілі нелегальныя брашуры і лістоўкі Беларускай сацыялістычнай грамады на беларускай мове. *„Яснасць сэнсу дзякуючы даступнасці і зразумеласці мовы вельмі кранулі мяне,*— згадваў Цішка Гартны.— *Я ўбачыў, як бы лёгка было праз беларускую літаратуру весці прапаганду ў беларускіх мястэчках і вёсках. Аднак, апроч некалькіх пракламацый і брашур пра зямлю, больш нічога да мяне не папала. Дастаць жа што-кольвечы новае на беларускай мове я не ведаў, дзе і як"*[72]. З *„Нашай Нівай"* Цішка Гартны пазнаёміўся толькі летам 1908 г. Падзея гэта стала паваротнай у яго жыцці, моцна паўплывала на яго літаратурную, журналісцкую і рэвалюцыйную дзейнасць. *„Прачытаўшы „Нашу Ніву" ад назвы да подпісу рэдактара, я быў у захапленні,*— пісаў Цішка Гартны.— *Мяне дзівіў не яе змест, не цікавасць раскладзенага ў ёй матэрыялу, а, галоўным чынам, даступнасць яе, яе блізкасць „духу" вакольнага беларускага жыцця, нарэшце, самы факт друкавання яе на беларускай мове. Апошняе было для мяне адкрыццём. Да гэтага часу я не мог сабе ўявіць, каб тая мова, на якой гутарылі мае бацькі, сяляне, але якой не відаць было ў кніжках, у школе, у абыходзе крыху бывалых людзей, каб на гэтай мове можна было друкаваць газету… „Наша Ніва" ўсім прыйшлася да густу, стала блізкай і цікавай"*[73].

Цішка Гартны на той час быў беспрацоўным і не мог выпісаць *„Нашу Ніву"*, але як толькі пайшоў на працу, з першага заробку выпісаў газету, атрымліваў яе кожны тыдзень і кожную нядзелю чытаў сваім сябрам. Дзякуючы *„Нашай Ніве"* ў Цішкі Гартнага абудзілася жаданне пісаць па-беларуску, ён захапіўся ідэяй беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння[74].

---

70 Л. Клейнборт, *Молодая Белоруссия*, с. 219.

71 Тамсама.

72 Ц. Гартны, *Дваццаць гадоў назад,* [у:] *Успаміны пра Цішку Гартнага,* Мінск 1984, с. 129.

73 Ц. Гартны, *Дваццаць гадоў назад,* с. 130–131.

74 Т. Дасаева, *Цішка Гартны і „Наша Ніва"*, с. 45.

Жылуновіч стаў самым пладавітым капыльскім карэспандэнтам *„Нашай Нівы"*. У пачатку 1909 г. ён даслаў у газету апісанне ладу жыцця мястэчка: *„Капыль лічыцца самым вялікім мястэчкам у павеце. Палова жыхароў — габрэі, яны занялі самы цэнтр мястэчка. Невялікая купка габрэяў багатых (усяго шостая частка) займаюць самыя бойкія месцы, маюць прыгожыя каменныя хаты і крамы, пабудаваныя пасля пажару 1905 г. Найбедная частка габрэяў — усе рамеснікі (найбедных у пяць разоў больш, чым багатых); гэта будуць: шаўцы, краўцы, кавалі, бондары; ім цяжка жыць і горш жывецца, чым гандлярам. Хаты іх драўляныя, з маленькімі вокнамі — цякуць і ў зямлю ўраслі. Сталае беспрацоўе павялічвае бядноту і гоніць шмат народа ў Амерыку. Іншая палова жыхароў — гэта мужыкі і мяшчане; яны жывуць у заходнім боку мястэчка і сярод габрэяў. Мяшчане і мужыкі займаюцца сельскай гаспадаркай. Найбедныя ідуць на заробкі ў лес. Жанчыны прадуць і ткуць — сваё або габрэйскае. У мястэчку яшчэ жыве каля сотні татараў; яны жывуць пры самой рацэ. Зямлі зусім не маюць, а займаюцца вырабам шкур"*[75].

З. Жылуновіч патлумачыў, адкуль у Капылі з'явіліся *„мужыкі і мяшчане"* (тэрмін з *„Нашай Нівы"*): казна пачала прадаваць чыншавую зямлю ў прыватныя рукі, і, такім чынам, хто змог набыць зямлю — той застаўся мешчанінам, а хто не меў грошай — узялі ў банку крэдыт на 49 гадоў і былі запісаныя сялянамі. Мяшчане пагарджалі сялянамі, і паміж імі была пэўная напружанасць[76].

Першы літаратурны псеўданім, які ўжываў Зм. Жылуновіч на старонках *„Нашай Нівы"*, быў Цімка Гартны. Так падпісаныя карэспандэнцыі з Капыля, якія характарызавалі палітычнае становішча ў мястэчку падчас рэвалюцыі 1905–1907 гг., калі ў Капылі была свабода, збіраліся вялікія тлумы мужчын, каб абмеркаваць палітычныя справы, працу Дзяржаўнай думы і г.д. Тады *„не пілі шмат гарэлкі, не сядзелі так у корчмах"*. Калі ж свабоду задушылі, то п'янства і разбой апанавалі Капыль. Людзі перасталі чытаць кніжкі і газеты, а толькі сядзелі ў корчмах і шынках ды гулялі ў карты. Гартны заклікаў ствараць таварыствы прасветы і бібліятэкі, „хаўрусныя крамы", „розныя суполкі", каб ажывіць грамадскае жыццё[77].

Гартны звяртаў увагу на праблему даволі масавай эміграцыі капылян у Амерыку. Да сваёй карэспандэнцыі пра гэта ў газету ён змясціў наступны

---

75 „Наша Ніва", 1909, № 11.

76 А. Унучак, *Капыль на старонках „Нашай Нівы" ў пачатку XX ст.*, [у:] *Капыль: гісторыя горада і рэгіёна,* Мінск 2012, с. 301.

77 А. Унучак, *Капыль на старонках „Нашай Нівы" ў пачатку XX ст.*, с. 298.

эпіграф: *„Не цурайся зямлі, працы і хаты, будзеш і дома багаты”*. Ён пісаў, што вельмі шмат моладзі пакідае Капыльшчыну ў пошуку лепшага жыцця за акіянам. Надзея на лёгкія амерыканскія грошы рэдка калі апраўдваецца. *„19 юля ў нас арыштавалі двух мужыкоў Навума Татарынчыка і Несцера Чарнушэвіча за тое, што яны займаліся адпраўкай людзей у Амэрыку. Колькі чалавек адпраўленых імі ўжо вярнуліся, бо не мелі пры сабе колькі трэба грошы (па 25 дол. = 45 руб.), дык іх туды не пусцілі. Вось гэтыя людзі і сказалі, што іх вязлі капыляне… Навума і Несцера пабралі і адправілі ў Слуцкую турму”*[78].

Цішка Гартны цікава апісваў сустрэчу Новага (1913) года ў сваім родным Капылі. Працытуем яго допіс на мове арыгінала (з асаблівасцямі капыльскай гаворкі, напрыклад, канчаткам -ум: *„нашум”*): *„Каля 20 хлопцоў і дзеўчат у сьвяточным адзеньні сышліся ў хату к аднаму таварышу сьвядомаму беларусу. А восьмай гадзіне вечэра пачалі гульню. Гулялі ў хванты і прысуджалі хлопцоў дэклямаваць, пеяць і жарты гаварыць. Дэклямацiя была ўся беларуская. Паэта Чэрн. гаварыў „Лукаша” Я. Коласа і „Пан і акуляры” А. Паўловіча. Ён сказаў надта добра, ажно ўсе лажыліся са сьмеху і хата трэшчала ад отплескоў. Потым загадывалі звацъ на вясельля, як некалі звалі ў нашум мястэчку. Потым а дванадцатуй гадзіне, паселі за стол, і Цішка сказаў павітаньне Новаму Году, на роднай беларускай мове. Пасьля перэцалаваліся ўсе між собою і пачалі бясёду, за якой біліся ў конфэсьці, с крыкам з „Новым Годам!” Далей лятучая почта і харавые песьні. Гульня зацягнулася да чацьвёртай гадзіны ночы і магла зацягнуцца да дня, але раптам найшла паліцiя і перэпісала ўсіх; горка было разыйсціся… Але павінны былі! Нeяк нудна і крыўдна, што гэткае бязвіннае рэчы нельга зрабіць, як стрэчу Новаго Году. Няўжо-ж паліція баіцца слова „Новы Год”?”*[79]

Ёсць звесткі аб тым, што Цішка Гартны прыстаў быў да трупы Ігната Буйніцкага, якая прыязджала з гастролямі і ў Капыль. А там, у трупе, былі і Цётка, і Алесь Бурбіс, і Мікола Шыла — гурток Беларускай Сацыялістычнай Грамады[80].

У 1909–1913 гг. Жылуновіч у пошуках працы шмат вандраваў (Мінск, Вільня, Бабруйск, Смаргонь, Магілёў, Палтава, Кіеў, Вількамір, Рыга і інш.). З 1913 г.— у Пецярбургу, пачаў працу на заводзе „Вулкан”, у 1914 г. перайшоў на завод „Айваз”, уваходзіў у культурна-асветніцкія суполкі

78 Тамсама, с. 301.

79 „Наша Ніва”, 1913, 10 студзеня, № 2.

80 А. Сідарэвіч, *Рэвалюцыю рабілі чыстыя сэрцам рамантыкі, якія паверылі дэмагогам,* „Наша Ніва”, https://nn. by/?c=ar&i=83058.

рабочых *„Знание”*, *„Образование”*, міжраённую арганізацыю меншавікоў, супрацоўнічаў з бальшавіцкімі газетамі *„Правда”*, *„Звезда”*, меншавіцкай *„Луч”*. Зблізіўся з гуртком студэнтаў-беларусаў, наведваў „штаб” беларускага нацыянальнага руху ў Пецярбургу — кватэру прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы[81].

Ксёндз Адам Станкевіч у сваёй брашуры *„Прафэсар Бpaніслаў Эпімах-Шыпіла: З яго жыцьця і працы”* пералічвае *„ў большай або ў меншай меры”* духовых дзяцей свайго настаўніка — як ксяндзоў, так і свецкіх. Сярод свецкіх айцец Адам называе Янку Купалу, Браніслава Тарашкевіча, Змітра Жылуновіча, Клаўдзія Дуж-Душэўскага, Тамаша Грыба, Леанарда Зайца і Язэпа Варонку. Цікава, што сярод іх два праваслаўныя, і абодва яны (Варонка і Жылуновіч) стануць першымі старшынямі першых беларускіх урадаў. Калі разам з названымі свецкімі дзеячамі ды Вацлавам Іваноўскім згадаць такіх асоб, як будучыя архімандрыты Фабіян Абрантовіч ды Андрэй Цікота, як ксяндзы Вінцэнт Гадлеўскі і сам Адам Станкевіч, дык становіцца зразумелым, што значыла для асобы Змітра Жылуновіча, для яго адукацыйна-культурнага развіцця пецярбургскае беларускае кола[82].

У 1916 г. Жылуновіч працаваў у Беларускім бежанскім камітэце, пачаў на ўласныя сродкі выдаваць газету *„Дзянніца”*. Газета працягвала дэмакратычныя традыцыі *„Нашай Нівы”*, змяшчала матэрыялы пра цяжкае становішча Беларусі ў Першую сусветную вайну, ставіла пытанні пра развіццё асветы, увядзенне ў школах навучання на роднай мове, абмяркоўвала пытанні беларускай граматыкі. Друкаваліся творы Цішкі Гартнага, Канстанцыі Буйло, Хвёдара Чарнышэвіча, Альбэрта Паўловіча і інш. Газета выдавалася з 1 лістапада да 31 снежня 1916 г., усяго выйшла сем нумароў[83].

У пачатку 1917 г. Жылуновіч уступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ), з’яўляўся адным з лідараў яе левай плыні. На з’ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску ў сакавіку 1917 г. ён быў абраны ў Беларускі нацыянальны камітэт, на ліпеньскім з’ездзе ў тым жа годзе — у Выканкам Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый. На 3-м з’ездзе БСГ у кастрычніку 1917 г. абраны сябрам ЦК партыі. Жылуновіч быў удзельнікам Першага Усебеларускага з’езда (снежань 1917 г.), адмоўна ўспрыняў факт яго разгону бальшавікамі[84].

81 А. Давідовіч, *Жылуновіч Зміцер Хведаравіч,* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі,* Мінск 1996, т. 3, с. 383.

82 А. Сідарэвіч, *Рэвалюцыю рабілі чыстыя сэрцам рамантыкі, якія паверылі дэмагогам,* https://nn.by/?c=ar&i=83058.

83 Т. Дасаева, *Цішка Гартны і „Наша Ніва”*, с. 45.

84 А. Давідовіч, *Жылуновіч Зміцер Хведаравіч*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі,* Мінск 1996, т. 3, с. 383.

З лютага па снежань 1918 г. Жылуновіч — галоўны сакратар, загадчык выдавецкага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята пры Наркамнацы РСФСР, адначасова рэдактар яго органа — газеты *„Дзянніца”*, якая пасля аднаўлення ў 1918 г. стала першай савецкай газетай на беларускай мове. Паводле высновы Анатоля Сідарэвіча, пры чытанні *„Дзянніцы”* за 1918 г. ствараецца дваістае ўражанне: рэдактар газеты Зм. Жылуновіч (пад псеўданімамі Шчыры Беларус, Стары сацыял-дэмакрат ды інш.) з бальшавіцкіх пазіцый граміў Раду БНР, *„здраднікаў працоўнага беларускага народа”*, і адначасна друкаваў даволі шмат (значна больш, чым Лёсікава *„Вольная Беларусь”*) матэрыялаў і Рады, і Народнага Сакратарыята. Пішучы ў *„Дзянніцы”* артыкулы аб неабходнасці самавызначэння Беларусі ў якасці аўтаномнай часткі Расійскай савецкай федэратыўнай рэспублікі, а з другога боку — крытыкуючы Раду і адначасна друкуючы інфармацыю пра жыццё ў непадсавецкай частцы Беларусі, Жылуновіч тым самым закладаў у свядомасць і нават у падсвядомасць чытачоў *„Дзянніцы”* пастулат незалежнай Беларусі, няхай сабе і савецкай[85].

У кастрычніку 1918 г. Зм. Жылуновіч уступіў у РКП(б). Яго выбіраюць старшынёй Цэнтральнага Бюро беларускіх секцый РКП(б). Паводле меркавання А. Сідарэвіча, планаваўся ўсебеларускі з’езд камуністычных арганізацый у Менску — Жылуновіч ды іншыя беларусы разумелі неабходнасць супрацьпаставіць бальшавікам Заходняй камуны беларускі камунізм[86].

Зм. Жылуновіч стаў адным з „айцоў-заснавальнікаў” ССРБ, аўтарам маніфеста аб яе абвяшчэнні. З 1 студзеня да 2 лютага 1919 г. — старшыня Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі. Цікава, што з 19 чальцоў першага савецкага ўрада 5 было слуцка-капыльскіх землякоў (акрамя Жылуновіча яшчэ Фабіян Шантыр, Язэп Дыла, Зміцер Чарнушэвіч, Ісак Рэйнгольд)[87].

І зноў спашлемся на ацэнку А. Сідарэвіча: *„(…) Як палітык Жылуновіч быў нявопытны чалавек. І з прычыны сумленнасці празмерна даверлівы. Жылуновіч доўга не разумеў, што да ўлады ў Расіі прыйшлі людзі (далей цытуецца Антон Луцкевіч), „гатовыя на ўсё, пазбаўленыя ўсякіх „скрупулаў”, далёкія ад гуманітарызму…”*[88].

---

85 Тамсама.

86 А. Сідарэвіч, *Рэвалюцыю рабілі чыстыя сэрцам рамантыкі, якія паверылі дэмагогам,* https://nn. by/?c=ar&i=83058.

87 А. Сідарэвіч, *Заслужаны перад Беларуссю пралетар*, https://nn. by/?c=ar&i=54056.

88 А. Сідарэвіч, *Рэвалюцыю рабілі чыстыя сэрцам рамантыкі, якія паверылі дэмагогам,* https://nn. by/?c=ar&i=83058.



**„Янка Купала і Цішка Гартны ў Капылі", мастак — Уладзімір Пасюкевіч,1930 г.**

З Капылём звязаныя таксама іншыя імёны беларускай гісторыі і культуры пачатку XX ст.— Алесь Гурло, Хведар Чарнышэвіч, Лявон Лобік, Нічыпар Чарнушэвіч (Чарнышэвіч), Мікола Хведаровіч, Зміцер Чарнушэвіч, Міхал Мароз і інш.

**Алесь Гурло** (Аляксандр Кандратавіч Гурло;1892, Капыль — 1938, Мінск) — беларускі паэт, празаік, перакладчык, лінгвіст. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і з мяшчанскімі каранямі. Скончыў Капыльскае 4-класнае вучылішча (1908). Працаваў чорнарабочым на лесапільні, зарабляў падзённай работай. У 1909 г. уступіў у Капыльскую арганізацыю РСДРП; удзельнічаў у выданні рукапісных часопісаў *„Заря"*, *„Голос низа"*, *„Вольная думка"* (1910–1911, Капыль). У 1912 г. з дапамогай Зм. Жылуновіча ўладкаваўся на работу на ліцейны завод „Вулкан" у Санкт-Пецярбургу. Наведваў беларускія сустрэчы на кватэры Б. Эпімах-Шыпілы[89]. З 1914 г. служыў на Балтыйскім флоце. Душэўны стан юнага паэта ў гэты складаны час адлюстраваўся ў вершы *„Я вольна жыць хачу"* (1915):

*Змагацца я прывык… Жыццё — мая стыхія,*
*І з ранніх дзён вядома мне турма,*
*І дні вядомы мне, няволяю ліхія,*
*А шчасце — вораг мой: яго ў мяне няма!*
*За ім ганяюсь я, лаўлю яго вачамі,*
*І насустрэч я мыслямі лячу,*
*Не сплю, чакаючы, я цэлымі начамі,*
*Бо,— даўні раб,— я вольна жыць хачу!*
*Я прабаваў усё: ахвяры і маленні;*
*Не чуў іх Бог, не чуў і чалавек:*
*Заместа хлебных луст мне кідалі камені…*

89 Л. Клейнборт, *Молодая Белоруссия*, с. 295.

*Я кляў сябе і свой злашчасны век.*
*Бурліла кроў мая, мацнелі мае сілы,*
*Пуцінай барацьбы я шчасце стаў шукаць;*
*І што ж перада мной? Вялікі рад магілаў…*
*І мушу я між іх, бы ўкопаны, стаяць.*
*Наўкол ліецца кроў, наўкол людскія цені…*
*Як бы шалелы, я не знаю, што рабіць.*
*А сонца кідае крывавыя праменні:*
*Куды ісці? Я вольна хачу жыць!..*

Далейшы лёс Алеся Гурло, паводле біяграфічных даведнікаў, склаўся наступным чынам. З атрадам рэвалюцыйных матросаў ён прымаў удзел у штурме Зімняга палаца, у падаўленні эсэраўскага мяцяжу ў Яраслаўлі, у барацьбе з калчакаўцамі. У 1919 г. цяжка паранены пад Казанню; камісаваны з войска як інвалід. У 1921 г. вярнуўся на Беларусь, жыў у Мінску. Збіраў вусную народную творчасць. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Працаваў у Наркамаце асветы БССР, у 1922–1923 гг. — у газеце „*Савецкая Беларусь*". У 1920-я гг.— у тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта; займаўся ў аспірантуры. У 1929–1930 гг. навуковы супрацоўнік Інстытута мовы Беларускай Акадэміі Навук. Браў удзел у стварэнні тэрміналагічных слоўнікаў; падрыхтаваў і выдаў слоўнік „*Тэхнічная тэрміналогія*" (вып. 1. Мн., 1932), рыхтаваў слоўнік краўцоўскай мовы мяст. Капыль і краёвы слоўнік Капыльшчыны (матэрыялы загінулі падчас Другой сусветнай вайны). Быў членам літаратурных аб'яднанняў „*Маладняк*", „*Полымя*", „*Пробліск*". Арыштаваны ДПУ БССР 25 ліпеня 1930 г. па справе „Саюза вызвалення Беларусі". Высланы ў Самару на 5 гадоў (умоўна). Памёр ад сухотаў. Пахаваны на Вайсковых могілках Мінска. Рэабілітаваны 15 лістапада 1957 г. Дэбютаваў у 1907 г. вершам у газеце „*Наша Ніва*". У 1912 г. напісаў сямейна-бытавую драму „*Любоў усё змагае*". У 1920-я гг. выйшлі зборнікі паэзіі „*Барвёнак*", „*Спатканні*", „*Сузор'і*", „*Зорнасць*", „*Межы*". Перакладаў на беларускую мову творы рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў Аляксандра Аўдзеенкі, Фёдара Гладкова, Уладзіміра Стаўскага і інш[90].

У „*Нашу Ніву*" Алесь Гурло дасылаў не толькі свае літаратурныя творы, але і карэспандэнцыі з Капыля пра жыццё ў мястэчку.

[90] *Беларускія пісьменнікі (1917–1990): Даведнік* / Склад. А. К. Гардзіцкі, Мінск 1994, http://www. slounik.org/80943. html.

У адным з допісаў апісваў выставу коней у Капылі 6 жніўня 1911 г., калі многія капыльцы атрымалі ўзнагароды за пародзістых жывёл. А. Гурло пісаў: *„Пасля выстаўкі гаварылі прамовы ў нашай роднай беларускай мове: як выбіраць добрага каня, карову, як выгадаваць іх, як карміць? І неяк радасна робіцца на сэрцы, што беларуская мова заваявала між людзьмі прыхільнікаў, што яна не толькі вырываецца з грудзей мужыка-беларуса, калі ён гаворыць сваім братам, а выліваецца з грудзей паноў к мужыкам, дый публічна"*. Беларуская мова з вуснаў *„паноў"* магла гучаць у выпадку выступлення Эдварда Вайніловіча, шматгадовага старшыні Мінскага сельскагаспадарчага таварыства. Магчыма яшчэ нехта з мясцовых землеўладальнікаў карыстаўся беларускай мовай. Фактычна ў *„Нашай Ніве"* канстатавалася, што на Капыльшчыне зямельная эліта прыхільна ставілася да беларускага руху[91].



**Алесь Гурло**

Андрэй Унучак, прааналізаваўшы матэрыялы з Капыля ў *„Нашай Ніве"*, канстатаваў, што Капыль прысутнічаў на палосах газеты ці не найчасцей за іншыя беларускія мястэчкі. Звярнуўшы ўвагу на значнае павелічэнне карэспандэнцый з Капыля ў 1910 г., даследчык зрабіў выснову пра існаванне ў гэты час у мястэчку беларускага нацыянальнага гуртка[92]. Невыпадкова трупа Ігната Буйніцкага абрала Капыль месцам доўгатэрміновых гастроляў. Апісваючы прадстаўленні беларускага тэатра, капыльскі карэспандэнт у захапленні адзначыў: *„… Дзесяткі разоў публіка вызывала артыстаў як прыезджых, так і капылян-любіцелёў і паднасіла ім вянкі, кветкі, цукеркі… Здавалася, што ўсе віталі Вялікдзень беларускага адраджэння. Адным словам, беларускі тэатр у Капылі падняў настраенне і даў знаць многім, хто не хацеў ні чуць, ні ведаць, што Беларусь жыве і ніякія дзікія сілы не стрымаюць ужо яе адраджэнне"*[93].

[91] А. Унучак, *Капыль на старонках „Нашай Нівы" ў пачатку XX ст.*, с. 302.

[92] Тамсама, с. 305–306.

[93] Тамсама, с. 305.

Ператварэнне Капыля ў асяродак беларускага руху адзначае і Святлана Снапкоўская. Паводле яе звестак, у адным з нумароў *„Нашай Нівы"* за 1913 г. паведамлялася, што рабочыя-беларусы з Капыля звярнуліся ў Дзяржаўную думу з патрабаваннем прызнаць беларускую мову, дазволіць нацыянальныя таварыствы і падтрымаць прашэнне да ўрада аб адкрыцці ў Беларусі ўніверсітэта[94].

Частка допісаў з Капыля ў *„Нашу Ніву"* належала будучаму паэту ***Хведару Чарнышэвічу***. Так, у жніўні 1912 г. ён пісаў, што ў Капылі ёсць беларускі гурток, які збірае мясцовыя песні, легенды, казкі, прыказкі і г.д. Ён падаў кароткі слоўнік старой капыльскай (кравецкай) мовы, якой гавораць людзі, што маюць 90–100 гадоў: *„хлеб — супік, хлопец — лабур, дзеўка — карбоньня, конь — ловат, рукі — ключысы, ногі — хадыркі, зубы — секачы, пабіць — накопсаць, гаварыць — зюкаць, работа — буска"*. Чарнышэвіч пісаў таксама, што 12 капыльскіх хлапцоў навучаюцца ў настаўніцкай семінарыі. Але з павышэннем узроўню адукацыі, адзначаў ён, не заўсёды павялічваецца ўзровень культуры: *„ …у нас, напрыклад, як выйдзе хлопец у народныя вучыцелі, ды надзене гузікі, то ўжо свайго цураецца і чэша па-расейску, хоць пры гэтым і са сваім родным бацькам разгаварыцца ня можа"*[95].

Біяграфічных звестак пра Х. Чарнышэвіча захавалася вельмі мала. Нарадзіўся ў пачатку 1880-х гг. у мяст. Капыль. Шукаў працу па вёсках Случчыны, займаўся кравецкай справай. З 1916 г. некаторы час працаваў на адным з заводаў Петраграда. З 1919 г. жыў каля Нясвіжа. Вершы Х. Чарнышэвіча пачалі з'яўляцца ў друку з 1908 г.— на старонках газет *„Наша Ніва"* (асабліва актыўна ў 1910–1913 гг.), *„Беларуская думка"*, *„Родная страха"*, *„Дзянніца"*, у часопісах *„Вольная думка"*, *„Маладая Беларусь"*, беларускіх календарах. Ц. Гартны змяшчаў яго творы ў капыльскіх рукапісных выданнях. Лірыка паэта даволі разнастайная. У ёй выразна гучала тэма Бацькаўшчыны, заклік беларусаў да свядомага жыцця (*„Прачынайся, мой край"*, *„Жыве Беларусь"* і інш.). Актыўна абараняў родную мову і літаратуру (верш *„Злыдні панурыя, чорныя"*). Яго пейзажная лірыка сведчыць пра тонкасць і далікатнасць аўтарскага ўспрыняцця прыроды роднага краю. У паэтычнай спадчыне Х. Чарнышэвіча ёсць вершы, якія можна аднесці да інтымнай лірыкі. Аўтар паэмы *„Нявольнік"*, напісанай у 1918 г. У 1911 г. пераклаў і пад рэдакцыяй Я. Купалы выдаў паэму *„Кацярына"* Тараса Шаўчэнкі[96].

[94] С. Снапковская, *Проблемы белорусской национальной школы в педагогической мысли конца XIX — начала XX в.*, [в:] *Очерки истории науки и культуры Беларуси IX — начала XX в.*, Минск 1996, с. 194.

[95] А. Унучак, *Капыль на старонках „Нашай Нівы" ў пачатку XX ст.*, с. 306.

[96] *Памяць: Капыльскі раён*, с. 92.

Аўтарам „*Нашай Нівы*" быў таксама ***Лявон Сцяпанавіч Лобік*** (1871, в. Кукавічы Слуцкага павета (цяпер Капыльскі раён) — 1918, Капыль) — беларускі паэт, публіцыст. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Настаўнічаў у вёсках Капыльшчыны. З 1905 г. далучыўся да сацыял-дэмакратычнай групы Капыля, стаў яе актывістам: атрымліваў і распаўсюджваў прапагандысцкую літаратуру, праводзіў сходы. За ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905–1907 гг. быў сасланы на 3 гады ў Краснаярскі край. Потым Лобіку было дазволена пасяліцца ў паволжскім гарадку Чорны Яр. Пасля сканчэння тэрміну высылкі жыў у Пінску, пазней вярнуўся ў родныя мясціны, працаваў настаўнікам, сакратаром у Нясвіжскага міравога суддзі. У гэты час ён піша вершы, артыкулы, шмат нататак дасылае ў „*Нашу Ніву*", з'яўляўся сталым карэспандэнтам беларускай газеты на Капыльшчыне, Случчыне, Нясвіжчыне, збіраў грошы на яе выданне. У адным са сваіх допісаў у „*Нашу Ніву*" сцвярджаў, што Капыльская зямля багатая на мінералы, бо глеба месцамі дае добры ўраджай без гною да 25 гадоў. Як удзельнік беларускага руху быў арыштаваны і зняволены ў турме ў Вільні. У ссылцы і турмах падарваў здароўе, хварэў на сухоты. Памёр у канцы сакавіка 1918 г. у капыльскай бальніцы, пахаваны ў Капылі на мясцовых могілках, поруч са славянскімі курганамі XII ст[97].

***Чарнушэвіч (Чарнышэвіч) Нічыпар Тодаравіч*** (Фёдаравіч, Хведаравіч) (1900, Капыль — 1967, Мінск) — паэт, перакладчык, драматург. Паходзіў з сялянскай сям'і, якая страціла статус мяшчанства. Падчас Першай сусветнай вайны ў бежанстве ў Калузе. У 1917 г. вярнуўся на Радзіму; у 1917–1920 гг. настаўнічаў у Траянаўскім народным вучылішчы на Капыльшчыне. У 1922–1928 гг. вучыўся на сацыяльна-гістарычным аддзяленні педагагічнага факультэта БДУ. Адначасова працаваў у газеце „*Савецкая Беларусь*". Першыя вершы апублікаваў у 1923 г. у часопісе „*Полымя*". Сябра літаб'яднання „*Маладняк*". У 1926 г. разам з М. Модэлем быў рэдактарам друкаванага органа беларускага студэнцтва „*Голас студэнта*". З 1929 г. слухач Вышэйшых навукова-педагагічных курсаў пры 2-м Маскоўскім універсітэце. Арыштаваны ГПУ БССР 27.3.1930 па справе „Саюза вызвалення Беларусі". 10.4.1931 прысуджаны да 5 гадоў ссылкі ў Вятку. У 1931–1935 гг. супрацоўнік газеты „*Вятская правда*". У жніўні 1935 г. абвінавачанні знятыя (канчаткова рэабілітаваны ў 1960 г.). У 1935–1941 гг. выкладчык гісторыі ў школах Масквы. У кастрычніку 1941 г. эвакуяваўся ў Цюмень, дзе працаваў загадчыкам аддзела ў рэдакцыі

[97] *Памяць: Капыльскі раён,* с. 90–91.

газеты „*Тюменская правда*" (публікаваў там свае нарысы, вершы, сатыру). У 1947 г. вярнуўся ў Мінск. Працаваў выкладчыкам гісторыі Мінскай афіцэрскай школы, інжынерам трэста папяровай прамысловасці, у Белдзяржвыдавецтве, на Беларускім радыё. Член СП Беларусі з 1957 г. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску. Аўтар зборнікаў вершаў „*Дзіва*", „*Нясу надзею*", „*Гаворка дум*", „*Выбраныя вершы*", п'ес „*Шукальнікі вышыні*" (прэмія на рэспубліканскім конкурсе, 1947), „*Сям'я доктара Чыверса*", кінасцэнарыя „*Арсенал пачуццяў*" (прэміраваны на ўсесаюзным конкурсе на лепшы кінасцэнарый, 1957). Перакладаў на беларускую мову творы расійскіх, украінскіх, габрэйскіх паэтаў[98].

***Мікола Хведаровіч*** (сапр. Чарнушэвіч Мікалай; 1904, Капыль — 1981, Мінск) — паэт, празаік, перакладчык, брат пісьменніка Нічыпара Чарнушэвіча. У часы Першай сусветнай вайны як бежанец жыў у Калузе, у дзіцячым прытулку для дзяцей-бежанцаў, займаўся ў гарадскім вучылішчы. У 1918 г. вярнуўся дамоў і паступіў у Цімкавіцкае гарадское вучылішча, пазней вучыўся ў Капыльскай працоўнай школе 2-й ступені. З прыходам немцаў працаваў батраком. Пасля прыходу Чырвонай Арміі (1919) — удзельнік прадатрадаў і часцей асобага прызначэння, адзін з арганізатараў камсамольскіх ячэек на Случчыне. У 1928 г. скончыў рабфак у Мінску, а затым літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ (1931). Працаваў у часопісах „*Партыйны работнік*" і „*Бальшавік Беларусі*", рэдактарам часопіса „*Чырвоная Беларусь*", загадчыкам кабінета маладога аўтара СП БССР, адказным сакратаром часопіса „*Полымя рэвалюцыі*". Арыштаваны 3.8.1938. Асуджаны (16.7.1940) на 8 гадоў пазбаўлення волі. Знаходзіўся ў зняволенні ў лагерах на Кольскім паўвостраве, удзельнічаў у будаўніцтве Манчагорска, з 1941 г.— ва Усцьвытлагу (Комі АССР). З 1946 г. працаваў у Каршынах (Узбекістан). Паўторна арыштаваны 22.5.1949; сасланы (3.8.1949) у Енісейск Краснаярскага краю. Рэабілітаваны 28.9.1955. З 1956 г.— у Мінску. У друку пачаў выступаць з 1924 г. Сябра СП СССР з 1934 г. Выйшлі кніжкі паэзіі „*Настроі*", „*Рытмы*", „*Баявыя песні*", „*Тэмпы-кантрасты*", „*Вайна за мір*", „*Ха*" (жарты, пародыі), „*Усім сэрцам*", „*Залаты лістапад*", „*Перазвон бароў*", „*Пасля навальніцы*", „*Зоркі на камені*", „*Крынічка*", „*Любістак*". Выйшлі „*Выбраныя творы*" ў двух тамах. Аўтар шэрагу кніжак для дзяцей. Выдаў кнігі ўспамінаў „*Памятныя сустрэчы*", „*Незабыўнае*", „*Споведзь перад будучыняй*". Перакладаў на

[98] Л. Маракоў, *Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асьветы, грамадзкія і культурныя дзеячы (1794–1991),* http://www. marakou. by/by/davedniki/represavanyya-litaratary.

беларускую мову творы Аляксандра Пушкіна, Аляксандра Фадзеева, Эдуарда Багрыцкага, Шата Руставелі, Усевалада Кочатава, Шандра Пецёфі і інш. Лаўрэат прэміі вугорскага агенцтва па літаратуры і мастацтве „Артысіуз” (1981) за прапаганду вугорскай паэзіі на беларускай мове[99].



**Удзельнікі творчай вечарыны Міколы Хведаровіча (у цэнтры), другі злева — пісьменнік і грамадскі дзеяч Алесь Адамовіч (ураджэнец в. Канюхі Капыльскага раёна), Капыль, 1974 г.**

***Зміцер Сілыч Чарнушэвіч*** (1882, Капыль — 1938, Мінск) — мовазнавец, дзяржаўны дзеяч БССР. З 1901 г. працаваў у канцылярыях станавых прыставаў у Капылі, Брагіне, Юравічах. З 1904 г. быў у эміграцыі ў Амерыцы, чорнарабочы. У 1906–1907 гг. і ў 1914–1917 гг. у арміі, у 1908–1914 гг.— канторшчык страхавога таварыства „Расія”. Член РКП(б) з 1917 г. Са студзеня 1918 г. — сакратар Слуцкага павятовага аб’яднання кааператываў, у сакавіку — маі 1918 г. знаходзіўся ў канцлагеры за бальшавіцкую прапаганду сярод нямецкіх салдат. З кастрычніка 1918 г.— у Маскве, працаваў у Белнацкаме і беларускай секцыі РКП(б). У студзені — лютым 1919 г. — член Часовага ўрада ССРБ, народны камісар сацыяльнага забеспячэння. У 1919 г. — член ЦВК Літоўска-Беларускай ССР. З красавіка 1919 г. на савецкай і партыйнай рабоце ў Мінскім і Смаленскім губкамах. У 1921–1931 гг. быў членам ЦВК БССР. З сакавіка 1924 г. наркам унутраных спраў БССР, з верасня — сакратар ЦВК БССР. З 1927 г. — старшыня

[99] Л. Маракоў, *Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асьветы, грамадзкія і культурныя дзеячы (1794–1991)*, http://www. marakou. by/by/davedniki/represavanyya-litaratary.

Управы дзяржаўнага страхавання БССР. У пачатку 1930-х — намеснік дырэктара Інстытута літаратуры, мастацтва і мовы БелАН. У часе кампаніі чыстак пазбаўлены адказных пасад; працаваў картатэчнікам Мінскага аддзялення Беларускай управы сельскагаспадарчага забеспячэння. Арыштаваны 25.1.1938. 28.6.1938 прысуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР *„як агент германскіх і польскіх разведорганаў"* да вышэйшай меры пакарання, расстраляны. Рэабілітаваны 2.12.1958[100].

***Аляксандр Анікееевіч Чарнушэвіч*** (1899, Капыль — 1937, Мінск) — партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР. Удзельнік партызанскага руху на Беларусі ў грамадзянскую вайну, потым — „барацьбы з бандытызмам". З 1922 г. на партыйнай рабоце: сакратар Грэскага райкама КП(б)Б, загадчык аддзелаў Бабруйскага і Віцебскага акруговых камітэтаў партыі, культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б. З кастрычніка 1932 г.— сакратар Мінскага гаркама КП(б)Б. У сакавіку 1933 — лютым 1936 г. — наркам асветы БССР, потым загадчык аддзела забеспячэння Беларускай геалагічнай разведкі. Член ЦК КП(б)Б у 1929–1936 гг., член Бюро ЦК КП(б)Б у 1931–1934 гг. Арыштаваны 19.6.1937. Прысуджаны „тройкай" НКВД 28.10.1937 як *„член нацыянал-фашысцкай шкодніцкай арганізацыі"* да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.12.1956[101].

***Міхал Мароз*** (1895, Капыль — 1947) — дзяржаўны дзеяч, педагог, выдавец. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю; настаўнічаў у сельскай школе. З 1916 г. у арміі. Удзельнік Кастрычніцкага ўзброенага паўстання 1917 г. у Петраградзе. У 1918–1919 гг. супрацоўнік бежанскага аддзела Белнацкама. З красавіка 1919 г. выкладчык Камуністычнага ўніверсітэта ў Гомелі. З 1922 г. паўнамоцны прадстаўнік БССР у РСФСР; загадчык беларускага сектара Камуністычнага ўніверсітэта нацыянальных меншасцей Захаду. У 1924–1925 гг. — загадчык Белдзяржвыдавецтва ў Мінску. Друкаваўся ў газеце *„Савецкая Беларусь"*. З 1926 г. кіраўнік спраў СНК БССР, старшыня камісіі Інбелкульту па ахове помнікаў старадаўнасці, мастацтва і прыроды, сябра гісторыка-археалагічнай секцыі Інбелкульту. Арыштаваны 3.11.1937. 3.12.1940 прысуджаны да зняволення ў лагерах, дзе і памёр[102].

***Мікалай Савіч Гурло*** (1895, Капыль —?) — педагог, атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў выкладчыкам у Магілёўскай партыйнай школе. Арыштаваны 6.6.1919. Абвінавачваўся ў *„прыналежнасці да партыі*

---

100 Тамсама.

101 Л. Маракоў, *Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асьветы, грамадзкія і культурныя дзеячы (1794–1991),* http://www. marakou. by/by/davedniki/represavanyya-litaratary.

102 Тамсама.

*левых сацыялістаў-рэвалюцыянераў"*. Вызвалены 6.6.1925. Рэабілітаваны следчым аддзелам Магілёўскага ГПУ БССР 23.6.1925. Далейшы лёс невядомы[103].

***Аляксей Васільевіч Гурло*** (1894, Капыль — 1960) — першы рэктар Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі (БДІНГ) у 1933–1935 гг. Скончыў Капыльскае двухкласнае вучылішча. У 1913 г. падаўся ў Рыгу, дзе ўладкаваўся паштальёнам. У Першую сусветную вайну служыў у войску. У канцы 1915 г. атрымаў званне унтэр-афіцэра. На Румынскім фронце быў паранены, доўга лячыўся ў Кіеве, у пачатку 1917 г. камісаваны. Вярнуўся ў Капыль, дзе быў прыняты ў Капыльскую паштова-тэлеграфную кантору на курсы рахункаводаў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі з Масквы вярнуўся брат Мікалай — бальшавік, заўзяты палітык, які ўвайшоў у склад Капыльскага рэўкама, быў начальнікам міліцыі (у будучым Мікалай Гурло займаў пасаду намесніка наркама пошты і тэлеграфа БССР, быў расстраляны ў 1938 г.). Аляксей таксама ўвайшоў у групу капыльскіх савецкіх актывістаў. З 1922 г. вучыўся на рабфаку БДУ, пасля сканчэння стаў яго дэканам, паралельна займаўся на завочным аддзяленні аспірантуры Акадэміі навук, дзе вывучаў эканамічную геаграфію. У 1931 г. стаў дэканам факультэта народнай гаспадаркі БДУ. Напачатку 1933 г. узначаліў БДІНГ. У лістападзе 1935 г. быў выключаны з партыі. Яго абвінавачвалі ў *„падмане партыі, манархічных перакананнях, эсэраўскім настроі"*. 14 мая 1936 г. адмысловай нарадай пры НКВД СССР асуджаны на тры гады пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Комі АССР. Рэабілітаваны ў 1956 г. У 1941 г. быў мабілізаваны ў шэрагі Чырвонай арміі, але праходзіў службу ў будаўнічым батальёне (будаваў абарончыя ўмацаванні). Пасля вайны жыў і працаваў у Магілёве — памочнікам старшыні Магілёўскага аблвыканкама, пазней — у Магілёўскім абласным спажывецкім саюзе[104].

З Капылём быў звязаны публіцыст, празаік, паэт, перакладчык, грамадскі і дзяржаўны дзеяч ***Фабіян Шантыр*** (1887–1920), які стаўся адной з першых ахвяр бальшавіцкага тэрору як у беларускай палітыцы, так і ў беларускай літаратуры. Па некаторых звестках месцам яго нараджэння быў не Слуцк, а Капыль.

Дакладна вядома, што Фабіян Шантыр нейкі час жыў у Капылі, уваходзіў у капыльскую сацыял-дэмакратычную арганізацыю, прымаў удзел у выданні рукапісных часопісаў у Капылі (1910–1911 гг.). У першым урадзе Савецкай

---

[103] Тамсама.

[104] *Памяць: Капыльскі раён,* с. 149–150.



**Фабіян Шантыр**

Беларусі Ф. Шантыр быў камісарам па нацыянальных справах, але ўсяго пару тыдняў. У канцы лютага 1919 г. ён быў зняволены ў мінскай турме. Праз год яго зноў арыштавалі, абвінавацілі ў *„нацыянальнай контррэвалюцыі"* і расстралялі.

Усталяванне савецкай улады ў Капылі праходзіла з вялікімі цяжкасцямі. З успамінаў Самуіла Столяра, слуцкага чэкіста, вынікае, што ён у 1919 г. прымаў актыўны ўдзел у падаўленні антысавецкага паўстання ў Капылі, арганізаванага шляхтай[105]. У сакавіку 1919 г. адно з сялянскіх антысавецкіх выступленняў, накіраваных супраць харчразвёрсткі, узначаліў у Капылі мясцовы эсэр Сяргей Мароз. Дзеля падаўлення паўстання ў мястэчка тэрмінова прыбыў атрад чырвонаармейцаў пад камандаваннем Антона Шкадарэвіча, ураджэнца Капыля, першага старшыні Капыльскага рэўкама і райвыканкама. Апошні ў сваіх успамінах адзначыў: *„Больш за 5 гадоў я ўзначальваў органы савецкай улады на Капыльшчыне. То былі гады напружанай барацьбы"*[106]. Вядомы імёны многіх капылян, якія актыўна падтрымалі савецкую ўладу.

Сярод савецкіх актывістаў было дастаткова шмат габрэяў. Гэта пытанне цікавым чынам закранаецца ў нататках польскага разведчыка Барыса Заржэцкага, які апісвае сваё знаходжанне *„в Совдепии"* ў маі 1922 г. Ён сярод іншага прыводзіць звесткі пра супрацоўнікаў асобага аддзела ГПУ ў Капылі. Начальнік паста Озераў, былы паруччык з афіцэраў ваеннага часу, ахарактарызаваны як *„формалист, слабо развит, глуп"*. Твардоўскі — камендант граніцы, камуніст, паляк, *„пьёт без просыпу, нетвёрд на ногах, говорит про себя, что он борец за единую, неделимую, всемирную советскую республику"*; ваенны следчы габрэй Яжэўскі — *„миролюбивый, развитый, гимназического образования, интеллигентный*

105 І. Пушкін, *Узброены супраціў ва Усходняй Беларусі (20–30-я гг. XX ст.): дакументы і матэрыялы,* Магілёў 2003, с. 39.

106 *Памяць: Капыльскі раён,* с. 107, 121.

*человек, очень уважаем гражданами г. Копыля как справедливый человек"*. У размове з А. Лацысам, ваенным следчым Рэвалюцыйнага ваеннага трыбунала пры 4-ай арміі, Б. Заржэцкі запытаўся: *„Почему у вас во главе каждого учреждения стоят евреи?"*. Адказ быў наступны: *„…представьте себе, что во время гражданской войны белые отступают из какого-либо города, а красных ещё нет. Кто организует милицию и вступает в нее? Жиды. Кто организует исполкомы, продкомы и пр. и пр.? Жиды. Когда красные входят в какое-либо местечко, откуда только что ушли белые,— можете быть уверены, что власть уже организовалась и все места заняты жидами. И эти… жиды автоматически включаются в аппарат советской власти"*[107].

Аднак на Капыльшчыне было нямала **прыхільнікаў беларускай нацыянальнай ідэі** і змагароў за Беларускую Народную Рэспубліку, што асабліва выразна праявілася падчас Слуцкага збройнага чыну 1920 г., падзеі якога адбываліся галоўным чынам на тэрыторыі цяперашняга Капыльскага раёна. Непадалёк ад Капыля, у фальварку Цяцераўка (сёння не існуе, знаходзіўся паміж цяперашнімі вёскамі Стары Капыль і Думічы) нарадзіўся беларускі грамадска-палітычны дзеяч, адзін з галоўных кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну 1920 г. ***Павал Жаўрыд*** (1889–1939). Сярод рэпрэсаваных жыхароў Капыля пазначаны Жаўрыды Сцяпан Кандратавіч і Алена Амерыкаўна, раскулачаныя і высланыя на спецпасяленне ў 1930 г. Можна дапусціць, што яны маглі быць сваякамі Паўла.



**Павал Жаўрыд**

З упэўненасцю можна сцвярджаць, што ідэйныя перадумовы нацыянальнага ўздыму на гістарычнай Случчыне (куды ўваходзіў і Капыль) закладваліся дзейнасцю культурна-асветніцкіх таварыстваў. У пераліку 56 найбольш дзейных беларускіх моладзевых суполак і згуртаванняў, якія працавалі ў 1919–1920 гг., складзеным Уладзімірам Ляхоўскім, пазначана 11 арганізацый у гарадах, 21 — у мястэчках і 24 — у вёсках. Сярод мястэчковых арганізацый — беларускі культурна-асветны гурток „Зорка" ў Капылі[108]. Газета *„Беларускае слова"* 6 снежня 1920 г.

[107] Е. С. Розенблат, И. Э. Еленская, *„…Власть уже организовалась, и все места заняты жидами…" (Советская действительность глазами польского разведчика)*, „Цайтшрыфт", т. 7 (20), Минск-Вильня 2012, с. 104, 121.

[108] У. Ляхоўскі, *Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх моладзевых арганізацый у 2-й палове XIX ст.— 1-й палове XX ст. (да 1939 г.),* Вільня 2012, с. 126–127.

змясціла артыкул, напісаны ў Горадні, пад назвай *„Паўстаў народ — разьбівае кайданы няволі”*, у якім сярод іншага давалася характарыстыка стаўлення мясцовага насельніцтва да беларускіх жаўнераў у месцы іх першага пастою — м. Семежава (цяпер Капыльскі раён). Адзначалася, што да гэтага часу не даводзілася рабіць рэквізіцый, бо *„сяляне дастаўляюць хлеб, картофлю, муку, крупы, сала, нават мяса; кабеты вясковыя сушаць сухары, арганізаваны пральні, дзе дарма мыюць бялізну”*. Цікавым чынам паказана пазіцыя габрэйскага насельніцтва: *„Жыдоўская люднасць спярша заняла становішча чакаючае. Занадта аддзелы Балаховіча запэцкалі беларускае імя ў вачох жыдоў, занадта шырока сталі вядомыя пагромы, якія ўчынялі „балахоўцы” з яго Расійскай Народнай Ахвотніцкай Арміі. Люднасць жыдоўская, нават з кругоў, не спачуваючых бальшавікам, была асцярожна ў адносінах да беларускіх жаўнераў. І толькі потым, як добра прыгледзелася і зразумела, што гэта — тыя ж самыя людзі, з якімі жыдоўская люднасць у сяброўстве і добрым ладзе жыла ў згодзе паміж сабой дзясяткамі і соткамі гадоў, што гэта — не чужынцы для краю, якія нясуць з сабой дзікія пагромы, а тыя ж лагодныя вясковыя суседзі-беларусы, якія па-братску жылі ўвесь час,— тады мясцовая жыдоўская люднасць і ў м. Цімкавічах, і ў м. Капылю, і ў іншых месцах, пачала не толькі спачуваць беларускім фармацыям, але нават і рэальна памагаць ім, збіраючы ахвяры і помач беларускаму жаўнеру рэчамі і грашмі”*[109].

У грамадскі рух былі ўцягнутыя і прадстаўнікі **татарскай супольнасці** Капыля. Так, Л. Клейнбарт, цытуючы дзённік Зм. Жылуновіча, узгадаў імя Васіля Татарынчыка, заснавальніка народніцкага гуртка ў Капылі: *„Уже с давних пор, еще с 80-х годов XIX столетия в наше местечко, по воле судеб, закатился отпрыск той революционной волны, что промчалась по тогдашней России под именем „Народной Воли”. Некоторая группа крестьян — не более двух десятков — была организована мещанином м. Копыля Василием Татаринчиком в кружок народовольчества. Этот кружок заставил заговорить о себе все местечко, благодаря чему о его существовании сделалось известно недреманому оку полиции, которая позаботилась убрать Василия, изолировать его от общения с людьми. Несмотря на потерю своего зачинателя, дело, однако, не умерло, а продолжало жить до тех пор, пока его не сменило новое политическое течение: социал-демократическое среди белоруссов и бундовское среди евреев”*[110].

[109] *Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакументах і матэрыялах*, Мінск 2006, с. 77–78.
[110] Л. Клейнборт, *Молодая Белоруссия*, с. 89.

Цікавы дакумент пра татарскае насельніцтва Капыля — вынікі яго даследавання ў 1931 г. Нацыянальнай камісіяй пры ЦВК БССР. У той час у мястэчку жыло 29 татарскіх сем'яў: 117 чалавек (59 мужчын, 58 жанчын). Пісьменных было сярод іх 60 %. 12 сямей працавалі ў скураной арцелі, 10 — былі занятыя ў сельскай гаспадарцы. Некаторыя ўступілі ў калгас. Адзін татарын быў сталяром на камбінаце, яшчэ адзін працаваў на МТС (машынна-трактарнай станцыі). Да вайны частка капыльскіх татар былі дваранамі. Цікава, што дзве асобы татарскай нацыянальнасці былі пазбаўлены савецкай уладай выбарчых правоў (так званыя „лішэнцы") з-за таго, што *„ў час грамадзянскай вайны прымалі ўдзел у бандах Балаховіча супраць саветаў"*. Такім чынам, татары Капыля ўдзельнічалі ў антыбальшавіцкім узброеным супраціве. У дакуменце адзначалася, што татарскай мовы яны не ведаюць, прадзеды і дзяды іх ніколі не размаўлялі на татарскай мове, але некаторыя могуць чытаць Каран, толькі нічога не разумеюць, што чытаюць. Рэлігія і быт захаваліся часткова. Малюнкі, якія вісяць на сценах, татарскія кнігі шануюцца як рэлігійна-гістарычная каштоўнасць. У мячэць маліцца не ходзяць, мула памёр каля 25 год таму, будынак мячэці „добраахвотна" аддалі пад культурную ўстанову. Камісія канстатавала, што былі праявы нацыянальнай варожасці да татар з боку мясцовага насельніцтва. Напрыклад, дзеці абзываліся: *„Смярдзючыя татары, зубамі скуры цягалі"*. У размове з бацькамі высветлілася, што татары маюць жаданне *„вучыць дзяцей на татарскай мове і пісьменнасці"*[111].


**Сцяпан Александровіч**

Сярод жыхароў Капыля — ахвяр сталінскіх рэпрэсій былі і татары: Сулейман Байрашэўскі разам з сям'ёй у 1935 г. высланы на спецпасяленне ў Казахстан. Той жа горкі лёс падзяліла і сям'я Соф'і Якубоўскай[112].

З татар Капыля паходзіць беларускі літаратуразнавец, пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар ***Сцяпан Хусейнавіч Александровіч*** (1921–1986). З нагоды яго 70-гадовага юбілею ў 1991 г. літаратуразнаўца Любоў Ламека пісала: *„Мудры беларускі татарын Сцяпан Хусейнавіч Александровіч адкрыў для нас*

111 *Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь,* ф. 701, воп. 1, адз. зах. 111, арк. 116.

112 *Памяць: Капыльскі раён,* с. 174–175.

*Беларусь, беларускі народ, яго гісторыю, культуру, мову, характар. А мы, каму шчасціла працаваць з ім, кожны раз адкрывалі яго для сябе як вучонага энцыклапедычных ведаў, выключнай працавітасці, як таленавітага педагога і асветніка, сумленнага, справядлівага і мужнага чалавека*"[113].

## Высновы

Прадстаўленыя старонкі гісторыі мястэчка Капыль, калейдаскоп біяграм яго ўраджэнцаў дазваляюць канстатаваць, што мястэчкі і іх жыхары знаходзіліся пад моцным уздзеяннем складаных працэсаў паскоранай мадэрнізацыі, у тым ліку грамадска-палітычных рухаў рознай накіраванасці. Мястэчкі можна ахарактарызаваць як барометр палітычных падзей пачатку ХХ ст. Традыцыйны лад жыцця местачкоўцаў быў парушаны і паступова разбураны такімі з'явамі і падзеямі, як Гаскала, пагромы і страх перад іх магчымасцю, эміграцыя на Амерыканскі кантынент, сіянізм розных кірункаў, сацыял-дэмакратычны рух, Першая сусветная вайна, Кастрычніцкая рэвалюцыя, грамадзянская вайна і ваенная інтэрвенцыя. Жыхары мястэчак апынуліся ў складаных абставінах перад нялёгкім палітычным выбарам. За адносна кароткі час габрэйскае насельніцтва, якое дамінавала ў мястэчках, прайшло шлях ад сярэднявечнай рэлігійнай карпарацыі да нацыі ў сучасным палітычным сэнсе. Насуперак даўняй традыцыі сыходзіць ад незадаволенасці чужой уладай ва ўнутраны духоўны свет і пазбягаць палітычнай дзейнасці, у габрэйскім народзе абудзіліся магутныя сілы, якія і ператварылі разрознены пасіўны народ у актыўную палітычную сілу[114]. Габрэі ў пошуку Айчыны рабілі выбар паміж Амерыкай, Эрэц-Ізраэль, Савецкай Расіяй, Беларуссю (як БССР, так і БНР — пра што сведчыць наяўнасць габрэяў ва ўрадах абедзвюх беларускіх рэспублік). Беларуская частка насельніцтва мястэчак уцягвалася ў працэс фарміравання беларускай нацыі (дзякуючы газеце „*Наша Ніва*", трупе Ігната Буйніцкага ды іншым праявам беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння і беларускай палітычнай дзейнасці). Многія жыхары мястэчка ў тыя гады ваеннага і рэвалюцыйнага ліхалецця схіляліся на бок бальшавікоў. Спецыфіка сітуацыі ў мястэчках заключалася ў тым, што ўсталяванне савецкай улады прыпала на пік пагромных акцый, калі пытанні не палітыкі, а выжывання былі надзённымі для габрэйскіх абшчын. Бальшавікі выгадна скарысталі тэзіс аб тым, што менавіта Чырвоная армія з'яўляецца надзейнай заступніцай габрэяў. Іншыя жыхары мястэчак былі прываблены папулісцкімі лозунгамі бальшавікоў, асабліва абяцаннямі

[113] І. Б. Канапацкі, А. І. Смолік, *Гісторыя і культура беларускіх татар,* Мінск 2000, с. 247.
[114] И. Барталь, *От общины к нации,* Москва-Иерусалим 2006, с. 21.

зямлі, адабранай у „эксплуатататараў"[115]. Сярод габрэяў, беларусаў і татараў мястэчка былі як прыхільнікі новай улады, так і яе праціўнікі; як тыя, хто пасіўна прымаў перамены, так і актыўныя ў сваіх перакананнях і дзеяннях асобы. Варта падкрэсліць, што мястэчкі не толькі знаходзіліся пад уплывам вонкавых працэсаў і падзей, але, дзякуючы найбольш актыўным сваім элементам, і самі ў пэўнай ступені ўплывалі на ход гісторыі. Ураджэнцы Капыля мяжы XIX–XX стст. праявілі сябе ў розных сферах — у палітыцы, на культурнай ніве, у габрэйскім і беларускім нацыянальным жыцці, а таксама ў супярэчлівых працэсах саветызацыі. Многія з іх сталі ахвярамі Вялікага тэрору.

## Streszczenie

Ina Sorkina, *W poszukiwaniu Ojczyzny: mieszkańcy miasteczek w epoce nacjonalizmów (na przykładzie Kopyla)*

Celem niniejszego opracowania mikrohistorycznego jest określenie wpływów ruchów narodowościowych, czy też ogólnie procesów modernizacji XIX — pocz. XX w., na życie i los mieszkańców miasteczka Kopyl. Postawiony problem badawczy przeanalizowano w oparciu o źródła dokumentalne i narracyjne, z szerokim wykorzystaniem możliwości biografistyki historycznej.

Artykuł prezentuje fragmenty historii miasteczka Kopyla końca XIX — pocz. XX w., oraz biogramy pochodzących z niego ludzi (Mendele Mojcher Sforima, Abrahama Papierna, Awrama Singera, Zalman-Wigdara Chrapkowskiego, Hersza Weinbauma, Yoysefa Morgenshterna, Lwa Klejnborta, Lawona Łobika, Niczypora Czarnuszewicza, Mikoły Chwiedorowicza, Zmiciera Czarnuszewicza, Mikałaja Hurło, Michała Maroza, Aleksandra Czarnuszewicza, Alieksieja Hurło, Fabiana Szantyra, Pawła Żauryda, Sciapana Aleksadrowicza). Przytoczone materiały pozwalają na konstatację, iż miasteczka i ich mieszkańcy znajdowali się pod mocnym wpływem złożonych procesów przyspieszonej modernizacji, w tym różnych pod względem ideowym ruchów społeczno-politycznych. Miasteczka można scharakteryzować jako swoisty barometr podziałów politycznych pocz. XX w. Tradycyjny porządek życia mieszkańców był naruszany i stopniowo burzony przez zjawiska i wydarzenia takie jak: haskala, pogromy, emigracja na kontynent amerykański, różne nurty syjonizmu, ruchy demokratyczne, I wojna światowa, rewolucja październikowa, wojna domowa i wojna polsko-bolszewicka. Mieszkańcy miasteczek w tych ciężkich okolicznościach stawali przed

[115] А. Замойский, *Трансформация местечек Советской Белоруссии,* Минск 2013, с. 63.

ciężkimi wyborami politycznymi. W bardzo krótki czasie ludność żydowska, która dominowała w miasteczkach, przeszła drogę od średniowiecznej religijnej korporacji do narodu we współczesnym politycznym znaczeniu. W narodzie żydowskim obudziła się ogromna siła, która przerodziła podzielony pasywną grupę w aktywną siłę polityczną. Żydzi w poszukiwaniu Ojczyny dokonywali wyboru pomiędzy Ameryką, Haaretz-Izrael, Rosją Radziecką, Białorusią (zarówno BSRR jak i BRL — o czym świadczy obecność Żydów w rządach obydwu białoruskich republik). Białoruska część ludności miasteczek włączała się w proces formowania narodu białoruskiego (dzięki gazecie „Nasza Niwa", teatralnej trupie Ihnata Bujnickiego i innym przejawom białoruskiego odrodzenia narodowego i kulturalnego oraz białoruskiej aktywności politycznej). Liczni mieszkańcy miasteczka, w latach wojennej i rewolucyjnej pożogi, poparli bolszewików. Specyfika sytuacji w miasteczkach, polegała na tym, iż formowanie władzy radzieckiej przypadło na okres największego natężenia pogromów, podczas których dla wspólnot żydowskich palącym problemem nie były zagadnienia polityczne, a przeżycie. Bolszewicy doskonale wykorzystali tezę głoszącą, iż Armia Czerwona jawi się obrończynią Żydów. Inni mieszkańcy zachęcani byli populistycznymi hasłami bolszewików, zwłaszcza obietnicami otrzymania przydziałów ziemi odebranej „wyzyskiwaczom". Wśród Żydów, Białorusinów i Tatarów żyjących w miasteczku znaleźć można była zarówno zwolenników, jak i przeciwników nowej władzy, a także tych którzy biernie przyjmowali zamiany oraz tych którzy byli aktywni we wcielaniu w życie swych przekonań politycznych. Znani mieszkańcy Kopyla, urodzeni na przełomie XIX–XX w., angażowali się w różne sfery — polityczną, kulturalną; w kraju i zagranicą; w żydowskim i białoruskim życiu narodowym, a także w sprzeczne procesy sowietyzacji, Wielu z nich padło ofiarami Wielkiego Werroru lat 30.

## Abstract

Ina Sorkina, *In Search of a Homeland: Town Dwellers in the Time of Nationalism (With the Example of Kapyl)*

The aim of the presented micro-historical research is to evaluate the influence of national movements and general processes of modernisation in the $19^{th}$ century and at the beginning of the $20^{th}$ centuryon the life and fate of inhabitants of Kapyl. The research is based on the analysis of narrative and archival sources as well as historical biographies.

The article presents the history of Kapyl at the end of the $19^{th}$ century and beginning of the $20^{th}$ century along with biographies of its inhabitants, including

Mendele Mocher Sforim, Abram Papierna, Avram Singer, Salman-Vihdar Chrapkouski, Hersh Weinbaum, Yoysef Morgenshtern, Leo Kleinbart, Zmitser Zhylunovich, Ales Hurlo, Khvedar Charnushevich, Liawon Lobik, Nichypar Charnushevich, Mikola Khvedarovich, Zmitser Charnushevich, Mikalaj Hurlo, Mikhal Maroz, Aliaksandr Charnushevich, Aliaksei Hurlo, Fabijan Shantyr, Paval Zhawryd and Stsiapan Aleksandrovich. The analysed material helps to prove that both towns and their inhabitants were under a strong influence of fast modernisation processes, including social and political movements of various types. Small towns may be described as barometers of political events of the beginning of the 20th century. The traditional lifestyle of inhabitants was altered and gradually destroyed by various phenomena, including the Haskalah, exterminations, immigration to the USA, Zionism tendencies, various social-democratic movements, the First World War, the Russian Revolution, civil wars or the Polish-Soviet war. People living in small towns faced a difficult situation in the light of challenging political choices. Within a relatively short period of time Jewish communities, which used to be predominant in cities, managed to transform from a religious community in the Middle Ages to a nation of great political significance. Jews gathered powerful forces by motivating people, who used to remain passive, into action. In search of their homeland they would choose between America, Eretz-Israel, the Soviet Russia or Belarus (both the BSSR and the BNR, as their presence was visible in the governments of both republics). The Belarusian origin of some inhabitants of towns appeared in the process of the formation of the Belarusian nation (through the *Nasha Niva* newspaper, the theatre of Ihnat Buinitski or other forms of the revival of Belarusian nation and culture or political actions). In the time of wars, revolutions and their atrocities, many people would support the Bolsheviks. The situation in towns was shaped by the fact that the formation of the Soviet government was taking place at the time of exterminations, when Jewish communities did not pay attention to political issues, but wanted to survive. The Bolsheviks promoted the idea that the Red Army was a reliable protector of Jews. Others were attracted by populist slogans of the Bolsheviks, especially the ones that promised to regain the land taken over by the „exploiters". Among Jews, Belarusians and the Tatars living in the town there were supporters of the new government and its opponents, i.e. the ones who would passively accept the changes and the ones who would take action in the name of their beliefs. Well-known inhabitants of Kapyl born at the turn of the 20th century were active in many areas, including politics and culture at home and overseas, the national life of Jews and Belarusians as well as doubtful processes of Sovietisation. A great many were victims of the Great Purge of the 1930s.

**Сяргей Токць**
**(Варшава/Гродна)**

# Польскі паліцыянт у „крэсовай” міжваеннай гміне (на матэрыялах Гродзенскага павета)

Польскі гісторык Уладзімеж Мяджэцкі ў сваёй манаграфіі „*Inteligencja polska na Wołyniu w okresie międzywojennym*” пісаў пра „тытанічную працу”, якую польская інтэлігенцыя выканала на ўкраінскай Валыні ў міжваенны час: „*W ciągu niespełna 20 lat zbudowała sprawnie funkcjonujący aparat państwowy, uruchomiła i systematycznie prowadziła imponującą sieć szkół powszechnych […]. Wzorowo wykonała zadania, jakie postawiło przed nią odrodzone państwo. Równocześnie zbudowała instytucjonalne i materialne podwaliny własnego życia, pozwalające z ufnością patrzeć w przyszłość swoją i swoich dzieci*”[1]. Да ліку інтэлігенцыі аўтар адносіў у першую чаргу служачых дзяржаўных устаноў. Напэўна, ацэнка, якую даў Мяджэцкі польскай інтэлігенцыі на Валыні, у поўнай ступені можа адпавядаць і польскай інтэлігенцыі на Заходняй Беларусі. Але беларускі даследчык праблематыкі міжваеннага часу палічыў бы яе залішне аднабаковай, паколькі да задач, пастаўленых дзяржавай перад лакальнымі ўраднікамі, сярод іншага належалі змаганне з беларускім нацыянальным рухам і моўна-культурная паланізацыя мясцовага беларускамоўнага насельніцтва. А рэалізацыя гэтых задач спараджала бясконцыя канфлікты паміж беларусамі і польскай дзяржавай, якія ўладам не ўдалося пагасіць да 1939 г.

Мясцовыя дзяржаўныя ўраднікі і служачыя як асобная сацыяльная група міжваеннага „крэсовага” грамадства на заходнебеларускіх землях так і не дачакаліся спецыяльнага грунтоўнага даследавання ў беларускай і польскай гістарыяграфіях. Яшчэ ў другой палове 1930-х гадоў выдатны віленскі гісторык Севярын Віславух падрыхтаваў фундаментальнае даследаванне „*Stosunki narodowościowe na terenie województw wschodnich*”[2], якое грунтавалася на аналізе матэрыялаў сацыялагічнага анкетавання, праведзенага студэнтамі Віленскага ўніверсітэта ў 246 мясцовасцях 10 паветаў, што ахапіла амаль 100 тыс. жыхароў. У гэтай працы быў падрабязна асветлены характар узаемаадносін лакальнай дзяржаўнай

1 Wł. Mędrzecki, *Inteligencja polska na Wołyniu w okresie międzywojennym*, Warszawa 2005, s. 270–271.
2 S. Wysłouch, *Stosunki narodowościowe na terenie województw wschodnich*, Warszawa 2013.

адміністрацыі, а найперш паліцыі, з беларускім вясковым насельніцтвам. Севярын Віславух, вядомы сваімі сімпатыямі да беларусаў, падае аб'ектыўную і часта вельмі непрыемную для тагачаснага польскага ўрада карціну гэтых узаемаадносін. Пра Навагрудскі павет ён, напрыклад, піша: *„Władze administracji ogólnej bowiem, ulegając niezrozumiałej sugestii, że cały element białoruski znajduje się pod silnymi wpływami komunizmu, ustosunkowują się do miejscowej ludności na terenie powiatu jak do obozu koncentracyjnego dla przestępców politycznych. Przede wszystkim na terenie powiatu stosuję się stan wyjątkowy […] policja stosuję w szerokim zakresie terror, jako metodę administrowania"*[3]. Вынікі працы калектыву Севярына Віславуха сведчаць, што ўрадавая нацыянальная палітыка адносна беларусаў аказалася контрпрадукцыйнай, а лакальная дзяржаўная адміністрацыя, якая гэтую палітыку праводзіла, часта выклікала нянавісць з боку мясцовых сялян: *„Polityka polonizacyjna niwelicyjna, prowadzona metodą przeżucania elementu z jednych dzielnic do drugich dla zatarcia różnic dzielnicowych, odnosi na wsi wręcz przeciwne skutki w praktyce. Chłopi ustosunkowują się do elementu napływowego jak do zaborców, zaczynają ich nienawidzić i, o ile się polonizują, to zaznaczają zawsze, że są Polakami tutejszymi"*[4].

У працы сучаснага беластоцкага гісторыка Войцеха Сляшыньскага *„Bezpieczeństwo wewnętrzne w polityce państwa polskiego na ziemiach północno-wshodnich II Rzeczypospolitej"* разгледжаны структура і функцыі органаў дзяржаўнай бяспекі на заходнебеларускіх землях, у тым ліку і гміннай паліцыі. Асаблівая ўвага звяртаецца аўтарам на характар узаемаадносін паліцыі з такімі прадстаўнікамі дзяржаўнай адміністрацыі, як ваяводы і павятовыя старасты[5]. Сляшыньскі прыйшоў да высновы, што з часам паліцыя ўсё больш ім падпарадкоўвалася і рабілася выканаўцай найперш палітычных задач: *„Policja stała się narzędziem w rękach wojewodów i starostów. Takie ścisłe powiązanie organów policji z władzą polityczną nie pomagało jednak kształtować prospołecznego i apolitycznego obrazu organów bezpieczeństwa. Uczestnieczenie Policji Państwowej w bieżącej walce politycznej prowadziło do znacznego obniżenia jej autorytetu. Zwłaszcza na obszarach zamieszkałych przez mniejszości narodowe poicjant kojarzył nie tyle ze stróżem prawa, co z wykonawcą politycznych decyzji władz polskich"*[6].

[3] Тамсама, s. XXXII.

[4] Тамсама, s. XXXIV.

[5] W. Sleszyński, *Bezpieczeństwo wewnętrzne w polityce państwa polskiego na ziemiach północno-wshodnich II Rzeczypospolitej*, Warszawa 2007.

[6] Тамсама, s. 102.

Пытанні функцыянавання лакальнага адміністрацыйнага апарату і ўзаемаадносін дзяржаўныхураднікаў з мясцовым беларускім насельніцтвам Войцех Сляшыньскі разглядае таксама ў манаграфіі „*Województwo Poleskie*”[7]. Даследчык адзначае, што дзяржаўныя ўлады, з аднаго боку, жадалі будаваць прыязныя адносіны паміж ураднікамі і лакальнымі супольнасцямі, але, з другога боку, дзяржаўным служачым забаранялася залішне набліжацца да мясцовых сялян і завязваць з імі прыяцельскія стасункі: „*…przykładowo funkcjonariusze państwowi, zwłaszcza policja, mieli zakaz udziału w zabawach ludowych i weselnych*”[8]. Сляшыньскі канстатуе таксама факт, што „*znaczny procent kadry urzędniczej stanowili przybysze z innych regionów Polski, nieznający lokalnych stosunków i nierzadko z wyraźną wyższością odnoszący się do petentów*”[9]. Больш за тое, аўтар сцвярджае: „*Zasadnicza część przybywającej na tereny Polesia polskiej kadry urzędniczej nie reprezentowała wysokich kompetencji merytorycznych ani wartości moralnych. Objęcie posady administracyjnej na wshodnich rubieżach państwa polskiego niejednokrotnie traktowane było jako swoiste zesłanie, związane z obniżeniem poziomu życia*”[10]. У лютым 1923 г. быў нават уведзены „крэсовы” дадатак да заробку ўраднікаў у памеры 20 % іх акладаў, але праз год гэты дадатак быў адменены[11].

Праблематыку функцыянавання лакальнай дзяржаўнай адміністрацыі „на крэсах” закранае ў сваіх працах таксама Пётр Ціхарацкі[12]. Гэты аўтар адзначае факт, што дзяржаўная адміністрацыя ў Палескім ваяводстве фармавалася ў першую чаргу з прышлага элементу: „*Przybysze zdominowali także kluczowe instytucje […] co oceniano na miejscu jako zjawisko o wątpliwej efektywności*”[13]. Праўда, Ціхарацкі звяртае ўвагу, што ў Палескім ваяводстве ў шэрагах паліцыі назіраўся высокі працэнт прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва. Але з часам гэты працэнт паволі зніжаўся на карысць асоб, прысланых з этнічнай Польшчы.

Гродзенскі гісторык Андрэй Борка даследаваў структуру і функцыі мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання і самакіравання ў Заходняй Беларусі[14]. Даследчык прыйшоў да высновы, што „*недавер вышэйшых польскіх улад да мясцовай інтэлігенцыі, а таксама яе нешматлікасць,*

7 W. Sleszyński, *Województwo Poleskie*, Kraków 2014.

8 Тамсама, s. 63.

9 Тамсама.

10 Тамсама, s. 64.

11 Тамсама.

12 P. Cichoracki, *Województwo poleskie 1921–1939: z dziejów politycznych*, Łomianki 2014.

13 Тамсама, s. 74.

14 А. І. Борка, *Мясцовыя органы дзяржаўнага кіравання і самакіравання ў Заходняй Беларусі*, Гродна 2011.

*вялі да камплектавання мясцовых органаў адміністрацыйнай улады выхадцамі з карэнных раёнаў Польшчы, якія проста не ўяўлялі спецыфіку мясцовасці, дзе ім патрэбна было працаваць"*[15]. Гэтая практыка, як сцвярджае Борка, была падмацавана заканадаўчымі актамі і яскрава праглядалася ў нарматыўных актах, якія рэгулявалі дзейнасць органаў мясцовага дзяржаўнага кіравання і самакіравання, а галоўнай мэтай выступала паланізацыя беларускага насельніцтва.

Гісторыкі міжваеннай Заходняй Беларусі, ці „крэсаў Паўночна-Усходніх" ІІ Рэчы Паспалітай (як прынята ў польскім навуковым дыскурсе), мала звярталі ўвагі на такія пытанні, як стыль і матэрыяльныя ўмовы штодзённага жыцця лакальных дзяржаўных ураднікаў, узровень адукацыі, сямейнае становішча, а таксама на іх бачанне звычаяў, мовы і культуры мясцовага беларускага насельніцтва. У дадзеным артыкуле на матэрыялах Гродзенскага павета Беластоцкага ваяводства разглядаецца такая група лакальных дзяржаўных служачых, як паліцыянты гмінных участкаў. Менавіта з гэтымі прадстаўнікамі дзяржаўнай улады беларускі селянін ці местачковец сутыкаўся найчасцей. І найперш з вобразам паліцыянта асацыяваўся ў яго свядомасці вобраз польскай дзяржавы і тыповы вобраз яе прадстаўніка. Базай крыніц для правядзення даследавання паслужылі архіўныя матэрыялы Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці, а ў першую чаргу — дакументы павятовай камендатуры дзяржаўнай паліцыі, якія ўтрымлівалі справаздачы камендантаў гмінных участкаў паліцыі пра стан бяспекі і грамадска-палітычныя настроі на тэрыторыі гмін, а таксама даныя пра асабовы склад паліцыі: пра паходжанне паліцыянтаў, узровень іх адукацыі, сямейнае становішча і г.д. Аналіз гэтых матэрыялаў дазваляе, на нашу думку, стварыць дастаткова поўны вобраз крэсовага паліцыянта і асвятліць тыя праблемы і цяжкасці, з якімі ён сутыкаўся ў беларускай гміне, а таксама характар яго ўзаемаадносін з мясцовым насельніцтвам.

Беларускі нацыянальны друк ад пачатку падаваў на сваіх старонках выразна адмоўныя ацэнкі дзейнасці мясцовых польскіх ураднікаў. Напрыклад, газета *„Змаганне"* пісала ў 1924 г.: *„Край залілі наездныя з Варшавы, з Галічыны, з Пазнаншчыны людзі, займаючы ўсе ўрадавыя становішчы, школы, гміны. Уся паліцыя, якая павінна бараніць жыццё і маёмасць насялення, скомплектавана з людзей, незнаёмых ані з гэтым краем, ані з насяленнем, да якога, зразумела, адносяцца як да чужынцаў"*[16]. Наколькі справядлівымі з'яўляліся такія ацэнкі?

[15] Тамсама, с. 108.

[16] „Змаганне", 1924, 6 студзеня, № 3.

Трэба прызнаць той факт, што польскі ўрад сапраўды быў вымушаны фарміраваць мясцовы дзяржаўны апарат на заходнебеларускіх землях, ці, выкарыстоўваючы тэрміналогію саміх улад, на „крэсах паўночна-ўсходніх”, пераважна не з ліку мясцовых ураджэнцаў. Напрыклад, як адзначае Войцех Сляшыньскі, у 1920 г. у Баранавіцкім павеце з 79 паліцыянтаў 51 прыбыў з Варшавы[17]. Сярод мясцовага насельніцтва элементарна назіраўся востры недахоп дастаткова адукаваных людзей, якія валодалі польскай мовай на ўзроўні, хаця б мінімальна дапушчальным для дзяржаўнага ўрадніка. Севярын Віславух пісаў пра гэта: *„Olbrzymia większość stanowisk w zakresie administracji ogólnej obsadzona jest przez przybyszów z Małopolski. Już same nazwiska komendantów i posterunkowych Policji Państwowej, jak Górka, Włazło, Strączek itp. mówią dobitnie o ich pochodzeniu. Są to ludzie zupełnie obcy, nieznający stosunków miejscowych, a co najważniejsze czujący się w masie białoruskiej, jak w kraju okupowanym. Niezmiennie doniosłą rolę odgrywa tu moment psychologiczny. Funkcjonariusze państwowi i urzędnicy Małopolanie czują się na gruncie tutejszym zupełnie obco*”[18].

Дзяржаўныя ўраднікі часта зусім не ведалі мову мясцовага насельніцтва, што істотна ўскладняла ўзаемаадносіны. Згодна з законам аб дзяржаўнай мове і мове функцыянавання ўрадавых і самаўрадавых адміністрацыйных устаноў ад 31 ліпеня 1924 г., усе кантакты дзяржаўных служачых з насельніцтвам павінны былі адбывацца на польскай мове. Начальства патрабавала ад падначаленых, каб ні ў якім разе не дапускалася выкарыстанне ў такіх кантактах рускай мовы, якая перад вайной якраз выконвала функцыю дзяржаўнай мовы. Праўда, як адзначае Войцех Сляшыньскі, у адміністрацыйных дакументах заўсёды было *„podkreślano, że nie używanie przez miejscową ludność w urzędach języka polskiego w żadnym wypadku nie mogło oznaczać lekceważącego podejścia do tych osób przez urzędników państwowych*”[19]. Але на практыцы няўменне звярнуцца да ўрадніка на польскай мове часам стварала для беларускага селяніна няпростую праблему, а калі ён па старой звычцы ўжываў рускую мову, дык часта сутыкаўся з адкрыта непрыхільнай рэакцыяй.

Большасць праваслаўнага насельніцтва Гродзеншчыны ў часе Першай сусветнай вайны, у 1915 г., выехала ў бежанства ўглыб Расійскай імперыі. У 1920–1922 гг. адбываўся працэс масавага вяртання, калі, ратуючыся ад жахаў грамадзянскай вайны ў Расіі, беларускія бежанцы накіраваліся

[17] W. Sleszyński, *Bezpieczeństwo wewnętrzne,* s. 89.
[18] S. Wysłouch, *Stosunki narodowościowe,* s. 236.
[19] W. Sleszyński, *Województwo Poleskie,* s. 63.

на радзіму. Гаспадаркі іх былі зруйнаваны, хаты і гаспадарчыя пабудовы згарэлі ці знаходзіліся ў катастрафічным стане, палеткі параслі хмызняком. Камендант паліцыі гміны Скідзель Караль Вронскі адзначаў у сваім рапарце за лістапад 1921 г., што бежанцы, якія вярнуліся з Расіі, *„z powodu braku środków do życia zmuszeni są żebrać po okolicznych wioskach, a prócz tego dużo umiera z wykończenia i głodu”*[20]. Адначасова гэты камендант адзначыў, што ўзаемадачыненні мясцовага насельніцтва і дзяржаўнай адміністрацыі складваюцца ў цэлым даволі добра. У справаздачы за снежань 1921 г. ён напісаў: *„…nie daje się zauważyć żadnych agitacji wrogich Państwu, jedynie panuje antygonizm tubylczej ludności do majątków* (панскіх — С. Т.)”[21]. Сам Караль Вронскі нарадзіўся ў мястэчку Канчуга пад Яраслаўцам у Малапольшчы, дзе скончыў 7 класаў агульнаадукацыйнай школы. Меў прафесію цукерніка. Ажаніўся з мясцовай жанчынай са Скідзеля.



**Асабовы склад скідзельскага пастарунку польскай паліцыі 20 кастрычніка 1925 г. Здымак з архіву Канстанціна Федаровіча**

Вяртанне бежанцаў стварала мноства праблем для дзяржаўнай адміністрацыі, якая не мела дастатковых сродкаў для аказання ім істотнай матэрыяльнай дапамогі. Апроч таго, улады лічылі бежанцаў нелаяльнымі да польскай дзяржаўнасці, што, зрэшты, у значнай ступені з’яўлялася справядлівым. Узнікалі непаразуменні і канфлікты на глебе культурных адрозненняў, этнічных і рэлігійных стэрэатыпаў, няведання мовы,

[20] *Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці* (далей — ДАГВ), ф. 17, воп. 1, адз. зах. 3, арк. 8.
[21] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 3, арк. 12.

звычаяў і т.п. Пра гэта шмат пісалася ў беларускім друку. Напрыклад, у газеце *„Сялянская праўда"* ў кастрычніку 1924 г. быў надрукаваны ліст ананімнага карэспандэнта, які сцвярджаў, што ў мястэчку Скідзель паліцыянты нападпітку ўрываліся на забавы моладзі і без усялякіх падстаў арыштоўвалі і збівалі мясцовых хлопцаў[22].

Дзяржаўныя ўраднікі, якія прыехалі „на крэсы" з іншых рэгіёнаў дзяржавы, у пачатку сваёй мясцовай службы толькі пазнавалі беларускае насельніцтва, знаёміліся з яго традыцыямі. Некаторыя шчыра лічылі мясцовых жыхароў спрадвечнымі палякамі, сапсаванымі русіфікацыяй у часы панавання Масквы. Іншыя рабілі для сябе нечаканыя адкрыцці. Паліцэйскі камендант Луненскай гміны, напрыклад, адзначаў у сваёй справаздачы, што мясцовае праваслаўнае насельніцтва *„która mimo iż oficialnie ma być białoruska — jest w rzeczywistości rosyjska, co wskazują obyczaje i zwyczaje danej ludności"*. Напэўна, ён меў на ўвазе вынікі русіфікацыі ў часе знаходжання ў бежанстве. Пры гэтым камендант дадаваў, што *„ludność prawosławna tut. gminy mimo iż na zewnątrz przedstawia się jako element nie kulturalny, to jednak że takowa jest wyrobiona politycznie i narodowo. Prócz powyższego około 10 % tej że ludności to byli nauczyciele, urzędnicy, oraz dawna policja rosyjska i ci najwięcej są niezadowoleni z obecnego stanu rzeczy"*[23]. Скідзельскі камендант Караль Вронскі таксама пісаў у 1921 г.: *„Gmina Skidel posiada dość inteligentnych rosyjan, ktyrzy powrócili z Rosji, ludzi za czasów carskich zajmujących stanowiska, a obecnie siedzących bez zajęcia. Wszystko to wpływa na niezadowolenie i nawet wrogość"*[24].

Менавіта адукаваная частка беларускага грамадства была найбольш незадаволена сваім становішчам. Набытая за часы Расійскай імперыі ці бежанства рускамоўная адукацыя аказалася абсалютна незапатрабаванай ва ўмовах новай польскай дзяржавы. Як сцвярджае Андрэй Борка, беларусы на практыцы не толькі не маглі займаць кіруючыя пасады ў адміністрацыйным апараце, але нават працаваць на дзяржаўнай службе. Згодна з пунктам 254 сакрэтнага загада № 37 ад 19 жніўня 1922 г. усе дзяржаўныя ўраднікі няпольскай нацыянальнасці падлягалі звальненню. Як адзначае даследчык, *„гэты загад выклікаў здзіўленне і нават незадавальненне некаторых кіраўнікоў дзяржаўных устаноў, бо ім прыйшлося звальняць адказных і добрасумленных работнікаў"*[25]. Паказальным прыкладам тут можа паслужыць ліст каменданта паліцыі

[22] „Сялянская праўда", 1924, 10 кастрычніка, № 5.

[23] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 173, арк. 51.

[24] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 3, арк. 33.

[25] А. І. Борка, *Мясцовыя органы,* с. 69.

Гродзенскага павета да каменданта Беластоцкай паліцэйскай акругі ад 27 ліпеня 1923 г. У гэтым лісце ён тлумачыў прычыны пераводу каменданта паліцыі ў Луненскай гміне Рышчука пад Ломжу: *„Od kilka mięsięcy Pan Starosta na powiat Grodzieński Rogalewicz, żądał odemnie bym poczynił kroki o przeniesienie niezwłocznie Komiendanta posterunku P. P. w Lunnie przodownika Ryszczuka motywując to opinią podrażnioną obywatelstwa miejscowego, jak również i ustawicznemi skargami, że na stanowisku tem nie powinien być były „praporszczik" prawosławny, który bardzo dobrze z żydami żyje, toleruje ich machinacje, jak również niepewny pod względem lojalności do Państwa Polskiego […]. przod. Ryszczuk jest energiczny, utrzymuję powierzony sobie Posterunek pod względem zewnętrznym w należytej dyscyplinie […] powiat do którego zostanie przeniesiony uzyska w nim dobrego policjanta"*[26].

Таму частка мясцовай беларускай інтэлігенцыі далучаецца да антыўрадавага руху і ўступае ў падпольныя арганізацыі. Адукаваныя беларусы лічылі, што прысланыя з этнічнай Польшчы ўраднікі адбіраюць у іх прывілеяванае месца ў мясцовым грамадстве. Апошнія, у сваю чаргу, таксама глядзелі на мясцовых інтэлігентаў як на сваіх патэнцыйных канкурэнтаў. Гэта зусім не спрыяла гарманізацыі ўзаемаадносін на лакальным узроўні.

У 1922 г. палітычная сітуацыя ў Гродзенскім павеце значна пагоршылася. Паліцэйскі камендант Каменскай гміны адзначаў у справаздачы за першы квартал 1922 г.: *„Ludność białoruska jest nadchniona duchem Litwy iż da im wybawienie i swobodę, gdyż polski rząd sciska różnemi podatkami i daninami"*[27]. Павятовы камендант паліцыі так падсумаваў справаздачы гмінных камендантаў: *„Stosunek do ludności białoruskiej naprężony z powodu szerzącej się pośród tej ludności agitacji wywrotowej, prowadzonej przez osobników z obozów lewicowych na czele których stoją Baranow, Jakowiuk i inni, wspierani przez Rząd Łastowskiego w Kownie"*[28].

У памежных з Літвой гмінах утвараюцца ўзброеныя партызанскія групы, якія пачынаюць здзяйсняць акты дыверсій супраць дзяржаўных устаноў. У такой сітуацыі паліцэйская служба робіцца вельмі небяспечнай, а самі паліцыянты на кожным кроку адчуваюць варожае стаўленне з боку насельніцтва. У справаздачы каменданта Крынкаўскай гміны за першы квартал 1922 г. гучаць трывожныя нοткі: *„…bezpieczeństwo urzędników oraz inteligentniejszej ludności polskiej jest częściowo zagrożone pogróżkami*

[26] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 17, арк. 230.

[27] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 12, арк. 19 адв.— 20.

[28] Тамсама, арк. 2.

*białorusinów, ktyrzy rozsiewają takowe pomiędzy ludnością i grożą wyrżnięciem urzędników"*[29]. Гэты камендант нават напісаў у Гродна пра спланаваны беларусамі напад на Крынкі, аб чым паліцыю папярэдзіў 22 сакавіка канфідэнт Адольф Сідаровіч. У меркаваны дзень нападу, як напісаў камендант, *„…widziano była duża liczba chłopów białoruskich, chodzących z piłami i siekierami pod pozorem szukania roboty. Wieczorem zapadła w mieście zupełna cisza, która bywa najczęściej przed burzą"*[30].

Цяжка сказаць, ці сапраўды мясцовымі беларускімі актывістамі рыхтавалася нейкая збройная акцыя, ці яна была вынікам уяўленняў і страхаў мясцовай паліцыі. У кожным разе, нічога ў рэчаіснасці тады не здарылася. Але ў іншых мясцовасцях павета такія напады адбываліся, і ў выніку іх гінулі людзі. Падчас нападу на вёску Падбелае загінуў інжынер польскай нацыянальнасці. Быў спалены партызанамі маёнтак Глыбокае на мяжы Гродзенскага павета, а ўзброеныя людзі не дазволілі парабкам тушыць агонь, заявіўшы, што будуць нішчыць *„польскіх паноў і ўсё, што польскае"*. Адбываліся перастрэлкі паміж беларуска-літоўскімі партызанамі і польскімі вайскоўцамі ў лясных ваколіцах гмін Друскенікі і Берштры[31]. Газета *„Беларускі партызан"* нават паведамляла пра 18 уланаў 81 палка, забітых партызанамі 19 ліпеня 1922 г. у баі каля вёскі Зубрава Берштаўскай гміны, што было несумненным перабольшаннем. Але ў маі 1922 г. паліцыянт Берштаўскага участка Эдвард Лукашэвіч смяротна параніў пры спробе ўцёкаў маладога хлопца з вёскі Сухары Яна Курылу, якога вінавацілі ў забойстве польскага жаўнера[32]. Лукашэвіча пасля гэтага перавялі ў іншую гміну.

Барацьба з нацыянальным і камуністычным рухам у выніку становіцца галоўнай задачай дзейнасці паліцыі, адсунуўшы на другі план змаганне з крыміналам. Любая палітычная актыўнасць, а таксама беларуская культурна-асветніцкая дзейнасць мясцовых жыхароў звычайна інтэрпрэтаваліся паліцыяй як антыдзяржаўныя. Пра гэта напісаў малады хлопец з мястэчка Скідзель Пётр Сяўрук, які ў часе бежанства адвучыўся 5 гадоў у гімназіі ў расійскім горадзе Ліпецку. Пасля вяртання дадому ён пачаў выпісваць беларускія газеты і кнігі, наладзіў праз пошту кантакт з беларускімі выдавецтвамі ў Вільні. Гэта адразу выклікала цікаўнасць да яго асобы з боку мясцовай паліцыі. 9 кастрычніка 1923 г. Пётр Сяўрук напісаў у сваім дзённіку, які вёў на рускай мове: *„Пришли*

[29] Тамсама, арк. 29.

[30] Тамсама, арк. 27.

[31] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 3, арк. 21, 25.

[32] ДАГВ, ф. 38, воп. 1, адз. зах. 2, арк. 7.

*шесть полициантов и сыщик, сделали ревизию. Из всего найденного подозрительным был „Беларускі Партызан, жнівень № 1 1922 год”*[33]*, прокламация, разбросанная щедро по всей нашей территории, так что её находил почти каждый […]. Более виновным я оказался за то, что „Welką głowę masz”, как сказал сыщик, тогда, когда мне, по его мнению, надо только „kartoflą skrzebać”…”*[34]. Пятра Сеўрука хутка выпусцілі з-пад арышту: *„… я был выпущен из тюрьмы без суда и без допроса 8 апреля сего года. Из бумаг, взятых при ревизии сыщиком, комендант Скидельской полиции, кроме взятых прокуратором оставил несколько рукописей у себя (…). Эти документы я могу возвратить, но никак не решусь побороть неприятности,— пойти в Posterunok и взять рукопись”*[35].

Выклікае таксама цікавасць фраза Пятра Сеўрука пра газету *„Беларускі Партызан”*, якую, як ён сцвярджаў, знаходзіў тады амаль кожны. Гэта сведчыць пра маштабы антыўрадавай агітацыі на тэрыторыі Гродзенскага павета на той час. Газета наўпрост заклікала да ўзброенай барацьбы з польскім урадам, але партызанскі рух супраць польскай дзяржавы не мог знайсці шырокай падтрымкі сярод змучанага вайной сялянскага насельніцтва, якое займалася аднаўленнем разбураных гаспадарак. У канцы 1923 г. гэты рух выразна пайшоў на спад. Аднак палітычная сітуацыя, паводле данясенняў паліцыі, заставалася ў Гродзенскім павеце напружанай. 24 чэрвеня 1924 г. павятовы стараста пісаў каменданту паліцыі Гродзенскага павета: *„Ruch separatystyczny białoruski, kierowany bezpośrednie z Wilna przez Grodno od połowy kwietnia r.b. […] dziś już nabiera wyraźniego charakteru akcji antypaństwowej łącznie z akcją komunistyczną — Głównym zadaniem przywódców ruchu białoruskiego jest opanowanie wsi […]. Wrogi nastrój ludności białoruskiej w stosunku do państwowości i władz polskich aż nadto stwierdza b. ujemny wpływ na nią jednostek — emisarjuszy białoruskich”*[36]. Пры гэтым стараста наракаў на бяздзейнасць мясцовай паліцыі, якая нібыта звяртае недастаткова ўвагі на беларускіх актывістаў.

18 студзеня 1926 г. ваяводская камендатура выслала павятовым камендантам распараджэнне скласці і даслаць у Беласток спісы ўсіх паліцыянтаў паводле вызначанай схемы[37]. Гэтыя спісы павінны былі ўтрымліваць інфармацыю пра нацыянальнасць, веравызнанне, адукацыю,

[33] *„Беларускі партызан”* — нелегальная беларуская газета, якая ў 1922 г. распаўсюджвалася сярод жыхароў Заходняй Беларусі і заклікала да ўзброенага паўстання супраць польскіх улад.

[34] *Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей,* адз. зах. КП-89095.

[35] Тамсама.

[36] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 41, арк. 239.

[37] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 111, арк. 9.

вайсковую службу, веданне моў, прафесію, сямейны стан. Каменданты ўчасткаў часам па-рознаму разумелі патрабаванні начальства. Некаторыя, напрыклад, у графу „веданне мовы" ўпісвалі польскую мову, а іншыя так не рабілі, бо лічылі гэта само сабой зразумелым.

Паводле дасланых камендантамі даных, на пачатак 1926 г. у Гродзенскім павеце налічваўся 501 служачы ўстаноў паліцыі. Такая адносна вялікая колькасць тлумачылася тым фактам, што ў павеце знаходзіліся тры кампаніі памежнай паліцыі, якія ў суме налічвалі 218 паліцыянтаў. У тым жа 1926 г. гэтыя кампаніі былі расфарміраваны і заменены вайскоўцамі Корпуса Аховы Памежжа. У самім Гродне ў трох камісарыятах, павятовай камендатуры і экспазітуры служылі 163 паліцыянты. Усе паліцыянты памежных кампаній і горада Гродна паводле нацыянальнасці былі палякамі. Паводле веравызнання каталікоў налічвалася 369 (96,9 %), праваслаўных — 8 (2,1 %), евангелістаў — 4 (1,0 %). Падобныя паказчыкі нацыянальнага і канфесійнага складу паліцыі з'яўляліся цалкам характэрнымі для „крэсаў", пра што піша Войцех Сляшыньскі: *„W szeregach policji zwracano szczególną uwagę na wyznanie i narodowość funkcjonariuszy. W ocenie przełożonych największą gwarancję dawały osoby wyznania rzymskokatolickiego i to one zdecydownanie dominowały (w 1923 r. na obszarze województw północno-wshodnich policjantów wyznania rzymsko-katolickiego było 7028, podczas gdy inne wyznania deklarowało 128 funkcionariuszy)"*[38].

У Гродне таксама знаходзіўся следчы аддзел павятовай паліцыі, супрацоўнікі якога працавалі на тэрыторыі ўсяго павета. У гэтым аддзеле налічвалася 15 паліцыянтаў. Не было пададзена ў дакуменце звестак адносна Яна Катоўскага. Усе астатнія з'яўляліся паводле нацыянальнасці палякамі. Азначаны следчы аддзел вылучаўся сярод астатніх адносна высокім узроўнем адукаванасці службоўцаў. Палова следчых навучалася ў гімназіях (6 асоб) і рэальных вучылішчах (1 асоба), прычым Канстанцін Ярашэвіч здаў „матуру", г. зн. меў завершаную сярэднюю адукацыю. Яшчэ 5 паліцыянтаў следчага аддзела навучаліся ў гарадскіх вучылішчах, і толькі адзін Мар'ян Мацяеўскі меў усяго тры класы „людовай" школы. Усе следчыя адзначылі ў анкетах веданне рускай мовы. Кіраўнік следчага аддзела аспірант Зыгмунт Бароўскі меў сярэднюю адукацыю без выпускных экзаменаў і ў дадатак тэхнічную адукацыю, акрамя польскай і рускай разумеў нямецкую мову. Эрык Браўн (4 класы гімназіі) апроч польскай і рускай паказаў веданне нямецкай і габрэйскай моў. Паводле веравызнання ён быў евангелістам, а паводле прафесіі — бухгалтарам.

[38] W. Sleszyński, *Województwo Poleskie*, s. 96.

Веданне беларускай мовы пазначылі два паліцыянты следчага аддзела — Канстанцін Ярашэвіч і Севярын Прымачок. Першы, як вышэй ужо адзначалася, скончыў гімназію з матурай і меў прафесію дробнага служачага, а другі меў 3 класы гімназіі і прафесію слесара. Абодва былі каталіцкага веравызнання. Праваслаўнае веравызнанне ў следчым аддзеле мелі Аляксандр Клімовіч і Канстанцін Грыгор'еў. Клімовіч скончыў 6 класаў гімназіі і служыўураднікам (вахмістрам) у расійскім войску.

Галоўным заданнем следчай паліцыі з'яўлялася змаганне з палітычнымі злачынствамі, што адзначае Войцех Сляшыньскі: *„To głównie w gestii służby śledczej (po rozwiązaniu w 1926 r. Policji Politycznej) pozostawał obowiązek rozpracowywania spraw politycznych związanych z bezpieczeństwem wewnętrznym. Na ziemiach kresowych, prócz problemów przestępczości pospolitej, o wiele niebezpieczniejsze — z punktu widzenia interesu państwa — były zagrożenia o charkatreze politycznym. Od szybkiej i pełnej informacji, zdaniem wojewodów i starostów, w olbrzymim stopniu zależało bezpieczeństwo państwa"*[39].

У 22 гмінных участках налічвалася 120 паліцыянтаў. Паводле веравызнання, апроч двух праваслаўных, двух евангелістаў і аднаго іўдзея, усе астатнія былі рыма-католікамі. Вызнаваў праваслаўе камендант участка ў Вялікіх Эйсмантах Ян Мацяш. Ён скончыў 2 класы агульнаадукацыйнай школы ў вёсцы Масаляны мясцовай гміны. Служыў ураднікам у расійскай арміі і меў прафесію дробнага служачага. Мацяш пазначыў, што валодае рускай мовай і прылічыў сябе да польскай нацыянальнасці.

Другім вызнаўцам праваслаўя ў павятовай паліцыі быў участковы з гміны Бершты Канстанцін Хоха. Ён нарадзіўся ў вёсцы Забярэзіна мясцовай гміны, але скончыў 4 класы гарадскога вучылішча і атрымаў прафесію служачага ў канцылярыі. Служыў у расійскай арміі радыётэлеграфістам, меў прафесію канцыларыста. Жонка Хохі паходзіла з Магілёўшчыны, але выхоўвалася ў Адэсе, дзе яны, напэўна, і пазнаёміліся. Хоха быў адзіным паліцыянтам гмінных участкаў, які ў анкеце назваў сябе беларусам. Але пазначыў толькі валоданне вуснай і пісьмовай рускай мовай.

У аддзеле ў Берштах служыў і адзіны іўдзей паліцыі Гродзенскага павета — Хаім Гродзенскі. Ён таксама скончыў 4 класы гарадскога вучылішча. Адслужыў шараговым жаўнерам у Войску Польскім. Ведаў вусныя і пісьмовыя рускую і габрэйскую мовы, а таксама вусную нямецкую. Хаім Гродзенскі адносіў сябе да габрэйскай нацыянальнасці. Акрамя Хохі і Гродзенскага, усе астатнія 118 паліцыянтаў гмінных участкаў вызнавалі сябе палякамі.

39 W. Sleszyński, *Województwo Poleskie*, s. 95.

Цікава, што веданне беларускай мовы пазначылі ўсяго 2 паліцыянты гмінных участкаў (1 %). Кіраўнік участка ў Волпе Эдвард Лукашэвіч скончыў 2 класы гарадскога вучылішча ў Гродне. Служыў капралам у расійскай арміі. Пазначыў, што рускую мову ведае вусную і на пісьме, а беларускую — толькі вусную. Лукашэвіч належаў да рыма-каталіцкага вызнання і лічыў сябе палякам. Сваю прафесію ён пазначыў як „работнік”.

Другім паліцыянтам, які пазначыў веданне беларускай мовы, з’яўляўся кіраўнік участка ў Верцялішках Станіслаў Шляхетка. Цікавасць выклікае той факт, што Шляхетка паходзіў з Галіцыі. Ён скончыў 4 класы гарадскога вучылішча і служыў у 1917–1918 гг. у аўстрыйскай арміі капралам у кулямётнай роце 2-га Венскага палка пяхоты. Апроч беларускай, Шляхетка пазначыў яшчэ веданне ўкраінскай мовы. Такім чынам, можна меркаваць, што гэты паліцыянт навучыўся беларускай мове ўжо падчас службы ў Заходняй Беларусі.

Рускую мову, паводле пададзеных звестак, ведалі 87 паліцыянтаў гмінных участакаў (72,5 %), украінскую — 14 (11,7 %), нямецкую — 15 (12,5 %). Веданне габрэйскай мовы, апрача ўжо узгаданага вышэй Хаіма Гродзенскага, пазначыў камендант паліцыі ў гміне Каменка Адольф Хафеб. Ён скончыў 4 класы гарадскога вучылішча ў Лодзі. Апрача габрэйскай Хафеб валодаў польскай, расійскай і нямецкай мовамі вусна і на пісьме. Участковы Юзаф Свірскі з Мастоў пазначыў веданне літоўскай мовы. Такім чынам, пры адборы на паліцэйскую службу „на крэсах паўночна-ўсходніх” важнай якасцю з’яўлялася валоданне рускай мовай, паколькі амаль усе паліцыянты ведалі яе ў большай ці меншай ступені. Той факт, што толькі дзве асобы пазначылі веданне беларускай мовы, сведчыць пра непаважнае стаўленне большасці паліцыянтаў да беларускага нацыянальнага руху і беларускай нацыянальнай ідэі ўвогуле. Імклівы колькасны рост шэрагаў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады летам 1926 г. напэўна стаўся для многіх з іх нечаканасцю.

Вялікую цікавасць уяўляюць звесткі пра цывільныя прафесіі паліцыянтаў. Напрыклад, земляробаў налічвалася сярод іх 24 (20 %). Пяцёра паліцыянтаў паказалі, што ўвогуле не маюць ніякай прафесіі. Сярод камендантаў участкаў бачым у гэтым пытанні вялікую разнастайнасць: Станіслаў Бялкоўскі ў Каменцы быў майстрам, які рабіў халявы для ботаў (камашнікам), Ежы Узембла ў Вялікай Бераставіцы — слесарам-механікам, Аляксандр Главацкі ў Марцінканцах — гандляром, Баляслаў Замянцінскі ў Горніцы — млынаром, Адольф Хафеб у Жытомлі — рахункаводам, Уладзіслаў Напарты ў Крынках — працаўніком хімічнай лабараторыі

ў цукроўні, Караль Вронскі ў Скідзелі — цукернікам, Адольф Сова ў Мастах — земляробам, Вацлаў Навіцкі ў Малой Бераставіцы — маляром. Прафесійны склад паліцыянтаў сведчыць, што сярод іх было шмат асоб, якія належалі да работніцка-рамесніцкіх слаёў гарадскога і местачковага насельніцтва. Першая сусветная вайна і паўстанне незалежнай польскай дзяржавы сталіся для іх шанцам атрымання сацыяльнага авансу. Статус паліцыянта, няхай сабе і на бедных „крэсах", даваў лепшыя матэрыяльныя ўмовы жыцця і перспектывы для дзяцей, чым прафесія работніка ці рамесніка. Звесткі пра сямейны стан асабовага складу гміннай паліцыі паказваюць, што нежанатымі былі 38 (31,7 %) паліцыянтаў, а астатнія мелі сем'і.

Асаблівую цікавасць выклікаюць звесткі пра адукацыю. З іх вынікае, што ў навучальных установах сярэдняга тыпу навучалася 16 паліцыянтаў (13,3 %), з іх у гімназіях ці гімназічных класах — 9. Але закончаную сярэднюю адукацыю — 7 класаў з выпускнымі экзаменамі гандлёвай школы ў Кішынёве — меў толькі камендант участка ў Лунне Ян Чартарыскі. Яго падначалены Станіслаў Булат скончыў 3 класы гімназіі ў Кракаве. Камендант паліцыі ў Друскеніках Уладзіслаў Цішэўскі таксама скончыў 7 класаў гандлёвай школы. Яго падначаленыя Станіслаў Місяк і Эдвард Лойка скончылі: першы — 4 класы гімназіі ў Варшаве, другі — 2 класы гімназіі.

Камендант паліцыі ў Азёрах Уладзіслаў Осух скончыў 4 класы гімназіі. Камендант паліцыі ў Індуры Адольф Ржэвускі таксама меў за плячыма 4 класы гімназіі ў Мінску. Яго падначалены Яўген Каляшчыньскі скончыў 3 класы гарадскага вучылішча ў Турку (Фінляндыя). Камендант участка ў Галынцы Яўген Кернікоўскі скончыў 4 класы павятовай школы ў Бабруйску, а яго падначалены Станіслаў Душэўскі — 6 гімназічных паланістычных класаў у Баранавічах.

Камендант паліцыі ў Дубне Францішак Лукашэвіч скончыў 5 класаў рэальнай гімназіі на Валыні, пазначыў веданне вуснай украінскай мовы. Камендант паліцыі ў Мастах Францішак Залескі скончыў 5 класаў гімназіі ў Беластоку. Паводле прафесіі з'яўляўся дзяржаўным служачым. Камендант участка ў Гожы Мар'ян Дайнека скончыў 4 класы гімназіі ў Лідзе, быў паводле прафесіі канцылярскім служачым. Камендант участка ў Парэччы Зыгмунт Званіцкі скончыў 4-класную прамыслова-рамесную школу імя Канарскага ў Варшаве, дзе набыў прафесію токара па метале. Яго падначалены Стэфан Стахкевіч меў за плячыма 3 класы рэальнай школы ў Львове і прафесію гандляра. Прафесію гандляра меў і камендант участка

ў Марцінканцах Аляксандр Главацкі, які скончыў 6 класаў рэальнай школы імя Яна Замойскага ў Львове. Камендант участка ў Жытомлі Адольф Хафеб скончыў 4 класы гандлёвай школы ў Лодзі. 2 класы гэтай жа школы скончыў паліцыянт з участка ў Крынках Уладзіслаў Стважынскі. Іншы паліцыянт з Крынак Роберт Габанак пазначыў, што скончыў 4 класы сярэдняй школы ў Расіі. Абсалютная ж большасць паліцыянтаў навучалася ў агульнаадукацыйных і народных школах. Некаторыя (чацьвёра) мелі толькі хатнюю адукацыю.

Таксама абсалютная большасць паліцыянтаў мела досвед вайсковай службы. Не служылі ў войску ўсяго 9 асоб (7,5 %). У расійскай, нямецкай і аўстрыяцкай арміях паслужылі 53 паліцыянты (44 %), у тым ліку найбольш у расійскай арміі — 34 (28,3 %), у аўстрыйскай — 16 (13,3 %,), у нямецкай — 3 (2,5 %). У Войску Польскім служылі 57 чалавек (47,5 %), у тым ліку 3 асобы ў Легіёнах Пілсудскага. Яшчэ 5 асоб служылі ў польскай жандармерыі.

Такім чынам, сярод 501 паліцыянта Гродзенскага павета толькі два (0,4 %) запісаліся паводле нацыянальнасці беларусамі і адзін — габрэем, а ўсе астатнія — палякамі. Паводле веравызнання сярод гэтых служачых, апроч каталікоў, налічвалася 10 праваслаўных (2 %), 1 іўдзей і 4 асобы евангелісцкага веравызнання. Асабліва цікавы той факт, што ўсяго чацвёра паліцэйскіх (0,8 %) пазначылі, што ведаюць беларускую мову — мову абсалютнай большасці вясковага насельніцтва ў Гродзенскім павеце.

У 1926–1929 гг. беларускі нацыянальны рух у міжваеннай Польшчы дасягнуў найвышэйшага ўздыму ў сваім развіцці. Урад бачыў у гэтым руху вялікую небяспеку для дзяржавы і патрабаваў ад мясцовай паліцыі рашуча змагацца з любымі яго праявамі. Прычым улады і паліцыя часта выкарыстоўвалі тактыку атаясамлення беларускага руху з камуністычным, а кожнага свядомага беларуса (апроч так званых паланафілаў) аўтаматычна запісвалі ў камуністы.

Рост палітычнай актыўнасці насельніцтва ў Гродзенскім павеце назіраўся падчас правядзення парламенцкіх выбараў у сакавіку 1928 г. Справа нярэдка даходзіла да сутычак з паліцыяй, якая зноў жа імкнулася дзейнічаць максімальна жорстка. Напрыклад, у мястэчку Скідзель мясцовыя жыхары, абураныя тым, што ім не даюць магчымасці прагаласаваць (улады штучна стварылі такую сітуацыю, ведаючы, што мясцовыя выбаршчыкі ў большасці аддадуць свае галасы за камуністаў і іх прыхільнікаў), спрабавалі штурмаваць выбарчы ўчастак, павыбівалі

ў ім шыбы[40]. З Гродна быў прысланы на грузавіках аддзел паліцыі, які заняўся супакойваннем збунтаванага мястэчка. Беларускі актывіст Пётр Сяўрук так апісваў гэтыя падзеі: *„Многие в Скиделе были побиты полицией и „strzelcami"[114][…]. Меня арестовали и подержали в аресте 2 суток, при том не обошлось без инцидента. Я отказался сказать полиции откуда взял NN-ра* (нумары для галасавання — С. Т.)*, и ради этого Комендант уездной полиции бросился на меня зверем, ударил 2 раза по лицу, но не больно и грозил пытками, в конце концов ничего не добившись со злости приказал заковать меня в кандалы. Закованного меня отвезли в Гродно, где поместили в „экспозытуре", но угрозы об истязании не были исполнены […]. Выпущен я был в половине 6-го вечера сего месяца после выборов в Сенат, ничего не спрашивая"*[41].

Ужо ў 1929 г. беларускі рух паволі пачаў слабець, у тым ліку і ў выніку актыўнай працы мясцовых паліцыянтаў. Кіраўніцтва ваяводства і павета ўвесь час патрабавала ад мясцовай паліцыі паслядоўнага змагання з беларускімі арганізацыямі, нават дапускаючы не зусім законныя дзеянні. Напрыклад, камендант паліцыі Гродзенскага павета пісаў у 1929 г. у скідзельскі пастарунак: *„W całym powiecie już, prócz Posterunka Skidel, dzięki zainteresowaniu się Komendantów Posterunków, zostały zlikwidowane Towarzystwa Szkoły Białoruskiej, na powierzonym źaś Panu rejonie, istnieją one jeszcze we wsi Kowszowo i samym m. Skidlu. Polecam Panu poczynić odpowiednie kroki w mysl kilkakrotnych pouczeń Pana Starosty […] zmierzające do ich zlikwidowania. Rzecz oczywista, środków jawnych otwartych i legalnych, stosować Pan przytem nie może, są jednak w rozporządzeniu Pana, jako Komendanta Posterunku, tysiące sposobów za pomocą których może Pan, przy odpowiednim sprycie i takcie, pośrednie wpływać na członków zarządu T-wa s. B., zniechęcić ich do dalszej pracy w T-wie i skłonić do rozwiązania zarządu"*[42]. Такім чынам, начальнік павятовай паліцыі заахвочваў свайго падначаленага да больш актыўнага выкарыстання нелегальных сродкаў для ціску на мясцовы гурток ТБШ. А сродкаў такіх, як ён выказаўся, былі тысячы. Найбольш пашыранымі з'яўляліся штрафы, якія паліцыя накладала на мясцовых жыхароў за самыя розныя дробныя правіны — непарадак на падворку, адсутнасць прыбіральні, непадмеценая вуліца, воз без адмысловых знакаў і т.п. Натуральна, што адваротным бокам такой практыкі паліцыі з'яўлялася негатыўнае стаўленне да яе з боку

[40] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 171, арк. 150.
[41] *Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей,* адз. зах. КП-89095.
[42] ДАГВ, ф. 24, воп. 1, адз. зах. 24, арк. 36.

насельніцтва. Пра гэта напісаў у сваёй працы Севярын Віславух: *„Władze policyjne na ogół są bardzo nielubiane przez ludność, a to przede wszystkim dzięki ich arbitralnemu postępowaniu z chłopami. Wszędzie się obserwuje zjawisko kompletnego nieliczenia się z godnością obywatelską włościanina, jeśli chodzi o miejscowe władze policyjne”*[43]. І гэтае негатыўнае стаўленне не маглі змяніць станоўчыя аспекты дзейнасці паліцыі: змаганне з крымінальнай злачыннасцю, дабрачынная дзейнасць, апека над слабаабароненымі групамі насельніцтва і г.д.

Паліцэйскія каменданты ў 1926–1929 гг. штомесяц пісалі справаздачы ў павет аб становішчы на сваім участку. У гэтых справаздачах яны давалі ацэнку палітычнай сітуацыі і характарызавалі настроі мясцовага насельніцтва. Азначаныя дакументы даюць даволі яскравае ўяўленне пра стаўленне паліцыі да беларусаў. Сярод камендантаў гмінных участкаў было даволі пашырана перакананне ў неабходнасці правядзення максімальна цвёрдай і жорсткай палітыкі адносна мясцовага насельніцтва. Прыкладам такога стаўлення можна лічыць ацэнкі каменданта Каменскай гміны Гродзенскага павета Міхала Костшыцы, які ў ліпені 1929 г. крытыкаваў у сваёй справаздачы занадта ліберальнае, на яго думку, стаўленне ўрада да мясцовых жыхароў: *„…ludność białoruska jest przesiąknięta doktrynami komunizmu, i w przyszłości jest niebespiecznym elementem w stosunku do Państwa Polskiego — a to dla tego że za delikatnie się z nimi władza obchodzi, a konstytucja ich broni wszędzie, wobec czego co oni sobie chcą to robią. Jeżeli takiego komunistę się stiga — to on na policję pisze skargi przedstawiające falszywe dane i w rezultacie policja jest najgorsza i na policji się wszystko skupia. Chcąc walczyć z komunizmem potrzeba na to pieniądzy ażeby można było mieć dobrych konfidantów — a tak walka jest bardzo słaba gdyż na wszystko brak czasu i odpowiednich ludzi”*[44]. Падобныя погляды дэманстраваў і камендант Скідзельскага ўчастка паліцыі Уладзіслаў Нойбаўэр, які ў кастрычніку 1929 г. наступным чынам характарызаваў мясцовае насельніцтва: *„Białorusini uporni tak w wykonaniu wszelkich rozporządzeń jak i w płaceniu podatków, wiecznie nie zadowoleni oddają się pijanstwu i wywołują bójki. Wrogo odnoszą się do wszystkiego co polskie, a największą nienawiścią pałają do osadników. Stan ten nie da się poprawić tak długo, jak długo rada gminna będzie się składać z wywrotowców”*[45]. Што датычыцца ў многім справядлівых папрокаў мясцовых жыхароў у схільнасці да п’янства,

[43] S. Wysłouch, *Stosunki narodowościowe,* s. 238.
[44] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 201.
[45] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 203, арк. 64.

дык варта адзначыць, што і сам камендант скідзельскага аддзела паліцыі грашыў гэтым недахопам. Ужо камендант паліцыі Гродзенскага павета Міцінскі пісаў Нойбаўэру ў лістападзе 1929 г.: *„Doszło do mojej wiadomości, że Pan od czasu do czasu się upija. Uprzedzam, że o ile ten fakt w przyszłości skonstantuje — zostanie Pan natychmiast usunięty z samodzielnego stanowiska, a nawet zdegradowany”*[46].

У. Нойбаўэр скончыў 2 класы школы агульнаадукацыйнай у Львове. Служыў капралам у аўстрыйскай арміі, а потым стаў капралам у польскім войску. Па прафесіі быў спецыялістам па абцягванні тканінай мэблі. Меў жонку і дзіця. У часы кіраўніцтва Нойбаўэра ўчастак у Скідзелі няславіўся асабліва жорсткім абыходжаннем з падазраванымі. У 1931 г. павятовы падкамісар Фармусевіч пісаў Нойбаўэру ў Скідзель: *„… zwaracam uwagę, że skargi o bicie na Posterunku są zbyt częste i że z każdego dochodzenia widać, iż — jak kolwiek brak dostatecznych dowodów winy ze strony szeregowych powierzonego Panu Posterunku, to jednak wyczuwa się w oskarzeniach pewną dozę prawdy, preto nabiera się nieraz przeświadczenia, że badani podejrzani są bici, ostrzegam więc, że o ile taki stan rzeczy nie ulegnie radykalnej zmianie, prócz kary dyscyplinarnej będzię Pan pozbawiony samodzielnego stanowiska”*[47]. Праўда, Нойбаўэр не быў паніжаны па службе, а ў 1934 г. ён ужо служыў на пасадзе начальніка 2-га камісарыята паліцыі ў Гродне, меў трох непаўналетніх сыноў — Часлава, Збігнева і Тадэвуша.

Пагардлівыя выказванні і характарыстыкі мясцовага насельніцтва дапускалі ў сваіх рапартах і іншыя гмінныя каменданты. Напрыклад, камендант Дубнаўскай гміны Казімір Нагацкі пісаў: *„Ludność tut. Posterunku względem Państwa Polskiego iest wrogo usposobiona pomimo tego, że jak sama twierdzi, w Polsce jest najlepiej. Te wrogie usposobienie wypływa z tego powodu, że ludność odznacza się lenictwem i nie chce pracować uczciwie, pomimo tego, że pracę można znaleść i po dobrych cenach”*[48]. Хаця якраз Нагацкі шчыра імкнуўся дапамагчы мясцовым сялянам пазбавіцца сваіх недахопаў і стараўся абыходзіцца без жорсткіх метадаў.

Жорсткі падыход ухвалялі не ўсе каменданты паліцыі. Напрыклад, папярэднік Уладзіслава Нойбаўэра на пасадзе паліцэйскага каменданта гміны Скідзель Ян Чартарыскі з'яўляўся прыхільнікам больш талерантнай палітыкі адносна мясцовага насельніцтва. Ён адзначаў, што вельмі балючым пытаннем застаецца вайсковае асадніцтва „на крэсах”, паколькі

[46] ДАГВ, ф. 24, воп. 1, адз. зах. 24, арк. 42.
[47] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 758, арк. 103.
[48] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 174, арк. 15.

мясцовыя жыхары самі адчуваюць востры недахоп зямлі. У Скідзельскай гміне на той час налічвалася 9 вайсковых асаднікаў, якія мелі 132 гектары зямлі. У справаздачы за студзень 1928 г. Чартарыскі сцвярджаў, што варожы характар стаўлення мясцовых жыхароў да Польшчы *„pogłębiony polityką poprzednich rządów traktujących ludność po macoszemu za małemi wyjątkami trwa i zwryt ku lepszemu może nastąpić wówczas kiedy ludność odczuje zmianę tego stosunku”*[49]. У іншым рапарце Чартарыскі зазначаў, што толькі *„umiejętne postępowanie z ludzmi oraz otoczenie ich swoją opieką i traktowanie po ludzku przekona ich iz stosuniek władzy do nich nie jest wrogi”*[50]. Такім чынам, гэты паліцэйскі камендант прызнаваў віну ўлад у тым, што беларускае насельніцтва варожа ставіцца да польскай дзяржавы. Чартарыскі нарадзіўся ў Мікалаеве на поўдні Украіны, а яго жонка паходзіла з Мінска. Ён скончыў 7 класаў гандлёвай школы з матурай у Кішынёве, служыў паручнікам у расійскай царскай арміі. Адзначыў у анкеце, што валодае расійскай і ўкраінскай мовамі.

Сярод паліцыянтаў сустракаліся асобы, якія шчыра спрабавалі зразумець псіхалогію і менталітэт беларускага насельніцтва і імкнуліся не злоўжываць сродкамі гвалту і прымусу. Цікавым прыкладам у гэтым плане з’яўляўся паліцэйскі камендант Дубнаўскай гміны Казімір Нагацкі, які заўсёды пісаў у Гродна вельмі вялікія і падрабязныя справаздачы пра самыя розныя падзеі мясцовага жыцця і становішча насельніцтва. Адносна дзейнасці гурткоў Таварыства Беларускай Школы камендант лічыў, што мясцовая моладзь, якая іх стварыла, кіравалася не палітычнымі меркаваннямі, а толькі жадала мець хоць нейкую арганізацыю, каб можна было рабіць тэатральныя прадстаўленні. Нагацкі асуджаў кіраўніка мясцовай школы Альфрэда Міхалка, які не дазваляў моладзі ладзіць драматычныя пастаноўкі на беларускай мове ў памяшканні школы. Калі ў снежні 1928 г. моладзь вёскі Дубна звярнулася ў павятовае староства з просьбай дазволіць арганізаваць у мясцовай школе тэтральнае прадстаўленне на свята Божага Нараджэння, стараста даў дазвол пры ўмове, што будуць адыграныя дзве п’есы на польскай мове і адна на беларускай. Але кіраўнік школы Альфрэд Міхалок катэгарычна адмовіўся даць памяшканне з прычыны менавіта беларускай мовы. Такія паводзіны настаўніка выклікалі асуджэнне кіраўніка ўчастка паліцыі: *„Nadmienia się że należałoby poprzec i intencję miejscowej młodzieży w tym wypadku, gdyż naprawdę takowa w pracy społecznej jest zaniedbana i opuszczona, a dobre chęci*

[49] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 172, арк. 125 адв.
[50] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 173, арк. 77 адв.

*umiejętnie wykorzystane mogłyby pchnąc ją na dobre drogi społeczne*"[51]. Зрэшты, пад „добрымі дарогамі" Казімір Нагацкі разумеў згоду мясцовых сялян на добраахвотную паланізацыю і адмаўленне ад беларускай нацыянальнай дзейнасці. Так ці інакш, але ён мусіў змагацца з мясцовымі гурткамі ТБШ, хаця і рабіў гэта, як можна меркаваць з тэксту справаздач, без асаблівага запалу і задавальнення. У справаздачы за люты 1929 г. Нагацкі сцвярджаў, што гурткі ТБШ на абшары яго аддзялення фактычна не дзейнічаюць, але ліквідаваць іх фармальна немагчыма, паколькі асобныя сябры не здаюць сваіх білетаў і тлумачаць гэта тым, што іншыя будуць лічыць іх здраднікамі. Камендант зрабіў з гэтага выснову, што „*członkowie T-wa B. Szkoły prócz celów kulturalno-oświatowych mają jeszcze inny cel głębszy, którego nie chcą zdradzić*"[52]. Цікава, што Казімір Нагацкі ў сваіх справаздачах заўсёды называў беларускамоўных сялян каталіцкага веравызнання беларусамі, што супярэчыла ўрадавай палітыцы, паводле палажэнняў якой каталіцтва і польскасць „на крэсах" фактычна атаясамліваліся.

Цікавым фактам з'яўляецца тое, што практычна ўсе гмінныя каменданты ў сваіх справаздачах пісалі пра невысокі ўзровень крымінальнай злачыннасці сярод мясцовага насельніцтва. Гэты аспект дзейнасці паліцыі, які па-сутнасці павінен быў быць галоўным, быў адсунуты ў цень барацьбы з палітычнай злачыннасцю.

Апроч паліцыі штодзённы кантакт з мясцовым насельніцтвам падтрымлівалі настаўнікі дзяржаўных школ. Задачай гміннай паліцыі была ўсебаковая падтрымка настаўніцтва, але, адначасова, і палітычны кантроль за яго дзейнасцю. Як і ў складзе паліцыі, сярод настаўнікаў большасць складалі асобы, прысланыя „на крэсы" з розных рэгіёнаў Польшчы. Гэта зазначае ў сваёй працы Севярын Віславух, які сцвярджаў, што скіраваныя з цэнтральнай Польшчы настаўнікі „*są to ludzie zupełnie obcy, nieznający stosunków miejscowych, a co najważniejsze czujący się w masie białoruskiej, jak w kraju okupowanym*"[53].

Дзве розныя мадэлі адносін польскіх настаўнікаў з мясцовым насельніцтвам падае ў сваіх справаздачах ужо цытаваны намі вышэй камендант паліцыі Казімір Нагацкі. Ён станоўча адзываўся пра дзейнасць настаўніка школы ў вёсцы Княжаводцы Гераніма Ядкоўскага, які знайшоў, паводле меркавання каменданта, добрае паразуменне з беларускай моладдзю. Ядкоўскі заснаваў у Княжаводцах пажарную варту, курсы

[51] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 176, арк. 134.
[52] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 171, арк. 72.
[53] S. Wysłouch, *Stosunki narodowościowe,* s. XXXII.




**Прадстаўнікі мясцовай эліты на адкрыцці Народнага дому сельскагаспадарчых арганізацый ў мястэчку Скідзель у міжваенны час. Дакладная дата здымку невядомая. Здымак з архіву Сяргея Лушчыка**

пісьменнасці для дарослых вяскоўцаў і аматарскі драматычны гурток, які наладзіў прадстаўленне ў гонар дзяржаўнага свята 3 Мая. Аднак калега Гераніма Ядкоўскага з Дубнаўскай школы, ужо згаданы вышэй Альфрэд Міхалок, паскардзіўся павятоваму школьнаму інспектару, што Ядкоўскі выступіў перад сялянамі з прамовай на беларускай мове. У абарону апошняга выказаўся камендант Нагацкі, які пісаў у Гродна: „*Nadmieniam że Jodkowski mimo iż ma do czynienia z młodzieżą białoruską, zbliżył ją tak do siebie, że przedstawienia odbywają się przeważnie w języku Polskim, chętnych do ich odgrywania jest dużo*”[54]. У той жа час Альфрэда Міхалка камендант характарызаваў наступным чынам: „*Miejscowy kierownik szkoły od czasu swojego przybycia do Dubna zoakcentował swoją wyższość ponad miejscową ludnością […] jednakoż systematyczność pracy takowego jest celowa i pierwsze doświadczenia wiele dokonały, co w przyszłości może przynieść dobre wyniki*”[55]. Такім чынам, асуджаючы паводзіны дубнаўскага настаўніка і яго пагардлівае стаўленне да сялян, камендант паліцыі разам з тым прызнаваў каштоўнасць яго працы на ніве паланізацыі мясцовых жыхароў. Зрэшты,

54 ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 201, арк. 14 адв.

55 ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 200, арк. 89–89 адв.

гэта было адным з галоўных крытэрыяў ацэнкі дзейнасці настаўніцтва, як і ўсёй мясцовай урадавай адміністрацыі „на крэсах". Але сярод польскага настаўніцтва сустракаліся і такія асобы, як кіраўнік школы ў гміне Бершты Эдвард Боднар, якога паліцыя падазравала ў сувязі з мясцовымі беларускімі актывістамі. Боднара перавялі ў суседнюю Парэцкую гміну, але ён часта прыязджаў у Бершты, дзе настаўніцай працавала яго жонка. У часе гэтых прыездаў ён, як напісаў мясцовы камендант паліцыі ў студзені 1927 г., *„…zawsze spotyka się z osobami podejrzanymi i należącymi do b. Organizacji Biał. Wł. Rob. Hromady, z któremi […] mial bliższe stosunki. Ze względu na to, iż wymieniony wśród miejscowej ludności białoruskiej ciezsy się szczególnym zaufaniem więc przypuszczać można, że wśród tej że uprawiać może agitację oświadamiającą co do mniejszości narodowej białoruskiej*"[56]. Паліцэйскі камендант нават агучыў мясцовыя чуткі, што гэты настаўнік жадае вылучацца кандыдатам у сейм ад мясцовага насельніцтва на парламенцкіх выбарах.

У цэлым можна сцвярджаць, што ў сельскіх гмінах функцыянавалі тры галоўныя інстытуты, на якія ўскладалася заданне рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі: участак паліцыі, агульнаадукацыйная школа і гмінны самаўрад. Хаця гміна і з'яўлялася органам мясцовага самакіравання, і ў 1920-ыя гады многія гмінныя рады ў беларускіх мясцовасцях займалі выразна апазіцыйную пазіцыю адносна дзяржаўнай улады, але ў 1930-ыя гады гміны па-сутнасці ператварыліся ў прыдатак дзяржаўнай адміністрацыі, а войты і гмінныя сакратары сталі падобнымі па сваіх функцыях да выканаўцаў ніжэйшага звяна дзяржаўнага апарату. Адбылася кансалідацыя лакальнага кіравання на гмінным узроўні з адначасовым дыстанцыянаваннем ад мясцовага беларускага і габрэйскага грамадства. Пра гэтую з'яву пісаў Севярын Віславух: *„Jako wynik dystansu, jaki zachodzi pomiędzy władzami z jednej strony i ludnością z drugiej strony, powstaje zjawisko jaskrawego wyodrębnienia się koterii urzędniczej administracji ogólnej i samorządowej, jako oligarchii rządzącej wszechwładnie gminą*"[57].

У 1930-ыя гады асабовы склад паліцыі істотным чынам не змяніўся ў параўнанні з 1926 г. Большасць паліцыянтаў, запісаных у 1926 г., па-ранейшаму служылі ў Гродзенскім павеце. У лістападзе 1932 г. камендант Гродзенскага павета атрымаў прадпісанне скласці пайменны спіс усіх шэраговых паліцыянтаў з указаннем месца іх нараджэння, а таксама месца нараджэння жонак у тых з іх, хто быў жанаты. У выніку атрыманы звесткі

---

56 ДАГВ, ф. 38, воп. 1, адз. зах. 27, арк. 5.

57 S. Wysłouch, *Stosunki narodowościowe,* s. 237.

адносна 211 паліцыянтаў[58]. Паходзілі яны больш чым з 80 паветаў. У самім Гродне нарадзілася 16 паліцыянтаў (7,6 %), а ў Гродзенскім павеце — 13 (6,2 %). Такім чынам, да мясцовых ураджэнцаў належала 13,8 % складу паліцыі. Ураджэнцамі Беластоцкага павета былі 11 паліцыянтаў, а яшчэ 4 паходзілі з Беластока. Адносна шмат было ўраджэнцаў Бельскага (11) і Сакольскага паветаў (8) былой Гродзенскай губерні. Усяго ж з „крэсаў паўночна-ўсходніх” паходзіла 84 паліцыянты (39,8 %). Некаторыя нарадзіліся на тэрыторыі тагачаснай ужо БССР — у Бабруйскім, Барысаўскім, Быхаўскім, Ігуменскім паветах. Ураджэнцамі Варшавы былі 10 паліцыянтаў, Кракава — 2, Львова — 1. Большасць паліцыянтаў нарадзіліся ў вёсках — 88 чалавек (41,7 %). Гараджанамі паводле паходжання з'яўляліся 64 асобы (30,3 %). Астатнія нарадзіліся ў мястэчках — 31 (14,7 %), маёнтках — 11 (5,2 %), калоніях — 5, асадах — 4, прадмесцях — 2, ваколіцах — 2, фальварку — 1. Адносна аднаго паліцыянта было проста ўказана, што ён нарадзіўся ў павеце, а пра двух зусім не было звестак.

У гміне Скідзель, напрыклад, камендант Аляксандр Главацкі паходзіў з урочышча Закрочын Варшаўскага павета. Яго намеснік Станіслаў Глос нарадзіўся ў Пулаўскім павеце, а выхоўваўся ў Любліне. Участковы Людвік Бянькоўскі паходзіў з Равы-Мазавецкай. Адам Данілеўскі нарадзіўся ў Плоцку, а выхоўваўся ў Варшаве. Анджэй Мадзейчык паходзіў са Скернявіцкага павета, а Антон Старчэўскі — з Вострава-Мазавецкага.

У гміне Бершты камендант Казімір Нагацкі паходзіў з вёскі Багушы Сакольскага павета, а яго намеснік Пётр Грачык — з Граецкага павета Варшаўскага ваяводства. Участковы Аляксандр Банах нарадзіўся ў Тыфлісе, а ўчастковы Ян Бамбалеўскі — у Люблінскім павеце.

Усяго ў лістападзе 1932 г. у Гродзенскім павеце налічвалася 223 паліцыянты, у тым ліку 6 афіцэраў, 1 дзяржаўны служачы, 190 шэраговых паліцыянтаў, 20 следчых, 2 возных і 5 ніжэйшага рангу служачых. З ліку 190 асоб, якія, у адрозненне ад следчых, абавязаны былі насіць паліцэйскую форму, 90 служылі ў павятовым Гродне, а 100 — у 20 гмінных аддзяленнях[59].

У сакавіку 1934 г. быў складзены спіс участковых паліцыянтаў Гродзенскага павета з указаннем узроўню іх адукацыі. На той час у павеце налічвалася 125 такіх асоб[60]. Паводле ўзроўню адукацыі большасць з іх мелі за плячыма па некалькі класаў агульнаадукацыйнай школы. Прычым

[58] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 660, арк. 58–76 адв.

[59] Тамсама, арк. 9 адв.— 10.

[60] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 497, арк. 1–13.

7 класаў скончылі толькі 4 асобы, у той час як менш чым 3 класы — 53 (41,6 %). У гімназіях навучалася 6 участковых: Станіслаў Дашэвіч меў 6 класаў прагімназіі, Станіслаў Брыцкі — 5 класаў гімназіі, Марыян Гавэндскі — 4 класы, Аляксандр Перваніцкі і Казімір Срадніцкі — па 3 класы. Станіслаў Рудніцкі навучаўся ў Школе мастацтваў (Szkole sztuk pięknych). Хатнюю адукацыю мелі 8 участковых.

У жніўні 1934 г. павятовы камендант атрымаў распараджэнне з Беластока падаць звесткі пра сямейны і матэрыяльны стан шэраговых паліцыянтаў. Паводле сабраных даных, у Гродзенскім павеце 100 паліцэйскіх мелі дзяцей (усяго дзяцей налічвалася 249)[61]. Прычым у некаторых сем'ях было па 5 дзяцей. Варта адзначыць, што ўсе дзеці школьнага ўзросту навучаліся ў школах. Прычым дзеці паліцыянтаў, якія служылі ў невялікіх мястэчках ці вёсках, наведвалі мясцовыя агульнаадукацыйныя школы, дзе, напэўна, сядзелі на занятках побач з дзецьмі мясцовых беларускіх дзеячаў і „кэпэзэбоўцаў". Толькі чацвёра дзяцей каменданта паліцыі ў мястэчку Воўпа Уладзіслава Крыжаноўскага жылі і навучаліся ў Варшаве, прычым старэйшая дачка наведвала гімназію.

Увогуле пасля заканчэння агульнаадукацыйных школ амаль усе дзеці паліцыянтаў працягвалі навучанне ў школах сярэдняга ўзроўню: гімназіях (9) і гандлёвых школах (7). Сын участковага з Друскенік Эміля Ліндфара Ян навучаўся ў кадэцкім корпусе ў Львове. Гэта сведчыла, што паліцыянты выдатна разумелі вартасць адукацыі і звязвалі з яе атрыманнем будучыню сваіх дзяцей.

Абсалютная большасць паліцэйскіх не мела ніякай нерухомай маёмасці, і адзінай крыніцай утрымання для іх з'яўляўся службовы заробак. Толькі дзесяць чалавек мелі ва ўласнасці дамы. Вышэй згаданы Эміль Ліндфар меў у Друскеніках пляц і драўніну на пабудову дома, але адначасова і пазыку на суму 1 100 зл. Юзаф Вітчак, хаця і меў уласны дом, але, як акрэсліў павятовы камендант, *„znajduje się w krytycznych warunkach materialnych"*[62]. Адзін яго сын Юзаф (18 год) быў вучнем слесара, а другі сын Казімір (17 год) наведваў рамесную школу. У цяжкім матэрыяльным становішчы знаходзіўся і Аляксандр Свідэрскі, на ўтрыманні якога былі ўжо дарослыя дачка Галіна і сын Ежы. Прычым Галіна скончыла жаночую настаўніцкую семінарыю, а Ежы — гандлёвую школу. Аднак яны не маглі знайсці працу і жылі на сродкі бацькі. Трэба адзначыць, што жыллёвая праблема для дзяржаўных служачых „на

61 ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 691.

62 Тамсама, арк. 6.

крэсах" сапраўды стаяла вельмі востра. У 1920-ыя гады пад пастарункі звычайна здымалі дамы мясцовых жыхароў, а паліцыянты таксама пражывалі на здымных кватэрах. У 1924 г. была распачата акцыя будаўніцтва дамоў для дзяржаўных ураднікаў ва ўсходніх ваяводствах, якая павінна была пераканаць мясцовае насельніцтва ў цвёрдым жаданні польскага ўрада загаспадарыць гэтыя землі[63]. Праўда, такія дамы будаваліся пераважна ў гарадах. Але і ў сельскіх гмінах узводзіліся коштам дзяржавы новыя будынкі ўчасткаў. Часта там размяшчаліся кватэры для нежанатых паліцыянтаў, а таксама сталоўкі.

Вельмі рэдка паліцыянты мелі ва ўласнасці зямлю. Напрыклад, участковы ў мястэчку Скідзель Людвік Бянькоўскі валодаў чатырма гектарамі ворнай зямлі, ветраком і гаспадарчымі пабудовамі. У Станіслава Коха быў дом і 1/5 га зямлі пад Гродна. Увогуле ў дакуменце ўзгадваецца пра цяжкі матэрыяльны стан многіх паліцыянтаў. Але ўсё ж варта адзначыць, што іх заробкі перавышалі даходы абсалютнай большасці мясцовых жыхароў. Напрыклад, толькі вельмі нямногія сяляне маглі тады знайсці сродкі на далейшую вучобу сваіх дзяцей пасля заканчэння агульнаадукацыйнай школы, што з'яўлялася звычайнай рэччу для дзяржаўных служачых. Матэрыяльнае становішча „крэсовых" ураднікаў вельмі трапна, на нашу думку, акрэсліў Войцех Сляшыньскі: *„Choć posada urzędnicza na Polesiu z perspektywy centralnej Polski nie wypadała zbyt atrakcyjnie, to jednak uwzględniając lokalne, ekonomiczne uwarunkowania, rzeczywistość przedstawia się już inaczej. Posiadanie stałych, nawet niewysokich dochodów, sytuowało urzędników w gronie osób uprzywilejowanych, nie muszących się matrwić o swój codzienny byt. Atrakcyjność stanowisk urzędniczych wzrosła znacząco w dobie kryzysu ekonomicznego początku lat 30"*[64]. На студзень 1936 г. асабовы склад паліцыі Гродзенскага павета налічваў 247 чалавек, у тым ліку 214 асоб, якія абавязкова павінны былі насіць мундур, 21 следчага, 2 возных і 3 іншых службоўцаў[65].

У 1930-ыя гады палітычная актыўнасць вясковага насельніцтва ў Гродзенскім павеце значна зменшылася ў параўнанні з папярэднім дзесяцігоддзем. Спынілі дзейнасць амаль усе беларускія нацыянальныя арганізацыі. Але падпольныя ячэйкі КПЗБ захавалі свае ўплывы ў беларускай вёсцы і ўвесь час ладзілі розныя антыўрадавыя акцыі. Змаганне з імі стала галоўным заданнем гміннай паліцыі ў гэты перыяд.

[63] W. Sleszyński, *Województwo Poleskie,* s. 64.

[64] Тамсама, s. 64–65.

[65] ДАГВ, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 798, арк. 1.



**Будынак участка паліцыі ў Скідзелі. Здымак зроблены краязнаўцам Іллёй Барысавым у 1980-ыя гады**

Часта даходзіла да сутычак і нават ужывання агнястрэльнай зброі. Напрыклад, у сакавіку 1933 г. падпольшчык Казімір Рагачэўскі пры затрыманні цяжка параніў з рэвальвера двух паліцыянтаў участка ў Індуры. Праз два тыдні Рагачэўскі быў акружаны паліцыяй у вёсцы Мазанава і пасля ўпартага супраціўлення застрэліўся. Прычым сімпатыі мясцовай моладзі былі на баку падпольшчыка, а не паліцыі[66]. І хаця ў цэлым становішча ў павеце было адносна спакойным, напружанне захоўвалася на працягу 1930-х гадоў і вылілася ў масавыя акцыі супраць польскіх улад ужо ў верасні 1939 г.

Такім чынам, гмінная паліцыя Гродзенскага павета ў міжваенны час складалася ў большасці з выхадцаў з самых розных рэгіёнаў II Рэчы Паспалітай, а таксама асоб, якія нарадзіліся ў розных кутках былой Расійскай імперыі. Але даныя за 1932 г. сведчаць, што амаль 40 % складалі ўраджэнцы „паўночна-ўсходніх крэсаў". Асобам некаталіцкага веравызнання, а тым больш тым, якія не лічылі сябе палякамі, трапіць на службу ў паліцыю было неверагодна складана. У 1926 г. сярод 120 паліцыянтаў гмінных участкаў Гродзенскага павета толькі двое належалі да праваслаўнай канфесіі, а беларусам назваўся ўсяго адзін. Большасць паліцыянтаў Гродзенскага павета мелі вопыт службы ў войску,

[66] А. Цыхун, *Пройдзеныя шляхі-пуцявіны (Запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)*, Горадня 2003, с. 8–9.

у тым ліку ў расійскай, германскай і аўстрыйскай арміях. У польскім войску, паводле даных за 1926 г., служыла 47,5 % паліцыянтаў.

Сярод паліцыянтаў вясковых гмін Гродзенскага павета назіраўся адносна высокі працэнт выхадцаў з гарадскога насельніцтва, з асяроддзя рамеснікаў і рабочых. Толькі ўраджэнцаў сталічнай Варшавы было 10 чалавек. Для такіх асоб дзяржаўная служба „на крэсах” з’яўлялася магчымасцю сацыяльнага авансу, магчымасцю даць добрую адукацыю сваім дзецям.

На працягу ўсяго міжваеннага часу захоўвалася выразная дыстанцыя паміж паліцыяй і мясцовым насельніцтвам, прычым вельмі часта стаўленне да паліцыі з боку праваслаўных беларусаў было негатыўным. Гэта вынікала з таго, што паліцыя ў першую чаргу вырашала палітычныя задачы, адной з якіх была паланізацыя мясцовага насельніцтва і барацьба з беларускім нацыянальным рухам. Стыль паводзінаў паліцыі з сялянамі часта выклікаў адмоўнае стаўленне з боку апошніх. Але, з другога боку, гэта было таксама наступствам актыўнасці камуністычнага падполля і памяці пра антыдзяржаўныя тэрарыстычныя акцыі пачатку 1920-х гадоў.

Аналіз справаздач гмінных камендантаў паказвае, што сярод іх былі як прыхільнікі рэалізацыі жорсткай палітыкі і рашучых метадаў барацьбы з беларускім рухам, так і тыя, хто выступаў за больш мяккія і кампрамісныя дзеянні, за спробы знайсці паразуменне з мясцовымі жыхарамі. Але першы падыход усё ж дамінаваў і выразная сацыяльная і культурная дыстанцыя паміж прадстаўнікамі дзяржаўнай улады і мясцовымі жыхарамі захоўвалася амаль нязменнай на працягу ўсяго міжваеннага перыяду.

## Асабовы склад гмінных участкаў паліцыі Гродзенскага павета ў 1926 г. (на мове арыгіналу)

| p/p | Imię i nazwisko | Szarża | Wykształcenie | Służba wojskowa | Znajomość języków | Narodowość | Wyznanie | Zawód | Stan cywilny |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Gmina Kamionka | | | | | | | | | |
| 1 | Stanisław Baliłowski | Przodownik | 4 klasy szkoły ludowej | Kaprał w armii austryjackiej | Ukraiński w piśmie i słowie oraz niemiecki w słowie | Polska | Rz.-Kat. | Kamasznik | Żonaty, 2 dzieci |
| 2 | Roman Alizera | Starszy posterunkowy | 6 klas szkoły ludowej | Szeregowy w armii austryjackiej i st. żandarm krajowej żandarmeryi polskiej | Niemiecki w słowie | Polska | Rz.-Kat. | Stelmach | Kawaler |
| 3 | Stefan Aliszejewski | Posterunkowy | Szkoła rzemieślnicza | Szeregowy w armii rosyjskiej | Rosyjski w słowie i pismie | Polska | Rz.-Kat. | Grawier | Żonaty, dzieci niema |
| 4 | Franciszek Skrzypek | Posterunkowy | 5 klas szkoły powszechnej | Szeregowy żandarmeryi krajowej | Rosyjski w słowie i pismie | Polska | Rz.-Kat. | Rolnik | Żonaty, dzieci niema |
| Gmina Ejsmonty Wielkie | | | | | | | | | |
| 5 | Jan Matiasz | Starszy posterunkowy | 2 klasy szkoły powszechnej we wsi Masalany gminy Ejsmonty Wielkie | Urzędnik wojskowy armii rosyjskiej | Rosyjski w słowie i na pismie | Polska | Prawosławne | Biuralista | Żonaty, dzieci niema |
| 6 | Marjan Bogutyn | Posterunkowy | 1 klasa gimnazjum w Jarosławiu | Starszy szeregowy WP | Rosyjski w słowie i na pismie | Polska | Rz.-Kat. | Mietalowiec-mechanik | Kawaler |
| 7 | Józef Zaniskowski | Posterunkowy | 2 klasy szkoły miejskiej we wsi Przechody gminy Ruda powiatu Szczuczyn | Plutonowy WP | Rosyjski w słowie i na pismie | Polska | Rz.-Kat. | Rolnik | Żonaty, 1 dziecko |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | Antoni Duda | Posterunkowy | 4 klasy szkoły ludowej we Lwowie | Szeregowiec Legionów Polskich Piłsudzkiego i szeregowy WP | Ukraiński w słowie | Polska | Rz.-Kat. | Introligator | Kawaler |
| | Gmina Brzostowica Wielka | | | | | | | | |
| 9 | Jerzy Uzięblo | St. przodownik | 6 oddziałów szkoły miejskiej w Warszawie | Nie służył | Polski i rosyjski | Polska | Rz.-Kat. | Slusarz-mechanik | Żonaty, 1 dziecko |
| 10 | Piotr Sidorowicz | Posterunkowy | 4 oddziały szkoły powszechnej | Kapral WP | Polski i rosyjski | Polska | Rz.-Kat. | Rolnik | Żonaty, 2 dzieci |
| 11 | Edward Dobrowolski | Posterunkowy | 4 oddziały szkoły powszechnej | St. szeregowy WP | Polski i rosyjski | Polska | Rz.-Kat. | Pomocnik maszynisty kolejowego | Kawaler |
| 12 | Józef Puchalski | Posterunkowy | 3 oddziały szkoły powszechnej | Kapral WP | Polski i rosyjski | Polska | Rz.-Kat. | Rolnik | Żonaty, 2 dzieci |
| 13 | Bolesław Styczyński | Posterunkowy | 7 klas szkoły powszechnej w Chelmie | Armia niemiecka, szeregowy WP | Polski i niemiecki | Polska | Rz.-Kat. | Pracownik kolejowy | Żonaty, 2 dzieci |
| | Gmina Mosty | | | | | | | | |
| 14 | Franciszek Zalewski | St. przodownik | 5 klas gimnazim w Białymstoku | Nie służył | Polski i rosyjski | Polska | Rz.-Kat. | Urzędnik | Żonaty, 3 dzieci |
| 15 | Jan Gołębiewski | Posterunkowy | 7 klas szkoły powszechnej | St. szeregowy w wojsku niemieckim i WP | Polski i niemiecki, rosyjski tylko w słowie | Polska | Rz.-Kat. | Robotnik | Żonaty, 2 dzieci |
| 16 | Jan Moćko | Posterunkowy | 3 oddziały szkoły powszechnej | 2 lata w armii rosyjskiej i 3 lata w legionach polskich | Polski i rosyjski | Polska | Rz.-Kat. | Slusarz automobilowy | Kawaler |
| 17 | Józef Swirski | Posterunkowy | 3 oddziały szkoły powszechnej | W armii rosyjskiej jako kapral | Polski, rosyjski i litewski w słowie | Polska | Rz.-Kat. | Rolnik | Żonaty, dzieci niema |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Gmina Hoża | | | | | | | | | |
| 18 | Marjan Deneko | Przodownik | 4 klasy gimnazjum w Lidzie | W WP plutonowy | Polski i rosyjski | Polska | Rz.-Kat. | Biuralista | Kawaler |
| 19 | Władysław Słowikowski | Posterunkowy | 2 klasy szkoły powszechnej rosyjskiej w Białymstoku | Bombardzir w armii rosyjskiej | Polski i rosyjski | Polska | Rz.-Kat. | Garbarz | Kawaler |
| 20 | Józef Pęczkowski | Posterunkowy | 2 klacy rosyjskiej szkoły powszechnej w Ciechanowcu powiatu Bielsk | Nie służył | Polski i rosyjski | Polska | Rz.-Kat. | Rolnik | Żonaty, 1 dziecko |
| 21 | Kazimierz Krzyżewski | Posterunkowy | 4 klasy szkoły powszechnej rosyjskiej w Kaletniku powiatu Suwalskiego | W armii rosyjskiej starszy szeregowy, w WP ułan | Polski i rosyjski | Polska | Rz.-Kat. | Rolnik | Kawaler |
| 22 | Emil Gałko | Posterunkowy | 2 klasy szkoły powszechnej w Białymstoku | W wojsku rosyjskim plutonowy | Polski, rosyjski i niemiecki | Polska | Ewangelickie | Slusarz-mechanik | Żonaty, dzieci niema |
| Gmina Porzecze | | | | | | | | | |
| 23 | Zygmunt Zwanicki | Przodownik | 4-klasowa Szkoła Przemysłowa-Rzemeślnicza imienia Konarskiego w Warszawie | Starszy sierżant WP | Niemiecki i rosyjski w słowie i pismie | Polska | Rz.-Kat. | Żelazny tokarz | Żonaty, 2 dzieci |
| 24 | Stefan Stachkiewicz | Przodownik | 3 klasy szkoły realnej we Lwowie | Kaprał armii austryjackiej, kaprał żandarmeryi polskiej | Ruski w mowie i pismie | Polska | Rz.-Kat. | Handlowiec | Żonaty, 1 dziecko |
| 25 | Stanisław Jaworowski | Posterunkowy | 4 klasy szkoły ludowej w Dobrzyniewie-Fabryczym około Białegostoku | Kaprał armii rosyjskiej | Rosyjski w słowie i pismie | Polska | Rz.-Kat. | Tkacz | Kawaler |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 26 | Władysław Mikulski | Posterunkowy | 2 klasy szkoły technicznej w Wilnie | Kapral WP | Rosyjski w słowie i pismie | Polska | Rz.-Kat. | Pomocnik elektrotechnika | Kawaler |
| 27 | Ludwik Kłodnicki | Posterunkowy | 4 klasy szkoły ludowej w powiacie Stryj w Małopolsce | Starszy szeregowiec w armii austryjackiej | Ruski (Czerwona Ruś) w słowie i pismie | Polska | Rz.-Kat. | Pracownik kolejowy | Żonaty, 1 dziecko |
| 28 | Bronisław Zińka | Posterunkowy | 4 klasy szkoły miejskiej w Grodnie | Kapral armii rosyjskiej | Rosyjski w słowie i pismie | Polska | Rz.-Kat. | Slusarz | Żonaty, dziecko |
| Gmina Wiercieliszki | | | | | | | | | |
| 29 | Stanisław Szlachetka | Przodownik | 4 klasy szkoły miejskiej | Armia austryjacka 1917–1918, 2 pp Wiedeński, oddział karabinów maszynowych, kapral | Ukraiński, białoruski | Polska | Rz.-Kat. | Biuralista | Kawaler |
| 30 | Stanisław Koch | Posterunkowy | 4 oddziały szkoły powszechnej | Armia austryjacka 1914–1918, kapral | W słowie ukraiński | Polska | Rz.-Kat. | Młynarz | Żonaty, 1 dziecko |
| 31 | Franciszek Panas | Posterunkowy | Domowe | Armia polska 1919–1921, 86 pp, kapral | Rosyjski w słowie i pismie | Polska | Rz.-Kat. | Rolnik | Kawaler |
| 32 | Feliks Miemisicki | Posterunkowy | 3 oddziały szkoły powszechnej | Armia rosyjska 1914–1918, pp 52, szeregowiec | Rosyjski w słowie i pismie | Polska | Rz.-Kat. | Szewc | Żonaty, 2 dzieci |
| Gmina Marcinkańcy | | | | | | | | | |
| 33 | Aleksander Głowacki | St. przodownik | 6 klas szkoły realnej im. Jana Zamojskiego | Szeregowy WP | Rosyjski w słowie i pismie | Polska | Rz.-Kat. | Handlowiec | Kawaler |
| 34 | Adolf Staszińśki | Posterunkowy | 3 oddziały szkoły powszechnej | St. szeregowy | Rosyjski w słowie i pismie | Polska | Rz.-Kat. | Rolnik | Zonaty, 1 dziecko |
| 35 | Jan Płoński | Posterunkowy | 5 oddziałów szkoły powszechnej w Siemiatyczach | Szeregowy WP i armii rosyjskiej | Rosyjski w słowie i pismie | Polska | Rz.-Kat. | Szofer | Zonaty, 1 dziecko |

Чарговым крокам савецкага кіраўніцтва ў справе перасялення была пастанова Савета Міністраў СССР № 1004–532с ад 1956 г. аб рэпатрыяцыі ў Польшчу асоб польскай і габрэйскай нацыянальнасцей, якія раней не выкарысталі магчымасці выехаць у Польшчу на падставе савецка-польскай дамовы ад 9 верасня 1944 г. Гэтая пастанова таксама давала дазвол на выезд былым польскім палітычным эмігрантам і іх сем'ям. Рэпатрыяцыю рэгуляваў сакрэтны загад № 0306, выдадзены Міністэрствам унутраных спраў СССР 31 ліпеня 1956 года[63].

Падзеі 1956 г. у Польшчы, вяртанне да ўлады Уладзіслава Гамулкі і абвяшчэнне перамоў з СССР на тэму польска-савецкіх адносін стварылі для рэпатрыяцыі адпаведныя ўмовы. Важным фактарам стаў афіцыйны візіт 15–18 лістапада 1956 г. польскай дэлегацыі на чале з першым сакратаром Цэнтральнага камітэта Польскай аб'яднанай працоўнай партыі (ПАПП) Уладзіславам Гамулкам у Маскву[64]. Гамулка здолеў дамовіцца з Мікітам Хрушчовым аб вызваленні з савецкіх турмаў 500 былых польскіх грамадзян[65]. Таксама было прынята рашэнне аб арганізацыі ў бліжэйшы час міжнародных перамоў аб тэрмінах і парадку рэпатрыяцыі. 19 лістапада 1956 г. тэкст рашэнняў польска-савецкіх перамоў, у тым ліку пра магчымасць рэпатрыяцыі палякаў з СССР у Польшчу, надрукавалі газеты — польская *„Trybuna Ludu"* і маскоўская *„Праўда"*[66]. Польскі пасол у Маскве Тадэвуш Гедэ звярнуўся да міністра ўнутраных спраў СССР Мікалая Дударава з прапановай па прыкладзе Масквы апублікаваць інфармацыю пра магчымасць рэпатрыяцыі палякаў з СССР у Польшчу ў рэспубліканскіх і мясцовых газетах. Міністр Дудараў у гэтай просьбе адмовіў[67].

Гэта быў першы сігнал аб тым, што рэпатрыяцыя ўладамі БССР, УССР і ЛССР будзе арганізавана такім жа чынам, як і перасяленне 1944–1946 гг., калі партыйныя і савецкія ўлады гэтых рэспублік усялякімі спосабамі перашкаджалі працэсу масавага выезду палякаў у Польшчу.

Фармальна дагавор аб рэпатрыяцыі быў падпісаны 25 сакавіка 1957 г., а ўступіў у дзеянне 10 ліпеня 1957 г., калі намеснік міністра замежных спраў ПНР Юзаф Віневіч і савецкі пасол у Варшаве Панцеляймон

---

63 ГАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, адз. зах. 1460, арк. 183.

64 W. Gomułka, *Przemówienia, październik 1956 — wrzesień 1957*, Warszawa 1957, s. 94.

65 ГАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, адз. зах. 1460, арк. 112–113.

66 M. Ruchniewicz, *Repatriacja ludności polskiej z ZSRR w latach 1955–1959*, s. 135.

67 ГАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, адз. зах. 1460, арк. 112–113.

Панамарэнка абмяняліся ратыфікацыйнымі граматамі[68]. Перамовы цягнуліся амаль два гады. У выніку дамова была падпісаная і, такім чынам, сотням тысяч палякаў у СССР былі створаныя ўмовы для перасялення ў Польшчу. Гэта, безумоўна, быў поспех польскіх улад. Аднак ажыццяўленне рэпатрыяцыі ў значнай ступені залежала ад выканання дамовы мясцовымі органамі ўлады.

Беларускія савецкія ўлады з самага пачатку працэсу рэпатрыяцыі імкнуліся не дапусціць масавага выезду палякаў з БССР. Як і раней, гэта было звязана з нежаданнем страчваць рабочую сілу ў заходніх абласцях рэспублікі. Улады наўмысна зацягвалі выдачу ахвотным выехаць даведак, якія пацвярджалі іх польскае паходжанне. Таксама адкладалі прыняцце рашэння аб прызнанні права на выезд з БССР. Такі падыход мясцовых улад да рэпатрыяцыі выклікаў масавую хвалю скаргаў у савецкія інстанцыі і ў польскае пасольства ў Маскве. Большасць скаргаў на дзеянні ўлад дасылалі жыхары Гродзенскай і Маладзечанскай абласцей. Накіраваная з Масквы камісія вызначыла, што перашкоды рэпатрыяцыі мясцовыя органы ўлады стваралі на падставе вусных указанняў рэспубліканскага кіраўніцтва[69]. Камісія патрабавала ад улады Гродзенскай вобласці няўхільна выконваць рашэнні Масквы[70].

Найбольшы непакой з-за рэпатрыяцыі выказвалі старшыні калгасаў, якія баяліся апусцення вёсак. Яны разумелі, што ніхто не накіруе да іх рабочую сілу з іншых тэрыторый СССР. Так, у лісце з нагоды выезду насельніцтва ў Польшчу, старшыня калгаса імя Жданава Маладзечанскай вобласці пісаў да міністра замежных спраў Дзмітрыя Шапілава ў лютым 1957 г.: *„У цяперашні час падняліся вялікія масы народа, якія стаяць у чэргах на выезд у Польшчу. Тут кожны другі дом мае сваяка ў Польшчы. Гэты працэс ахапіў усе вёскі і робіць прыгнятальнае ўражанне. З боку цэнтральных улад неабходныя дзеянні, якія б стрымлівалі гэты працэс, што выклікае паразу, і гэтым могуць скарыстацца нашы ворагі на Захадзе ў сваёй прапагандзе"*[71].

Працэс рэпатрыяцыі адбываўся пад пільным кантролем КДБ СССР. Праз органы міліцыі КДБ не дапускаў выезду ў Польшчу „антысавецкіх

68 А. Вялікі, *Беларусь — Польшча ў XX стагоддзі. Невядомая рэпатрыяцыя 1955–1959 гг.*, Мінск 2007, с. 117–118.

69 ГАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, адз. зах. 1456, арк. 9.

70 Падрабязней на гэту тэму гл.: ГАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, адз. зах. 1456, *Служебная записка полковников милиции Антонова, Ломанского, Кулешова, переданная начальнику Главного Управления Милиции МВД СССР комиссару милиции II ранга М. Барсукову от 23 марта 1957 г.,* арк. 5–15.

71 ГАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, адз. зах. 1460, арк. 196; Z. J. Winnicki, „*Druga repatriacja*" *z BSRR. 1955–59*, „Magazyn Polski" wyd. na uchodźstwie, 2008, nr 7–8, s. 46.

элементаў", якія, паводле меркаванняў службаў бяспекі, „выкарыстаўшы" рэпатрыяцыю, маглі пасля выехаць у капіталістычныя краіны[72]. На падставе розных прычын улады адмаўлялі ў перасяленні ў Польшчу. У 1958 г. з 41 чалавека (удзельнікі польскага рэвалюцыйнага руху і члены іх сямей) 15 асобам КДБ адмовіў у рэпатрыяцыі[73]. Верагодна, гэтыя рэвалюцыйныя дзеячы валодалі інфармацыяй, якая магла прынесці шкоду савецкаму палітычнаму рэжыму, калі б яе абнародавалі на Захадзе.

З 1955 па 1959 гг. з СССР у Польшчу выехаў 245 501 чалавек. Большасць складалі жыхары БССР — 100 630 чалавек, альбо 40,5 % ад агульнай колькасці. Менш за ўсё палякаў з былых тэрыторый Другой Рэчы Паспалітай перасялілася з Літвы — 46 552 чалавекі[74]. Гэта можна растлумачыць тым, што ў Літве для палякаў былі створаныя ўмовы для развіцця іх мовы, культуры, выдавецкай дзейнасці, таксама менш пацярпеў Каталіцкі касцёл (у параўнанні з рэпрэсіямі, якія ён зазнаў у БССР). Больш за тое, многія настаўнікі-палякі, якія не атрымалі дазволу на перасяленне ў Польшчу, выязджалі з БССР для працы ў польскія школы ў ЛССР.

Не ўсе рэпатрыянты змаглі „ўкараніцца" ў Польшчы. Прычынамі гэтага маглі быць слабое валоданне польскай мовай, цяжкасці з адаптаваннем на новым месцы жыхарства, адсутнасць працы або добрых жыллёвых умоў. На працягу 1957 г. і першых чатырох месяцаў 1958 г. 3 тысячы чалавек выказалі жаданне вярнуцца назад у СССР[75]. Пры гэтым з СССР у Польшчу ў перыяд са снежня 1956 г. да лютага 1957 г. выехала непараўнальна большая колькасць рэпатрыянтаў, а менавіта 19 019 чалавек[76]. Гэтыя лічбы сведчаць, што жыццё ў СССР для беларускіх і ўкраінскіх перасяленцаў было нашмат цяжэйшым, чым у Польшчы.

Варта заўважыць, што перасяленне палякаў з БССР у Польшчу адбывалася ва ўмовах відавочнага канфлікту інтарэсаў паміж цэнтральным кіраўніцтвам у Маскве і рэспубліканскімі, а таксама мясцовымі ўладамі ў БССР. Сутнасць канфлікту была ў тым, што Масква імкнулася выканаць узятыя на сябе абавязацельствы адносна рэпатрыяцыі і выглядаць перад Польшчай як правераны і надзейны саюзнік. Мясцовыя ўлады, у сваю чаргу, былі зацікаўленыя ў тым, каб затрымаць палякаў: яны з'яўляліся рабочай сілай для прамысловых прадпрыемстваў і калгасаў,

[72] ГАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, адз. зах. 1460, арк. 216.

[73] Тамсама, с. 269.

[74] M. Ruchniewicz, *Repatriacja ludności polskiej z ZSRR w latach 1955–1959*, s. 255.

[75] ГАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, адз. зах. 1460, *Письмо посла СССР в ПНР Петра Абросимова к секретарю ЦК КПСС Михаилу Суслову*, арк. 254–255.

[76] ГАРФ, ф. Р-9415, воп. 3, адз. зах. 1460, арк. 214.

а пакінуць без людзей заходнія вобласці Беларусі было нельга. Ахвярамі гэтага канфлікту інтарэсаў сталі простыя палякі, якія не хацелі звязваць свой лёс з савецкім таталітарным рэжымам. У перыяды перасяленняў палякаў у Польшчу (1944–1948 гг., 1955–1959 гг.), паводле ацэнак Яна Чарнякевіча і Малгажаты Рухневіч, з БССР выехалі 374 793 чалавекі. Анатоль Вялікі, у сваю чаргу, прыводзіць іншую лічбу — 400 630 чалавек[77].

Прычына масавага жадання выехаць у Польшчу з БССР была ў савецкай палітычнай сістэме, у якой чалавек быў пазбаўлены ўсіх правоў і пастаўлены ў зневажальны стан маўклівага выканаўцы яе рашэнняў і загадаў. Пасляваенныя паступовыя саветызацыя і русіфікацыя былі непрымальнымі для палякаў, якія прызвычаіліся да вядзення сваёй індывідуальнай гаспадаркі, хацелі свабодна вызнаваць каталіцызм, карыстацца польскай мовай, развіваць польскую культуру. Савецкія рэформы, якія праводзіліся з 1939 г., і памяць пра рэпрэсіі 1939–1941 гг. не давалі ім шансаў на нармальнае жыццё. Савецкая ўлада была чужой і варожай для шматлікіх польскіх сямей, якія ў выніку ўсталявання мяжы па лініі Керзана згубілі магчымасць кантактаваць паміж сабой, бо апынуліся па розныя бакі гэтай мяжы[78].

Ва ўсім гэтым працэсе пасляваеннага перасялення палякаў з БССР у Польшчу для савецкай улады быў адзін даволі значны станоўчы момант, а менавіта: тэрыторыю Беларусі пакінуў „ненадзейны" ў палітычным, сацыяльным, нацыянальным і канфесійным плане „польскі элемент", які мог бы ствараць кіраўніцтву БССР палітычныя праблемы[79].

Перасяленне было адной з прычын таго, што „польскае пытанне" ў БССР перастала існаваць для ўлад. Таксама гэты працэс паўплываў на ўніфікацыю заходніх абласцей рэспублікі і іх інтэграцыю ў склад савецкай дзяржавы. Масавы выезд палякаў быў чарговым (пасля крывавых рэпрэсій 1937–1938 гг. і дэпартацый 1939–1941 гг.) „смяротным ударам", нанесеным па польскасці ў БССР. У Польшчу перасялілася нацыянальна свядомая і патрыятычна настроеная інтэлігенцыя, у тым ліку настаўнікі, урачы, інжынеры, тэхнікі, ксяндзы і іншыя прадстаўнікі польскай эліты. Гэта прывяло ў 1948 г. да поўнай ліквідацыі польскамоўнай адукацыі ў БССР. Наступствы масавага перасялення палякаў у Польшчу адчувальныя для польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі і сёння.

77 А. Вялікі, *Беларусь — Польшча ў XX стагоддзі. Невядомая рэпатрыяцыя 1955–1959 гг.*, с. 211.

78 Да 1956 г. для простых грамадзян БССР і Польшчы мяжа была цалкам закрытая. Толькі Пастанова Савета Міністраў СССР 7п-1956 № 171–102с гэтае становішча змяніла. *Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці*, ф. 730, воп. 1, адз. зах. 1.

79 А. Вялікі, *Беларусь — Польшча ў XX стагоддзі. Невядомая рэпатрыяцыя 1955–1959 гг.*, с. 211.

## Streszczenie

Tadeusz Gawin, *Przesiedlenia Polaków z BSRR do Polski (w latach 1944–1948 i 1955–1959). Przyczyny niepowodzenia operacji.*

Białoruskie władze radzieckie od samego początku procesu przesiedlenia starały się niedopuścić do masowego wyjazdu Polaków z BSRR. Taka postawa była podyktowana niechęcią utraty siły roboczej w zachodnich obwodach republiki. Możliwości odpływu ludności najbardziej niepokoiła przewodniczących kołchozów, którzy liczyli się z perspektywą wyludnienia wsi. i brakiem możliwości uzupełnienia ewentualnych ubytków siły roboczej mieszkańcami innych regionów ZSRR. Należy zauważyć, że przesiedlenie Polaków z BSRR do Polski odbywało się w warunkach bezsprzecznego konfliktu interesów pomiędzy kierownictwem w Moskwie oraz władzami republikańskimi i lokalnymi w BSRR. Istota konfliktu polegała na tym, że Moskwa dążyła do wywiązania się ze swoich obowiązków dotyczących przesiedlenia i wykreowania wobec Polski wizerunku sprawdzonego i niezawodnego sojusznika. Z kolei władze lokalne były zainteresowane zatrzymaniem Polaków jako siły roboczej w przedsiębiorstwach i kołchozach, obawiając się wyludnienia zachodnich obwodów Białorusi. Ofiarami tego konfliktu interesów stali się Polacy, którzy nie chcieli wiązać swego losu z radzieckim reżimem totalitarnym. Powodem masowej chęci wyjazdu z BSRR do Polski był radziecki system polityczny, w którym człowiek pozbawiony został wszelkich praw i sprowadzony do odbierającej godność roli milczącego wykonawcy decyzji i rozkazów władz. Postępująca powojenna sowietyzacja i rusyfikacja była dla Polaków nie do przyjęcia, ponieważ byli oni przyzwyczajeni do prowadzenia gospodarki indywidualnej, swobody praktyk religijnych, oraz nieskrępowanego posługiwania się językiem polskim, i rozwijania własnej kultury. Przesiedlenia ludności narodowości polskiej doprowadziły do unifikacji zachodnich obwodów BSRR, zintegrowały je z całością państwa radzieckiego oraz sprawiły, iż dla władz BSRR „sprawa polska" przestała istnieć. Masowy wyjazd Polaków był kolejnym (po krwawych represjach lat 1937–1938 i deportacjach lat 1939–1941) „śmiertelnym ciosem" wymierzonym w polskość w BSRR. Następstwa masowych przesiedleń Polaków do Polski w omawianych okresach są dla polskiej mniejszości narodowej na Białorusi odczuwalne do dzisiaj.

## Abstract

Tadevush Havin, *Resettlement of Poles from the BSSR to Poland (in the Period of 1944–1948 and 1955–1959). Reasons for Failure*

Belarusian authorities in the Soviet era made attempts at preventing massemigration of Poles out of the BSSR right from the beginning of the resettlement process. Similar to previous reasons, this time it was due to the willingness to keep the workforce in the western regions of the republic. Afraid of villages being depopulated, kolkhoz leaders were particularly alarmed. They understood perfectly that nobody would provide them with a workforce from other regions of the Soviet Union. It should be underlined that the resettlement of Poles out of the BSSR was conducted in the middle of an undeniable conflict between the leadership in Moscow and the authorities of the republic and local provinces of the BSSR. The core of the conflict was on the one hand Moscow trying to meet the conditions of the resettlement and to be pictured by Poland as a reliable and trusted ally. On the other hand, local authorities were interested in keeping Poles as a workforce in factories and kolkhozes, fearing that western regions of Belarus would be depopulated. Poles, who did not want to be bound to live within the Soviet totalitarian regime, became victims of this conflict of interests. The reason for a common attempt at leaving the BSSR for Poland was the Soviet political system, in which a human being was devoid of every right and cast into a humiliating role of a silent executor of its decisions and orders. Poles could not accept the ongoing post-war processes of Russification or Sovietization. They were used to running individual farms and wanted to be free to practice the Catholic faith, speak Polish and foster Polish culture. The resettlement made the „Polish issue" non-existent among the authorities in the BSSR, whereas western regions of the republic were unified and integrated with the Soviet state. That mass emigration of Poles was yet another „devastating blow" to the Polish community in the BSSR after the bloody repressions of 1937–1938 and the deportation of 1939–1941. The consequences of these mass resettlement waves of Poles to Poland are still visible for the Polish national minority in Belarus.

**Тацццяна Касатая**
**(Варшава/Гродна)**

# Рэлігійныя дысідэнты ў БССР у 1950-я — 1980-я гг. (на прыкладзе дзейнасці вернікаў евангельскіх хрысціян-баптыстаў)

Тэма дысідэнцкага руху ў БССР у беларускай гістарыяграфіі на сённяшні дзень знаходзіцца на перыферыі даследаванняў. Невялікае кола беларускіх гісторыкаў звяртае ўвагу на гэту праблему[1]. Нягледзячы на нешматлікасць даследаванняў, яны даюць уяўленне пра тое, што беларускае грамадства ў савецкі перыяд не было маналітным у сваіх палітычных і ідэалагічных думках. На тэрыторыі савецкай Беларусі існавалі розныя формы іншадумства: індывідуальнае[2] і арганізаванае; нацыянальнае і рэлігійнае. Звычайна рэлігійнае дысідэнцтва з'яўлялася арганізаваным. У Савецкім Саюзе яно ўяўляла сабой даволі маштабны рух. У 1960-я гг. прадстаўнікі розных канфесій актывізавалі дзейнасць у справе абароны сваіх праў[3].

У БССР найбольшую актыўнасць праявілі прадстаўнікі евангельскіх цэркваў: евангельскія хрысціяне-баптысты і пяцідзясятнікі. Яны далучыліся да агульнасавецкіх праваабарончых рухаў.

---

1 Напрыклад, *Пазацэнзурны пэрыядычны друк Беларусі 1971–1990 г. Каталёг*. Складальнікі: Юрась Лаўрык і Ларыса Андросік. Менск 1998; у 2004 г. выйшаў даведнік *Нонканфармізм у Беларусі 1953–1985*, аўтарам-укладальнікам з'яўляецца Алег Дзярновіч. Пад яго аўтарствам у часопісе „ARCHE. Пачатак", № 1–2, 2010 быў змешчаны артыкул *„Іншадумцы і контркультурная моладзь у Гародні (1950-я — 1970-–я гг.)"*, с. 543–605. Гісторык Ігар Кузняцоў сабраў звесткі пра асуджаных за антысавецкую агітацыю і прапаганду з 1961 да 1987 года дысідэнтаў-беларусаў. Таксама тэму іншадумства ў сваіх працах закранае даследчык Уладзімір Валодзін: *Першае пакаленне менскіх „хіпі" (другая палова 1960-х — першая палова 1970-х гадоў),* „Зялёны край", № 2, 2008. Антон Лявіцкі разглядае блізкае да іншадумства пытанне ўнутранай эміграцыі сярод беларускай інтэлігенцыі: *Да пытання пра ўнутраную эміграцыю беларускіх інтэлектуалаў у БССР (1964–1985),* „Беларускі гістарычны агляд", снежань 2013, том 20, сшыткі 1-2 (38-39), с. 149-172., [online], http://www. belhistory. eu/anton-lyavicki-da-pytannya-pra-%D1%9Enutranuyu-emigracyyu-belaruskix-intelektuala%D1%9E-u-bssr-1964%E2%80%931985/, [доступ: 09.04.2018].

2 Даследчык Алег Дзярновіч падчас публічнай дыскусіі ў межах канферэнцыі, арганізаванай Інстытутам „Палітычная сфера" пад назвай „Па-за савецкім канонам: палітычны супраціў, акадэмічная і мастацкая аўтаномія ў познесавецкі перыяд (1960–80-я гады)", зазначаў, што беларускія дысідэнцкія асяродкі дзейнічалі адасоблена, дысідэнцкіх рухаў не было.

3 Л. М. Алексеева, *История инакомыслия в СССР: новейший период*, Москва 2012; В. Єленський, *Релігійна свобода до, під час і після Другого Ватиканського собору*. Доповідь на Міжнародній науковій конференції „II Ватиканський Собор: дари Духа — таїна Церкви — свідчення людини", Львів 1 червня 2012 року; С. Сілава, *Праваслаўная царква ў БССР падчас „хрушчоўскай адлігі"*, „ARCHE-Пачатак", 2011, № 10, 2011, с. 218–239.

Ніжэй разгледзім рэлігійнае дысідэнцтва ў БССР. Вылучым яго асаблівасці на прыкладзе дзейнасці вернікаў царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Каб сканцэнтравацца на досведзе беларускіх вернікаў, звернем увагу на характарыстыку асоб, якія свядома выбралі супраціў пануючай у БССР сістэме. Таксама гэта дазволіць разгледзець практыкі вернікаў, накіраваныя на вырашэнне лакальных праблем.

Асноўнымі крыніцамі даследавання існавання і дзейнасці рэлігійных іншадумцаў у БССР сталі *„Біяграфічны слоўнік дысідэнтаў у Савецкім Саюзе: 1956–1975"* (*Biographical Dictionary of Dissidents in the Soviet Union: 1956–1975, далей — „Слоўнік"*)[4], архіўныя дакументы фондаў Упаўнаважанага Савета па справах рэлігійных культаў (з 1965 г.— Савета па справах рэлігій), а таксама ўспаміны вернікаў. У архіўных дакументах (пераважна гэта справаздачы ўпаўнаважаных) інфармацыя пра вернікаў, якіх можна класіфікаваць як дысідэнтаў, несістэматызаваная і раскіданая па розных архіўных справах. У асноўным там сустракаюцца статыстычныя даныя пра арыштаваных, а таксама інфармацыя пра іх „супрацьзаконную" і „антысавецкую" дзейнасць. Перавагай *„Слоўніка"* ў параўнанні з дакументамі савецкіх органаў з'яўляецца тое, што ў ім у алфавітным парадку прадстаўлены асноўныя звесткі пра рэпрэсаваных вернікаў: імя, прозвішча, год нараджэння, месца пражывання, сямейнае становішча, дата арышту, артыкул Крымінальнага Кодэкса БССР, месца зняволення; рэдка — падрабязная прычына арышту. Недахопамі гэтай крыніцы з'яўляюцца недакладныя звесткі пра асоб і памылкі ў напісанні прозвішчаў дысідэнтаў (некаторыя асобы згадваюццапа два разы ў сувязі з розным напісаннем прозвішчаў). Гэтыя недахопы звязаны з праблемамі транслітэрацыі прозвішчаў і імён, а таксама з абмежаванасцю крыніц пра дысідэнтаў з СССР.

*„Слоўнік"* — гэта вынік праекта, які пачаўся ў 1975 г. у Інстытуце Студый Усходняй Еўропы ў Амстэрдамскім універсітэце. Гэта была калектыўная праца даследчыкаў з розных краін (Вялікабрытанія, Германія, ЗША, Францыя) і навучальных устаноў. Яны прааналізавалі 30 тамоў збору дакументаў самвыдату „Радыё Свабода" ў Мюнхене, таксама *„Хроніку бягучых падзей"*[5]. У выніку былі складзены кароткія біяграфіі 3400 дысідэнтаў з Савецкага Саюза. Мэтай праекта было заявіць шырокай грамадзянскай супольнасці пра парушэнні праў грамадзян СССР.

[4] Выказваю падзяку Уладзіміру Валодзіну з Мінска, які падзяліўся гэтай крыніцай.

[5] Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь у СССР, які распаўсюджваўся праз самвыдат. Выдаваўся з 1968 да 1983 г.

Гэты *„Слоўнік”* цікавы тым, што яго складальнікі распрацавалі крытэрыі дысідэнцтва. Да дысідэнтаў залічвалі тых, хто прымусова патрапіў у псіха-неўралагічны дыспансер; хто ўдзельнічаў у стварэнні самвыдату; хто з’яўляўся сябрам дысідэнцкай партыі або групы; хто займаў прынцыповую грамадзянскую пазіцыю; хто падпісаў 5 і больш калектыўных лістоў у абарону праў і свабод[6].

Увогуле азначэнне „дысідэнт” прыйшло з Захаду, дзе пра рэпрэсаваных савецкіх грамадзян ведалі больш, чым у Савецкім Саюзе. Як ужо адзначалася, *„Слоўнік”* ствараўся для распаўсюду сярод шырокай заходнееўрапейскай грамадскасці. У савецкім афіцыйным дыскурсе тых, хто выступаў з крытыкай існуючай палітычнай сістэмы, называлі ворагамі сацыялістычнага ладу, і ў публічнай прасторы інфармацыя пра іх амаль не сустракалася. У выпадку з вернікамі выключэннямі былі памфлеты пра баптыстаў у газетах, а таксама адкрытыя суды над імі. Паступова паняцце „дысідэнт” пачало ўжывацца і на тэрыторыі СССР, у асноўным у асяроддзі праваабаронцаў.

Сучаснае азначэнне дысідэнцтва і дысідэнтаў сфарміравалася шмат у чым дзякуючы дзейнасці Міжнароднага гісторыка-асветніцкага, праваабарончага і дабрачыннага таварыства „Мемарыял”. Яшчэ ў пачатку 1990-х гг. у межах даследчай праграмы „Мемарыяла” для вывучэння гісторыі дысідэнцтва ў СССР былі прапанаваныя асноўныя прынцыпы і характарыстыкі гэтага феномена. Яны ўключалі ў сябе негвалтоўнасць, галоснасць, рэалізацыю асноўных праў і свабод „явачным парадкам”, патрабаванне выканання закона. Па формах грамадскай актыўнасці дысідэнцкі рух павінен адпавядаць наступным прыкметам: стварэнне тэкстаў без цэнзуры, аб’яднанні ў незалежныя грамадскія асацыяцыі, рэдкія публічныя акцыі (дэманстрацыі, распаўсюд улётак і г.д.). Асаблівасцю з’яўляюцца таксама інструменты, якія выкарыстоўваюць удзельнікі дысідэнцкага руху: распаўсюд літаратурных, навуковых, праваабарончых, інфармацыйных тэкстаў праз самвыдат і замежныя СМІ; петыцыі ў савецкія органы ўлады; адкрытыя лісты[7].

У дачыненні да асоб, якія выступілі супраць савецкай улады, выкарыстоўваліся таксама такія вызначэнні, як „іншадумцы” і „нон-

[6] *Biographical Dictionary of Dissidents in the Soviet Union: 1956–1975,* Martinus Nijhoff Publishers, the Hague, Boston, London 1982, s. 11.

[7] Программа „История советских диссидентов и правозащитного движения в СССР”, [online], http://old.memo. ru/history/DISS/, [доступ: 09.04.2018].

канфармісты”[8]. Супрацоўнік Цэнтра вывучэння рэлігіі і камунізму (пазней — Кестан-каледж, Keston College)[9] Майкл Бурдо называў вернікаў евангельскіх цэркваў першымі дэмакратамі[10].

У асяроддзі вернікаў было распаўсюджана паняцце „вязень сумлення”. Бо амаль усе прадстаўнікі евангельскіх цэркваў, якія выступілі ў абарону сваіх праў, зведалі турэмнае зняволенне. Такім чынам, важным крытэрыем вызначэння рэлігійнага дысідэнта/іншадумца з'яўлялася пазбаўленне волі (турэмнае зняволенне або карная псіхіятрыя). Гэты крытэрый прысутнічае і ў „*Слоўніку*” — усе пералічаныя там баптысты былі арыштаваныя.

У савецкай літаратуры[11], а таксама ў савецкіх дакументах рэлігійных дысідэнтаў называлі „экстрэмістамі”, якія, паводле характарыстык улад, сілай навязвалі свае рэлігійныя погляды, парушаючы пры гэтым законы краіны.

Сёння даследчыкі ў дачыненні да прадстаўнікоў евангельскіх цэркваў усё часцей выкарыстоўваюць паняцці „дысідэнты”, „іншадумцы”[12]. Мы таксама будзем прытрымлівацца тэрміна „дысідэнцтва”. Тым больш што дзейнасць вернікаў у праваабарончай справе адпавядала азначэнню, прапанаванаму „Мемарыялам”, і крытэрыям „*Слоўніка*”.

## Рэлігійныя дысідэнцкія арганізацыі

Дысідэнты з абшчын евангельскіх хрысціян-баптыстаў у асноўным уваходзілі ў склад нелегальнага Савета цэркваў ЕХБ.

У пачатку 1960-х гг. у зарэгістраваным і прызнаным савецкай уладай Саюзе ЕХБ адбыўся падзел: некаторыя вернікі выйшлі з гэтай арганізацыі.

---

[8] Даследчык з ЗША Вальтэр Завацкі выкарыстоўваў паняцце „дысідэнцкі рух” у дачыненні да евангельскіх хрысціян-баптыстаў, якія не падпарадкаваліся кіраўніцтву Саюза ЕХБ. Удзельніца праваабарончага руху Людміла Аляксеева ў сваёй працы *История инакомыслия в СССР: Новейший период* называла іх іншадумцамі.

[9] Падрабязней гл. Эйприл Л. Френч, *Майкл Бурдо и Центр по изучению религии и коммунизма в контексте защиты религиозной свободы (1959–1975)*, „Государство, религия, церковь в России и за рубежом. Церкви в холодной войне: специфика коммуникаций и восприятие „другого”, 2017, № 1 (35), с. 216–243.

[10] M. Bourdeaux, *Religious Liberty in the Soviet Union: Protestant Opposition to Soviet Religious Policy*. Macmillan, London, Melbourne, Toronto, St. Martin's press, New York 1968. http://www. tertullian. org/rpearse/keston/ Bourdeaux_Religious_Ferment_In_Russia_1968. pdf.

[11] В. А. Куроедов, *Религия и церковь в Советском государстве*, Москва 1981, с. 169.

[12] Н. А. Бондаренко, *Формирование системы религиозного диссиденства в рамках „отдельного” братства ЕХБ во второй половине 1960-х гг.: украинские реалии*, „Христианское чтение”, 2017, № 1, с. 381–405, [online], http://christian-reading. info/data/2017/01/2017–01–18. pdf, [доступ: 09.04.2018]; Ю. Решетников, С. Санников, *Обзор истории Евангельско-баптистского братства в Украине, Одесса 2000,* [online], http://krotov. info/history/20/iz_istori/reshetn. html, [доступ: 09.04.2018]. Аляксандр Лахно з Украіны называў прыхільнікаў ініцыятыўнага руху апазіцыянерамі. Ён звярнуў увагу, што царкоўная апазіцыя ў аб'яднанні ЕХБ была феноменам не толькі рэлігійнага, але і агульнапалітычнага жыцця ўкраінскага грамадства ў савецкі перыяд. Апазіцыя вернікаў ЕХБ мела перавагу над палітычнымі дысідэнтамі: О. Лахно, *Опозиція в євангельсько-баптистському русі в УРСР (середина 40-х — 80-ті роки XX століття)*: автореф. дис. на здобуття наук. ступеня канд. істор. наук: спец. 09.00.11 „Релігієзнавство”, Київ 2008.

Асноўнай прычынай падзелу была незадаволенасць вернікаў кіраўніцтвам Саюза ЕХБ (Усесаюзным саветам ЕХБ/УСЕХБ і старшымі прэсвітарамі), якое пайшло на шматлікія саступкі савецкай уладзе.

У канцы 1959 г. у статут Саюза ЕХБ былі ўнесены змены[13], паводле якіх абмяжоўваліся адны з асноўных баптысцкіх/евангельскіх прынцыпаў: незалежнасць памесных цэркваў і евангелізацыя.

У 1961 г. найбольш актыўныя вернікі стварылі Ініцыятыўную групу па скліканні надзвычайнага ўсесаюзнага з’езда ЕХБ (далей — ініцыятыўная група, а яе прыхільнікі — ініцыятыўнікі)[14], на якім планавалася перагледзець змены ў статуце, прынятыя пад ціскам дзяржаўных органаў. Ініцыятыўная група прапанавала прэзідыуму Усесаюзнага савета ЕХБ правесці з’езд вернікаў. Але адказу не атрымала. Прадстаўнікі ініцыятыўнай групы звярнуліся да ўсіх вернікаў ЕХБ. Яны даслалі ў абшчыны ліст, у якім гаварылася пра становішча памесных цэркваў пасля прыняцця зменаў у статуце, пра адступленні кіраўніцтва Саюза ЕХБ ад евангельскіх прынцыпаў, а таксама прапаноўвалася пісаць хадайніцтвы ў органы ўлады аб скліканні з’езда вернікаў[15].

У лютым 1962 г. ініцыятыўная група стварыла арганізацыйны камітэт па скліканні з’езда (далей — аргкамітэт). 19 верасня 1965 г. аргкамітэт на ўсесаюзнай нарадзе абвясціў пра стварэнне новай, незалежнай ад Саюза ЕХБ, арганізацыі — Савета цэркваў ЕХБ (далей — СЦЕХБ)[16]. Старшынёй Савета быў абраны Генадзь Кручкоў, а сакратаром — Георгій Вінс. У 1966 г. прыхільнікаў СЦЕХБ налічвалася каля 155 тыс. чалавек з 500 тыс. усіх вернікаў ЕХБ у Савецкім Саюзе[17].

Дакладную колькасць вернікаў, якія падтрымалі СЦЕХБ у БССР, назваць складана, бо яны дзейнічалі падпольна. Упаўнаважаныя прыводзілі прыблізныя лічбы прыхільнікаў СЦЕХБ. Так, паводле даных упаўнаважанага Савета па справах рэлігій па БССР, у 1965 г. у Брэсцкай вобласці налічвалася каля 650 вернікаў Савета цэркваў ЕХБ, што складала 12 % ад колькасці ўсіх евангельскіх хрысціян-баптыстаў вобласці[18].

У БССР дзейнічаў асобны беларускі (рэспубліканскі) савет СЦЕХБ, у абласцях існавалі абласныя саветы СЦЕХБ. Члены гэтых саветаў

13 Г. Крючков, *Великое пробуждение XX века: 1961–2006*, Москва 2008, с. 38–39.

14 Гэтая група выступіла з ініцыятывай склікання з’езда прадстаўнікоў усіх абшчын ЕХБ, таму атрымала скарочаную назву „ініцыятыўная група” або „ініцыятыўнікі”.

15 Г. Крючков, *Великое пробуждение*, с. 52.

16 Гэтая арганізацыя існуе і зараз пад назвай Міжнародны саюз цэркваў ЕХБ, яна аб’ядноўвае евангельскіх хрысціян-баптыстаў краін СНД, Балтыі, а таксама вернікаў у эміграцыі (ЗША, Канада).

17 В. Заватски, *Евангелическое движение в СССР после второй мировой войны*, Москва 1995, с. 222.

18 *Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь* (далей — НАРБ), ф. 952, воп. 3, адз. зах. 41, арк. 248–249.

збіраліся на агульныя нарады, ездзілі па абшчынах, вырашалі там арганізацыйныя праблемы, выконвалі некаторыя абрады, бо ў шматлікіх абшчынах не было прэсвітараў. Беларускі савет СЦЕХБ збіраўся адзін раз у тры месяцы для абмеркавання царкоўных пытанняў. Гэта рабілася ў глыбокай канспірацыі, звычайна на кватэры ў Мінску. Савет складаўся з 7–10 чалавек[19]. Старшыня беларускага савета ўдзельнічаў у агульных нарадах СЦЕХБ.

Апроч патрабавання правядзення з’езда, ініцыятыўнікі, а пасля прыхільнікі СЦЕХБ вялі дзейнасць у справе абароны сваіх праў, зацверджаных савецкімі законамі. Яны выступалі за аддзяленне царквы ад дзяржавы (неўмяшанне дзяржавы ва ўнутраныя справы царквы) і за свабоду сумлення. Вернікі звярталіся ў савецкія органы ўлады, патрабуючы рэальнага выканання прынцыпу свабоды сумлення. У 1965 г. Г. Кручкоў і Г. Вінс накіравалі ліст Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Леаніду Брэжневу з просьбай замацаваць заканадаўча правы вернікаў: „*Ад імя ўсіх ЕХБ просім Вас: 1. Аднавіць значэнне Дэкрэта аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і яго першапачатковае аб’ектыўнае тлумачэнне; 2. Пастанову УЦВК і СНК ад 08.04.1929 г. Аб рэлігійных аб’яднаннях адмяніць; 3. Даць дакладную фармуліроўку артыкулу аб свабодзе сумлення ў распрацаванай Вамі канстытуцыі, гэта значыць дадаць свабоду рэлігійнай прапаганды*”[20]. Гэты ліст быў шырока распаўсюджаны праз самвыдат. Так, ён быў канфіскаваны ў верніка з в. Дубрава Верхнедзвінскага раёна Віцебскай вобласці. Падобныя лісты пісалі не толькі лідары СЦЕХБ, але і шэраговыя вернікі. У 1981 г. 96 вернікаў з гарадоў Гродна, Ваўкавыск і вёсак Некрашы, Бародзічы Гродзенскай вобласці напісалі калектыўны ліст Л. Брэжневу, у якім прасілі прыпыніць рэпрэсіі супраць ЕХБ, „*каб нам свабодна выконваць служэнні Богу. Дайце вернікам свабоду сумлення, слова, друку і веравызнання, якая гарантаваная Канстытуцыяй СССР і іншымі міжнароднымі актамі, ратыфікаванымі ў СССР*”[21]. Але ўсе гэтыя звароты і просьбы не атрымалі станоўчых і ўвогуле пісьмовых адказаў.

Нягледзячы на незадавальненне сваіх просьбаў, евангельскія хрысціяне-баптысты з незарэгістраваных абшчын прытрымліваліся прынцыпу свабоды сумлення на практыцы. У 1965 г. вернікі з Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці сцвярджалі: „*Мы вернікі і не можам адступаць*

[19] В. Вильчинский, *Недаром пролитые слёзы*, Брест 2011, с. 223.

[20] *Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці* (далей — ДАВВ), ф. 4029, воп. 1, адз. зах. 19, арк. 94.

[21] *Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці* (далей — ДАГВ), ф. 475, воп. 1, адз. зах. 148, арк. 48.

*ад Пісання, а тое, што мы збіраемся ў* (прыватных — Т. К.) *дамах, мы карыстаемся свабодай сумлення*"[22]. Яны займаліся місіянерскай дзейнасцю, арганізоўвалі групавое навучанне дзяцей, праводзілі сходы моладзі, распаўсюджвалі самвыдат.

Пастаянным выданнем Савета цэркваў ЕХБ з'яўляўся *„Брацкі аркуш"* (*„Братский листок"*), які пачаў друкавацца з 1965 г. Ён з'яўляўся інфармацыйным перыядычным выданнем (выходзіў раз у адзін-два месяцы), у якім змяшчаліся вітанні і пасланні да вернікаў ад кіраўніцтва Савета цэркваў ЕХБ, справаздачы пра яго дзейнасць (сустрэчы з прадстаўнікамі органаў улады, з УСЕХБ, прынятыя рэзалюцыі і г.д.), рэкамендацыі па стратэгіі паводзінаў вернікаў ва ўзаемаадносінах з дзяржаўнымі органамі[23]. З 1963 г. друкаваўся часопіс *„Веснік выратавання"* (*„Вестник спасения"*, з 1976 г. — *„Веснік ісціны"*), змест якога пераважна складаўся з матэрыялаў павучальнага характару. Асноўнай тэмай было тлумачэнне тэалагічных пытанняў[24].

У асноўным усе практыкі выконваліся падпольна і датычыліся рэлігійнай дзейнасці. Але былі і публічныя грамадскія акцыі. Самай вядомай стала дэманстрацыя вернікаў — прыхільнікаў СЦЕХБ у маі 1966 г. каля будынка ЦК КПСС. 16 мая больш за 400 дэлегатаў з 130 абшчын ЕХБ прыехалі ў Маскву, каб сустрэцца з кіраўніцтвам краіны[25]. У тым ліку былі дэлегаты і з БССР. Яны прывезлі з сабой дакументальныя сведчанні ганенняў на вернікаў. Гэта быў пратэст супраць рэпрэсій. Таксама вернікі патрабавалі неўмяшання дзяржавы ў справы царквы. Але з дэлегатамі ніхто з кіраўніцтва краіны не сустрэўся. На другі дзень іх жорстка разагналі, збілі, прымусова пасадзілі ў аўтобусы і павезлі ў турму. Большасць вернікаў атрымалі арышт на 15 сутак.

Гэта выключная акцыя для пасляваеннага савецкага часу, пра якую дбаннямі органаў улады не з'явілася інфармацыя ў публічнай прасторы. У афіцыйным дыскурсе панаваў вобраз моцнай савецкай супольнасці, якая цалкам падтрымлівала дзяржаўную палітыку.

Майская дэманстрацыя мела розныя наступствы для вернікаў. Некаторыя з-за страху выйшлі з Савета цэркваў ЕХБ[26]. Іншых гэта

---

22 ДАВВ, ф. 4029, воп. 1, адз. зах. 2, арк. 135.

23 ДАВВ, ф. 4029, воп. 1, адз. зах. 19, арк. 203–225.

24 Гл. падрабязней: Вестник спасения. Духовно-назидательный журнал ЕХБ, 1963–1975 гг., [online], http://rusbaptist. stunda. org/vestnikspasenia. htm, [доступ: 01.04.2018].

25 Г. Крючков, *Великое пробуждение*, с. 238.

26 Ю. Решетников, С. Санников, *Обзор истории Евангельско-баптистского братства…*, [online], http://krotov. info/history/20/iz_istori/reshetn. html, [доступ: 09.04.2018].

акцыя аб'яднала і ўпэўніла ў правільным выбары сваёй пазіцыі. Вернік з Брэсцкай вобласці Іван Кравец у размове з намеснікам упаўнаважанага Савета па справах рэлігій сцвярджаў: *„Вернікі прасілі мяне, і я ў маі ездзіў у Маскву, а трэба будзе — паеду яшчэ раз. Вы мне тлумачыце пра свабоду сумлення, а я Вам скажу, што ж гэта за свабода, калі не дазваляюцца пахаванні па рэлігійным абрадзе, а вы ж пахаванні праводзіце з аркестрам, а нам не дазваляеце. Вам гэта можна, а нам не"*[27].

Распаўсюджанай была тактыка салідарнасці з тымі, хто патрапіў у турму. Вернікі з Магілёва напісалі ліст Брэжневу, а таксама генеральнаму пракурору СССР Раману Рудзенку з патрабаваннем вызваліць арыштаваных 17 мая 1966 г.: *„З нашымі дэлегатамі абыйшліся супрацьзаконна. Паслалі іх мы — царква. Мы адказваем за наступствы іх дзеянняў перад Госпадам і перад Вамі. Калі перад Вамі яны вінаваты, то значыць і мы вінаватыя. Калі яны не будуць у хуткім часе з намі, тады бярыце і нас. Мы пакінем працы і дамы і пераедзем з нашымі жонкамі і нашымі дзецьмі, каб падзяліць іх лёс разам*"[28]. Падпісалі гэты ліст 23 чалавекі.

Прыналежнасць да царквы стварала прастору для арганізацыі моцнай салідарнай супольнасці. У асяроддзі вернікаў панавалі ўзаемападтрымка і ўзаемадапамога, што дазваляла ўпарта адстойваць свае правы. Найчасцей салідарнасць праяўлялася на ўзроўні асобнай абшчыны. У 1970 г. вернікі абшчыны з в. Бародзічы Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці напісалі калектыўны ліст на імя старшыні Вярхоўнага суда БССР у абарону арыштаваных адзінаверцаў Мікалая Шугалы і Мікалая Лазуты[29]. Брэсцкія вернікі звярнуліся да пракурора БССР у абарону Трафіма Фейдака і Уладзіміра Вільчынскага, арыштаваных у 1968 г.[30]

Таксама вернікі імкнуліся трапіць на судовыя пасяджэнні над ЕХБ. Але іх не заўсёды пускалі ў залу суда[31]. Падчас вызвалення вернікаў з турмаў і папраўча-працоўных калоній па-магчымасці іх сустракалі не толькі сваякі, але і адзінаверцы[32].

З нагоды вызвалення прадстаўніцы Савета родзічаў вязняў Зінаіды Вільчынскай былі арганізаваны набажэнства і агульная сустрэча лідараў

27 НАРБ, ф. 136, воп. 1, адз. зах. 2, арк. 405.
28 НАРБ, ф. 136, воп. 1, адз. зах. 4, арк. 309.
29 *Biographical Dictionary of Dissidents*, s. 314.
30 Тамсама, s. 136.
31 ДАГВ, ф. 475, вопіс 1, адз. зах. 54, арк. 7; Яўген А., 1964 г.н., запісана 12.06.2014 Таццянай Касатай, г. Ваўкавыск.
32 Яўген А., 1964 г.н., запісана 12.06.2014 Таццянай Касатай, г. Ваўкавыск.

СЦЕХБ у БССР. Зінаіда Вільчынская ўваходзіла ў нелегальную абшчыну ЕХБ у Брэсце. У 1986 г. яна была арыштавана, калі разам з іншымі вернікамі перавозіла рэлігійную літаратуру з г. Прахладны ў Расіі. На той момант ёй было 54 гады. Яе асудзілі на два гады калоніі. З прычыны слабага здароўя, а таксама з-за актыўнага пратэсту з боку вернікаў на Захадзе, Вільчынская была вызвалена ў чэрвені 1987 г. (на 11 месяцаў раней тэрміну)[33].

Варта адзначыць, што немалаважную ролю адыгрывала падтрымка вернікаў з боку замежнай (пераважна заходнееўрапейскай) грамадзянскай супольнасці. Таму прадстаўнікі СЦЕХБ імкнуліся перадаць на Захад інфармацыю пра становішча вернікаў у СССР.

Катэгарычная пазіцыя вернікаў у дачыненні прынцыпаў аддзялення дзяржавы ад царквы і свабоды сумлення прывяла да канфлікту паміж імі і дзяржавай. Як вынікае з вышэйпрыведзеных фактаў, супраць актыўных прыхільнікаў СЦЕХБ улады прымянялі рэпрэсіўныя меры.

Праваабаронца Людміла Аляксеева зазначала, што найбольшая колькасць арыштаў ЕХБ у СССР адбывалася ў перыяд з 1961 да 1963 г., калі ішла актыўная дзейнасць у справе склікання з'езда. Паводле яе падлікаў, 524 вернікі былі арыштаваны з 1961 г. да 1970 г., сярод іх 44 жанчыны. У 1971 г. налічвалася 48 арыштаў, у 1972–53, у 1973–1975 гг. — 70[34]. У БССР у 1962 г. было асуджана 32 вернікі, у 1963 г. — 44, у 1964 — 13[35]. У асноўным вернікі прыцягваліся да адказнасці па двух артыкулах Крымінальнага Кодэкса БССР: артыкул 139 (парушэнне законаў аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы), артыкул 222 (замах на асобу і правы грамадзян пад выглядам выканання рэлігійных абрадаў). Гэтыя артыкулы прымяняліся да вернікаў, якія ўдзельнічалі ў набажэнствах нелегальных (незарэгістраваных) абшчын; дазвалялі прысутнічаць на малітоўных сходах дзецям; ладзілі дзіцячыя летнікі і стваралі нядзельныя школы; друкавалі і распаўсюджвалі рэлігійны самвыдат. Увогуле прыналежнасць да СЦЕХБ давала ўладам нагоду шукаць падставы для прыцягнення верніка да адміністрацыйнай або крымінальнай адказнасці.

Арышты і ганенні на вернікаў сталі прычынай стварэння Савета родзічаў вязняў, які дзейнічаў нелегальна. Асноўнай задачай гэтай арганізацыі было хадайніцтва перад дзяржаўнымі органамі пра

[33] *Пусть воды шумят. Христиане в ГУЛАГе*. Составитель Г. Винс, 1989, [online] http://rusbaptist. stunda. org/pust_vody_shumyat. pdf, [доступ: 10.04.2018].

[34] Л. М. Алексеева, *История инакомыслия,* с. 160.

[35] НАРБ, ф. 952, воп. 3, адз. зах. 40, арк. 146.

зняволеных евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Пры гэтым меркавалася, што хадайніцтвы будуць пісаць родзічы, якія паводле савецкіх законаў мелі на гэта права. У гэты Савет уваходзілі жанчыны: жонкі або маці зняволеных вернікаў-мужчын. Першы зварот Савета родзічаў вязняў і спіс вязняў у Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР быў накіраваны 5 ліпеня 1964 г. У выніку праверкі пракуратурай СССР былі адменены некаторыя крымінальныя справы супраць вернікаў і прысуды, бо яны не мелі доказаў[36]. З 1970 г. пачаў друкавацца *„Бюлетэнь Савета родзічаў вязняў ЕХБ”*.

Ад беларускіх абшчын ЕХБ у Савет родзічаў вязняў уваходзілі Зінаіда Вільчынская з Брэста і Антаніна Сінкевіч з Гродна[37]. Іх выбралі падчас прыезду ў БССР Лідзіі Вінс[38], на сустрэчы жонак тых вернікаў, якія знаходзіліся ў турмах і лагерах. У 1968 г. быў арыштаваны муж Вільчынскай, а ў 1972 г. другі раз асуджаны муж Сінкевіч. Яны збіралі інфармацыю пра вязняў-вернікаў у БССР, падпісвалі звароты і просьбы аб вызваленні вязняў у дзяржаўныя інстанцыі, удзельнічалі ў агульных нарадах Савета родзічаў вязняў, распаўсюджвалі *„Бюлетэнь”* гэтай арганізацыі.

Прыхільнікі СЦЕХБ і прадстаўнікі Савета родзічаў вязняў падтрымлівалі сувязі таксама са свецкімі дысідэнтамі. Напрыклад, яны супрацоўнічалі з Маскоўскай і Украінскай Хельсінскімі групамі[39]. Факты пра ганенні на вернікаў друкаваліся ў *„Хроніцы бягучых падзей”*.

Такім чынам, у БССР дзейнічалі прадстаўнікі Савета цэркваў ЕХБ і Савета родзічаў вязняў. Гэтыя арганізацыі не з’яўляліся класічнымі дысідэнцкімі. Па-першае, у іх уваходзілі толькі вернікі ЕХБ. Па-другое, у сваёй праваахоўнай дзейнасці яны канцэнтраваліся ў асноўным на абароне праў вернікаў. Да таго ж Савет цэркваў ЕХБ быў рэлігійным аб’яднаннем. І не ўсіх вернікаў, якія ўваходзілі ў СЦЕХБ, можна аднесці да дысідэнтаў. Але дзейнасць гэтых арганізацый не рэгламентавалася савецкай уладай. Яны выдавалі непадцэнзурныя інфармацыйныя лісты і бюлетэні; публічна выступалі ў абарону праў вернікаў; сістэматычна пісалі скаргі ў органы ўлады; пастаянна і шырока інфармавалі пра ганенні

[36] Г. Крючков, *Великое пробуждение*, с. 456; НАРБ, ф. 952, воп. 3, адз. зах. 41, арк. 245.

[37] В. Вильчинский, *Недаром пролитые,* с. 399.

[38] Лідзія Вінс (1907–1985), верніца ЕХБ, муж быў расстраляны ў 1937 г. Засталася адна з сынам Георгіем. У 1960-я гг. Георгій Вінс далучыўся да ініцыятыўнай групы склікання ўсесаюзнага з’езда вернікаў. Пасля ён з’яўляўся генеральным сакратарам Савета цэркваў ЕХБ. Лідзія Вінс 15 гадоў узначальвала Савет родзічаў вязняў. Яна і яе сын зазналі рэпрэсіі з боку савецкіх улад. У 1979 г. Георгій і Лідзія Вінс выехалі з СССР і арганізавалі ў эміграцыі Замежнае прадстаўніцтва СЦЕХБ.

[39] Праваахоўныя арганізацыі, якія з’явіліся ў 1976 г. і садзейнічалі выкананню Хельсінскіх пагадненняў.

супраць ЕХБ. Гэтыя функцыі выконваў у асноўным Савет родзічаў вязняў, які можна аднесці да рэлігійных праваабарончых арганізацый. Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што Савет родзічаў вязняў натхніў прадстаўнікоў інтэлігенцыі і іншых канфесій на барацьбу за свае правы[40].

## Характарыстыка верніка-дысідэнта

На падставе звестак пра вернікаў са *„Слоўніка"*, а таксама дадатковай інфармацыі з архіўных крыніц паспрабуем ахарактарызаваць вернікаў-дысідэнтаў у БССР.

*„Слоўнік"* утрымлівае звесткі пра 81 асобу з беларускіх евангельскіх цэркваў[41]. Зразумела, што гэта не поўны спіс рэлігійных дысідэнтаў з БССР. Бо, па-першае, звесткі не пра ўсіх рэпрэсаваных траплялі ў *„Хроніку бягучых падзей"* і іншыя выданні самвыдату[42]. Па-другое, у *„Слоўніку"* з прычыны абмежаванасці інфармацыі сустракаюцца прозвішчы дысідэнтаў без пазначэння месца жыхарства. Па-трэцяе, *„Слоўнік"* мае храналагічныя абмежаванні (1956–1975 гг.). Але, нягледзячы на гэтыя хібы *„Слоўніка"*, у ім адлюстравана даволі шматлікая і прадстаўнічая выбарка супольнасці вернікаў-дысідэнтаў з БССР[43]. Важным з'яўляецца тое, што ў *„Слоўніку"* няма ацэначнага меркавання, але ён прэзентуе вобраз дысідэнтаў, створаны на падставе самвыдату, які выдаваўся самімі вернікамі.

Паводле *„Слоўніка"* найбольшую колькасць дысідэнтаў складалі мужчыны 1910-х — 1930-х гг. нараджэння. Іх сярэдні ўзрост на момант арыштаў (1963–1973 гг.) складаў 40–50 гадоў. Большасць з іх ужо мелі сем'і, у якіх налічвалася да 8 дзяцей.

У асноўным евангельскія хрысціяне-баптысты мелі пачатковую свецкую адукацыю (3–8 класаў)[44]. Атрымаць вышэйшую адукацыю вернікам было вельмі складана. З-за прыналежнасці да царквы шматлікіх маладых людзей адлічвалі з вышэйшых навучальных устаноў[45].

---

40 Л. М. Алексеева, *История инакомыслия в СССР,* с. 154; Ю. Решетников, С. Санников, *Обзор истории Евангельско-баптистского братства,* [online] http://krotov. info/history/20/iz_istori/reshetn. html, [доступ: 09.04.2018].

41 У *„Слоўніку"* ўсе яны пазначаны як „баптысты", але з іншых крыніц вынікае, што некаторыя вернікі былі пяцідзясятнікамі.

42 Першая згадка пра ініцыятыўнікаў у *„Хроніцы бягучых падзей"* з'яўляецца ў пятым выпуску ў 1968 г., рэгулярна даныя пра рэпрэсаваных баптыстаў друкаваліся ў *„Хроніцы"* з 1974 г. Першае выступленне маскоўскіх праваабаронцаў у абарону баптыстаў таксама адносіцца да 1974 г., калі Ініцыятыўная група па абароне праў і вядомы дысідэнт Андрэй Сахараў звярнуліся да міжнароднай супольнасці ў сувязі з арыштам аднаго з лідараў СЦЕХБ Георгія Вінса. Л. М. Алексеева, *История инакомыслия*, с. 159.

43 Інфармацыя, якая адсутнічала, па магчымасці была дапоўнена архіўнымі крыніцамі.

44 НАРБ, ф. 136, воп. 2, адз. зах. 9, арк. 104, 110.

45 НАРБ, ф. 4п, воп. 29, адз. зах. 693, арк. 198.

Некаторыя дысідэнты атрымалі тэалагічную адукацыю, у асноўным гэта вернікі з тэрыторыі Заходняй Беларусі. Так, вернік-дысідэнт Мікалай Карэтка з в. Чарнакі Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці ў 1939 г. скончыў біблійныя курсы ў г. Лодзь.

Вернікі ў асноўным працавалі простымі рабочымі на прадпрыемствах, чыгунцы, шафёрамі на аўтабазах і інш. З 81 асобы, пералічанай у „*Слоўніку*", 15 вернікаў нарадзіліся ў канцы XIX ст. і ў перыяд дысідэнцкага руху з'яўляліся пенсіянерамі. Жыхары вёсак (у „*Слоўніку*" іх налічваецца 21 чалавек) у большасці працавалі ў калгасах[46].

Варта адзначыць, што вернікі з вёсак даволі актыўна далучыліся да руху абароны сваіх праў. Яны не саступалі гарадскім дысідэнтам у ініцыятыўнасці, салідарнасці і арганізаванасці. У вёсцы складаней было схаваць дзейнасць ад аднавяскоўцаў, але пры гэтым там існавалі моцная з'яднаная супольнасць і ўзаемадапамога.

Стварыць падрабязны партрэт усіх пералічаных у „*Слоўніку*" вернікаў-дысідэнтаў даволі складана па прычыне адсутнасці падрабязнай інфармацыі пра іх. Таму ніжэй, на падставе даступных крыніц, ахарактарызуем некалькі вернікаў. Сярод мужчын гэта будуць Арцём Хівук — прадстаўнік старэйшага пакалення, жыхар вёскі Рагозна Брэсцкага раёна, і Яўген Сільчукоў — з ліку маладога пакалення, жыхар горада Слуцка. Гэтыя асобы часта траплялі ў справаздачы ўпаўнаважаных Савета па справах рэлігій.

Арцём Хівук нарадзіўся ў 1904 г. у Брэсцкім раёне ў праваслаўнай сям'і. Ён меў адукацыю 3 класы. У вайну падчас бамбардзіроўкі загінулі яго двое дзяцей, ён сам быў паранены. Працаваў у саўгасе. Пасля вайны з'яўляўся прэсвітарам абшчыны ў в. Рагозна. У 1949 г. (або 1948 г.) Арцём Хівук быў асуджаны на 25 гадоў высылкі. Паводле справаздачы ўпаўнаважанага па справах рэлігій Хівук выступаў супраць калектывізацыі[47]. У гэты час была пазбаўлена рэгістрацыі і абшчына. У 1956 г. Хівук вярнуўся пасля амністыі. Быў прэсвітарам рагазнянскай абшчыны, якая дзейнічала нелегальна. Вернік з Брэста Уладзімір Вільчынскі ў сваіх мемуарах прыгадваў, што Хівук, прыняўшы служэнне прэсвітара, нёс яго бескампрамісна[48]. Іншы вернік з Рагозна казаў, што Арцём Хівук быў сапраўдным хрысціянінам[49]. Падтрымаўшы ініцыятыўную групу, Хівук пачаў актыўна ездзіць па абшчынах, распаўсюджваючы ідэі пра з'езд вернікаў, казаў пра прынцып

[46] НАРБ, ф. 136, воп. 2, адз. зах. 9, арк. 104, 110.

[47] НАРБ, ф. 136, воп. 2, адз. зах. 9, арк. 110.

[48] В. Вильчинский, *Недаром пролитые слёзы*, с. 116. Уладзімір Вільчынскі з'яўляўся членам абласнога савета, а пасля беларускага савета СЦЕХБ.

[49] Дарафей Л. 1929 г.н., запісана 10.09.2015 Таццянай Касатай, в. Рагозна (Брэсцкі раён).

незалежнасці царквы ад дзяржавы. У 1966 г. у вясковай рагазнянскай абшчыне налічвалася каля 100 прыхільнікаў ініцыятыўнай групы[50]. Хівук быў старшынёй беларускага аб’яднання СЦЕХБ. Таксама ён адказваў за рукапалажэнне прэсвітараў у БССР.

У 1969 г. Арцёма Хівука арыштавалі і асудзілі на 5 гадоў зняволення[51]. На той момант ён ужо быў вельмі хворы. Хівук знаходзіўся ў лагеры ў Ваўкавыску. Да яго прыязджалі адзінаверцы. У 1973 г. Хівука датэрмінова выпусцілі з турмы дадому, дзе ён у хуткім часе памёр. У дзень яго пахавання в. Рагозна была ачэплена міліцыяй, супрацоўнікамі КДБ, памежнікамі, каб не дапусціць вернікаў з іншых гарадоў і вёсак на пахаванне Хівука. Але некаторым лідарам СЦЕХБ усё ж такі ўдалося прыехаць, напрыклад Уладзіміру Вільчынскаму з брэсцкай абшчыны[52].

Яўген Сільчукоў нарадзіўся ў 1935 г. Скончыў 7 класаў школы. Працаваў электраманцёрам на аўтабазе ў Слуцку Мінскай вобласці.

У 1965 г. упаўнаважаны пісаў, што ў Слуцку дзейнічалі прыхільнікі Савета цэркваў ЕХБ[53]. Слуцкая група вернікаў СЦЕХБ была даволі актыўнай у праваабарончай справе. Пра гэта сведчаць скаргі, якія дасылаліся ў органы савецкай улады, у тым ліку Старшыні Савета міністраў СССР Аляксею Касыгіну, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага савета СССР Мікалаю Падгароднаму, генеральнаму пракурору СССР Раману Рудэнку, пракурору БССР Аляксею Бондару[54]. Варта адзначыць, што ў лістах і скаргах вернікі пісалі пра існаванне „гуманнага закона” ў СССР, які парушалі мясцовыя органы ўлады. Складаецца ўражанне, што яны спадзяваліся на справядлівасць кіраўніцтва краіны, якое можа абараніць іх правы. Пры гэтым вернікі разумелі, што ў Савецкім Саюзе пануючай ідэалогіяй быў марксізм-ленінізм, які прадугледжваў пабудову атэістычнай дзяржавы. Таму з боку вернікаў гэта быў тактычны ход: калі вышэйстаячыя органы не адкажуць, то далей можна звяртацца да міжнароднай супольнасці, што было нявыгадна для савецкага кіраўніцтва[55].

Слуцкая абшчына СЦЕХБ падтрымлівала сувязі з вернікамі з Брэсцкай, Мінскай, Гомельскай абласцей, з Эстонскай ССР[56].

50 НАРБ, ф. 136, воп. 2, адз. зах. 9, арк. 66–69.

51 Н. Белякова, М. Добсон, *Женщины в евангельских общинах послевоенного СССР. 1940–1980-е гг. Исследование и источники*, Москва 2015, с. 397.

52 В. Вильчинский, *Недаром пролитые слёзы*, с. 241.

53 НАРБ, ф.. 952, воп. 3, адз. зах. 41, арк. 235.

54 НАРБ, ф. 136, воп. 1, адз. зах. 4, арк. 51, 51 адв., 52, 57, 57 адв., 58.

55 ДАВВ, ф. 1439, воп. 1, адз. зах. 1, арк. 25.

56 НАРБ, ф. 136, воп. 1, адз. зах. 4, арк. 60.

Першыя звесткі пра Яўгена Сільчукова з’яўляюцца ў архіўных дакументах у 1965 г. На той момант ён быў жанаты і меў чатырох дзяцей. Вядома, што ў доме Сільчуковых праходзілі набажэнствы нелегальнай абшчыны ЕХБ. 21 снежня 1965 г. Яўген атрымаў 15 сутак, нібыта за супраціў міліцыі[57]. У 1966 г. ён даслаў тэлеграму на імя Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Падгорнага, у якой скардзіўся на мясцовыя органы ўлады. Сільчукоў пісаў, што органы міліцыі жорстка разагналі набажэнства, збівалі вернікаў[58].

Трэба зазначыць, што гэта была не калектыўная скарга (найбольш распаўсюджаная з’ява сярод вернікаў), а дасланая асабіста Сільчуковым. Самымі лёгкімі наступствамі такога кроку былі выхаваўчыя размовы з прадстаўнікамі савецкіх органаў улады. Але найчасцей напісанне скаргаў прыводзіла да пошукаў падстаў для прыцягнення верніка да адміністрацыйнай або крымінальнай адказнасці.

У выніку актыўнай дзейнасці Яўген Сільчукоў у ліпені 1967 г. быў асуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі[59]. У 1970 г. ён вярнуўся дамоў і зноў працягнуў нелегальныя рэлігійныя практыкі, а таксама справу абароны праў вернікаў. У 1973 г. ён быў другі раз асуджаны, ужо на 5 гадоў пазбаўлення волі[60]. У савецкіх дакументах Сільчукоў характарызаваўся як рэлігійны экстрэміст[61], што дазваляе меркаваць пра прынцыповую і цвёрдую пазіцыю Яўгена Сільчукова ў адстойванні свабоды сумлення. Вядома, што ў 1980-я гг. Сільчукоў працягваў актыўную дзейнасць[62].

У *„Слоўніку”* сярод дысідэнтаў ЕХБ прадстаўлена толькі 5 жанчын. Як ужо адзначалася вышэй, іх магло быць і болей, але яны не патрапілі ў выданне. Напрыклад, з-за храналагічнай абмежаванасці няма звестак пра Вільчынскіх: Зінаіду і яе дачку Галіну. Галіна Вільчынская ў 1979 г. прымала ўдзел у арганізацыі рэлігійнага дзіцячага летніка (у асноўным для дзяцей, у якіх былі рэпрэсаваныя бацькі). Яна была затрымана і асуджана на 3 гады турмы. У 1982 г. Галіна была датэрмінова вызвалена, але ў гэтым жа годзе ў аэрапорце г. Уладзівастока яе затрымалі органы міліцыі за нібыта спробу нелегальнага правозу наркотыкаў. За гэта ў пачатку 1983 г. Вільчынская была асуджана на 2 гады пазбаўлення волі[63].

57 Тамсама, арк. 51.
58 НАРБ, ф. 136, воп. 1, адз. зах. 4, арк. 59.
59 НАРБ, ф. 136, воп. 2, адз. зах. 9, арк. 110.
60 НАРБ, ф. 136, воп. 1, адз. зах. 31, арк. 98.
61 НАРБ, ф. 136, воп. 1, адз. зах. 76, арк. 134.
62 Тамсама.
63 Н. Белякова, М. Добсон, *Женщины в евангельских общинах,* с. 481.

Па прыкладзе вернікаў-мужчын ахарактарызуем дзвюх жанчын: шматдзетную маці Надзею Слабаду з в. Дубрава Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці і самотную верніцу Ніну Абушэнка з в. Уць Добрушскага раёна Гомельскай вобласці.

Надзея Слабада нарадзілася ў 1930 г. у в. Курашы (сучасны Мёрскі раён Віцебскай вобласці). У 1960-я гг. яна жыла ў в. Дубрава Верхнедзвінскага раёна Віцебскай вобласці, працавала ў калгасе, спачатку камбайнёрам, а пасля птушніцай[64]. Упаўнаважаны Савета па справах рэлігій па Віцебскай вобласці сцвярджаў, што менавіта Надзея Слабада была арганізатарам групы прыхільнікаў Савета цэркваў ЕХБ у в. Дубрава. У гэтай групе ў 1968 г. налічвалася 11 чалавек. Яны адмаўляліся ўдзельнічаць у выбарах народных суддзяў (30 чэрвеня 1968 г.), большая іх частка не галасавала на дадатковых выбарах у раённы Савет дэпутатаў працоўных[65]. Гэтыя акты можна характарызываць як палітычны супраціў. Звычайна ЕХБ удзельнічалі ў грамадска-палітычным жыцці дзяржавы, калі гэта не супярэчыла прынцыпам Евангелля.

Уладзімір Вільчынскі ў сваіх успамінах пісаў, што першым *„да Бога прыйшоў”* Вікенцій Слабада, брат мужа Надзеі. Ён быў камуністам, але пасля праслухоўвання евангельскіх радыёперадач прапаведніка Ярла Пейсці стаў вернікам[66]. Менавіта за праслухоўванне „рэакцыйных” замежных радыёперадач і заахвочванне да гэтага іншых вяскоўцаў Надзея Слабада, Вікенцій Слабада і Пётр Кураш (брат Надзеі) былі асуджаныя ў 1968 г.[67] Надзея атрымала чатыры гады пазбаўлення волі. За два гады да гэтага ў яе забралі двух старэйшых дзяцей і змясцілі ў дзіцячы дом. Усяго ў Надзеі Слабады і яе мужа Івана (таксама быў вернікам ЕХБ) было пяць дзяцей. Прычынай адабрання ў іх дзяцей было рэлігійнае выхаванне. Упаўнаважаны пісаў: *„Вучні (дзеці сектантаў) адмаўляюцца насіць акцябрацкія зорачкі і піянерскія гальштукі, не прымаюць удзелу ў мерапрыемствах, якія праводзяцца ў школе. Яны сістэматычна адмаўляюцца глядзець не толькі мастацкія кінастужкі, але і вучэбныя фільмы, неабходныя па праграме […]. Калі класны кіраўнік сказала, што паставіць ім (дзецям) двойкі за няведанне матэрыяла, Коля Слабада ў прысутнасці ўсяго класа заявіў: „За Бога стаўце што хочаце. Я хачу, каб мне за веру двойку паставілі”*[68].

[64] ДАВВ, ф. 4029, воп. 1, адз. зах. 2, арк. 83.
[65] ДАВВ, ф. 1439, воп. 2, адз. зах. 12, арк. 5.
[66] В. Вильчинский, *Недаром пролитые слёзы*, с. 210.
[67] ДАВВ, ф. 1439, воп. 1, адз. зах. 5, арк. 42.
[68] ДАВВ, ф. 1439, воп. 2, адз. зах. 12, арк. 4–5.

У 1966 г. пра лёс сям'і Слабады перадало лонданскае радыё „Бі-бі-сі" і амерыканскі „Голас Амерыкі". Апроч таго, вернікі з СЦЕХБ напісалі лісты Генеральнаму сакратару ААН У Тану, старшыні Савета міністраў СССР Аляксею Касыгіну[69]. Дзецям, якіх змясцілі ў дзіцячы дом, дасылаліся лісты падтрымкі, да іх прыязджалі вернікі.

Пасля арышту Надзеі Слабады ў 1970 г. у яе мужа забралі астатніх траіх дзяцей. Супраць гэтага акта выступілі верніцы з Кіргізіі. Яны даслалі тэлеграму на імя пастаяннага старшыні СССР пры ААН, у якой між іншым гаварылася: *„Гэта злачынства перад чалавецтвам, патрабуем вызваліць маці, а дзяцей вярнуць у свой дом"*[70].

У гэтай гісторыі ўражвае аператыўнасць дзейнасці вернікаў, шырокая сетка іх сувязяў і ўпартае адстойванне сваіх праў. Інфармацыя пра рэпрэсіі супраць вернікаў вельмі хутка трапляла ў Савет родзічаў вязняў, пасля чаго пачыналася напісанне лістоў і скаргаў у органы ўлады. Потым або паралельна гэта інфармацыя праз самвыдат шырока распаўсюджвалася сярод вернікаў у СССР і ў замежнай супольнасці.

Як склаўся лёс Надзеі Слабады і яе сям'і, з архіўных крыніц невядома, але абшчына СЦЕХБ у в. Дубрава дзейнічала і ў 1980-я гг.[71]

Верніца Ніна Абушэнка нарадзілася ў 1926 г. Яна скончыла сем класаў. Працавала ў калгасе. Жыла ў в. Уць Добрушскага раёна Гомельскай вобласці, дзе з'явілася адна з першых евангельскіх абшчын на тэрыторыі Беларусі[72]. Яшчэ ў 1870-я гг. у гэтай вёсцы пачалі дзейнасць першыя вернікі.

Ніна Абушэнка прыняла хрост у 1945 г. і далучылася да мясцовай абшчыны.

4 мая 1965 г. вернікі гэтай супольнасці правялі сход, на якім прынялі рашэнне пра выхад з Саюза ЕХБ. Яны напісалі спецыяльную заяву і разам са статутам накіравалі яе ў канцылярыю Усесаюзнага Савета ЕХБ у Маскве. У заяве вернікі пісалі: *„Прыслухоўваючыся да голасу сумлення, праз якое кажа Сам БОГ, і падпарадкоўваючыся яму, мы, члены царквы с. Уць, Добрушскага раёна, Гомельскай вобласці, вяртаем Вам выданае Вамі Палажэнне і Статут, якія ў народзе Божым прынеслі шмат памылак, пакут і падзеянняў, і ўсе яны ад пачатку да канца з'яўляюцца чалавечымі.*

69 ДАВВ, ф. 1439, воп. 1, адз. зах. 5, арк. 53–54.

70 ДАВВ, ф. 1439, воп. 2, адз. зах. 15, арк. 15, 21.

71 ДАВВ, ф. 1439, воп. 2, адз. зах. 65, арк. 59.

72 У 1870-я гг. у в. Уць Добрушскага раёна першымі баптыстамі былі мясцовыя сяляне, якія прыехалі з заробкаў з паўднёвых раёнаў Украіны. Там яны далучыліся да штундыстаў– так называлі вернікаў, якія хадзілі на сходы (часы — па ням. die Stunde), што арганізоўвалі немцы-каланісты.

*[…] Мы добраахвотна выходзім з падпарадкавання УСЕХБ і просім аргкамітэт царквы ЕХБ прыняць нашу абшчыну пад сваю апеку”*[73]. Пад заявай падпісалася 85 чалавек.

Такім чынам, абшчына ў в. Уць далучылася да аргкамітэта, а пасля і да Савета цэркваў ЕХБ. Як адзначаў упаўнаважаны, ініцыятарам гэтага акта быў прэсвітар Фёдар Капянкоў. А актыўнай дзяячкай у гэтай справе была Ніна Абушэнка, якая з'яўлялася скарбнікам абшчыны[74]. Капянкоў і Абушэнка выязджалі ў г. Светлагорск для падтрымання сувязяў з мясцовымі вернікамі, якія ў хуткім часе далучыліся да СЦЕХБ. Таксама Ніна Абушэнка ўдзельнічала ў дэманстрацыі каля будынка ЦК КПСС 16 мая 1966 г.[75] Такая актыўная пазіцыя верніцы не засталася незаўважнай для дзяржаўных органаў улады. У 1968 г. Ніна Абушэнка разам з адзінаверцам Кузьмой Трацiннікавым была арыштавана і асуджана да двух гадоў папраўча-працоўнага лагера[76].

Трэба адзначыць, што Абушэнка была самотнай жанчынай. Такое становішча дазваляла ёй сканцэнтравацца на царкоўных служэннях. Бо асноўным абавязкам жанчын-верніц было выкананне ролі маці і жонкі[77]. Служэнні, якія датычыліся царквы, выконвалі ў асноўным незамужнія жанчыны, удовы, маладыя дзяўчаты. Можна меркаваць, што Ніна Абушэнка, займаючы пасаду скарбніка і маючы магчымасць выязджаць у іншыя абшчыны, аптымальна выкарыстоўвала сваё самотнае становішча на карысць развіцця царквы і евангелізацыі.

Як і ў выпадку з Надзеяй Слабадой, невядома якім чынам склаўся лёс гэтай верніцы пасля яе вызвалення з турмы.

У лік дысідэнтаў у „*Слоўнік*” патрапілі 3 падлеткі 1955–1958 гадоў нараджэння. Двое з іх — дочкі Надзеі Слабады, у 1966 г. адабраныя ў бацькоў і змешчаныя ў дзіцячы дом. Два разы яны збягалі з дзіцячага дома, але іх кожны раз вярталі назад. У 1969 г. дзяўчаты напісалі *Адкрыты ліст усім дзецям Божым, якія жывуць у СССР*[78], у якім казалі пра арышт з рэлігійных матываў іх маці Надзеі Слабады. Гэты ліст быў шырока распаўсюджаны сярод вернікаў і патрапіў за мяжу.

Прыведзеныя вышэй характарыстыкі і жыццёвыя лёсы абраных намі вернікаў-дысідэнтаў шмат у чым адпавядалі лёсам тых беларускіх еван-

[73] НАРБ, ф. 952, воп. 3, адз. зах. 41, арк. 126.
[74] Тамсама, арк. 121.
[75] НАРБ, ф. 136, воп. 2, адз. зах. 9, арк. 110.
[76] НАРБ, ф. 136, воп. 1, адз. зах. 13, арк. 125.
[77] *Служения женщин в церкви*, „Братский вестник” 1945, № 3.
[78] *Biographical Dictionary of Dissidents,* s. 532.

гельскіх хрысціян-баптыстаў, якія займалі актыўную пазіцыю ў СЦЕХБ або ў Савеце родзічаў вязняў, якія прытрымліваліся евангельскіх прынцыпаў на практыцы, баранілі свае правы або дапамагалі адзінаверцам.

Тым не менш, сыходзячы з аналізу архіўных дакументаў (напрыклад, мы ў дакументах упаўнаважаных за 1980-я гг. не знаходзім звестак пра вернікаў — актыўных прыхільнікаў СЦЕХБ), варта прызнаць, што пікам дысідэнцкіх паводзін ЕХБ у БССР былі 1960-я — 1970-я гг. У сувязі са станоўчымі для вернікаў зменамі ва ўзаемаадносінах паміж дзяржавай і ЕХБ, у 1980-я гг. шматлікія рэлігійныя дысідэнты адышлі ад актыўнай праваабарончай дзейнасці. Практыкі вернікаў у сферы абароны сваіх праў насілі, такім чынам, сітуатыўны і часовы характар. Гэта не азначае адсутнасці прынцыповай пазіцыі ў ЕХБ, а кажа пра іх канкрэтныя мэты, пасля дасягнення якіх вернікі ўтрымліваюць той статус і магчымасці, што атрымалі. Бо галоўным для іх з'яўлялася не вырашэнне палітычных пытанняў, а наладжванне паўнавартаснага духоўнага жыцця абшчын і вернікаў.

## Высновы

Такім чынам, дзейнасць вернікаў-дысідэнтаў у БССР з'яўлялася часткай агульнасавецкага рэлігійнага дысідэнцтва, рухавіком якога быў Савет цэркваў ЕХБ. Апошні з унутрыцаркоўнай апазіцыі ператварыўся не толькі ў асобнае аб'яднанне вернікаў, але па некаторых сваіх функцыях з'яўляўся дысідэнцкай арганізацыяй.

Дысідэнтамі ў асяроддзі евангельскіх хрысціян-баптыстаў былі ў асноўным не прадстаўнікі інтэлігенцыі, а простыя працоўныя, хатнія гаспадыні, пенсіянеры. Нягледзячы на тое, што вернікі ў савецкі час амаль не мелі магчымасцей атрымаць вышэйшую адукацыю, самвыдат з'яўляўся для іх асветай, у тым ліку юрыдычнай. Выданнямі СЦЕХБ і Савета родзічаў вязняў вернікі адкрыта карысталіся падчас сустрэч з упаўнаважанымі Савета па справах рэлігій, каб аргументаваць свае дзеянні заканадаўчымі актамі[79].

Даволі значная частка рэлігійных дысідэнтаў — гэта жыхары вёсак. Не толькі горад са сваім інтэнсіўным жыццём, магчымасцямі наладжвання шырокай сеткі сувязяў, а таксама надзейнай канспіратыўнай дзейнасці ствараў умовы для развіцця дысідэнцкіх асяродкаў, але і вёска ўключылася ў гэты працэс. Гэта было магчымым дзякуючы далучанасці дысідэнтаў да адной арганізацыі. Такой арганізацыяй у шырокім сэнсе выступала

79 НАРБ, ф. 952, воп. 3, адз. зах. 41, арк. 153, 158, 200.

евангельская царква, якая адрозніваецца згуртаванасцю сваіх членаў. У вузкім значэнні гэта быў Савет цэркваў ЕХБ, які падтрымліваў сувязі паміж вернікамі праз непасрэдныя кантакты, створаныя арганізацыйныя структуры і самвыдат.

Прыналежнасць да царквы і адасобленасць ад савецкай ідэалагічнай сістэмы фарміравалі ў вернікаў своеасаблівы імунітэт да камуністычнай прапаганды. У выніку ў ЕХБ існавала незалежная грамадзянская пазіцыя. Праўда, яна была абмежавана пытаннямі дзейнасці рэлігійных арганізацый. Але, на наш погляд, вернікі з евангельскай царквы стваралі падмуркі для развіцця грамадзянскай супольнасці ў БССР. Беларускія вернікі ЕХБ, вырашаючы свае лакальныя праблемы, актывізоўвалі дзейнасць адзінаверцаў з іншых абшчын і нават краін.

Варта адзначыць, што прыналежнасць вернікаў-дысідэнтаў да царквы ўплывала на ўсе іх практыкі. У сваіх дзеяннях яны ў асноўным прытрымліваліся евангельскіх прынцыпаў і спрабавалі дзейнічаць у межах савецкіх законаў. Рэпрэсіі па рэлігійных прычынах вернікі абскарджвалі, пісалі заявы ў органы ўлады. Спасылаючыся на прынцып свабоды сумлення, які быў замацаваны ў Канстытуцыі, яны выступалі супраць атэістычнай прапаганды і гвалтоўнага насаджэння камуністычнай ідэалогіі ў грамадстве. Спрабавалі гэта рабіць максімальна адкрыта і публічна. Вернікі ЕХБ не парушалі законаў, якія не датычыліся абмежавання іх рэлігійных практык. Яны сумленна працавалі ў савецкіх установах, прытрымліваліся працоўнай дысцыпліны. У адрозненне ад большасці палітычных дысідэнтаў, ЕХБ у асноўным не выступалі за змену палітычнай сістэмы. У першую чаргу іх цікавіла выкананне прынцыпу свабоды сумлення.

Варта адзначыць, што вернікі-пяцідзясятнікі больш крытычна ставіліся да савецкай улады. У іх асяроддзі ў 1970-я гг. быў распаўсюджаны эміграцыйны рух. Вернікі пісалі лісты ў органы ўлады з просьбай дазволіць ім выехаць з СССР, каб задавальняць свае рэлігійныя патрэбы[80]. У 1979 г. у розныя дзяржаўныя інстанцыі было накіравана 120 заяў на выезд з СССР ад 584 вернікаў з Драгічынскага, Іванаўскага, Кобрынскага, Пінскага і Столінскага раёнаў Брэсцкай вобласці[81].

Вернікі-дысідэнты ў сваіх практыках адрозніваліся прынцыповасцю пазіцыі і ўпартасцю ў дзеяннях, нягледзячы на пастаянныя рэпрэсіі супраць іх. У выніку сістэматычнай дзейнасці вернікаў-дысідэнтаў са-

[80] ДАГВ, ф. 475, воп. 1, адз. зах. 126, арк. 83.
[81] НАРБ, ф. 136, воп. 1, адз. зах. 57, арк. 112.

вецкая дзяржава пайшла на некаторыя ўступкі ў дачыненні зарэгістраваных абшчын, каб пазбавіць росту ўплыву вернікаў з нелегальных цэркваў. Так, былі дазволены: з’езд прадстаўнікоў зарэгістраваных абшчын ЕХБ; аўтаномная рэгістрацыя абшчын (без прыналежнасці да УСЕХБ і да СЦЕХБ); прысутнасць дзяцей на набажэнствах у зарэгістраваных абшчынах. Таксама з 1980-х гг. пашырыліся магчымасці легальна атрымаць рэлігійную літаратуру.

Прыналежнасць да царквы давала вернікам моц і ўпартасць у змаганні за свае правы. Але былі выпадкі, калі ЕХБ у выніку ганенняў і рэпрэсій выходзілі з нелегальнага Савета цэркваў евангельскіх хрысціян-баптыстаў і адмаўляліся ад супрацьстаяння савецкай атэістычнай сістэме[82].

Узаемная падтрымка, шырокая сетка сувязей, кантакты з замежжам, калектыўныя практыкі, салідарнасць, публічнасць, самаарганізацыя — усе гэтыя прыкметы адрознівалі дзейнасць вернікаў-дысідэнтаў у БССР ад палітычных дысідэнтаў. Гэтыя характарыстыкі адпавядалі прынцыпам існавання грамадзянскай супольнасці. Менавіта супольнасць і салідарнасць з’яўляліся перавагай дзейнасці вернікаў у параўнанні з іншымі беларускімі іншадумцамі.

Праваабаронца Людміла Аляксеева ў 1983 г. пісала: „*Логіка барацьбы за свабоду веравызнання зрабіла прыхільнікаў Савета Цэркваў ЕХБ барацьбітамі за грамадзянскія правы. Шматгадовы калектыўны супраціў уладам дзеля духоўнай незалежнасці выпрацаваў цвёрдую грамадзянскую пазіцыю і развіў у баптыстаў пачуццё ўласнага гонару і салідарнасць. Па грамадзянскіх паняццях і маральных уяўленнях яны бліжэй да людзей Захаду, чым асноўная маса савецкага насельніцтва*”[83].

## Streszczenie

Tacciana Kasataja, *Dysydenci religijni w BSRR w latach 50.-80. (na przykładzie działalności wiernych ewangelicznych chrześcijan baptystów)*

Artykuł jest poświęcony religijnemu ruchowi dysydenckiemu w BSRR. Autorka bada specyfikę tego zjawiska na przykładzie ewangelicznych chrześcijan baptystów, koncentrując się na praktykach religijnych i losach poszczególnych wiernych. Głównymi źródłami do badań mniejszości religijnych w BSRR są Słownik biograficzny dysydentów w Związku Radzieckim 1956–1975

[82] Ю. Решетников, С. Санников, *Обзор истории Евангельско-баптистского братства,* [online], http://krotov.info/history/20/iz_istori/reshetn. html, [доступ: 09.04.2018].

[83] Л. Алексеева, *История инакомыслия,* с. 156–157.

(*Biographical Dictionary of Dissidents in the Soviet Union: 1956–1975*), dokumenty archiwalne ze zbiorów Pełnomocnej Rady ds. Kultów Religijnych (od 1965 r. Rady ds. religii) oraz wspomnienia wiernych.

Dysydenci ze wspólnot ewangelicznych chrześcijan baptystów zasadniczo wchodzili w skład nielegalnego religijnego stowarzyszenia Rady Kościołów EChB oraz broniącej praw człowieka organizacji Rady Rodzin Więźniów. Przynależność do Kościoła tworzyła przestrzeń do powstania silnej solidarności w ramach wspólnoty skupionej wokół EChB. Dzięki temu jego wierni przejawiali największą aktywność na polu obrony swoich praw w BSRR. Koncentrowali się na rozstrzygnięciu zagadnienia relacji Kościoła i państwa oraz bronili zasady wolności sumienia.

Dysydencki ruch religijny skupiony wokół ewangelicznych chrześcijan baptystów składał się w większości nie z inteligencji, a z prostych robotników, gospodyń domowych czy emerytów. Jego znaczną część stanowili mieszkańcy wsi. Nieprzejednane stanowisko wiernych w zakresie obrony praw człowieka doprowadziło ich do konfliktu z władzą radziecką. Przeciwko aktywnym zwolennikom Rady Kościołów EChB organy państwowe stosowały represje. Przynależność do Kościoła dawał wiernym siłę i determinację do walki o swoje prawa. W BSRR wierni-dysydenci swoją niezależną postawą obywatelską, wzajemnym wspieraniem się i solidarnością stworzyli podwaliny pod rozwój społeczeństwa obywatelskiego.

## Abstract

Tacciana Kasataja, *Religious Dissidents in the BSSR in the 1950s-1980s (With an Example of Evangelical Christians-Baptists)*

The article is devoted to the religious dissidence in the Belarusian Soviet Socialist Republic. The author examines the features of this phenomenon with an example of the Church of Evangelical Christians-Baptists, concentrating on practices and fate of individual believers. The research is based on various sources, including (*Biographical Dictionary of Dissidents in the Soviet Union: 1956–1975*), archival documents of the Board of Religious Cults (since 1965, the Council for Religion), as well as memories of the faithful.

Members of Evangelical Christians-Baptists communities were generally a part of an illegal religious organization, the Baptist Council of Churches, as well as a human rights organization, the council of Baptist Prisoners' Relatives of EKhB Prisoners. Belonging to that particular church created the idea of strong solidarity within a Baptist environment. As a result, members were

able to demonstrate their willingness to take action in order to protect their rights in the BSSR. They would also concentrate on addressing the question of the relationship of the church and the state and upholding the principles of freedom of conscience. Among Evangelical Christians-Baptists there were large numbers of ordinary workers, housewives or pensioners rather than the intelligentsia. A majority of them lived in the countryside.

A strong point of view of dissidents believing in human rights led to a conflict between them and the Soviet authority. Authorities would use repressive measures against active supporters of the Baptist Council of Churches. Being a member of their church gave the faithful the strength and perseverance to fight for their rights. Following the idea of independent citizenship, mutual support and solidarity, Belarusian religious dissidents managed to create foundations for the development of civil society.

**Аляксандр Краўцэвіч**
**(Варшава/Гродна)**

# Традыцыя айчыннай дзяржаўнасці ў беларускай гістарыяграфіі

За чвэрць стагоддзя існавання незалежнай дзяржавы ў Беларусі пачала фармавацца г. зв. незалежніцкая, або суб’ектная, гістарыяграфія. Яе творцы бачаць Беларусь суб’ектам уласнай гісторыі, таму прадстаўляюць гісторыю краіны з пазіцыі рацыі стану народа, які яе стварыў.

Адначасова з усталяваннем рэжыму Аляксандра Лукашэнкі фармавалася афіцыёзная гістарыяграфія, якая ў значнай ступені пераняла традыцыю савецка-камуністычных часоў і звязаная залежнасцю з ідэалагічнай палітыкай рэжыму. Галоўная адметнасць афіцыёзнай гістарыяграфіі, як і яе папярэдніцы,— погляд на гісторыю Беларусі з пазіцыі рацыі стану іншай краіны — Расіі. Адсюль галоўны пасыл гэтай плыні — сцвярджэнне адвечнай еднасці беларускага і расійскага народаў, аб’яднаных у межах расійскай дзяржаўнасці.

Некаторыя даследчыкі выдзяляюць яшчэ г. зв. „заходнерускую плынь” беларускай гістарыяграфіі, што не мае пад сабой метадалагічных падстаў. Калі афіцыёзная гістарыяграфія з пэўнымі агаворкамі адносна спецыяльных даследаванняў можа быць залічана да навуковай, бо карыстаецца навуковай метадалогіяй, то „заходнеруская” з’яўляецца выразна публіцыстычнай. Яна апелюе паняццямі і тэзамі (аб неіснаванні беларускай мовы, культуры, традыцыі беларускай дзяржаўнасці), спрэчнымі з высновамі акадэмічнай навукі, мае задачай абгрунтаванне заранёў прынятых тэзаў і высноў. І хоць яе творцы часта імкнуцца прадставіць свае тэксты як навуковыя, насамрэч з акадэмічнай навукай яны нічога агульнага не маюць.

Пасля здабыцця Беларуссю незалежнасці ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя выявілася, што ў краіне не існавала „незалежніцкай” гістарыяграфіі. Па гэтай прычыне на рубяжы 80–90-х гадоў XX ст. вялікую папулярнасць набылі працы гісторыка-аматара Міколы Ермаловіча, які прапанаваў выразна патрыятычнае, суб’ектнае бачанне гісторыі краіны. Гэты аўтар аказаўся адзіным, хто пісаў гістарычныя працы яшчэ ў часы БССР „у шуфляду”, без спадзяванняў на публікацыю. Хоць працы М. Ермаловіча не вытрымлівалі навуковай крытыкі, аднак на той момант

аказаліся адзінымі, якія можна было залічыць да нацыянальнай суб'ектнай гістарыяграфіі. Апошняя кніга даследчыка атрымала характэрную назву *„Беларуская дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае"*.

Тады ж востра паўстала праблема „незалежніцкіх" школьных падручнікаў па гісторыі Беларусі. Паводле сведчання аднаго з іх аўтараў Паўла Лойкі, яны былі падрыхтаваныя літаральна за паўгода. Пры многіх недапрацоўках, непазбежных у такой спешцы, яны прадстаўлялі ўжо суб'ектную гісторыю краіны.

Пасля прыходу да ўлады прэзідэнта А. Лукашэнкі ў 1994 г., у наступным годзе гэтыя падручнікі былі забароненыя, дэклараванае вяртанне да савецкіх. Аднак ажыццявіць дэкларацыю аказалася справай няпростай, да канца невыканальнай, паколькі яна супярэчыць логіцы развіцця незалежнай дзяржавы.

Афіцыёзная беларуская гістарыяграфія пры рэжыме Лукашэнкі змушана адначасова вырашаць дзве ўзаемавыключальныя задачы — працягваць традыцыі прарасійскай савецкай гістарыяграфіі часоў БССР і дапасоўвацца да рэалій жыцця, а менавіта факта існавання незалежнай беларускай дзяржавы. Незалежнасць патрэбна неяк гістарычна абгрунтоўваць і тлумачыць. У выніку пры непасрэдным удзеле А. Лукашэнкі, які прыцягнуў да справы свайго былога выкладчыка з Магілёўскага педінстытута Якава Трашчанка, узнікла (дакладней сказаць, рэанімаваная) канцэпцыя беларускай дзяржаўнасці, пачынаючы ад стварэння БССР, а галоўнай гістарычнай падзеяй у гісторыі краіны прадстаўлена перамога СССР у вайне з гітлераўскай Германіяй. Гэтая канцэпцыя зазнала карэляцыю ў адпаведнасці з новымі пастулатамі расійскай афіцыёзнай гістарыяграфіі (напрыклад, змена савецкіх ацэнак Кастуся Каліноўскага і ягонага антыпода Міхаіла Мураўёва на процілеглыя).

Адначасова з афіцыёзнай у няпростых умовах ствралася суб'ектная беларуская гістарыяграфія. Пасля 1994 г. яна не магла разлічваць на падтрымку дзяржаўнай улады, наадварот, яе аўтары, занятыя ў дзяржаўных установах, рызыкавалі страціць працу.

Відавочна, найбольш выразна розніца паміж афіцыёзнай і суб'ектнай гістарыяграфіяй павінна праяўляцца ў прадстаўленні традыцый беларускай дзяржаўнасці. Паспрабуем гэта высветліць. Для аналізу гістарыяграфіі беларускай дзяржаўнасці па прычыне нязначнай колькасці спецыяльнай літаратуры найбольш падыходзяць сінтэтычныя працы і навучальна-даведачныя выданні. Розніцу аўтарскіх падыходаў (афіцыёзны ці суб'ектны) найбольш дакладна можна

выявіць у прадстаўленні чатырох асноўных тэмаў, звязаных з гісторыяй дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі Беларусі:

I. Полацкае, Тураўскае княствы.

II. Вялікае Княства Літоўскае.

III. Уключэнне Беларусі ў расійскую дзяржаву.

IV. Беларуская Народная Рэспубліка і Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка.

Дзеля параўнання і ў якасці адпраўной кропкі можна выкарыстаць „класічную" афіцыёзную працу часоў БССР, у якой нацыянальная гісторыя прадстаўлена з пазіцыі Расіі, напрыклад расійскамоўную „***Историю Белорусской ССР***" з 1977 г.[1]

I. Экспануецца даўняя расійская тэза пра адзіную старажытнарускую дзяржаву: „*Старажытнаруская (Кіеўская) дзяржава,* ***у склад якой у 9–10 стст. увайшлі заходнія землі Русі*** (выдзелена мною — А. К.), *уяўляла сабой раннефеадальнае палітычнае аб'яднанне ўсходнеславянскіх земляў (княстваў) і некаторых суседніх неславянскіх тэрыторый*"[2].

II. Таксама даўняя тэза расійскай гістарыяграфіі пра заваёву летувісамі беларускіх (заходнерускіх земляў): „*Міндоўг, які паходзіў з сям'і буйнога літоўскага феадала, гвалтам і подкупам падпарадкаваў сабе дробных феадалаў другіх літоўскіх земляў і заснаваў адносна адзіную раннефеадальную дзяржаву. Пад яго ўладай апынулася і частка заходніх земляў Русі*"[3]. Ужо з канца XIV ст., паводле аўтараў, у „*заходнерускіх землях, падуладных літоўскім князям, узмацнілася цяга да Масквы*"[4].

III. Ужо па назве адпаведнага параграфа відаць пазіцыю аўтараў: „*Уз'яднанне Беларусі з Расіяй*"[5].

IV. У адпаведнай главе няма нават згадкі пра БНР, толькі намёкі: „*Акупацыйны рэжым* (нямецкі — *А. К.*) *падтрымлівалі беларускія буржуазныя нацыяналісты, меншавікі, эсэры, бундаўцы*". „*Працоўныя Беларусі на чале з бальшавікамі рашуча выступілі супраць спробаў мясцовых буржуазных нацыяналістаў адарваць Беларусь ад Савецкай Расіі*"[6].

---

[1] *История Белорусской ССР*, Минск 1977,— 632 с. ил. и карт.

[2] Тамсама, с. 28–29.

[3] Тамсама. Глава 1. *Першабытнаабшчынны лад. Станаўленне феадалізму ў заходніх землях Русі,* (с. 9–39.) Аўтар Георгій Штыхаў (кандыдат гіст. навук). Параграф „*Уключэнне заходніх земляў Русі ў склад Вялікага Княства Літоўскага*", (с. 34–36), с. 34.

[4] Тамсама, с. 51.

[5] Тамсама, с. 89.

[6] Тамсама, с. 248, 250.

Кардынальна іншыя падыходы і ацэнкі прадстаўленыя ў двухтомных ***„Нарысах гісторыі Беларусі”***, падрыхтаваных даследчыкамі з Акадэміі Навук у першыя гады пасля здабыцця краінай незалежнасці[7]. Гэтая праца з'яўляецца менавіта нарысамі, адны тэмы ў ёй прадстаўлены даволі аб'ёмна, іншыя падаюцца ў скарочанай версіі. Фактычна гэта першая акадэмічная сінтэза нацыянальнай гісторыі, створаная ў рэчышчы, хоць і не цалкам, суб'ектнай гістарыяграфіі. Вось яе тэзы па выбраных намі крытэрыях:

I. Пазіцыя аўтараў відавочная ў назвах адпаведнага падраздзела і параграфа. Раздзел 2, падраздзел 4: *„Беларуская дзяржаўнасць у раннім сярэднявеччы. Рэлігія і культура”*. Параграф *„Полацкае княства — выток беларускай дзяржаўнасці”*[8].

II. У падраздзеле *„Утварэнне Вялікага Княства Літоўскага”* адзначаецца, што Полацкае княства было аслабленае барацьбой з інфлянцкімі крыжакамі. *„І ў сярэдзіне XIII ст. цэнтр палітычнага жыцця на беларускіх землях пераходзіць у Наваградак”*. *„Менавіта Наваградская зямля разам з суседнімі ёй літоўскімі стала ядром зараджэння новай дзяржавы ў верхнім і сярэднім Панямонні, якая атрымала назву Літоўскае княства”* (спасылка на працу Міколы Ермаловіча *„Па слядах аднаго міфа”*)[9].

III. Канстатацыя факта, што ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай *„каля трох мільёнаў чалавек, якія пражывалі на тэрыторыі Беларусі, аказаліся ў складзе Расійскай імперыі”*[10].

IV. Дэталёва разбіраецца Стварэнне БНР і БССР у раздзеле 8: *„Беларусь напярэдадні і ў першыя гады савецкай улады”*. Выклад гэтай тэмы амбівалентны. Аўтар Іларыён Ігнаценка з аднаго боку крытыкуе бальшавікоў за недастатковую ўвагу да беларускага пытання, з другога — прадстаўляе суадносіны БНР і БССР як выбар беларускага народа, яго самавызначэнне: *„Беларуская буржуазія, памешчыкі, чыноўніцтва, афіцэры і сярэднія слаі інтэлігенцыі дабіваліся стварэння БНР, яе аддзялення ад Савецкай Расіі. Працоўныя масы Беларусі (рабочыя, сяляне, салдаты, ніжэйшыя слаі інтэлігенцыі) выступалі за самавызначэнне на савецкай аснове”*.

Працэс утварэння беларускай дзяржавы, паводле аўтара раздзела, *„…складаўся як бы з двух этапаў: абвяшчэнне БНР — першы этап і ўтварэнне*

[7] *Нарысы гісторыі Беларусі, у 2-х ч.*, ч. 1., М. П. Касцюк, У. Ф. Ісаенка, Г. В. Штыхаў і інш., Мінск 1994,— 527 с.: іл.; ч. 2, М. П. Касцюк, І. М. Ігнаценка, У. І. Вышынскі і інш., Мінск 1995,— 560 с.: іл.

[8] Тамсама, ч. 1, с. 92–113; с. 92–97; аўтары Георгі Штыхаў, Таццяна Каробушкіна.

[9] Тамсама. с. 114, аўтар Павал Лойка.

[10] Тамсама, ч. 1, с. 267, аўтар Яўген Анішчанка.

*БССР — другі*"[11]. Гэты погляд прыняты сёння гісторыкамі з акадэмічнага Інстытута гісторыі, што добра відаць па спецыяльнай працы, прысвечанай „*беларускай дзяржаўнасці ад канца XVIII да пачатку XXI ст.*"(пра яе гаворка ніжэй).

У „*Нарысах*" суб'ектны падыход найбольш паслядоўна ўжыты ў асвятленні дарасійскага перыяду беларускай гісторыі, а менавіта ад сярэднявечча да канца XVIII ст. Прадстаўленне наступных перыядаў — XIX і XX стст. — нясе на сабе адбітак традыцыйных поглядаў савецкай гістарыяграфіі. Напрыклад, робіцца спроба прымірыць два падыходы — афіцыёзны і суб'ектны, прызнаўшы як БНР, так і БССР формамі беларускай дзяржаўнасці.

Суб'ектны падыход характэрны для навучальнага дапаможніка па гісторыі беларускай дзяржаўнасці гарадзенскіх аўтараў Мікалая Сільчанкі і Івана Басюка[12]:

I. У першай главе — „*Вытокі беларускай дзяржаўнасці*" — „*дзяржаўнасць усходніх славян*" выводзіцца з Кіеўскай Русі[13].

II. У другой главе „*Вялікае Княства Літоўскае — Беларуска-Літоўская дзяржава*" ўзнікненне дзяржавы паказваецца праз запрашэнне літоўскага князя Міндоўга ў Навагрудак. Праўда, невядома чаму аўтары вырашылі, што гэта зрабілі нейкія прышлыя ў Навагрудак багатыя іншаземцы[14].

III. Суб'ектна прадстаўляецца ўключэнне Беларусі ў Расію: „*Беларусь поўнасцю страціла сваю дзяржаўнасць, не захаваўшы за сабою нават малазначных прыкмет аўтаноміі*"[15].

IV. У чацьвёртай главе „*Беларусь у складзе СССР*", даволі дэталёва распавёўшы пра БНР, аўтары вывелі: „*Зыходзячы з гэтага, можна зрабіць наступную выснову. Гісторыя Беларускай Народнай Рэспублікі — гэта пэўныя крокі, імкненні да аднаўлення нацыянальнай дзяржаўнасці, якія ў тагачасных гістарычных умовах рэалізавацца не змаглі*"[16].

Некалькі выданняў вытрымала рускамоўная праца ***„История Беларуси с древнейших времен до нашего времени"*** Івана Коўкеля

11 Тамсама, ч. 2, с. 73, аўтар Іларыён Ігнаценка.

12 М. У. Сільчанка, І. А. Басюк, *Асноўныя этапы беларускай дзяржаўнасці*, Навучальны дапаможнік па курсу „*Гісторыя дзяржавы і права Рэспублікі Беларусь*" для студэнтаў спецыяльнасці „*Правазнаўства*", Гродна 1996. — 140 с. Тыя ж высновы паўтараюцца ў наступнай працы гэтых аўтараў: М. У. Сільчанка, І. А. Басюк, *Беларуская дзяржаўнасць*, Гродна 1997. — 372 с.

13 Тамсама, с. 16–17.

14 Тамсама, с. 29.

15 Тамсама, с. 61.

16 Тамсама, с. 80–84.

і Эдмунда Ярмусіка, створаная ў духу савецкіх традыцый, хоць ужо з саступкамі новым павевам часоў незалежнасці[17].

I. Беларускія землі знаходзіліся ў складзе *„Старажытнарускай дзяржавы”*. *„Калі і пры якіх абставінах беларускія землі ўвайшлі ў склад Старажытнарускай дзяржавы? Як вынікае са старажытнарускіх летапісаў, Полацкая зямля першапачаткова ўваходзіла ў склад паўночнага саюза ўсходнеславянскіх земляў на чале з Ноўгарадам”*[18].

II. Апісваючы стварэнне ВКЛ, аўтары называюць дзве канцэпцыі: першая (савецкая — А. К.) прадстаўляе эвалюцыю летувіскіх плямёнаў ад першабытнаабшчыннага ладу да раннекласавага грамадства; паводле другой (суб’ектнай — А. К.), цэнтраўтваральным ядром ВКЛ былі беларускія землі. Аўтары падтрымліваюць першую канцэпцыю. Спачатку адбылося аб’яднанне летувіскіх земляў пад уладай аднаго князя — Міндоўга. Аб’яднаная Летува ў першую чаргу падпарадкавала Чорную Русь[19].

III. Даволі нейтральна апісваецца ўключэнне Беларусі ў склад Расійскай імперыі, хоць усё-такі пераважаюць пазітыўныя ацэнкі: ліквідацыя магнацкай самаволі, ажыўленне прамысловасці, пашырэнне культуры (расійскай) і г.д. У цэлым далучэнне Беларусі да Расіі паказваецца як прагрэсіўнае[20].

IV. Негатыўна ацэньваецца стварэнне і дзейнасць БНР, што відаць ужо па назве адпаведнага раздзела: *„Германская акупацыя і абвяшчэнне БНР”*. Дзеячаў БНР аўтары абвінавачваюць у тым, што яны хацелі адарваць *„Беларусію”* ад Расіі. У той жа час *„Абвяшчэнне БССР і стварэнне Літоўска-Беларускай ССР”* прадстаўляецца як самавызначэнне беларускага народа[21]. Як даніна новаму часу ў тытул кнігі ўведзена назва *„Беларусь”*, але ў тэксце паўсюдна ўжываецца *„Беларусія”* (як у добрыя старыя савецкія часы).

На рубяжы стагоддзяў пачаўся выпуск **шасцітомнай Гісторыі Беларусі** аўтарства амаль выключна супрацоўнікаў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. На сённяшні дзень гэта найбольш грунтоўная сінтэза нацыянальнай гісторыі.

[17] И. И. Ковкель, Э.С. Ярмусик, *История Беларуси с древнейших времен до нашего времени*, Минск 2000. — 592 с.

[18] Тамсама, с. 9.

[19] Тамсама, с. 16.

[20] Тамсама, с. 70.

[21] Тамсама, с. 279, 294.

I. У першым томе[22] ў раздзеле 2 *„Беларускія землі ў раннім сярэднявеччы (VI ст.— першая палова XIII ст.)"* пачатак беларускай дзяржаўнасці звязваецца, цалкам слушна, са здабыццём самастойнасці Полацкім княствам у першай палове X ст.: *„Выхад Полацкага княства з-пад улады Кіева неабходна адносіць да перыяду 907–947 гг."*[23] Аўтар у тэксце ўжывае тэрмін *„Кіеўскае княства"* (не *„старажытнаруская дзяржава"* як у савецкай гістарыяграфіі). Але ў наступным параграфе *„Тураўскае княства ў IX–XI ст."* аўтарства археолага старэйшага пакалення Пятра Лысенкі ўжо вядзецца гаворка пра стварэнне *„…агульнай старажытнарускай дзяржавы з цэнтрам у г. Кіеве"*[24].

II. Тэма Вялікага Княства Літоўскага асвятляецца ў томе 2[25]. Аўтар тэксту пра пачаткі ВКЛ Вячаслаў Насевіч акцэнтуе ролю беларусаў у стварэнні і ўмацаванні дзяржавы. Аднак уводзіны да тома аўтарства Георгія Галенчанкі і Міхаіла Касцюка пачынаюцца з падраздзела пад традыцыйна савецкай назвай: *„Беларускія землі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага"*[26].

III. Пасля ўключэння Беларусі ў склад Расіі шляхта нічога не страціла (за выключэннем удзельнікаў паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі). Беларускі прыгонны селянін, па вобразнаму выразу аўтара тэксту Уладзіміра Емельянчыка, *„…апынуўся пад новым бізуном расійскага самадзяржаўя"*. Аўтар выказвае выразна суб'ектны падыход, калі піша: *„З пункту гледжання інтарэсаў існавання беларускай культуры і мовы беларусы ў выніку далучэння сваіх зямель да Расійскай імперыі трапілі з „гаршка" паланізацыі на „патэльню" русіфікацыі"*[27].

IV. Пра БНР і БССР апавядаецца ў томе 5[28]. Аўтару раздзела Іларыёну Ігнаценку Беларусь бачыцца як неад'емная частка Расіі. Інтэрвенты для аўтара — немцы і палякі (параграф 1 *„Германская інтэрвенцыя"* (с. 62–70)

---

22 *Гісторыя Беларусі*: у 6 т., т. 1. *Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст*., рэдкал: М. Касцюк (гал. рэд.) і інш., Мінск 2000.— 351 с., іл.

23 Тамсама, Глава 1 *„Узнікненне дзяржаўнасці, этнічная сітуацыя (VI–XI стст.)"*, с. 123–174. § 3 *„Полацкае княства ў IX–XI стст."*, аўтар Марат Клімаў (с. 148–166), с. 150.

24 Тамсама, с. 166.

25 *Гісторыя Беларусі*: у 6 т., т. 2: *Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага* / Ю. Бохан [і інш.]; рэд. кал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.], Мінск 2008.— 688 с., іл. (у адрозненне ад традыцыйнай гістарыяграфіі, у словазлучэнні Вялікае Княства Літоўскае слова Княства напісана з вялікай літары, на гэтым заўжды настойваў светлай памяці Павал Лойка).

26 Тамсама, с. 5–7.

27 *Гісторыя Беларусі*: у 6 т., т. 3, *Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII–XVIII стст.)* / Ю. Бохан, В. Голубеў, У. Емельянчык і інш., Мінск 2004, с. 259.

28 *Гісторыя Беларусі*: у 6 т., т. 5, *Беларусь у 1917–1945 гг.* / А. Вабішчэвіч [і інш.]; рэдкал. М. Касцюк (гал. рэдактар) і інш., Мінск 2006.— 613 с., іл. Раздзел 1. *„Працяг рэвалюцыйнага працэсу"*. Глава 2 *„Беларусь у час замежнай ваеннай інтэрвенцыі і грамадзянскай вайны"* (аўтар Іларыён Ігнаценка), с. 62–89.

і параграф 2 „*Інтэрвенцыя Польшчы*" (с. 70–76). Хоць з пазіцыі суб'ектнага гісторыка з моманту дэкларацыі беларускай дзяржавы цалкам правамерна ўжываць таксама тэрмін „*расійска-бальшавіцкая інтэрвенцыя*".

Ацэнка БНР І. Ігнаценкам на дзіва ўзважаная і прыхільная: „*Гістарычна гэта мэта* (стварэнне беларускай дзяржавы — А. К.) *беларускага нацыянальнага руху была заканамернай. Беларуская дзяржава па свайму зместу павінна была быць буржуазна-дэмакратычнай. Менавіта такую дзяржаву і імкнуліся ўтварыць нацыянальныя партыі і арганізацыі. Між тым на справе іх мэта поўнасцю не была рэалізавана*"[29].

Не савецкі погляд аўтар выказвае і на БССР: „*Відавочна, што ўтварэнне беларускай дзяржавы было з'явай фармальнай, выконвала пэўную знешнепалітычную задачу і падпарадкоўвалася рэвалюцыйнай мэтазгоднасці*". Не выпадае пагадзіцца з заключнай высновай аўтара: „*Дзве формы беларускай дзяржаўнасці — пэўны час яны існавалі паралельна, атаясамліваючы сабой дзве альтэрнатывы, выбар паміж якімі павінен быў зрабіць беларускі народ*"[30]. Супярэчнасць прыведзеных ацэнак відавочная. Паводле аўтара, БНР стварылі нацыянальныя партыі і арганізацыі, БССР — расійскія бальшавікі, а беларускі народ рабіў паміж імі выбар. Мы ведаем, што насамрэч выбару беларусам зрабіць не далі тыя ж бальшавікі. Тым не менш тэза І. Ігнаценкі пра дзве формы беларускай дзяржаўнасці прынятая і надалей абгрунтоўваецца некаторымі гісторыкамі з Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі.

Шасцітомная гісторыя Беларусі ў значнай ступені працягвае двухтомныя нарысы 1994–1995 гг. Акадэмічныя гісторыкі гэтай працай выказалі своеасаблівы пратэст супраць ідэалагічнага ўціску ўлады, а менавіта навязвання афіцыёзу. Праўда, падобна, не ўсе аўтары да канца гэта ўсведамлялі. Характэрна, што хоць праца ствaралася амаль выключна супрацоўнікамі Акадэміі Навук, шасцітомнік рыхтаваўся да друку ў прыватным, а не ва ўласным акадэмічным выдавецтве.

У пачатку XXI ст. пабачылі свет дзве ўзаемазвязаныя сінтэзы гісторыі краіны аўтарства Генадзя Сагановіча і Захара Шыбекі, якія ствараліся ў межах вялікага праекта напісання агульнай гісторыі народаў былой Рэчы Паспалітай. Ініцыяваныя і фінансаваныя польскімі інстытуцыямі працы польскіх, беларускіх, украінскіх і летувіскіх гісторыкаў друкаваліся на нацыянальных і польскай мовах (не выйшла толькі летувіскамоўная версія). Г. Сагановіч прадставіў **нарыс гісторыі Беларусі**

[29] Тамсама, Глава 3 „*Нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва*", с. 90–121. Параграф 2 „*Абвяшчэнне БНР*", с. 96.
[30] Тамсама, с. 98, 107, 112.

**ад старажытнасці да канца XVIII ст**., З. Шыбека — **ад канца XVIII да пачатку XXI ст**[31]. Гэтыя сінтэзы належаць да суб'ектнай гістарыяграфіі, і калі, напрыклад, адзін з аўтараў прытрымліваецца даўняй савецкай версіі стварэння ВКЛ, то гэта хутчэй за ўсё не ўплыў ідэалогіі, а асабісты навуковы погляд.

I. *„Першыя дзяржавы Беларусі”*. Натуральна, Полацкае і Тураўскае княствы. Г. Сагановіч выказвае версію пра самастойнасць Тураўскага княства ў другой палове X ст[32].

II. *„Утварэнне Вялікага Княства Літоўскага”*. Працэс генезісу дзяржавы расцягваецца амаль на два стагоддзі — да 30-х гадоў XV ст., з чым нельга пагадзіцца. Стварэнне дзяржавы — справа аднаго-двух пакаленняў, потым пачынаецца яе развіццё. Аўтар паўтарае даўнюю савецкую (і сённяшнюю летувіскую) канцэпцыю генезісу ВКЛ — палітычная кансалідацыя літоўскіх плямёнаў, з'яўленне агульналітоўскай ваеннай арганізацыі — саюзу ці канфедэрацыі. Міндоўг захапіў уладу ў свае рукі. *„Крыху пазней улада Міндоўга распаўсюджваецца на сумежныя тэрыторыі Беларусі”*[33].

III. Найбольш паслядоўна суб'ектны падыход рэалізаваны ў працы праф. З. Шыбекі. *„У 1795 г. перастала існаваць Вялікае Княства Літоўскае — некалі магутная дзяржава двух сучасных народаў: беларускага і літоўскага. Кацярыне II удалося здзейсніць адвечную мару рускіх цароў і захапіць яго”*[34].

IV. Назвы раздзелаў і падраздзелаў: *„V. Перыяд імперскага крызісу і станаўлення беларускай дзяржаўнасці. 1914–1920”*; *„20. Барацьба за ўзнаўленне беларускай дзяржаўнасці (сакавік 1917 — люты 1918)”*; *„21. Абвяшчэнне БНР і яе існаванне пад нямецкай акупацыяй. 1918 год”*; *„22. Стварэнне савецкай беларускай дзяржаўнасці”*; *„23. Барацьба за непадзельнасць БНР ва ўмовах савецка-польскай вайны”*. *„Спрадвечная мара беларускіх барацьбітоў пра сваю незалежную краіну, насуперак волі вялікіх дзяржаваў, пачынала здзяйсняцца. І з акцыяй 25 сакавіка ўжо не маглі не лічыцца нават ворагі беларускай дзяржаўнасці”*[35].

У поўнай меры суб'ектным падыходам вызначаецца непасрэдна звязаная з традыцыяй дзяржаўнасці двухтомная ***„Гісторыя знешняй***

[31] Г. Сагановіч, *Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца 18 стагоддзя,* Мінск 2001, - 412 с.; З. Шыбека, *Нарыс гісторыі Беларусі (1795-2002),* Мінск 2003, - 490 с.

[32] Г. Сагановіч, *Нарыс*, с. 25–28, 32.

[33] Тамсама, с. 60, 61.

[34] З. Шыбека, *Нарыс гісторыі Беларусі*, с. 13.

[35] З. Шыбека, *Нарыс,* с. 199.

***палітыкі Беларусі"*** Уладзіміра Снапкоўскага[36]. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова некалькіх цытат.

I. *„Полацкае княства — першая беларуская дзяржава, якая на працягу некалькіх стагоддзяў валодала неабходнымі атрыбутамі суверэнітэту і дзяржаўнасці"*[37].

II. *„Аб'яднанне Міндоўгам славянскіх і балцкіх зямель вакол Наваградка"*.

III. *„Згодніцка-канфрантацыйнае стагоддзе, якое пачалося ў абставінах анархіі і Паўночнай вайны, закончылася знішчэннем польскай і беларуска-літоўскай дзяржаўнасці"*[38].

IV. *„Беларуская Народная Рэспубліка з'яўляецца першай спробай стварэння беларускай дзяржаўнасці ў XX ст."*, а ССРБ — буферная савецкая рэспубліка[39].

У вучэбным дапаможніку калектыву аўтараў ***„Гісторыя Беларусі (у кантэксце сусветных цывілізацый)"***[40] дамінуе суб'ектны падыход.

I. У пэўным сэнсе выключэнне — апісанне полацкага перыяду, дзе Полацкае княства бачыцца вытокам беларускай дзяржаўнасці, але ўжываюцца тэрміны савецкай гістарыяграфіі: *„1.2.2. Утварэнне Кіеўскай Русі — старажытнай усходнеславянскай дзяржавы"*; *„1.2.3. Княствы на тэрыторыі Беларусі"*.

II. Пачатак ВКЛ трактуецца не як летувіская заваёва, а як запрашэнне Міндаўга на княжанне ў Наваградак.

III. Уключэнне Беларусі ў Расію ацэньваецца адмоўна, бо прывяло да замаруджвання развіцця айчыннай гаспадаркі і культуры.

IV. БНР трактуецца як беларуская дзяржава, а БССР *„…была для бальшавіцкага кіраўніцтва Расіі часовай дыпламатычнай мерай"*[41].

У рэчышчы суб'ектнай гістарыяграфіі напісана і сінтэза па гісторыі ВКЛ XIII–XIV стст. аўтара гэтых радкоў[42].

Калектыўная праца гісторыкаў з Акадэміі Навук з парадаксальнай, на першы погляд, назвай ***„Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы***

---

36 У. Е. Снапкоўскі, *Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі*: Вучэб. дапам. для студэнтаў фак. міжнар. адносін: у 2 ч., ч. 1, *Ад пачаткаў дзяржаўнасці да канца XVIII ст.*, Мінск 2003.— 281 с.; ч. 2, *Ад канца XVIII да пачатку XXI ст.*, Мінск 2004.— 303 с.

37 Тамсама, ч. 1, с. 16.

38 Тамсама, ч. 1, с. 59, 238.

39 Тамсама, ч. 2, с. 102, 106.

40 *Гісторыя Беларусі (у кантэксце сусветных цывілізацый)*, вучэб. дап. / В. І. Галубовіч [і інш.]; 2 выд., выпр. пад рэд. В. І. Галубовіча і Ю. М. Бохана, Мінск 2007.— 472 с.

41 Тамсама, с. 54, 70, 150, 259.

42 А. Краўцэвіч, *Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. 1248–1377*, Гародня-Уроцлаў 2015.

***18 — пачатку 21 ст.”***[43] (бо якая ж беларуская дзяржаўнасць ў канцы 18–19, ды і амаль усё 20 ст.?!) у асвятленні некаторых тэм мае прыкметы суб’ектнай гістарыяграфіі.

III. Далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі не ацэньваецца. У раздзеле пра нацыянальную палітыку царызму прыведзеныя даволі дзіўныя, супярэчлівыя высновы, якія ставяць пад сумнеў палітыку русіфікацыі: *„Улады не ставілі знак роўнасці паміж беларусам і велікарусам, не імкнуліся пазбавіць беларускі народ уласцівай яму самабытнасці, не прымалі ў адносінах да беларусаў дыскрымінацыйных законаў. У той самы час улады не лічылі іх асобным этнасам, здольным адасобіцца ад Расіі і стварыць самастойную дзяржаву”*[44] (узаемавыключальныя сцвярджэнні: *„не ставілі знак роўнасці” — „не лічылі асобным этнасам”*).

IV. Падраздзел 5.5. *„БНР — гістарычны выбар нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння”*. Адначасова БССР трактуецца як нацыянальная беларуская дзяржава[45]. Фактычна аўтары развіваюць тэзу Іларыёна Ігнаценкі пра БНР і БССР як дзве формы беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці.

Прысутнасць у адной працы як афіцыёзных, так і суб’ектных поглядаў — звыклая з’ява ў сінтэтычных працах беларускіх аўтараў, асабліва ў калектыўных. Як адзін з прыкладаў можна ўзяць вучэбны дапаможнік для студэнтаў юрыдычных і гістарычных спецыяльнасцяў Аляксея Вішнеўскага[46].

I. Савецкі падыход: *„Глава 2.* ***„Старажытныя дзяржавы на тэрыторыі сучаснай Беларусі*** (выдзелена мною — А. К.). *Старажытнае права ў IX — першай палове XIII ст.”*.

II. Тая самая тэрміналогія: *„Беларускія землі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага”*. Аднак адначасова аўтар бачыць ВКЛ гістарычнай формай дзяржаўнасці нашых продкаў, падрабязна прадстаўляе канцэпцыю ўтварэння ВКЛ Міколы Ермаловіча: *„Менавіта Навагародская зямля разам з суседнімі з ёй літоўскімі землямі стала ядром новай дзяржавы, якая атрымала назву Літоўскае княства”*[47].

III. Беларусь была ўключаная ў склад Расіі (не ўжываецца паняцце „уз’яднанне”). Аўтар звяртае ўвагу на цэнтралізацыю і ліквідацыю

43 *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст.*, у 2 кн., кн. 1, / А. А. Каваленя і інш., Мінск 2011.— 584 с.; Кн. 2, Мінск 2012.— 654 с.

44 Кн. 1, с. 179, аўтар Н. Я. Новік.

45 Тамсама, с. 359, 405.

46 А. Ф. Вішнеўскі, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі*: Вучэб. дапаможнік. Мінск 2000.— 319 с.

47 Тамсама, с. 16, 38, 36–37.

судовай, адміністрацыйнай і прававой аўтаноміі беларускіх земляў у Расійскай імперыі[48].

IV. *„Глава 10. „Нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва на Беларусі (1917–1921 гг.)”*. БНР не рэалізавалася як дзяржава ў юрыдычным сэнсе, БССР — беларуская дзяржаўнасць у форме савецкай рэспублікі, але яна не мела рэальнага суверэнітэту[49].

Падобныя мешаныя палажэнні ўтрымлівае таксама праца Язэпа Юхо[50] і многія іншыя сінтэтычныя працы[51].

Беларуская гістарыяграфія нацыянальнай дзяржаўнасці за апошнія трыццаць гадоў перажыла даволі значную эвалюцыю ў кірунку ад афіцыёзна-савецкай да суб’ектнай. Яна пачала фармавацца ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя і прыспешылася ў пачатку 90-х, пасля здабыцця краінай незалежнасці. Эвалюцыя, аднак, не завершаная, паколькі была запаволена ўмяшальніцтвам (з 1995 г.) ідэолагаў аўтарытарнага рэжыму і асабіста яго галавы прэзідэнта Лукашэнкі, які ініцыяваў спробу рэанімацыі даўняй савецкай парадыгмы (з улікам сучасных змен парадыгмы расійскай) беларускай гісторыі.

Да гонару многіх беларускіх гісторыкаў, у тым ліку старэйшага пакалення, яны працягвалі працу па стварэнні суб’ектнай нацыянальнай гістарыяграфіі. Іншая справа, што не ўсе даследчыкі змаглі пазбавіцца савецкіх стэрэатыпаў ва ўспрыманні беларускай гісторыі, у першую чаргу ментальнай сувязі з расійскай гістарыяграфіяй. Напрыклад, для часткі беларускіх гісторыкаў у 1918–1920 гг. мела месца „нямецкая акупацыя”, „польская акупацыя”, але ніяк не „бальшавіцка-расійская акупацыя” беларускіх земляў. Хоць апошняя прынесла Беларусі і яе народу самую вялікую шкоду.

Свядомасны баласт савецкай гістарыяграфіі бачны і ў прадстаўленні фактычных антаганістаў БНР і БССР як двух ледзь не раўнапраўных форм беларускай дзяржаўнасці. Пры тым, што ў рэальнасці БНР з’яўлялася беларускім праектам, а БССР — вымушаным расійска-бальшавіцкім і была беларускай дзяржавай толькі па форме.

Агулам можна канстатаваць, што ў сучаснай Беларусі суіснуюць афіцыёзная (у асноўным як працяг савецкай) і суб’ектная гістарыяграфіі. Пры выразнай канцэптуальнай канфрантацыйнасці афіцыёзнай

[48] Тамсама, с. 151.

[49] Тамсама, с. 174, 187.

[50] Я. Юхо, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі,* ч. 1, Мінск 2000.— 352 с.

[51] В. А. Круталевіч, І. А. Юхо, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі (1917–1945 гг.*), 2-е выд., Мінск 2000.— 238 с, іл. 7.

і суб’ектнай інтэрпрэтацый нацыянальнай гісторыі ў працах беларускіх гісторыкаў, найбольш у падрыхтаваных калектыўна, пад адной вокладкай могуць ужывацца абедзве.

У ацэнках афіцыёзных гісторыкаў прасочваецца сувязь з пастулатамі савецкай гістарыяграфіі, хоць пад уплывам незалежніцкай адбыліся пэўныя змены. Афіцыёзныя аўтары ўжо не могуць поўнасцю рэанімаваць савецкія парадыгмы. Напрыклад, ужо ніхто не ўжывае тэрмін „уз’яднанне” адносна ўключэння Беларусі ў Расійскую імперыю ў канцы XVIII ст., і ніводзін з аўтараў не можа абмінуць тэмы стварэння БНР.

Суб’ектная беларуская гістарыяграфія да канца не аформілася і даволі часта абцяжараная стэрэатыпамі савецкай гістарыяграфіі, што праяўляецца ў выкарыстанні даўнейшай тэрміналогіі. Напрыклад, адносна сярэднявечча: *„дзяржаўныя ўтварэнні на беларускіх землях”*, а не *„сярэднявечныя беларускія дзяржавы”*, Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, Вялікая Айчынная вайна і г.д. Па інерцыі пішацца пра станоўчы вынік уключэння Беларусі ў склад Расіі і інш.

Увогуле, логіка развіцця незалежнай дзяржавы перамагае нежыццёвую штучную ідэалогію з яе выразным каланіяльным сіндромам. Штучнасць афіцыйнай ідэалогіі праяўляецца ў адначасовым агучванні кардынальна процілеглых тэзаў: умацаванне незалежнай дзяржавы і яе адмаўленне (настальгія па СССР, агульная дзяржава з Расіяй, лозунгі — *„мы адзін народ, адна краіна”; „беларусы — то рускія са знакам якасці”*, *„Беларусь — бастыён Расіі на захадзе”* і г.д.).

Неадэкватнасць гістарычнай палітыкі ўлады праяўляецца ў яе ваганнях ад адной крайнасці да другой. Напрыклад, мая крытыка выказванняў А. Лукашэнкі пра Вялікае Княства Літоўскае як варожае беларусам стала ў 2004 г. адной з прычын звальнення з Гарадзенскага ўніверсітэта, а ў 2017 г. А. Лукашэнка публічна казаў пра ВКЛ як дзяржаву беларускую. Тое самае адбылося з ацэнкай БНР, якая вагалася ад варожай да прыхільна-нейтральнай.

За мінулыя тры дзесяцігоддзі беларускія гісторыкі ва ўмовах функцыянавання рэжыму, варожага да нацыянальнай ідэалогіі і культуры, здолелі шмат зрабіць не толькі ў акадэмічных даследаваннях, але і ўвесці іх вынікі ў грамадскі зварот, у сістэму адукацыі, нягледзячы на, здавалася б, жорсткі ідэалагічны кантроль з боку ўлады. Можна канстатаваць нябачны, але істотны супраціў асяроддзя беларускіх гісторыкаў навязванню неадэкватных незалежнай дзяржаве стэрэатыпаў савецкай гістарыяграфіі. Беларускія гісторыкі часта дзейнічалі ў адпаведнасці з нацыянальнай гістарычнай традыцыяй — па-партызанску.

Усё новае, арыгінальнае, што створана ў галіне гісторыі дзяржаўнасці за чвэрць стагоддзя незалежнасці, — плён працы суб’ектных гісторыкаў, у тым ліку тых, хто працуе ў дзяржаўных установах.

Добры прыклад — вяртанне гістарычнай сімволікі ў сучасныя гербы беларускіх гарадоў і асабліва афіцыйнае прызнанне ў якасці нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці герба *„Пагоня”*[52], што ўрэшце прывяло да спынення практыкі паліцыйнага пераследу, пачынаючы з 2016 г., за публічную дэманстрацыю гэтага герба.

У беларускай гістарыяграфіі пакуль яшчэ не цалкам скінуты баласт савецкай гістарыяграфічнай спадчыны, але гэта бачыцца толькі справай часу. Лагічным вынікам далейшай эвалюцыі суб’ектнай беларускай гістарыяграфіі ўяўляецца прыняцце агульнай храналагічнай схемы гісторыі краіны на ўзор польскай і летувіскай: сярэднявечная і навачасная дзяржаўнасць — ліквідацыя дзяржаўнасці ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай (у польскай гістарыяграфіі агульнаўжываны тэрмін „пад заборамі” ад слова „забіраць”) — аднаўленне дзяржаўнасці. У беларускай навуковай гістарыяграфіі першым да такой схемы прыйшоў прафесар Захар Шыбека, які ў сваёй сінтэзе гісторыі Беларусі змясціў падраздзел з адпаведнай назвай: *„Барацьба за ўзнаўленне беларускай дзяржаўнасці (сакавік 1917 — люты 1918)”*.


## Streszczenie

Aliaksandr Kraucewicz*, Tradycja ojczystej państwowości w białoruskiej historiografii*

Na Białorusi współcześnie współistnieją dwa nurty historiografii tradycji białoruskiej państwowości — oficjalny (w większości „reanimowany” radziecki) i podmiotowy czy też niezależny. Głównym elementem wyróżniającym oficjalną historiografię, tak jak i jej poprzedniczkę, jest spojrzenie na historię Białorusi z pozycji racji stanu innego państwa — Rosji, stąd też wynika główne przesłanie tego nurtu — stwierdzenie odwieczne jedności narodu białoruskiego i rosyjskiego, zjednoczonych w granicach państwowości rosyjskiej.

Przedstawiciele historiografii podmiotowej patrzą na Białoruś, jako na podmiot własnej historii, dlatego też przedstawiają historię kraju z pozycji racji stanu narodu, który go stworzył. Niektórzy badacze wydzielają tak zwany


52 *Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь* / склад. В. Я. Абламскі, І. М. Чарняўскі, Ю. А. Барысюк, Мінск 2009, с. 674.

zachodnioruski nurt białoruskiej historiografii, co jednak nie znajduje podstaw metodologicznych, ponieważ ma ona wyraźnie publicystyczny charakter.

Mimo wyraźnej konceptualnej konfrontacji oficjalnej i podmiotowej interpretacji historii narodowej, w pracach białoruskich historyków, zwłaszcza tych zbiorowych, w ramach jednej książki mogą koegzystować oba nurty.

W ocenach historyków związanych z nurtem oficjalnym można odnaleźć związki z postulatami historiografii radzieckiej, choć pod wpływem niepodległości zaszły pewne zmiany. Oficjalni autorzy nie mogą już w pełni „reanimować" radzieckich paradygmatów, na przykład już żaden z nich nie używa terminu „zjednoczenie" w odniesieniu do włączenia Białorusi w skład Imperium Rosyjskiego w końcu XVIII w., a także nie może pominąć tematu BRL.

Podmiotowa historiografia białoruska nie do końca wykształciła swą formę i dlatego bardzo często jest obciążona stereotypami historiografii radzieckiej, co znajduje odzwierciedlenie w wykorzystywaniu dawniejszej terminologii (na przykład w odniesieniu do średniowiecza „formacje państwowe na ziemiach białoruskich" a nie „średniowieczne państwa białoruskie", „Wielka Rewolucja Październikowa", „Wielka Wojna Ojczyźniania" itd.). Przez inercję piszę się o pozytywnych skutkach włączenia Białorusi do Rosji.

Wszystko co nowego i oryginalnego powstało w dziedzinie historii państwowości na przestrzeni ćwierćwiecza niepodległości jest owocem pracy historyków nurtu podmiotowego, włączając w to pracowników instytucji państwowych. W ciągu ostatnich trzydziestu lat białoruscy historycy w warunkach istniejącego reżimu, wrogiego wobec narodowej ideologii i kultury, zdołali uczynić wiele, nie tylko na polu badań akademickich, ale i kształtowania świadomości społecznej i systemu edukacji, nie zważając na, zdałoby się, baczną ideologiczną kontrolę ze strony władz.

## Abstract

Aliaksandr Krautsevich, *Tradition of Statehood in Belarusian Historiography*

In Belarusian historiography there are two traditions of perceiving Belarusian statehood, namely the official one (Soviet-based to a considerable degree) and the subjective or independent one. The main feature of official historiography, as well as its Soviet predecessor, lies in perceiving the history of Belarus from the perspective of another country, which is Russia, hence the main message of this movement is centred on the belief that there is an

eternal bond between Belarusians and Russians, who are united under the Russian state.

Advocates of the subjective point of view see Belarus as the subject of its own history, and therefore its history has been shaped by the national interest of people who created it. Some researchers distinguish also another point of view, i.e. the west-Russian one, which is applied to historians who do not follow any methodological bases and their writings are mainly of journalistic nature.

Having been educated within both traditions, Belarusian historians can successfully use both traditions and confront the official and subjective point of view, especially when they work collectively.

The findings of researchers following the official point of view have revealed the connection with the postulates of Soviet historiography; however, there is a strong influence of changes resulting from the independence. Official authors can no longer fully revive the Soviet paradigm: for example, no one uses the term „reunification" to address the inclusion of Belarus into the Russian Empire in the late 18$^{th}$ century and there is a tendency not to avoid writing about the creation of the BNR.

Subjective historiography in Belarus has not been fully formed yet and frequently remains under the influence of Soviet clichés, which is visible in the use of older terminology. For instance, when it comes to the Middle Ages, authors will use the phrase „state-like communities on the Belarusian land" rather than „a medieval Belarusian state", the Great October Socialist Revolution or the Great Patriotic War, etc. Academic inertia leads to writing about positive consequences of the inclusion of Belarus into Russia.

Everything that has been new and original in the history of the state in the period of its 25 years of independence has been the outcome of work undertaken by subjective historians, including the ones working in public institutions. Over the past three decades, Belarusian historians, working under the regime that appears hostile to national ideology and culture, have achieved much, not only in terms of academic research, but also in terms of making their findings available to wider audiences and schools, despite the seemingly tight ideological control of the authorities.

Ігар Кузьмініч
(Варшава/Гродна)

# Асаблівасці навучальнай дзейнасці беларускіх клінік права (1999–2015)

## I. Уводзіны

Юрыдычныя клінікі і клінікі права на кожны дзень / *Street Law* паўсталі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у канцы 90-х гадоў як прыватная ініцыятыва асобных выкладчыкаў юрыдычных факультэтаў. Клінікі дзейнічаюць ужо амаль дваццаць год і назапасілі досвед, а таксама маюць вымяральныя вынікі дзейнасці. На сённяшні дзень пры юрыдычных факультэтах вышэйшых навучальных устаноў дзейнічае трынаццаць структур клінічнага прававога навучання. Разам з тым у Беларусі дагэтуль адсутнічаюць спецыяльныя навуковыя даследаванні, прысвечаныя арганізацыі навучальнага працэсу ў клініках права. Адсутнічаюць абагульненыя даныя па навучальных праграмах клінік і асаблівасцях арганізацыі навучальнага працэсу клінік. Хоць навучальны працэс з'яўляецца істотнай часткай іх функцыянавання і здольны ўплываць на вынікі дзейнасці клінік у сацыяльнай сферы.

Юрыдычная клініка (ЮК) і клініка права на кожны дзень / Street Law (КПрКД) накіраваны на рэалізацыю дзвюх асноўных функцый:

1) адукацыйнай (навучальнай) — прававога навучання студэнтаў-юрыстаў праз практыку;

2) сацыяльнай — удзел у вырашэнні сацыяльна важных праблем грамадства.

І юрыдычная клініка, і клініка права на кожны дзень / *Street Law* у роўнай ступені выконваюць дзве вышэйзгаданыя функцыі. Існуюць розныя падыходы да вызначэння прыярытэтнасці навучальнага або сацыяльнага складнікаў клінікі права, але гэта пытанне не з'яўляецца істотным для нашага даследавання. Абодва тыпы клінік выконваюць адукацыйную, навучальную функцыю. Адукацыйная функцыя і аднаго, і другога тыпу клінік мае падобныя мэты — фармаванне кампетэнцый, практычнага досведу, прававых ведаў, навыкаў і каштоўнасцей для пазнейшага выкарыстання гэтых кампетэнцый падчас дзейнасці ў сацыяльнай сферы.

Розніца паміж юрыдычнай клінікай і клінікай права на кожны дзень заключаецца толькі ў спосабе дзейнасці ў сацыяльнай сферы. Юрыдычная клініка і клініка права на кожны дзень па-рознаму вырашаюць сацыяльна важныя грамадскія праблемы, што надае асаблівасці і першай адукацыйнай функцыі. Гэта азначае, што працэс навучання студэнтаў у юрыдычнай клініцы і клініцы права на кожны дзень адрозніваецца ў сувязі з тым, што адрозніваецца тая дзейнасць, якую студэнты выконваюць у сацыяльнай сферы. Напрыклад, асноўны ўхіл у навучанні студэнтаў-клініцыстаў для працы ў грамадскай прыёмнай звязаны з тым, як правільна весці прыём грамадзян, збіраць фактaлагічны матэрыял, як самастойна працаваць з заканадаўствам, рыхтаваць адказ кліенту і г.д. У той самы час студэнтаў-клініцыстаў клінікі права на кожны дзень вучаць таму, як даваць своеасаблівую кансультацыю не аднаму чалавеку, а адразу групе. Вучаць, як працаваць з заканадаўствам, каб падрыхтаваць практычныя прававыя заняткі-кансультацыі, як рыхтаваць і праводзіць такія заняткі, як працаваць з групай людзей пры дапамозе інтэрактыўных метадаў.

Адукацыйная функцыя выконваецца падчас спецыяльнага курса навучання студэнтаў-клініцыстаў, а таксама ў працэсе выканання студэнтамі-юрыстамі сацыяльных функцый (аказання прававой дапамогі асобным катэгорыям насельніцтва ў юрыдычнай клініцы ці падчас навучання спосабам абароны сваіх інтарэсаў праз прававую сістэму ў клініцы права на кожны дзень). З мэтай звузіць аб’ект даследавання, у дадзенай працы мы сканцэнтруемся толькі на спецыяльнай навучальнай частцы клінікі права, без разгляду навучання, якое арганізавана па выніках кансультацый ці правядзення і абмеркавання прававых заняткаў.

З мэтай высветліць асаблівасці навучальнай часткі, арганізаванай беларускімі клінікамі, даследаванне сканцэнтравалася на вывучэнні асаблівасцей:

1. Сістэмы падрыхтоўкі студэнтаў да выканання імі абавязкаў у межах клінік права.
2. Навучальных праграм клінік.
3. Навучальных матэрыялаў, якія выкарыстоўваюць клінікі падчас падрыхтоўкі студэнтаў-клініцыстаў.
4. Методыкі падрыхтоўкі студэнтаў.
5. Узроўню падрыхтоўкі адміністратараў клінік і куратараў клінік.

Мэта даследавання: аналіз асаблівасцей навучальнага працэсу ў юрыдычных клініках і клініках права на кожны дзень на аснове супа-

стаўлення кірункаў дзейнасці клінік, вывучэння і аналізу навучальных праграм асобных клінік права, аналізу адказаў адміністратараў, куратараў і студэнтаў-клініцыстаў у анкетах аб навучальных матэрыялах, якія выкарыстоўваюцца клінікамі, і методык працы са студэнтамі.

*А) Галоўныя скарачэнні:*

1) Юрыдычная клініка — ЮК альбо клініка.

2) Клініка права на кожны дзень / *Street Law* — КПрКД альбо клініка.

3) Вучэбная лабараторыя „Юрыдычная клініка" ўстановы адукацыі „Акадэмія Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь" (г. Мінск) — Акадэмія МУС.

4) Грамадская юрыдычная прыёмная па аказанні прававой дапамогі маламаёмасным грамадзянам Рэспублікі Беларусь установы адукацыі „Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь" (г. Мінск) — Акадэмія кіравання.

5) Вучэбная лабараторыя „Юрыдычная клініка" ўстановы адукацыі „Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт" (г. Мінск) — БДУ.

6) Студэнцкая юрыдычная кансультацыя ўстановы адукацыі „Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт" (г. Мінск) — БДЭУ.

7) Вучэбна-практычная лабараторыя „Юрыдычная клініка" прыватнай установы адукацыі „Беларускі інстытут правазнаўства" (г. Мінск) — БІП.

8) Юрыдычная клініка факультэта эканомікі і права ўстановы адукацыі „Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт" (г. Баранавічы) — БарДУ.

9) Вучэбная лабараторыя „Юрыдычная клініка" ўстановы адукацыі „Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна" (г. Брэст) — БрДУ.

10) Вучэбная лабараторыя „Лабараторыя прававога інфармавання" ўстановы адукацыі „Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава" (г. Віцебск) — ВДУ.

11) Студэнцкая вучэбна-навуковая лабараторыя „Юрыдычная клініка" ўстановы адукацыі „Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны" (г. Гомель) — ГДУ.

12) Інавацыйны цэнтр юрыдычнай адукацыі ўстановы адукацыі „Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" (г. Гродна) — ГрДУ.

13) Рэгіянальны цэнтр прававой дапамогі ўстановы адукацыі „Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Куляшова" (г. Магілёў) — МДУ.

14) Студэнцкая служба прававой дапамогі ўстановы адукацыі „Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт" (г. Полацк) — ПДУ.

*Б)Агульны аналіз матэрыялаў даследавання.*

Для мэтаў дадзенага даследавання ўсе матэрыялы збіраліся вясной 2015 года. Матэрыялы, на падставе якіх праводзілася даследаванне, уключаюць чатыры віды крыніц:

1) Дакументы клінік (палажэнне і праграмы курсаў ЮК і КПрКД), прадстаўленыя ў электронным фармаце альбо ў выглядзе ксеракопій кіраўніцтвам клінік.

Усяго разглядалася 11 палажэнняў клінік (БарДУ і ГДУ не далі гэтага дакумента, а БІП прадставіў Палажэнне ЮК і Палажэнне КПрКД), 6 навучальных праграм юрыдычных клінік, 2 праграмы клінік права на кожны дзень (праграму КПрКД падалі толькі БрДУ і ГрДУ).

Дадатковыя дакументы не разглядаліся, але ўлічваліся падчас разгляду агульных пытанняў, якія тычацца клінічнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь у цэлым.

**Табліца 1. Дакументы, прадстаўленыя клінікамі**

| Клінікі | Палажэнне клінікі | Праграма юрыдычнай клінікі | Праграма клінікі права на кожны дзень | Дадатковыя дакументы |
|---|---|---|---|---|
| Акадэмія кіравання | Так | Так | Не | - |
| Акадэмія МУС | Так | Не | Не | - |
| БДУ | Так | Так | Не | - |
| БДЭУ | Так | Не | Не | Правілы работы ЮК |
| БарДУ | Не | Не | Не | - |
| БрДУ | Так | Так | Так | 1) Палажэнне аб практыцы;<br>2) Праграма азнаямленчай практыкі 3 курс;<br>3) Праграма вытворчай практыкі (судова-пракурорская практыка);<br>4) Заняткі па праве. Метадычны дапаможнік. |
| БІП | Так | Так | Не | - |
| ВДУ | Так | Не | Не | Метадычныя матэрыялы |
| ГДУ | Не | Так | Не | - |
| ГрДУ | Так | Так | Так | - |
| МДУ | Так | Не | Не | - |
| ПДУ | Так | Не | Не | Інструкцыя аб парадку арганізацыі дыстанцыйных кансультацый |

2) Анкета ад клінік. Звесткі ад клінік былі атрыманы ў форме анкеты. Анкеты для клінік запаўняліся кіраўніцтвам клінік альбо былі запоўненыя

ад рукі ў пісьмовым выглядзе экспертам падчас сустрэчы — са слоў кіраўнікоў і куратараў клінік. Анкеты-апытальнікі для клінік атрыманы ад усіх клінік, акрамя клінік БарДУ, ГрДУ і Гродзенскага філіяла БІП. З адзінаццаці клінік, якія працавалі на 2015 год, анкеты падрыхтавалі дзесяць, а звесткі па клініцы ГрДУ былі ў наяўнасці ў аўтара даследавання.

3) Анкеты ад куратараў клінік. У дадзеным даследаванні выкарыстоўваліся звесткі з анкетавання, праведзенага сярод куратараў клінік. Усяго было сабрана 17 анкет.

4) Асабістае наведванне клінік і інтэрв'ю з кіраўнікамі клінік, куратарамі клінік, адміністрацыяй факультэтаў, студэнтамі-клініцыстамі. Акрамя атрымання дакументальных звестак пра дзейнасць клінік, вясной 2015 года аўтар даследавання асабіста наведаў дзесяць з адзінаццаці клінік.

Розныя віды крыніц інфармацыі — дакументы па арганізацыі і дзейнасці клінік (палажэнні клінік, праграмы, на якіх грунтуецца навучальны працэс у клініках, адказы адміністратараў, куратараў і студэнтаў-клініцыстаў, занатаваныя ў анкетах), асабістая прысутнасць эксперта і інтэрв'ю ў клініках падчас правядзення заняткаў і прыёмаў грамадзян, з аднаго боку, дазволілі паменшыць суб'ектыўныя ўражанні даследчыка. З другога боку, розныя крыніцы інфармацыі дазволілі залагодзіць натуральнае імкненне кіраўнікоў клінік „падфарбаваць" рэальную сітуацыю ў сваіх клініках, каб прадэманстраваць эфекты ўласнай дзейнасці.

У дадзеным даследаванні выкарыстаны толькі тыя звесткі з анкет (ад клінік, ад куратараў), якія непасрэдна тычацца выключна навучальнага працэсу, арганізаванага ў клініках. Даследаванне паказвае стан развіцця навучальнай часткі клінік у 2015 годзе. На сённяшні дзень змянілася колькасць клінік. У 2017 годзе аднавіла працу клініка ўстановы адукацыі „Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" і была створана клініка Гродзенскага філіяла Беларускага інстытута правазнаўства. Але прынцыповых змен у працэсе падрыхтоўкі студэнтаў-клініцыстаў да сённяшняга дня не адбылося. Таму звесткі, прыведзеныя ў дадзеным даследаванні, застаюцца актуальнымі.

## II. Асноўная частка даследавання

*а) Галоўныя накірункі дзейнасці клінік права*

Дзейнасць ЮК складаецца з часткі навучання студэнтаў-клініцыстаў і далейшай іх дзейнасці ў Грамадскай прыёмнай. Дзейнасць КПрКД складаецца з часткі навучання студэнтаў-клініцыстаў, распрацоўкі

заняткаў студэнтамі альбо іх знаёмства з падрыхтаванымі раней заняткамі і правядзення заняткаў для сацыяльнай групы (як правіла, навучэнцаў старэйшых класаў сярэдніх школ і гімназій). Дзейнасць ЮК і КПрКД у сацыяльнай сферы, акрамя пазначаных вышэй, уключае ў сябе і іншыя праграмы або накірункі дзейнасці, характэрныя толькі для асобных клінік.

З пункту гледжання перспектыўнасці дадатковых сацыяльных праграм клінік найбольш цікавай здаецца праграма, пачатая яшчэ клінікай Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта ў рамках праекта, падтрыманага ўстановай „Новая Еўразія". Гэта праграма апасродкаванага кансультавання праз інфармацыйна-прававыя цэнтры рэгіянальных бібліятэк. Цяпер яна па ініцыятыве бібліятэк рэалізуецца толькі ПДУ. Перспектыўнасць праграмы заключаецца ў тым, што гэта незатратны спосаб працы з рэгіёнамі. З насельніцтвам, якое пражывае ў аграгарадках, раённых цэнтрах і вёсках. З аднаго боку, дадзеныя катэгорыі насельніцтва зацікаўлены ў праграмах якаснага кансультавання значна больш, чым жыхары абласных цэнтраў і сталіцы, а з другога боку, у падобнай дзейнасці зацікаўлена дзяржава.

У **Табліцы 2** добра бачна, што клінікі выбралі асноўным накірункам развіццё юрыдычных клінік і кансультаванне кліентаў у грамадскіх прыёмных. Менавіта гэтая дзейнасць на момант збору інфармацыі прысутнічала ў кожнай з іх без выключэнняў. Клінікі па-рознаму называлі гэтую дзейнасць: ЮК (грамадская прыёмная), ЮК, „вуснае кансультаванне", „грамадская прыёмная", „прафесійныя навыкі юрыста", „кансультаванне грамадзян", „практычныя навыкі юрыста", „грамадскаяпрыёмная па аказанні інфармацыйна-прававой дапамогі", але па сутнасці гэтыя праграмы вельмі падобныя. Яны заключаліся ў навучанні студэнтаў спосабам дзейнасці ў ЮК і пазнейшай працы студэнтаў-клініцыстаў над прававымі праблемамі рэальных кліентаў. Па інфармацыі, якая атрымана ад клінікі Акадэміі МУС, цяжка сказаць напэўна, з якой перыядычнасцю праводзілася кансультаванне, але астатнія клінікі з большай ці меншай паспяховасцю працавалі на ніве кансультавання грамадзян. Акрамя гэтага, шэсць клінік мелі кансультацыі па перапісцы (поштай ці праз Інтэрнэт), а клініка БрДУ яшчэ практыкавала выязныя кансультацыі. Дзве клінікі, па стане на 2013 і 2015 гады, мелі апасродкаванае кансультаванне праз інфармацыйна-прававыя цэнтры пры бібліятэках і працавалі з аграгарадкамі і малымі населенымі пунктамі ў Гродзенскай і Віцебскай абласцях.

**Табліца 2. Накірункі дзейнасці клінік права па стане на 2015 г.**

| Клінікі | Акадэмія кіравання | Акадэмія МУС | БДУ | БДЭУ | БарДУ | БрДУ | БІП | ВДУ | ГДУ | ГрДУ (па стане да 2013 г.) | МДУ | ПДУ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ЮК | ЮК (грамадская прыёмная) | ЮК | Вуснае кансультаванне. Адказы на лісты поштай. Кансультаванне на сайце „Прававы форум Беларусі”. | Кансультаванне грамадзян. | Грамадская прыёмная. | Прафесійныя навыкі юрыста. Пісьмовыя адказы па электроннай пошце. Выязная клініка (2-я серада месяца, прыём з 11.00 да 14.00). „Юрыст 21-га стагоддзя” (конкурс клініцыстаў – адзін раз у два гады). | Практычныя навыкі юрыста. | Прафесійныя навыкі юрыста. | Кансультаванне грамадзян. Адвакат па перапісцы. | ЮК і кансультаванне грамадзян у грамадскай прыёмнай. Апасродкаванае кансультаванне праз інфармацыйна-прававыя цэнтры пры бібліятэках у раёнах Гродзенскай вобласці і аграгарадках. | ЮК. Адвакат па перапісцы. | Грамадская прыёмная па аказанні інфармацыйна-прававой дапамогі. Апасродкаванае кансультаванне праз інфармацыйна-прававыя цэнтры пры бібліятэках. |
| КПрКД | Street Law: SOS — Дзіцячая вёска. Street Law: СШ № 115 г. Мінск. | - | Street Law „Права на кожны дзень”. | Жывое права (перыядычна): агульныя пытанні права і фінансава-прававая асвета. | Заняткі ў школах сумесна з пракуратурай. Дапамагаюць афармляць дакументы ў цэнтры занятасці і там праводзяць заняткі. | Школа прававой асветы. Школа маладога юрыста (прафарыентацыя з 2015 г.). Валанцёрскі атрад „Юнацтва” (з 2006 года – прававыя заняткі для цяжкіх падлеткаў). Прававое інфармаванне на выбарах. | Права на кожны дзень: „Жывое права”. | Методыка прававога інфармавання. | Жывое права. | Клініка права на кожны дзень. Правядзенне прававых заняткаў у: СШ № 23; СШ № 16; СШ № 18; гімназіі № 2 г. Гродна. | Жывое права. | „Street Law: Права на кожны дзень”. |

Згодна з заявамі клінік, усе навучальныя ўстановы, акрамя Акадэміі МУС, мелі і развівалі клінікі права на кожны дзень. Гэтыя клінікі называліся па-рознаму: „Права на кожны дзень", „Street Law", „Жывое права", „Заняткі ў школах сумесна з пракуратурай", „Школа прававой асветы", „Методыка прававога інфармавання", але ўсе яны былі звязаныя з навучаннем студэнтаў падрыхтоўцы практыка-арыентаваных прававых заняткаў-кансультацый для асобных катэгорый насельніцтва альбо вучылі знаёміцца з распрацаванымі заняткамі-кансультацыямі і пазней праводзіць іх.

Інфармацыя пра дзейнасць клінік вельмі істотная, паколькі паказвае, на што трэба звяртаць увагу падчас аналізу матэрыялаў клінік і анкет з мэтай высветліць якасць навучальнай працы клінікі.

Узгаданая ў **Табліцы 2** дзейнасць не з'яўлялася вычарпальнай. Так, клінікі час ад часу прыцягваліся да мерапрыемстваў, запланаваных факультэтамі або ўніверсітэтамі. Напрыклад, да выязных кансультаванняў (БІП), правядзення прэзентацый лабараторыі на факультэце альбо да арганізацыі і ўдзелу ў круглых сталах па праблемных прававых пытаннях у інтэрнатах універсітэта, па падтрыманні супрацоўніцтва з домам-інтэрнатам інвалідаў і ветэранаў, да выступаў у школах у рамках прафарыентацыйнай дзейнасці (ВДУ).

Некаторыя клінікі праводзілі міжвузаўскія канферэнцыі. Акрамя гэтага, БДЭУ разам з БІП праводзілі абмены студэнтаў. Да тыдня самакіравання студэнты-клініцысты рыхтавалі астатніх студэнтаў сваёй навучальнай установы (БДЭУ). З 2008 г. удзельнічалі ў падрыхтоўцы і правядзенні турніру „Прававая віктарына" (своеасаблівае прафесійна-арыентацыйнае мерапрыемства) для школьнікаў на базе юрыдычнага факультэта (ГДУ). Арганізоўвалі секцыі па ЮК у рамках міжнароднай канферэнцыі ў кастрычніку 2015 года; навучанне куратараў і студэнтаў юрыдычных клінік у рамках праекта „Міжвузаўская юрыдычная клініка"; студэнты юрыдычных клінік удзельнічалі ў міжнароднай алімпіядзе ў Маскве (БДУ). Арганізоўвалі і праводзілі алімпіяды па прававых ведах, а таксама кансультаванне грамадзян у аддзеле для звароту грамадзян аблвыканкама (адзін раз у тыдзень, 3 гадзіны) з верасня па чэрвень кожнага навучальнага года (МДУ).

Юрыдычная клініка ПДУ рэгулярна ўдзельнічала ў мерапрыемствах па прафесійнай арыентацыі школьнікаў (праводзіла спецыяльныя трэнінгі па пытаннях працаўладкавання, інфармацыйныя мерапрыемствы аб юрыдычнай прафесіі ў школах і публічных цэнтрах прававой

інфармацыі), рыхтавала юрыдычныя матэрыялы для інфармацыйных стэндаў універсітэта. Дадзеная дзейнасць праводзілася па даручэнні кіраўніка факультэта, а таксама агульных аддзелаў Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Сярод спецыяльных мерапрыемстваў, якія праводзіліся клінікай, — цыкл заняткаў для студэнтаў-клініцыстаў пра доступ інвалідаў да прававой дапамогі (арганізаваны ў 2014 годзе сумесна з Офісам па правах людзей з інваліднасцю, г. Мінск (ПДУ).

У сувязі з тым, што асноўнай дзейнасцю, агульнай для ўсіх беларускіх клінік, з'яўлялася праца ў грамадскай прыёмнай, а асноўнай сацыяльнай дзейнасцю КПрКД з'яўлялася правядзенне прававых заняткаў для розных сацыяльных груп, у даследаванні мы сканцэнтраваліся менавіта на дадзеных відах дзейнасці — агульных для ўсіх клінік. Астатнія сферы дзейнасці мы разглядаем у гэтым даследаванні толькі як дадатковыя. З нашага пункту гледжання, клінікам не варта распыляць свае намаганні на мноства праектаў і праграм, а варта пачаць дзейнічаць на больш высокім якасным і колькасным узроўні ва ўжо абраных сферах ЮК і КПрКД. Гэта дазволіць сканцэнтравацца на перадачы падчас навучальнай часткі толькі тых кампетэнцый, якія студэнты-клініцысты будуць выкарыстоўваць альбо ў працы ў грамадскай прыёмнай, альбо ў працы па правядзенні прававых заняткаў.

*б) Навучальныя праграмы клінік*

Прапануем разгледзець навучальныя праграмы ЮК і КПрКД у асобных клініках Беларусі. З усіх існуючых на 2015 год клінік праграму ЮК далі 6 клінік. Як вынікае з анкет, навучальныя праграмы мелі БДЭУ, ВДУ і МДУ, але праграм яны не прадставілі. Акадэмія МУС у анкеце пазначыла, што не мае навучальнага курса (п. 7 і п. 14 анкеты-апытальніка для клінік), а значыць, і навучальнай праграмы не было. Як вынікае з інфармацыі, атрыманай у БарДУ ад студэнтаў-клініцыстаў, у ЮК ажыццяўляўся набор студэнтаў 3 курса. Навучання як такога не было, таксама як і спецыяльнага адбору. Замест навучання на працягу семестра нерэгулярна праводзіліся сустрэчы з юрыстамі, выкладчыкамі, цікавымі людзьмі. У сувязі з гэтым можна зрабіць выснову, што праграмы курса навучання з пастаяннымі тэмамі ў БарДУ таксама не было.

Аналіз навучальных праграм паказвае, што з ліку беларускіх клінік, якія падалі звесткі ў выглядзе праграмы ці запоўненай анкеты (БарДУ не падаў звестак), дзевяць клінік мелі распрацаваныя навучальныя праграмы. Клініка ПДУ мела дакументы і методыкі, якія дазвалялі казаць пра тое, што ў яе ёсць пералік абавязковых тэм, аднак даныя не былі зведзены ў адзін

дакумент. Аказваецца, толькі шэсць клінік мелі зацверджаныя навучальныя праграмы, і курсы праводзіліся як факультатыўныя (5 клінік) альбо абавязковыя (1 клініка). Ва ўсіх астатніх клініках навучальныя праграмы ЮК не зацверджаны на факультэце ў адпаведнасці з працэдурай, а ў некаторых клініках нават няма адзінага дакумента. У ГДУ склалася даволі дзіўная сітуацыя. Навучальная праграма па ЮК распрацавана і зацверджана як для стацыянара, так і для завочнага аддзялення, прычым дадзены курс чытаўся як абавязковы і меў лекцыйныя гадзіны і гадзіны для практычных заняткаў. Але зроблена гэта не для таго, каб рыхтаваць студэнтаў-клініцыстаў, якія пазней ідуць кансультаваць кліентаў, ці каб рыхтаваць і праводзіць прававыя заняткі, а для таго, каб замацаваць клініку права на факультэце і даць гадзіны аплаты яе куратару. Сам жа курс ЮК, у яго навучальнай частцы, праводзіўся ў трэнінгавай форме, па незацверджаных праграмах і меў мэтай сфармаваць кампетэнцыі, дзякуючы якім клініка можа выконваць сацыяльную функцыю.

Такім чынам, мы можам казаць, што толькі шэсць ЮК па стане на 2015 год мелі зацверджаныя навучальныя праграмы, якіх абавязаны былі прытрымлівацца падчас навучання. Усе астатнія ЮК праводзілі заняткі, як правіла, па традыцыйнай тэматыцы і на падставе методык, якія паступова сфармаваліся на працягу некалькіх гадоў. Самі ўдзельнікі такіх ЮК бачылі ў гэтым перавагу, паколькі былі „не прывязаныя" да вызначанай тэматыкі і маглі планаваць больш ці менш часу на тыя тэмы, у якіх студэнты маюць большую патрэбу.

Значна горш выглядае сітуацыя з праграмамі падрыхтоўкі студэнтаў КПрКД. Толькі чатыры клінікі пазначылі ў адказах, што мелі распрацаваную навучальную праграму КПрКД, што надзвычай мала ў параўнанні з колькасцю клінік, якія маюць КПрКД як асобны накірунак дзейнасці (глядзі **Табліцу 2**). Толькі адна клініка (Акадэмія МУС) не мела клінікі КПрКД. Адна з клінік пазначыла, што асобнай навучальнай праграмы КПрКД не мела, але мела адну тэму, на якую было вылучана 4 гадзіны ў зацверджанай навучальнай праграме факультатыўнага курса ЮК. Астатнія клінікі не мелі ніякага навучальнага плана падрыхтоўкі студэнтаў-клініцыстаў, але дэкларавалі (усе, акрамя клінікі Акадэміі МУС), што маюць КПрКД як накірунак дзейнасці. Гэта азначае, што толькі чатыры клінікі займаліся арганізаванай навучальнай падрыхтоўкай студэнтаў перад тым, як яны рыхтавалі ці праводзілі прававыя заняткі (4 гадзіны надзвычай мала для таго, каб засвоіць спосабы дзейнасці ў КПрКД, яны дазваляюць толькі павярхоўна даведацца пра КПрКД).

З гэтых чатырох навучальных праграм КПрКД толькі дзве былі зацверджаны як факультатыўны курс (БрДУ і ГрДУ), а значыць, толькі дзве клінікі праводзілі абавязковыя заняткі ў вызначанай паслядоўнасці і з адвядзеннем на кожную тэму вызначанага праграмай часу перад тым, як студэнты самастойна пачыналі рыхтаваць і праводзіць прававыя заняткі для насельніцтва.

Далёка не ўсе клінікі практыкавалі кантроль ведаў і навыкаў, атрыманых па выніках навучальнага курса. Толькі чатыры ЮК правяралі ступень засваення студэнтамі-клініцыстамі курса (ГДУ увёў залік толькі для абавязковага курса, і ён не адносіцца да ЮК, ГрДУ здзяйсняў набор для кансультавання па выніках навучання па фармальнай прыкмеце наведвання студэнтамі заняткаў). Прычым, калі ЮК БДУ, БІП, ПГУ правяралі студэнтаў-клініцыстаў для таго, каб дазволіць ім працаваць у грамадскай прыёмнай, ЮК БрДУ прымала залік па выніках навучання і працы ў грамадскай прыёмнай, якая залічвалася як праходжанне практыкі. Больш за тое, ЮК, дзе навучальная праграма была зацверджана як факультатыўная, не абавязкова мелі сістэму ацэньвання ступені падрыхтаванасці студэнтаў-клініцыстаў. Так, Акадэмія кіравання і БДЭУ, якія мелі зацверджаныя праграмы, не мелі сістэмы ацэнкі студэнтаў-клініцыстаў, а БДУ і ПДУ, якія такіх праграм не мелі, разам з тым ацэньвалі студэнтаў. А адзнака выстаўлялася ў ведамасць толькі ў БрДУ. Усе астатнія ацэнкі мелі нефармальны характар і выкарыстоўваліся выключна ў межах дзейнасці клінік. Толькі клінікі БрДУ і ГрДУ практыкавалі выдачу нефармальнага сертыфіката ў якасці дадатку да дыплома, які сведчыў пра ўдзел студэнта ў працы клінікі.

Калі казаць пра змест навучальных праграм ЮК, то асаблівасці тэматыкі і зместу можна ўбачыць у **Табліцы 3**.

**Табліца 3. Змест навучальных праграм ЮК па стане на 2015 г. (падаецца са скарачэннямі)**

| № | Акадэмія кіравання | БДУ | БрДУ | БІП | ГДУ | ГрДУ (да 2013 г.) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Асновы аказання прававой дапамогі. Паняцце прававой дапамогі. Мэты, задачы аказання прававой дапамогі. Заканадаўчыя і арганізацыйныя асновы аказання прававой дапамогі. Катэгорыі спраў, па якіх прававая дапамога аказваецца бясплатна. Суб'екты, якія аказваюць прававую дапамогу. Паняцце, мэты і задачы адвакатуры. Патрабаванні да адваката. Парадак атрымання ліцэнзіі на аказанне юрыдычных паслуг. | Што такое юрыдычная клініка. Правілы працы ў ЮК. Справаводства. | Вучэбная лабараторыя ЮК. 1. Парадак працы са зваротамі грамадзян у ЮК. 2. Справаводства ў ЮК. | Уводзіны ў клінічнае навучанне. Гісторыя клінічнай адукацыі. Узнікненне першых клінік. Віды клінік. Мэты, задачы, метады працы ЮК БІП. Віды юрыдычных паслуг, якія аказвае клініка. Праграма курса. Супрацоўніцтва ЮК БІП з дзяржструктурамі і іншымі клінікамі. | Уводзіны ў клінічную адукацыю. Мэты і метады клінічнай юрыдычнай адукацыі. Гісторыя ўзнікнення і развіцця юрыдычных клінік у сусветнай практыцы. Арганізацыя і дзейнасць ЮК у Беларусі. Віды ЮК. Структура ЮК, мэты і задачы яе дзейнасці, прававыя асновы. | Уводзіны ў клінічную адукацыю. |
| 2. | Арганізацыйна-прававыя асновы дзейнасці Грамадскай юрыдычнай прыёмнай Акадэміі кіравання. Гісторыя стварэння ЮК Акадэміі кіравання. Структура ЮК. Нарматыўныя прававыя акты, што рэгламентуюць дзейнасць ЮК. Прыём і кансультаванне грамадзян у ЮК. Праекты ЮК. Кансультаванне грамадзян, „StreetLaw”. Дасягненні ЮК. Традыцыі ЮК. | Прафесійная этыка юрыста (адваката) і роля юрыста ў грамадстве. | Прафесійная этыка і роля юрыста ў грамадстве. 1. Роля юрыста ў грамадстве. 2. Этычныя прынцыпы юрыдычнай дзейнасці. 3. Прафесіяграма юрыста. | Навыкі камунікацыі, канфліктталогія, навыкі выступу. Паняцце, віды, формы камунікацыі. Цяжкасці ў камунікацыі і шляхі іх вырашэння. Актыўнае слуханне. Перамовы. Вербальная і невербальная камунікацыя. Пераадоленне стэрэатыпаў. Правілы падрыхтоўкі паспяховага выступу. Навыкі прэзентацыі візуальных матэрыялаў. Прадстаўленне доказаў. | Механізмы абароны правоў чалавека. Уводзіны ў абарону правоў чалавека. Асноўныя паняцці і нарматыўна-прававая база ў галіне ПЧ. Міжнародная абарона. Няўрадавыя арганізацыі і іх роля ў абароне правоў чалавека. Гендэрныя праблемы. Юрыдычная практыка па справах, звязаных з гандлем людзьмі. Практычныя навыкі і тэарэтычныя асновы работы з уцекачамі. Юрыдычная дапамога асобам без грамадзянства і іншаземцам. Прававая дапамога асуджаным. | Навыкі камунікацыі, канфліктталогія, навыкі выступу. |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 3. | Прафесійная этыка юрыста. Месца і роля юрыста ў сучасным грамадстве. Прафесія юрыста. „Прафесійная адказнасць". Этычныя нормы для юрыста. Сферы прафесійнай дзейнасці студэнта-кансультанта. Асаблівасці ўзаемадзеяння па схемах: студэнт-студэнт, студэнт-наведвальнік, студэнт-выкладчык-куратар, студэнт-загадчык. Адказнасць юрыста. Адказнасць юрыста ў судзе. | Інтэрвьюіраванне. | Інтэрв'юіраванне кліента. 1. Паняцце інтэрв'юіравання. 2. Мэты і задачы інтэрв'юіравання. 3. Этапы інтэрв'юіравання. | Прафесійная этыка і роля юрыста ў грамадстве. Месца і роля юрыста ў грамадстве. Паняцце і сутнасць прафесійнай этыкі. Этычны кодэкс юрыста. Адказнасць юрыста. Выпрацоўка правіл функцыянавання клінікі. Адносіны: студэнт-кліент, студэнт-эксперт, студэнт-выкладчык. Адказнасць студэнта клінікі. | Юрыдычная этыка. Этыкет. Роля юрыста ў грамадстве, яго асноўныя рысы і якасці. Прафесійная этыка судовых супрацоўнікаў, адвакатаў, натарыусаў. Агульны кодэкс правіл адвакатаў Еўрапейскай супольнасці. Правілы адвакацкай этыкі міжнароднага саюза (садружнасці) адвакатаў. Адвакацкая таямніца. Паняцце прафесійнай адказнасці. Этычныя кодэксы. Этычныя прынцыпы, якія складаюць аснову дзейнасці ЮК. Паняцце этыкету. | Юрыдычная этыка ў грамадскай прыёмнай |
| 4. | Аратарскае майстэрства юрыста. Прыёмы аратарскага майстэрства. Уздзеянне на мэтавую аўдыторыю. Культура мовы юрыста. Культура мовы судовага прамоўцы. Стылістыка дзелавой мовы юрыста. Логіка і структура судовай прамовы. Юрыдычная аргументацыя. Выступы ў судзе. Паняцце дыскусіі. Правілы вядзення дыскусіі. | Аналіз справы. Выпрацоўка пазіцыі па справе. | Кансультаванне кліентаў. 1. Паняцце кансультавання. 2. Мэты і задачы кансультавання. 3. Этапы вуснага кансультавання. 4. Этапы пісьмовага кансультавання. | Інтэрв'юіраванне кліента. Паняцце інтэрв'юіравання (апытання). Навыкі задавання пытанняў, віды пытанняў. Адкрытыя і закрытыя пытанні. Мэта і прызначэнне сустрэчы. Падрыхтоўка да сустрэчы з кліентам. Правядзенне апытання па этапах. Структура, метады інтэрв'юіравання. Правілы першаснага прыёму кліента. Вынікі інтэрв'юіравання. | Справаводства. Юрыдычная тэхніка. Паняцце і элементы юрыдычнай тэхнікі. Правілы юрыдычнай тэхнікі. Сродкі і прыёмы юрыдычнай тэхнікі. Прававое рэгуляванне вядзення справаводства. Наменклатура спраў, парадак вядзення неабходных дакументаў, спраў, рэгістрацыйных кніг. Перапіска. Афармленне тэкстаў лістоў, хадайніцтваў, заяў. Правілы складання юрыдычных дакументаў. Структура юрыдычнага дакумента. Змест іскавай заявы, касацыйных, наглядных (надзорных) скаргаў. Арганізацыя прыёму кліентаў ЮК. | Справаводства. Юрыдычная тэхніка. Якія дакументы ёсць і выпадкі (2). Напісанне асобных дакументаў (2). Справаводства ў клініцы(2). |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 5. | Інтэрв'юіраванне.<br>Паняцце інтэрв'юіравання.<br>Падрыхтоўка да прыёму наведвальнікаў. Стадыі інтэрв'юіравання. Метады інтэрв'юіравання. Спосабы ўстанаўлення псіхалагічнага кантакту з наведвальнікам. Навыкі задавання пытанняў. Віды пытанняў: адкрытыя і закрытыя пытанні. Асаблівасці інтэрв'юіравання грамадзян з асаблівасцямі фізічнага і псіхалагічнага развіцця. Правілы інтэрв'юіравання кліента. | Юрыдычная тэхніка. Асаблівасці складання асобных дакументаў. | Тэхніка юрыдычнага пісьма.<br>1. Агульнае паняцце і значэнне тэхнікі юрыдычнага пісьма.<br>2. Правілы юрыдычнай тэхнікі пісьма.<br>3. Сродкі і прыёмы юрыдычнай тэхнікі пісьма. | Кансультаванне кліента.<br>Паняцце, мэты, віды і стадыі кансультавання. Падрыхтоўка студэнта-клініцыста да кансультавання. Сустрэча студэнта-клініцыста з кліентам. Варыянты рашэння праблем кліента. Выбар аптымальнага рашэння. Вызначэнне стратэгіі і тактыкі рэалізацыі прынятага рашэння. Адбор для далейшай працы. | Інтэрв'юіраванне.<br>Паняцце і тэхніка інтэрв'юіравання.<br>Этапы. Падрыхтоўка, сустрэча, апытанне, падвядзенне вынікаў. Стадыі інтэрв'юіравання. Пастаноўка пытанняў падчас інтэрв'ю. Псіхалагічныя аспекты інтэрв'ю. Парадак правядзення ацэнкі суразмовы. Выпрацоўка практычных навыкаў падчас правядзення інтэрв'ю. Пазітыўныя крытычныя заўвагі. | Інтэрв'юіраванне. |
| 6. | Работа па справе. Выпрацоўка пазіцыі па справе.<br>Этапы атрымання інфармацыі ад наведвальнікаў. Апрацоўка фактычнага матэрыялу. Недахопы інфармацыі па справе. Запаўненне прабелаў інфармацыі па справе. Выпадак, казус, сітуацыя, справа. Шляхі ўспрыняцця інфармацыі. Аналіз справы. Складанне плана далейшых дзеянняў па рашэнні юрыдычнай праблемы. Аналіз доказаў па справе, ацэнка доказаў. Пазіцыі па справе. | Кансультаванне. | Падрыхтоўка юрыдычнага дакумента.<br>1. Віды, змест, форма, структура юрыдычнага дакумента.<br>2. Этычнасць выкладання матэрыялу.<br>3. Лагічнасць і паслядоўнасць выкладання.<br>4. Тыповыя памылкі падчас складання юрыдычнага дакумента. | Тэхніка юрыдычнага пісьма.<br>Агульнае паняцце і значэнне юрыдычнай тэхнікі пісьма.<br>Прыкметы і віды юрыдычнай тэхнікі. Юрыдычны інструментарый: сродкі, прыёмы, спосабы, метады. Правілы юрыдычнай тэхнікі пісьма. | Аналіз справы. Выпрацоўка пазіцыі па справе.<br>Паняцце пазіцыі і яе асноўныя характарыстыкі. Аналіз справы як прафесійны навык юрыста, яго стадыі. Аналіз фактаў, прававой кваліфікацыі, доказаў. Характар фактаў. Правіла пяці пытанняў. Пазіцыя па крымінальнай справе. Пазіцыя па грамадзянскай справе. Этапы выпрацоўкі пазіцыі. Стратэгія і планаванне па справе. Самастойная выпрацоўка пазіцыі па зададзеных фабулах справы. | Аналіз выпадку. |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 7. | Работа з нарматыўна-прававой базай.<br>Крыніцы права. Аналіз прававых норм. Крыніцы заканадаўства, паняцце, віды. Знаёмства з нарматыўна-прававымі актамі, якія тычацца спецыялізацыі юрыдычнай клінікі (грамадзянскае, грамадзянска-працэсуальнае, жыллёвае, сямейнае, зямельнае, працоўнае права і г.д.). Юрыдычная сіла нарматыўных прававых актаў. Навыкі аналізу фактычнай інфармацыі з пункту гледжання заканадаўства і адбору адпаведных прававых норм для спасылак. Спасылкі на заканадаўства. | Наведванне судовага пасяджэння па грамадзянскай справе. | Афармленне прававых дакументаў у загаднай вытворчасці (приказном производстве).<br>1. Падача і змест заявы аб узбуджэнні загаднай вытворчасці.<br>2. Афармленне заявы аб узбуджэнні загаднай вытворчасці. | Падрыхтоўка юрыдычнага дакумента.<br>Паняцце прававых дакументаў. Прыкметы юрыдычных дакументаў. Віды, змест, форма і структура юрыдычнага дакумента. Этычнасць выкладзенага матэрыялу. Лагічнасць і паслядоўнасць выкладання. Юрыдычная адказнасць за парушэнне правіл дакументазвароту. | Тэхніка кансультавання.<br>Паняцце і мэты кансультавання. Размежаванне паняццяў „кансультацыя" і „прававая ацэнка сітуацыі". Падрыхтоўка да прававой ацэнкі сітуацыі. Азнаямленне кліента з прававой ацэнкай сітуацыі. Працэдура кансультавання, структура кансультацыі. Супрацоўніцтва пры кансультаванні. Этапы кансультавання. Дапамога кліенту ў выбары аптымальнага рашэння. Вызначэнне стратэгіі і тактыкі рэалізацыі прынятага рашэння. Адпрацоўка навыкаў па працы са зваротамі кліентаў. | Праца з заканадаўствам. |
| 8. | Тэхніка юрыдычнага пісьма.<br>Прыёмы тэхнікі юрыдычнага пісьма. Юрыдычныя дакументы. Абавязковыя і факультатыўныя ўмовы юрыдычных дакументаў. Правілы складання і афармлення юрыдычных дакументаў. Логіка і стылістыка. Дакументазварот. Правілы вядзення справаводства ЮК. Адказнасць за няправільнае вядзенне справаводства. | Вучэбна-гульнёвы судовы працэс па грамадзянскай справе. | Афармленне прававых дакументаў у іскавай вытворчасці.<br>1. Падача і змест іскавай заявы.<br>2. Пярэчанні супраць іску. | Аналіз справы.<br>Выпрацоўка пазіцыі па справе. Стратэгія, планаванне. Правядзенне ўсебаковага аналізу фактычных абставін справы. Прававая кваліфікацыя сітуацыі. Аналіз правамерных магчымасцей дасягнення правамерных патрабаванняў кліента. Вызначэнне механізма абароны правоў асобы, якая звярнулася па дапамогу. | Асновы канфлікталогіі.<br>Паняцце, віды і формы камунікацыі. Элементы міжасабовай камунікацыі і эфектыўнага кантакту з кліентам. Перашкоды ў камунікацыі і шляхі выхаду з іх. Актыўнае слуханне. Крытыка. Рэагаванне на крытыку. Неабходнасць адмовы ў асобных выпадках. Паняцце канфліктаў. Віды канфліктаў і спосабы выхаду з іх. Вербальная і невербальная камунікацыя. Звароты. Жэстыкуляцыя. Стылістыка. | Прававая ацэнка сітуацыі. |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 9. | Кансультаванне.<br>Кансультаванне, яго адрозненне ад інтэрв'юіравання. Роля юрыста пры аказанні дапамогі кліенту ў прыняцці рашэнняў. Навыкі, якія павышаюць эфектыўнасць кансультавання. Цяжкасці працы па кансультаванні. Мова юрыста на кансультацыі. Асаблівасці кансультавання асобных катэгорый грамадзян. Вынікі кансультацыі і планаванне далейшай працы з кліентам. | Альтэрнатыўныя спосабы рашэння спрэчак. Навыкі вядзення перамоў. | Афармленне прававых дакументаў у асаблівай вытворчасці (особом производстве).<br>1. Афармленне прававых дакументаў у асаблівай вытворчасці.<br>2. Змест прававых дакументаў у асаблівай вытворчасці.<br>3. Асаблівасці прававых дакументаў у асаблівай вытворчасці. | Афармленне прававых дакументаў у загаднай вытворчасці (приказном производстве).<br>Афармленне заявы аб завядзенні (возбуждении) загаднай вытворчасці. | Юрыдычная рыторыка. Выступ у судзе.<br>Паняцце рыторыкі. Юрыдычная рыторыка і яе асаблівасці. Выступ адваката ў судовым пасяджэнні. Змест і структура выступу адваката ў судзе. Форма выступу адваката ў судзе. Пазіцыя пракурора ў судзе. Структура і змест выступу пракурора ў судзе. Падрыхтоўка тэкстаў выступаў адваката і пракурора па фабулах справы. | Прадстаўніцтва інтарэсаў асобных катэгорый грамадзян. |
| 10. | Альтэрнатыўныя спосабы вырашэння спрэчак.<br>Формы альтэрнатыўнага вырашэння спрэчак, іх асаблівасці падчас вырашэння прававых спрэчак. Выбар спосабу вырашэння канфлікта. Медыяцыя, яе асаблівасці і магчымыя наступствы. Перамовы, іх асаблівасці, віды і магчымыя наступствы. Неафіцыйная сустрэча, яе асаблівасці і магчымыя наступствы. | Медыяцыя | Афармленне скаргаў, што выцякаюць з адміністрацыйна- прававых адносін.<br>1. Афармленне скаргі.<br>2. Змест скаргі.<br>3. Асаблівасці разгляду скаргаў, якія выцякаюць з адміністрацыйна- прававых адносін. | Афармленне прававых дакументаў у асаблівай вытворчасці.<br>Змест прававых дакументаў у асаблівай вытворчасці. Асаблівасці прававых дакументаў у асаблівай вытворчасці. | Праца з заканадаўствам.<br>Крыніцы права. Аналіз нарматыўна-прававога акта. Юрыдычная сіла прававых актаў. Інфармацыйна-прававыя праграмы як крыніцы заканадаўства і развіццё навыкаў працы з імі. Парадак адбору неабходных нарматыўна-прававых актаў для рашэння зададзеных сітуацый. Тлумачэнне нарматыўна-прававых актаў. Выпрацоўка падыходаў пры неабходнасці афіцыйнага тлумачэння нарматыўна-прававых актаў. | Абскарджанне рашэнняў. |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 11. | | Асновы псіхалогіі ў працы з кліентамі. | Афармленне касацыйнай і наглядпай (надзорной) скаргаў.<br>1. Працэсуальныя асаблівасці падачы касацыйнай скаргі.<br>2. Працэсуальныя асаблівасці падачы наглядпай скагі.<br>3. Змест касацыйнай і наглядпай скаргаў.<br>4. Працэсуальныя асаблівасці разгляду касацыйнай і наглядпай скаргаў. | Афармленне скаргаў, што выцякаюць з адміністрацыйна-прававых адносін.<br>Афармленне скаргі. Змест скаргі. Асаблівасці разгляду скаргаў, што выцякаюць з адміністрацыйна-прававых адносін. | Прадстаўніцтва інтарэсаў асобных катэгорый грамадзян.<br>Паняцце, сутнасць і віды прадстаўніцтва грамадзян. Прадстаўніцтва ў грамадзянскім і гаспадарчым працэсах. Падставы прадстаўніцтва. Магчымыя межы прадстаўніцтва інтарэсаў грамадзян студэнтамі-удзельнікамі ЮК. Абарона ў крымінальным працэсе. | Альтэрнатыўныя спосабы вырашэння канфліктаў. |
| 12. | | | | Альтэрнатыўныя спосабы вырашэння канфліктаў.<br>Паняцце альтэрнатыўных спосабаў разрашэння канфліктаў.<br>Віды альтэрнатыўных спосабаў разрашэння канфліктаў.<br>Асаблівасці альтэрнатыўных спосабаў падчас вырашэння прававых канфліктаў.<br>Медыяцыя, яе асаблівасці і магчымыя наступствы.<br>Перамовы, іх асаблівасці, віды і магчымыя наступствы.<br>Неафіцыйная сустрэча, яе асаблівасці і магчымыя наступствы. | Абскарджанне судовых пастаноў.<br>Паняцце, віды і сутнасць судовых пастаноў.<br>Асаблівасці абскарджання судовых пастаноў у грамадзянскім працэсе. Парадак падачы касацыйнай і наглядпай (надзорнай) скаргаў. Тэрміны для абскарджання, прававыя наступствы пропуску тэрмінаў.<br>Абскарджанне прысуду. Парадак абскарджання судовых пастаноў у гаспадарчым працэсе. Апеляцыйная вытворчасць.<br>Складанне тэкстаў касацыйных і наглядных (надзорных) скаргаў. | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 13. | | | | | Паняцце і значэнне выканаўчай вытворчасці (исполнительного производства). Парадак узбуджэння выканаўчай вытворчасці ў грамадзянскім і гаспадарчым працэсах. Устанаўленне перспектыў атрымання пажаданага выніку зацікаўленай асобай. Афармленне неабходных дакументаў у выканаўчай вытворчасці. Асаблівасці выканання судовых пастаноў аб спагнанні аліментаў. | |
| 14. | | | | | Альтэрнатыўныя спосабы рашэння канфліктаў.<br>Віды альтэрнатыўных спосабаў рашэння канфліктаў. Перамовы і медыяцыя.<br>Ацэнка ўступнага слова бакамі. Ацэнка ўзаемадзеяння медыятараў. Ацэнка медыяцыйнай сесіі бакамі. Самаацэнка працы медыятара. | |

Колькасць тэм навучальных праграм ЮК вагалася ад 11 да 14. Практычна ўсе навучальныя праграмы накіраваны на перадачу такіх ведаў і фармаванне такіх практычных навыкаў, якія будуць патрэбныя студэнтам-клініцыстам падчас працы з кліентамі. Выключэнне складае навучальная праграма ГДУ, якая, акрамя гэтых практычных, давала дадатковыя тэмы на агульнае развіццё, а клініка БрДУ канцэнтравалася на розных відах юрыдычных дакументаў, якія, як паказвае практыка, хутчэй у якасці выключэння могуць быць выкарыстаны студэнтамі падчас іх працы ў грамадскай прыёмнай. Адрозненне двух адзначаных вышэй навучальных праграм заключаецца толькі ў падыходзе клінікі. Большасць клінік канцэнтравалася на далейшай працы студэнта-клініцыста над рэальнымі справамі ў межах клінікі і грамадскай прыёмнай, а азначаныя дзве перадавалі студэнтам дадатковыя кампетэнцыі, якія ім не спатрэбяцца ў клініцы, але могуць быць запатрабаванымі пазней у іх прафесійнай дзейнасці.

Калі параўнаць тэматыкі прадстаўленых праграм, то можна заўважыць, што яны блізкія. Больш за тое, можна вылучыць шэраг тэм, якія былі ва ўсіх праграмах абавязковымі. Гэта: 1) Прафесійная/юрыдычная этыка. 2) Інтэрв’юіраванне (як першасны збор інфармацыі ў кліента аб праблеме). 3) Праца над справай (тут найбольшая разнастайнасць тэм у залежнасці ад клінікі: пачынаючы ад аналізу сітуацыі і навыкаў працы з нарматыўнымі прававымі актамі і сканчаючы выпрацоўкай пазіцыі па справе, тлумачэннем норм, афармленнем асобных юрыдычных дакументаў). Прычым кожная клініка сама для сябе вызначала дадзеную тэматыку і колькасць тэм у межах блока. Але нязменна кожная з клінік абавязкова была скіравана на перадачу практычных ведаў і навыкаў для самастойнай працы студэнта-клініцыста над справай. Асаблівая ўвага ўсімі клінікамі надавалася фармаванню кампетэнцый у клініцыстаў па падрыхтоўцы разнастайных юрыдычных дакументаў. 4) Кансультаванне (сустрэча студэнта-клініцыста з кліентам і тлумачэнне падрыхтаванага матэрыялу). Дадзеная тэма адсутнічала толькі ў праграме ГрДУ, а варта было б яе ўвесці. 5) Альтэрнатыўныя спосабы рашэння канфліктаў (як правіла, меліся на ўвазе перамовы і медыяцыя). Тэма альтэрнатыўных спосабаў вырашэння канфліктаў адсутнічала толькі ў БрДУ. Зыходзячы са свайго ўласнага досведу працы ў юрыдычных клініках з 1999 па 2013 год, мяркуем, што можна было б прапанаваць клінікам замест гэтай апошняй тэмы ў якасці абавязковай абраць тэму абскарджання рашэнняў: яна прысутнічае зараз толькі ў навучальных праграмах БрДУ, БІП, ГДУ (праз навучанне

складанню асобных скаргаў) і ГрДУ. Тады логіка падрыхтоўкі студэнтаў-клініцыстаў мела б завершаны выгляд. Вучым: 1) на падставе якіх прынцыпаў працуе студэнт у клініцы (этыка); 2) як сабраць першасную інфармацыю падчас інтэрв'ю; 3) як працаваць над справай, рыхтуючы адказ кліенту; 4) як пракансультаваць кліента і 5) як абскардзіць рашэнне, якое было прынята не на карысць кліента пасля нашай кансультацыі. Варта канцэнтравацца на тых рэчах, з якімі сутыкаецца студэнт у клініцы.

Усе клінікі мелі падобнае, блізкае разуменне таго, пра што выкладаць студэту-клініцысту, але мелі і сваё ўласнае бачанне, якім зместам напоўніць абавязковыя тэматычныя блокі. Змест, хоць і падобны, але адрозніваўся ў розных клініках, як гэта бачна нават у абавязковых пяці тэмах, якія прысутнічалі ў праграмах клінік. Яшчэ больш адрозненняў назіралася пры параўнанні колькасці часу, які адводзіла кожная з клінік для асвятлення гэтых абавязковых тэм.

Асаблівую ўвагу ЮК надавалі навучанню студэнта-клініцыста самастойнай працы над справай. З нашага пункту гледжання, гэта найбольш істотная частка навучання студэнта. Як мы бачым практычна ва ўсіх клініках, менавіта на гэтыя тэмы вылучаецца большасць гадзін. Аднак цяжка параўнаць аб'ёмы інфармацыі, з якім працавалі студэнты БДУ (на працягу толькі чатырох гадзін) і студэнты БрДУ (сорак восем гадзін).

Нягледзячы на тое, што іншыя клінікі не прадставілі навучальныя праграмы ЮК, у анкеце ПДУ апісаў структуру навучальнага курса ЮК. Падчас падрыхтоўкі студэнтаў у ЮК ПДУ арыентаваўся на наступныя змястоўныя блокі: 1. Бясплатная юрыдычная дапамога і агульныя прынцыпы дзейнасці юрыдычных клінік Беларусі. 2. Справаводства ў юрыдычнай клініцы. 3. Юрыдычная этыка. 4. Асноўныя этапы працы з кліентам. 5. Інтэрв'юіраванне. 6. Прафесійны пошук юрыдычнай інфармацыі. 7. Аналіз справы і выпрацоўка пазіцыі. 8. Тэхніка юрыдычнага пісьма і падрыхтоўка заключэння па справе. 9. Кансультаванне. Як бачым, структура і асноўныя тэматычныя блокі ў цэлым адпавядалі тым шасці праграмам, якія мы разгледзелі вышэй. Пачынаючы з другой тэмы, студэнты пры ўжыванні інтэрактыўных методык навучання паслядоўна прапрацоўвалі адну навучальную справу, што з'яўляецца найбольш складаным, зыходзячы з вопыту клінікі папярэдніх гадоў (п. 17 анкеты для клінік).

Рэальная клініка ГДУ не мела зацверджанай навучальнай праграмы. Праграма, якую мы разглядалі ў табліцы,— гэта абавязковы курс, што чытаўся ўсім студэнтам. Праграмы ж падрыхтоўкі студэнтаў для рэальнай працы ў ЮК і грамадскай прыёмнай як такой не было,

але, грунтуючыся на ўласным досведзе, у ГДУ праводзіліся заняткі па наступных тэмах: 1) Знаёмства са студэнтамі; 2) Этыка (2 заняткі); 3) Псіхалогія (як размаўляць, як працаваць з кліентам па тэлефоне і г.д.); 4) Тэхніка юрыдычнага пісьма (3 заняткі); 5) Дакументацыя ЮК (як запаўняць бланкі і неабходныя дакументы); 6) Інтэрв'юіраванне, прыём кліента; 7) Аналіз справы; 8) Выпрацоўка пазіцыі па справе; 9) Кансультаванне; 10) Навучанне працы з адказамі на лісты (старыя лісты раздаюць і пазней правяраюць адказы).

Такім чынам, мы бачым, што клінікі даволі адвольна падыходзілі да пытання выкарыстання навучальнай праграмы, што не можа не адбівацца на якасці працэсу навучання студэнтаў-клініцыстаў. Добрым знакам з'яўляецца тое, што дзесяць клінік мелі навучальны план як пералік тэм і заняткаў, якія павінны быць праведзены са студэнтамі ЮК. Яшчэ пяць клінік з дванаццаці мелі пералік тэм заняткаў у КПрКД. Але для таго, каб можна было казаць пра якаснае і вымяральнае навучанне як у ЮК, так і ў КПрКД, гэтага недастаткова. Адсутнасць праграмы навучання, з нашага пункту гледжання, з'яўляецца праблемай, якую клінікі здольны вырашыць самастойна, але па нейкай прычыне ім „зручна" працаваць без навучальных праграм. У тых беларускіх клінік, якія мелі навучальныя праграмы, відавочны блізкі падыход да працы са студэнтамі-клініцыстамі, хоць тэматыка навучальных клінік адрозніваецца як па змесце, так і па аб'ёме. Большасць тэм можна згрупаваць у пяць асноўных тэматычных блокаў. Аднак аб'ём зместу найбольш важнага, з нашага пункту гледжання, тэматычнага блока (колькасць гадзін, якія адводзяцца на падрыхтоўку студэнта да самастойнай працы з матэрыяламі кліента) адрозніваўся істотна, што павінна выклікаць занепакоенасць у адміністрацыі і куратараў клінік. Акрамя гэтага, клінікам варта звяртаць большую ўвагу не толькі на змест і аб'ём, але на саму наяўнасць навучальных праграм КПрКД і іх афіцыйнае зацвярджэнне ў навучальных установах.

*в) Працэс навучання ў ЮК па стане на 2015 г.*

Як вынікае са звестак, прадстаўленых самімі клінікамі, агульная колькасць студэнтаў, што прайшлі навучанне ў юрыдычных клініках за 16 гадоў, склала каля 1239 студэнтаў. Мінімальная колькасць студэнтаў у асобных беларускіх клініках КПрКД у 2015 годзе — 6 студэнтаў, максімальная колькасць — 54 студэнты. Колькасць студэнтаў, якія прайшлі навучанне ў клініцы права на кожны дзень да 2015 года, высветліць праблематычна, бо спецыяльная статыстыка клінікамі не вялася. Адны клінікі навучаюць студэнтаў у клініцы права на кожны дзень, а пазней яны

пераходзяць на наступны год у юрыдычную клініку, у іншых студэнты юрыдычнай клінікі могуць праводзіць заняткі для розных сацыяльных груп. Дакладна можна сказаць, што колькасць студэнтаў, якія прайшлі навучанне ў клініках права на кожны дзень, менш за 1239 чалавек, бо не кожны студэнт юрыдычнай клінікі займаўся клінікай права на кожны дзень, але пераважная большасць студэнтаў клінікі права на кожны дзень навучалася пазней у юрыдычнай клініцы права.

Згодна анкеце для клінік (п. 7), запоўненай ПДУ, *„Навучальны курс па абодвух напрамках нефармалізаваны: фактычна праводзіцца, аднак не ўключаны ў навучальны план факультэта, не мае пастаяннага раскладу”*. Хоць навучальных праграм як дакументаў не было, але быў пералік тэм, якія студэнты-клініцысты праходзяць з году ў год, да таго як пачынаюць працаваць у грамадскай прыёмнай. Працэс навучання быў арганізаваны наступным чынам: 1) Давалася аб’ява на сайце ўніверсітэта, студэнты інфармаваліся на занятках аб магчымасці залічэння ў клініку. 2) Студэнты падавалі заявы на імя дэкана з матывацыйнымі лістамі. 3) Праводзілася ўступнае тэсціраванне або вуснае сумоўе (камісіяй у складзе намесніка дэкана, адміністратара, куратара) на прадмет ведання Палажэння аб клініцы. 4) З верасня па снежань праводзіўся курс тэарэтычнага навучання для памочнікаў кансультантаў (на гэтым этапе да прыёму грамадзян студэнты не дапускаліся). 5) У лютым — траўні курс тэарэтычнага навучання дапаўняўся прысутнасцю памочнікаў на кансультатыўных дзяжурствах (з магчымасцю дапамагаць у парадкаванні справаводства і пошуку прававой інфармацыі). 6) У красавіку — маі праводзілася тэставанне па заканчэнні тэарэтычнага навучання з выніковым заключэннем аб магчымасці атрымаць статус кансультанта і прыступіць да прыёму грамадзян у наступным навучальным годзе.

У ГДУ навучанне арганізоўвалася наступным чынам. Для студэнтаў 3 курса спецыяльнасці правазнаўства праводзіўся абавязковы курс „Практыкум па юрыдычнай клініцы”. На стацыянары і для завочнага аддзялення — 8 гадзін лекцый і 54 гадзіны практычных заняткаў для кожнай групы. Але дадзены курс праводзіўся ў час вясенняга семестра і ніяк не быў звязаны з навучаннем студэнтаў-клініцыстаў і з іх працай, бо працаваць грамадская прыёмная пачынала з восені. Курс падрыхтоўкі студэнтаў-клініцыстаў пачынаўся з восеньскага семестра, і ўвосень яны пачыналі працу ў грамадскай прыёмнай. Для таго каб падрыхтаваць студэнтаў-клініцыстаў, праводзіліся спецыяльныя заняткі, якія, аднак, ніяк не ўлічваліся. Па ўзгадненні са студэнтамі, у зручны для іх і куратара час, праводзіліся

заняткі. Агульная іх колькасць дакладна невядома, але гэта прыблізна 1 занятак у тыдзень з кастрычніка па снежань (прыблізна 16 заняткаў).

МДУ прадставіў праграму, але паказаў, што гэта абавязковая праграма ўведзена з мэтай стварэння ўмоў для аплаты працы куратара ў клініцы. Слабым бокам дадзенай праграмы, як і ў ГДУ, з'яўляецца як мінімум тое, што яна рэалізоўвалася падчас вясновага семестра, а новыя студэнты ў клініку прыходзяць і пачынаюць удзельнічаць у прыёмах, пачынаючы з восеньскага семестра. Па заявах студэнтаў МДУ падчас інтэрв'ю (п. 5 анкеты для студэнтаў, вусныя адказы), студэнты 4 курса праводзілі восенню дадатковыя заняткі, і толькі ў наступным семестры тыя, хто застаўся ў клініцы, і ўсе астатнія студэнты праходзілі абавязковы курс ЮК.

Такім чынам, з 12 клінік толькі ЮК МУС не мела спецыяльнай папярэдняй навучальнай часткі як абавязковай працы са студэнтамі-клініцыстамі. БарДУ праводзіў прававое інфармаванне студэнтаў. На падставе вусных адказаў студэнтаў-клініцыстаў БарДУ, на просьбу апісаць працэс набору ў клініку і пачатку працы ў грамадскай прыёмнай, студэнты растлумачылі наступнае: адбору ў клініку як такога не было. Яны шырока апавяшчаліся пра магчымасць удзельнічаць у дзейнасці грамадскай прыёмнай. У выніку прыходзілі тыя студэнты, якія былі найбольш зацікаўленыя ў такой дзейнасці і пачыналі прымаць удзел у прыёмах грамадзян. Спачатку яны проста прысутнічалі падчас прыёмаў грамадзян, а сустрэчы праводзіліся студэнтамі старэйшых курсаў. Паступова зноў прыйшоўшыя студэнты „ўцягваліся" ў працу кансультацыі і пачыналі самі весці прыёмы грамадзян. Да студэнтаў клінікі запрашалі спецыялістаў, якія ў асноўным дзяліліся ведамі ў галіне заканадаўства. За семестр адбывалася ад 5 да 10 такіх сустрэч. Часцей за ўсё яны былі прымеркаваны да якіх-небудзь дат. Трэба заўважыць, што для высноў па навучальным працэсе клінікі БарДУ гэтых звестак недастаткова. Што тычыцца тэм, якія вывучаюць у клініках, то сярод іх ёсць „касцяк" змястоўных блокаў, якія прысутнічаюць практычна ва ўсіх клініках.

На 2015 год дзесяць клінік мелі дастаткова добры вынік працы ў навучальнай частцы ЮК, калі ўлічыць, што яшчэ ў 2002 годзе большасць з іх не думала не толькі пра заняткі і праграмы, але не мела ніякага ўяўлення аб дзейнасці. Разам з тым, у як мінімум дзвюх клініках (Акадэмія МУС і БарДУ) не было абавязковага навучання, якое папярэднічае працы студэнтаў з грамадзянамі.

З прадстаўленых клінікамі звестак вынікае, што курс навучання на 2015 год меў, як правіла, факультатыўны характар, што адпавядае

агульным прынцыпам добраахвотнасці ўдзелу ў клінічнай адукацыі, але не з'яўляецца патрабаваннем. Выключэнне складалі курсы ЮК у ГДУ, дзе дадзены курс з'яўляўся абавязковым, а па яго выніках прымаўся залік. У асноўным у ЮК займаліся студэнты спецыяльнасці правазнаўства, але ёсць студэнты такіх спецыяльнасцей, як міжнароднае права, эканамічнае права і дзяржаўнае кіраванне і права. Спецыяльнасць практычна не ўплывала на сферу пытанняў альбо на дзейнасць студэнтаў, а з'яўлялася вынікам спецыфікі асобных устаноў адукацыі.

У некаторых клініках у навучальнай частцы значную ролю адыгрывалі студэнты-клініцысты старэйшых курсаў, якія мелі досвед працы ў клініцы, што можа ствараць без кантролю з боку куратара пралікі ў падрыхтоўцы студэнтаў.

*г) Працэс навучання ў КПрКД па стане на 2015 г.*

Навучальная праграма КПрКД была прадстаўлена толькі дзвюма клінікамі (БрДУ і ГрДУ). Нягледзячы на тое, што КПрКД на 2015 год існавалі практычна ва ўсіх разгледжаных установах адукацыі і меліся рэальныя вынікі іх дзейнасці, клінікамі дэкларавалася наяўнасць навучальных праграм толькі ў чатырох установах. Толькі дзве з гэтых устаноў прадставілі праграму. Больш за тое, КПрКД часцей разглядаюць не як асобную клініку, а як праект або асаблівую, дадатковую праграму дзейнасці ЮК.

На падставе даных, атрыманых ад БДУ, існаваў курс „Інтэрактыўныя метады выкладання права" для студэнтаў напрамку Street Law, але на 2015 год ён не меў зацверджанай вучэбнай праграмы. Перад пачаткам самастойнай дзейнасці ў рамках КПрКД студэнтам неабходна было прайсці курс „Інтэрактыўныя метады выкладання права".

Заняткі праводзіліся кожны навучальны год, пачыналіся пасля зімовых канікул (як правіла, з лютага) і доўжыліся каля двух месяцаў. Да навучання дапускаліся студэнты 2 курса, якія прайшлі конкурсны адбор. У рамках заняткаў вывучалася гісторыя ўзнікнення і развіцця Street Law у свеце і ў Рэспубліцы Беларусь, псіхалагічныя аспекты работы з падлеткамі, інтэрактыўныя методыкі і іх прымяненне і многае іншае (п. 33 анкеты для клінік).

На падставе Палажэння КПрКД, прадастаўленага БІП, і анкеты для клінік КПрКД існавала ў форме студэнцкага праекта „Права на кожны дзень — „Жывое права" (п. 7 анкеты для клінік). Адбор студэнтаў для навучання здзяйсняўся дырэктарам клінікі па прадстаўленні куратара секцыі (п. 24 анкеты для клінік). Навучанне студэнтаў-клініцыстаў

ажыццяўлялася, але з Палажэння аб КПрКД і анкеты немагчыма атрымаць разгорнуты адказ на дадзенае пытанне.

Зыходзячы з анкеты для клінік, анкет, запоўненых круатарамі і студэнтамі-клініцыстамі ў ВДУ, КПрКД існуе ў фармаце „Методыкі прававога інфармавання" (п. 6 анкеты для клінік). Вучэбная праграма не аформлена афіцыйна, аднак яна існавала, і па ёй фактычна ажыццяўлялася навучанне (п. 7 анкеты для клінік). Адбор ажыццяўляўся па выніках гутаркі са студэнтамі, якія падалі заявы. На працягу кастрычніка — лістапада праводзіліся 2–3 трэнінгі па 2 акадэмічныя гадзіны для падрыхтоўкі студэнтаў да дзейнасці ў КПрКД. Агульны час падрыхтоўкі студэнтаў да працы ў КПрКД складаў 6 гадзін (п. 17 і 19). Асноўныя этапы працы са студэнтамі КПрКД: 1) Уступныя трэнінгі. 2) Распрацоўка заняткаў. 3) Правядзенне трэнінгаў студэнтамі ў школах горада (п. 33 анкеты для клінік). Згодна з анкетай ГДУ, навучанне студэнтаў КПрКД праводзілася, але зацверджанай праграмы не было. Усяго са студэнтамі праводзілася 10–12 заняткаў. Асноўныя тэмы: 1) Што такое трэнінг. 2) Структура трэнінгу, як рыхтавацца да трэнінгу, рамачныя ўмовы. 3) Інтэрактыўныя метады. 4) Аналіз праведзенага трэнінгу.

Паводле заявы кіраўніка клінікі МДУ, студэнты ажыццяўлялі праграму прававой асветы для ўстановы адукацыі МГСПТУ № 2 (спецыяльнай установы). Асноўныя формы працы — штомесячныя лекцыі, алімпіяды прававых ведаў. Студэнты не праходзілі спецыяльнага навучання, але самастойна рыхтавалі лекцыі, якія абмяркоўваліся з куратарам. Вучэбнай праграмы, якая апісвае падрыхтоўку студэнта КПрКД, не было.

Зыходзячы са звестак ПДУ, КПрКД ажыццяўлялася ў выглядзе праграмы „Street Law: Права на кожны дзень". Вучэбны курс па гэтым напрамку нефармалізаваны: фактычна праводзіўся, аднак не ўключаны ў навучальны план факультэта, не меў пастаяннага раскладу (п. 7 анкеты для клінік). У рамках напрамку Street Law у восеньскім семестры праводзіліся тэарэтычныя заняткі, прысвечаныя распрацоўцы прававых заняткаў. Заняткі праводзіліся 1 раз у 2 тыдні (п. 33 анкеты для клінік).

Аналіз атрыманай інфармацыі аб навучальных праграмах курса КПрКД паказвае вельмі нізкую падрыхтоўку клінік да правядзення навучальнай часткі КПрКД са студэнтамі. Пры гэтым дзесяць клінік (выключэнне — Акадэмія МУС, дзе няма КПрКД) дэкларуюць, што працуюцьу сферы КПрКД. Толькі дзве клінікі па стане на 2015 год мелі зацверджаную праграму курса. Адсутнасць праграмы курса азначае

неабавязковасць заняткаў са студэнтамі-клініцыстам і можа негатыўна ўплываць на ўзровень падрыхтоўкі студэнтамі заняткаў. Існуе рэальная неабходнасць у прапрацоўцы сумесна з куратарамі клінік тэматычных блокаў навучальнай праграмы КПрКД. Адной з асноўных прычын адсутнасці праграмы навучання, з нашага пункту гледжання, з'яўляецца недастатковае разуменне куратарамі і кіраўніцтвам клінік таго, што можа быць зместам такога навучання.

Як мы адзначалі вышэй, дзве клінікі маюць навучальныя праграмы КПрКД (БрДУ і ГрДУ) і мелі зацверджаныя факультатыўныя курсы. Гэтыя дзве праграмы падобныя сваімі задачамі: падрыхтоўка студэнтаў да распрацоўкі і правядзення заняткаў-кансультацый на прававую тэматыку для навучэнцаў сярэдніх школ, падлеткаў. Іншымі словамі, як у ЮК, асноўны ўхіл робіцца на фармаванне кампетэнцый студэнтаў-клініцыстаў для працы ў грамадскай прыёмнай. Праграма КПрКД створана для таго, каб даць кампетэнцыі студэнтам-клініцыстам, каб яны маглі падрыхтаваць і правесці занятак-кансультацыю.

Але праграмы і адрозніваюцца паміж сабой. Навучальная праграма БрДУ па КПрКД складаецца з 11 тэм, разлічаных на 74 гадзіны аўдыторных заняткаў на працягу 2-га і 3-га семестраў. Навучальная праграма ГрДУ па КПрКД складаецца з 12 тэм (у агульнай колькасці 30 гадзін) на працягу трэцяга семестра. І колькасць гадзін — не адзінае адрозненне паміж праграмамі. Праграмы адрозніваюцца мэтамі.

Мэтамі выкладання факультатыўнага курса КПрКД у БрДУ з'яўляюцца:

— Падрыхтоўка студэнтаў-юрыстаў, якія валодаюць ведамі і практычнымі навыкамі ў выкладанні заняткаў па прававой тэматыцы для непаўналетніх.

— Вывучэнне праблем дзеючага заканадаўства, набыццё самастойных навыкаў па іх дыягнаставанні.

— Павышэнне ўзроўню прававой свядомасці і прававой культуры моладзі.

— Прафілактыка здзяйснення правапарушэнняў сярод непаўналетніх.

— Навучанне студэнтаў навыкам паспяховага ажыццяўлення асветніцкай і прафілактычнай работы з непаўналетнімі.

— Набыццё студэнтамі базавых уменняў і навыкаў выкладання прававых дысцыплін, засваенне прававых паняццяў, некаторых

псіхалагічных і педагагічных прыёмаў выкладання прававых ведаў для непаўналетніх, разуменне асаблівасцей прававога становішча непаўналетніх у Рэспубліцы Беларусь.

Па завяршэнні вывучэння факультатыўнага курса студэнты павінны ўмець: характарызаваць, інтэрпрэтаваць, аналізаваць асаблівасці юрыдычнай адказнасці непаўналетніх; працаваць як самастойна, так і ў камандзе; набываць навыкі працы з аўдыторыяй; прымяняць інтэрактыўныя метады навучання; выпрацоўваць новыя ідэі; выкладаць юрыдычныя дысцыпліны на сучасным навукова-тэарэтычным і метадычным узроўнях ва ўстановах агульнай сярэдняй і сярэдняй спецыяльнай адукацыі (Тлумачальная запіска да навучальнай праграмыБрДУ).

Мэта праграмы КПрКД у ГрДУ (паводле Тлумачальнай запіскі да навучальнай праграмы ГрДУ):

— Фармаванне ў студэнта прафесійных якасцей, навыкаў і ўменняў, неабходных у далейшай прафесійнай дзейнасці юрыста, фармаванне сацыяльна актыўнага грамадзяніна беларускага грамадства праз яго актыўны ўдзел у фармаванні элементаў правасвядомасці асобных груп насельніцтва.

— Стварэне ўмоў, дзе студэнты здольны будуць рэальна ўжываць атрыманыя падчас навучання тэарэтычныя прававыя веды праз працу з заканадаўствам, механізмамі яе рэалізацыі і кліентамі.

— Фармаванне ўмоў, дзе студэнты здольны будуць спалучаць тэарэтычныя прававыя веды з практыкай іх выкарыстання ў сучасных умовах, і далучэнне студэнтаў да вырашэння сацыяльна важных грамадскіх праблем (удзел у прававым выхаванні насельніцтва).

Асноўнае адрозненне мэт заключаецца ў тым, што БрДУ робіць большы ўхіл на навучальныя эфекты і знаёмства студэнтаў-юрыстаў з праблемамі сацыялізацыі моладзі, а ГрДУ робіць ухіл на практычнае прымяненне студэнтамі-юрыстамі прававых ведаў на практыцы. З нашага пункту гледжання, вельмі істотна, каб навучанне студэнтаў-клініцыстаў было скіравана не на падрыхтоўку з іх настаўнікаў, а на развіццё іх як юрыстаў. У любым выпадку варта адзначыць, што разуменне сутнасці праграмы КПрКД даецца беларускім клінікам значна цяжэй, чым праграмы ЮК. І колькасць рэальна распрацаваных і зацверджаных навучальных праграм КПрКД з'яўляецца таму доказам.

Яшчэ адной праблемай з'яўляецца час правядзення навучальнай часткі. У тых клініках, дзе набор і навучанне студэнтаў КПрКД

ажыццяўляюцца на працягу вясновага семестра, студэнты-клініцысты не маюць дастаткова часу для падрыхтоўкі і правядзення заняткаў у школах у сувязі з заканчэннем навучальнага года ў канцы траўня. Акрамя таго, на наступны год часта студэнты КПрКД пераходзяць у ЮК і да заняткаў не вяртаюцца. Мэтазгодным было б ажыццяўляць набор і навучанне студэнтаў КПрКД падчас восеньскага семестра для стварэння ўмоў для падрыхтоўкі і правядзення заняткаў як мінімум на працягу ўсяго вясновага семестра.

*д) Інтэрактыўныя стратэгіі, формы, метады навучання студэнтаў-клініцыстаў*

Інавацыйныя формы і метады навучання студэнтаў-клініцыстаў з'яўляюцца візітнай карткай як ЮК, так і КПрКД. Інтэрактыўныя метады — адна з істотных прыкмет, што адрознівае клініку ад акадэмічнага навучання. У сувязі з гэтым мы не будзем разглядаць асобна ўзровень валодання куратарамі ЮК і КПрКД інтэрактыўнымі метадамі. Падчас наведвання клінік удалося прыняць удзел у трох занятках куратараў для студэнтаў-клініцыстаў. З іх адзін — для студэнтаў ЮК (МДУ) і два заняткі для студэнтаў КПрКД (БрДУ, ПДУ). Усе астатнія звесткі былі атрыманы праз анкеты для куратараў, а таксама з адказаў падчас інтэрв'ю.

Хочацца адзначыць, што ўсе тры заняткі былі праведзены на даволі добрым метадычным і змястоўным узроўні. Заняткі для студэнтаў ЮК былі падрыхтаваны па тэме „Інтэрв'ю", але праведзены з выкарыстаннем нестандартнага спосабу, з падзелам групы на дзве каманды, прымяненнем метаду „Акварыум" і прыцягненнем рэсурснай персоны. Занятак для студэнтаў КПрКД у БрДУ быў прысвечаны тэме, звязанай з тыпамі, відамі ўдзельнікаў прававых заняткаў КПрКД і асаблівасцямі ўзаемаадносін з імі. А заняткі для студэнтаў КПрКД у ПДУ — формам і метадам працы ў КПрКД.

Заняткі для студэнтаў КПрКД у ПДУ былі метадычна больш простымі. Выкарыстоўваліся такія метады, як праца ў групах, прэзентацыя вынікаў працы групы, дыскусія, дэманстрацыя метаду і яго рэфлексія і г.д. Важным было тое, што куратары прадэманстравалі разуменне сутнасці інтэрактыўных метадаў. Усе тры куратары правялі заняткі, прытрымліваючыся часовых межаў, дэманструючы добрыя навыкі кіравання і арганізацыі працы аўдыторыі. Заняткі не былі ідэальнымі, але яны прадэманстравалі прыблізную форму работы куратараў са студэнтамі-клініцыстамі, якую можна ацаніць як добрую.

З аналізу анкет для куратараў відаць, што толькі 6 куратараў (з 17-ці) вызначаюць інтэрактыўныя метады навучання як самыя важныя рысы,

што адрозніваюць клініку ад форм акадэмічнага навучання. У якасці асноўнага выніку заняткаў КПрКД для студэнтаў-клініцыстаў валоданне інтэрактыўнымі метадамі адзначылі 5 куратараў (з 17-ці). Але нас больш цікавіць пытанне, што куратары разумеюць пад інтэрактыўнымі метадамі і як іх выкарыстоўваюць. З гэтай мэтай падчас сустрэч са студэнтамі-клініцыстамі праводзіліся інтэрв'ю. Адзін з блокаў пытанняў складалі наступныя: Як арганізаваны і праводзяцца заняткі ў вашай клініцы? Што выкладчыкі робяць? Апішыце, чым запомніліся Вам заняткі. Апішыце формы і метады, якія выкарыстоўваюць падчас заняткаў куратары.

Студэнты Акадэміі кіравання адзначылі, што заняткі праводзіліся з верасня па снежань. Прыблізна 10–12 заняткаў за семестр. Акрамя заняткаў праводзіліся абмеркаванні спраў за тыдзень. З метадаў найбольш спадабаліся: 1) выступы; 2) энерджайзеры; 3) праца ў групах і прэзентацыі вынікаў; 4) абмеркаванні. Яшчэ студэнты адзначалі: *„Ёсць пісьмовыя адказы, з якімі працуем на занятках"; „у занятках выкарыстоўваем „неспадзяванкі" з дзіцячага прававога сайта"*.

Студэнты-клініцысты БДУ заявілі, што памятаюць прыблізна 8 заняткаў, якія для іх праводзілі ў інтэрактыўнай форме. З заняткаў, якія запомніліся, называліся наступныя: тыя, якія праводзіў псіхолаг; па тэмах „Інтэрв'ю", „Кансультаванне", „Запаўненне анкет клінікі"; практычныя заняткі — праз ролевыя гульні; заняткі на выяўленне юрыдычных фактаў.

Студэнты БДЭУ адзначылі, што заняткі ў клініцы праходзяць у форме трэнінгу. З метадаў найбольш запомніліся энерджайзеры, ролевыя гульні, рэфлексія. У якасці прыкладу заняткаў прывялі наступны. Задаецца праблема ці пытанне (напрыклад, што адказваць па тэлефоне падчас дзяжурства). Пасля гэтага праводзіцца мазгавы штурм, на фліпчарце запісваюцца варыянты адказаў. Затым кожны з гэтых адказаў разглядаецца, аналізуецца і дапаўняецца.

З заняткаў студэнтаў БрДУ запомніліся наступныя: Метады; Як распрацоўваць занятак. Пасля правядзення заняткаў праводзіцца рэфлексія вынікаў. Студэнты ВДУ адзначылі метады, з якімі знаёміліся ў КПрКД, а таксама форму працы, калі пасля правядзення заняткаў для школьнікаў ладзілі абмеркаванне вынікаў. Студэнты ГДУ растлумачылі, што заняткі са студэнтамі праходзілі 1 раз на тыдзень па два заняткі (тры акадэмічныя гадзіны), з кастрычніка па студзень. Паколькі працаваць будуць з кліентам, то вучыліся правільна паводзіць сябе. Найбольш

складаныя сітуацыі звязаны з прыёмам або з адказам кліенту. На практыцы трэніраваліся праз ролевыя гульні. Найбольш запомнілася сімуляцыя прыёму грамадзяніна, калі студэнты старэйшых курсаў або выкладчык граюць ролю кліента. Структура і паслядоўнасць адказу. Студэнтам-клініцыстам МДУ запомніліся і здаліся найбольш цікавымі наступныя тэмы: кансультаванне, інтэрв'юіраванне, гісторыя клінічнай адукацыі. Студэнты-клініцысты ПДУ ў інтэрв'ю звярнулі ўвагу на дыскусіі, якія праводзіліся падчас заняткаў. Акрамя таго, запомніліся заняткі, якія дэманстравалі ім студэнты КПрКД. Студэнтам КПрКД запомнілася форма працы, калі яны павінны былі правесці падрыхтаваныя імі заняткі для групы студэнтаў-клініцыстаў, а затым адбывалася падвядзенне вынікаў з мэтай удакладнення і ўдасканалення заняткаў.

Такім чынам, студэнты-клініцысты 8-мі клінік артыкулявалі сваё знаёмства з асобнымі інтэрактыўнымі метадамі. Сярод тэм, якія найбольш запомніліся, называліся тыя, якія ў прынцыпе выкладаюцца ў інтэрактыўнай форме, а некаторыя са студэнтаў прадэманстравалі разуменне логікі працы інтэрактыўных метадаў (БДЭУ) або логікі працы інтэрактыўнага падыходу ў навучанні (БрДУ, ВДУ, ПДУ). Акрамя таго, пра выкарыстанне інтэрактыўных метадаў можна з упэўненасцю казаць у клініках БрДУ, ПДУ і МДУ, куратары якіх прадэманстравалі, што разумеюць і могуць прымяняць інтэрактыўныя метады і стратэгіі ў навучанні студэнтаў-клініцыстаў.

Дзевяць клінік выкарыстоўвалі інтэрактыўныя метады ў навучанні студэнтаў: Акадэмія кіравання, БДУ, БДЭУ, БрДУ, ВДУ, ГДУ, ГрДУ, МДУ, ПДУ. Складана зрабіць выснову пра ўжыванне інтэрактыўных метадаў у клініках Акадэміі МУС, БарДУ і БІП, паколькі не прадставілася магчымасць прыняць удзел у занятках, арганізаваных куратарамі дадзеных клінік, а адказы студэнтаў не даюць магчымасці ацаніць выкарыстанне куратарамі інтэрактыўных метадаў у рабоце са студэнтамі.

*е) Чалавечыя рэсурсы клінік па стане на 2015 г.*

Эфэктыўная дзейнасць клінік у значнай ступені залежыць ад:

1) Адміністратараў клінік (іх асноўная задача — кіраванне дзейнасцю клінікі, забеспячэнне матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі, арганізацыя і кантроль навучання студэнтаў-клініцыстаў ЮК і КПрКД, гэтак жа як арганізацыя і кантроль ажыццяўлення сацыяльнага кампанента клінік: кансультацый у грамадскай прыёмнай ЮК і правядзенне прававых заняткаў у КПрКД).

2) Куратараў клінік (правядзенне заняткаў для студэнтаў ЮК і КПрКД, а таксама ажыццяўленне кантролю і стварэнне ўмоў для

творчай самастойнай працы студэнтаў-клініцыстаў па кансультаванні грамадзян і правядзенні прававых заняткаў).

3) Студэнтаў-клініцыстаў (дзяжурствы ў грамадскіх прыёмных і ажыццяўленне кансультавання грамадзян, падрыхтоўка/распрацоўка прававых практычных заняткаў-кансультацый і правядзенне іх для асобных сацыяльных груп).

Згодна анкеце для клінік, клінікі па рознаму забяспечаны кадрамі. Толькі тры адміністратары (БІП, ВДУ, МДУ) адначасова не з’яўляліся куратарамі клінік. Усе астатнія — мелі дадатковыя абавязкі ў рамках клінікі. У анкетах для куратараў сем кіраўнікоў клінік адзначылі, што выконваюць яшчэ і абавязкі куратара. Акрамя гэтага, шматлікія куратары і кіраўнікі клінік таксама маюць выкладчыцкую нагрузку, не звязаную з дзейнасцю клінікі, альбо навучаюцца ў магістратуры, аспірантуры і г.д. Па вялікім рахунку толькі адміністратар ВДУ меў стаўку і быў вызвалены ад іншых, не звязаных з дзейнасцю клінікі абавязкаў. Акрамя таго, мелася аплочваемая пасада лабаранта, які не з’яўляўся адначасова выкладчыкам альбо куратарам. Адміністратар ВДУ меў магчымасць асноўную сваю ўвагу сканцэнтраваць на арганізацыі дзейнасці клінікі, на стварэнні ўмоў для рэалізацыі адукацыйнага і сацыяльнага кампанентаў. Вынікам яго дзейнасці была сістэма працы са школамі і добрыя паказчыкі па занятках КПрКД.

Для адміністратараў важна займацца толькі адміністрацыйнымі задачамі і не мець дадатковай нагрузкі ў клініцы або ўніверсітэце. Выконваць якасна адначасова некалькі функцый у клініцы ўяўляецца вельмі складаным. Клінікі па стане на 2015 год мелі даволі вялікую колькасць куратараў. Падчас візітаў у клінікі аўтар гэтага даследавання здолеў сустрэцца толькі з нязначнай часткай куратараў. Пры агульнай колькасці куратараў больш за 40, удалося арганізаваць сустрэчы толькі з 17. Калі паглядзець на спісачны склад куратараў, то большасць з іх складаюць выкладчыкі юрыдычных факультэтаў. З інтэрв’ю са студэнтамі стала вядома, што некаторыя куратары даволі часта кансультуюць, іншыя, праз сваю занятасць альбо з-за спецыфічнай спецыялізацыі, вельмі рэдка кансультуюць студэнтаў і не праводзяць для іх заняткі ў рамках клінікі. З гэтага можна зрабіць выснову, што ў кожнай клініцы існуе некалькі куратараў ЮК і КПрКД (гэта адзін-два чалавекі), якія нясуць асноўную нагрузку па працы са студэнтамі-клініцыстамі, і ёсць іншая частка, якая ўключаецца ў дзейнасць толькі час ад часу і прынцыпова не ўплывае на працэсы, што адбываюцца ў клініках. Куратары, якія запоўнілі анкеты

(17 куратараў), і яшчэ, верагодна, некалькі куратараў, якія не змаглі прыняць удзел у даследаванні, прадстаўляюць касцяк куратараў клінік.

Для куратараў найбольш важнымі з’яўляюцца дзве рэчы: 1) разуменне сутнасці клінікі (для арганізацыі якаснай і эфектыўнай падрыхтоўкі студэнтаў і для ажыццяўлення кансультавання студэнтаў у іх працы ў рамках грамадскай прыёмнай і па прававых занятках); 2) практыка ў якасці адваката (для грамадскай прыёмнай) або ў якасці юрыста-практыка і трэнера для клінікі КПрКД вельмі патрэбна, паколькі кліенты звяртаюцца з прававымі праблемамі, а куратар павінен быць падрыхтаваны да таго, каб узяць адказнасць за якасць адказаў студэнтаў. Што ж тычыцца КПрКД, куратару трэба быць не толькі практыкам, але яшчэ і разумець логіку практычнага інтэрактыўнага занятку. Па пытанні ступені разумення сутнасці клінікі быў сабраны даволі шырокі матэрыял у анкеце для клінік і ў анкеце для куратара. Неабходна сказаць, што куратары, якія запоўнілі анкеты, у дастатковай ступені разумеюць сутнасць клінікі для арганізацыі якаснай дзейнасці ЮК і КПрКД. Што тычыцца колькасці практыкаў сярод куратараў, то праблема зразумелая, калі з 42 задэклараваных куратараў толькі 8 — практыкуючыя юрысты, а трэнерскімі якасцямі валодае, верагодна, крыху больш за 17 чалавек з тых, што ўдзельнічалі ў даследаванні.

Для студэнта найбольш важна падрыхтавацца да дзейнасці ў рамках клінікі: у поўнай меры засвоіць веды, уменні і навыкі для ажыццяўлення якаснай працы ў працэсе кансультавання падчас падрыхтоўкі і правядзення заняткаў. ЮК у большай ступені падрыхтавана сёння да таго, каб фармаваць неабходныя кампетэнцыі ў студэнта-клініцыста для працы ў клініцы. Разам з тым, праца ў клініцы — гэта не толькі кансультаванне або правядзенне заняткаў, а яшчэ і складаныя працэдуры падрыхтоўкі студэнтам адказу або падрыхтоўкі да правядзення заняткаў. Гэтыя працэсы цесна звязаны з асаблівай дзейнасцю куратара, задача якога — не падказваць або настаўляць, а стварыць умовы, пры якіх студэнт самастойна выбудуе траекторыю вырашэння праблемы. Вось гэтай, другой часткі працы са студэнтам і ЮК, і КПрКД надаюць пакуль недастаткова ўвагі.

Асаблівасць клінікі, звязаная са сферай кадраў, заключаецца ў тым, што эфектыўнасць і ўстойлівасць працы клінікі заключаецца не толькі і, часта, не столькі ў падборы кадраў (адміністратараў і куратараў клінік), хоць дадзеная частка вельмі важная для клінікі, але ў эфектыўным працэсе падрыхтоўкі студэнтаў да выканання імі сацыяльных функцый клінікі. Гэта значыць, ад таго, як наладжаны працэс падрыхтоўкі студэнтаў-

клініцыстаў да кансультавання або да правядзення заняткаў, залежыць вынік дзейнасці клінікі. У сувязі з гэтым асаблівую ўвагу варта звярнуць на спецыяльную адукацыйную працу з куратарамі для перадачы ім тых ведаў, уменняў і навыкаў у працы са студэнтамі ў працэсе падрыхтоўкі адказаў або заняткаў, якіх ім не стае.

**Высновы:**

Нягледзячы на даволі доўгі час існавання клінічнага навучання, а таксама на тое, што практычна ў кожнай вышэйшай навучальнай установе, дзе дзейнічае юрыдычны факультэт, існуюць свае структуры клінічнага навучання, навучальны працэс у клініках пастаўлены адносна слаба. Калі навучальная частка юрыдычнай клінікі права як мінімум усведамляецца ўсімі клінікамі як нешта істотнае, і навучанню надаюць значэнне, то ў сферы клінік права на кожны дзень навучальная частка практычна адсутнічае ва ўсіх клініках, акрамя максімум чатырох-пяці. Гэта можа быць звязана з недастатковым разуменнем куратарамі і адміністратарамі клінік важнасці навучання студэнтаў-юрыстаў спосабам і формам дзейнасці, якія яны павінны будуць выкарыстоўваць падчас працы з сацыяльнымі групамі. З іншага боку, гэта звязана з тым, што адміністратары і куратары да канца не разумеюць, чаму, а галоўнае, як могуць вучыць студэнтаў-клініцыстаў.

Паколькі большасць куратараў аддаюць перавагу ў арганізацыі дзейнасці юрыдычнай клініцы, больш намаганняў прыкладалася да арганізацыі юрыдычных клінік і дзейнасці ў грамадскай прыёмнай. Менавіта юрыдычная клініка разглядаецца імі як асноўная форма дзейнасці са студэнтамі-юрыстамі, таму больш увагі надаецца працэсу падрыхтоўкі студэнтаў юрыдычных клінік.

Клінікам права на кожны дзень сёння адведзена другасная роля. У большасці клінікі не ствараюць умоў для таго, каб студэнты-клініцысты самастойна распрацоўвалі практычныя заняткі. А каб правесці некалькі інтэрактыўных заняткаў, якія ўжо даўно распрацаваныя, няма неабходнасці арганізоўваць спецыяльнае навучанне. Іншымі словамі, слабая навучальная частка КпрКД звязана ў тым ліку з месцам і значэннем самога курса клінічнага навучання, а таксама з узроўнем ведаў і матывацыі адміністратара і куратара клінікі ў арганізацыі паўнавартаснай распрацоўкі студэнтамі-клініцыстамі новых прававых заняткаў.

Сярод асноўных недахопаў навучальнай часткі беларускіх клінік можна назваць:

— адсутнасць абавязковых навучальных праграм па падрыхтоўцы студэнтаў юрыдычнай клінікі і клінікі права на кожны дзень;

— неабавязковасць правядзення саміх навучальных заняткаў, якія, як правіла, нават не ставяцца ў расклад заняткаў.

Калі абагульніць звесткі па колькасці праведзеных заняткаў, то юрыдычныя клінікі здольны былі ў 2014/2015 годзе на працягу навучальнага года арганізаваць і правесці заняткі з выкарыстаннем інтэрактыўных метадаў па шасці абавязковых тэмах для падрыхтоўкі мінімум 12, максімум 42 студэнтаў да прыёму грамадзян у грамадскай прыёмнай ЮК. Што тычыцца клінік права на кожны дзень, толькі чатыры з адзінаццаці ў 2015 годзе маглі арганізаваць і правесці некалькі заняткаў па інтэрактыўных метадах навучання. Толькі дзве клінікі праводзілі факультатыўныя курсы ў адпаведнасці з навучальнай праграмай.

## Streszczenie

Ihar Kuźminicz*, Specyfika działalności naukowej białoruskich klinik prawa (1999–2015)*

Kliniki prawa działają na Białorusi przy trzynastu wydziałach prawa już niemal od dwunastu lat, stanowiąc nowe zjawisko w systemie kształcenia przyszłych prawników. Niniejsze opracowanie jest pierwszą pracą badawczą na Białorusi poświęconą organizacji procesu nauczania w klinikach prawa.

Celem pracy jest analiza procesu nauczania w klinikach prawniczych i klinikach prawa na co dzień na podstawie zestawienia kierunków działania klinik, procesu nauki i analizy programów nauczania poszczególnych klinik prawa, analizy odpowiedzi administracji, kuratorów i uczących się w nich studentów pochodzących z ankiet na temat materiałów naukowych wykorzystywanych w tych jednostkach oraz metod pracy ze studentami.

Materiały wykorzystane w badaniach zostały zebrane wiosną 2015 r. i obejmują cztery rodzaje źródeł. Są to dokumenty klinik (ich regulaminy oraz programy nauczania klinik prawniczych i klinik prawa), specjalnie przygotowane ankiety wypełnione przez administrację klinik, ich kuratorów oraz materiały zebrane podczas osobistych wizyt w istniejących w 2015 r. klinikach prawa.

Celem przedstawienia specyfiki białoruskich klinik prawa badania skoncentrowano na analizie systemu przygotowania studentów do wykonywania obowiązków w ramach klinik, swoistości programów nauczania, materiałów wykorzystywanych w procesie kształcenia, metod interaktywnych, a także

poziomu kadry i kuratorów.

Podstawowa część opracowania koncentruje się na wyjaśnieniu specyfiki naukowej działalności klinik prawa, poprzez analizę:

- głównych obszarów ich działalności, rozumianej jako prawnicza klinika prawa oraz klinika prawa na co dzień;
- programów nauczania klinik i ich wykorzystania w procesie kształcenia studentów;
- procesu nauczania w poszczególnych klinikach prawa i wyróżniających je cech;
- procesu nauczania w klinikach prawa na co dzień, zwłaszcza ich charakterystyki i programów;
- stopnia wykorzystania interaktywnych strategii, form i metod nauczania w poszczególnych klinikach w kształceniu studentów;
- stopnia świadomości roli i znaczenia klinik oraz udziału w kształceniu kierowników i kuratorów klinik.

Analiza specyfiki klinik prawa według powyższych sześciu kategorii pozwala na wszechstronne omówienie funkcjonowania i kształcenia w białoruskich klinikach prawa.


## Abstract

Ihar Kuzminich, *Academic Profile of Legal Clinics in Belarus (1999–2015)*

Legal clinics in Belarus have been operating in thirteen faculties of law for almost twelve years and have been a novelty in the process of training would-be lawyers. This article is the first scientific paper in Belarus devoted to the process of trainingstudents in a legal clinic.

The aim of this paper is to analyse the process of teaching in legal clinics and everyday law clinics. To this end the following elements and sources have been analysed: the mission of legal clinics, the learning and teaching process, teaching programmes of particular clinics, responses from the administration, clinical professors and students, all of which have been collected by conducting a questionnaire survey on teaching materials and methods used in the clinics.

The researched materials were collected in the spring in 2015 and include four types of sources. These are internal documents of the clinics (official rules as well as teaching programmes), questionnaires developed especially for the administrative bodies of the clinics and their supervisors as well as materials collected during personal visits at the legal clinics in 2015.

In order to present the characteristic features of legal clinics the research has been focused on the analysis of the system of training students to perform tasks within the clinic, profiles of teaching programmes, materials used in the course of teaching, interactive methods as well the expertise of instructors and clinical professors.

The core element of the research is the explication of the academic profile of the legal clinic, which is based on the analysis of:

- the main areas of operation, i.e. a legal clinic and an everyday law clinic
- teaching programmes of the clinics and their application in the process of teaching students
- the teaching process in particular clinics and their peculiarities
- the teaching process in an everyday law clinic, with a special focus on its features and programme
- the application of interactive strategies, forms and methods of teaching students in particular clinics
- the awareness of the significance and role of legal clinics and the involvement of leaders and clinical professors in the process of training.

The analysis of the legal clinics conducted in accordance with the above *modus operandi*, based on six categories, helps to provide a comprehensive description of working and teaching in Belarusian legal clinics.

**Антон Арцюх**
**(Ружаны)**

# Вуліцы горада Брэст-Літоўска: стан, добраўпарадкаванне і эстэтыка ў канцы XVIII — першай палове XIX ст[1].

Горад — з’ява соцыякультурная, цэнтр гандлю, культуры і ўлады. Увасабляючы ўсе вышэйназваныя функцыі, горад з’яўляецца арганізмам са сваімі органамі, ад узаемадзеяння якіх залежыць паўнавартаснае жыццё паселішча. Напрыклад, ажыццяўленне сацыяльных функцый горада патрабуе належных умоў жыцця, бо горад разам з тым — абмежаваная тэрыторыя з вялікай колькасцю людзей, якія на ёй пражываюць.

Калі мы кажам пра вуліцы горада, то не можам іх разглядаць па-за кантэкстам планіроўкі. Новачасны Брэст-Літоўск увайшоў у склад Расейскай імперыі са спадчынай Сярэднявечча, якая праяўлялася ў нерэгулярнай, шчыльнай і хаатычнай забудове, ламаных і крывых лініях вуліц, кварталах няправільнай формы[2]. Гэтую тэзу пацвярджаюць планы горада XVIII ст[3]., адзін з якіх паказвае, што ў першай палове стагоддзя канфігурацыя вуліц была размытая, межы іх ледзь прасочваліся, а шырыня не была аднолькавай на працягу ўсёй даўжыні артэрый. Такім чынам, у канцы стагоддзя вулічная сетка як частка планіровачнай сістэмы Брэст-Літоўска была неўпарадкавана.

---

[1] За навуковую і метадалагічную дапамогу ў напісанні артыкула дзякую Генадзю Семенчуку, Аляксандру Горнаму, Юрыю Гардзееву, Анатолю Нікітчыку, Аляксандру Перагудаву, Эдуарду Сямашку. А таксама падзяку выказваю ДУ „Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродна”, ДУК „Музей гісторыі горада Брэста”, УК „Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей”, Міколе Нікалаеву, Андрэю Вараб’ю і іншым за прадстаўлены матэрыял па гісторыі г. Брэста.

[2] Ю. В. Чантурия, *Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI — первой половины XIX в.: Средневековое наследие, Ренессанс, барокко, классицизм,* Минск 2005, с. 38, 43.

[3] *Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей* (далей — ГДГАМ), Фонд (НД), адз. зах. 1802. *Литовской губернии Брестскаго уезда уездный город Брест (план 1798 г.)* (фотакопія з Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва, 1957 г.); *Plan von der Stadt Brzesc in Litthauen*, [Ressource elektronische].— Zu griffs modus: www. ibrest. ru — Zu griffs datum: 11.05.2018.

Пасля далучэння да Расійскай імперыі новы ўрад распачаў рэалізацыю грандыёзных планаў па добраўпарадкаванні малых і вялікіх беларускіх гарадоў паводле канонаў класіцызму. Расійскім ідэалам класіцызму ў тыя часы быў горад Санкт-Пецярбург, на ўзор якога павінны былі выглядаць астатнія гарады краіны[4].

Часта ў ролі памагатага ў добраўпарадкаванні паселішчаў выступаў, па меркаваннях сучаснікаў, сапраўдны біч гарадоў — пажар. Пасля аднаго з іх (1802 г.) галоўны рынак Брэст-Літоўска трапіў пад праект рэканструкцыі. Усе будынкі, што знаходзіліся на ім „*павінны перанесены быць з цяперашніх у іншыя месцы дзеля пашырэння плошчы*"[5]. Будынкі ратушы і гаўптвахты мусілі быць перанесены на паўноча-заходні бок рынку, які туліўся да Аўгусцінскага кляштара[6]. Нягледзячы на істотнае змяненне выгляду, канфігурацыі і прызначэння галоўнай рынкавай плошчы горада, дадзеная перапланіроўка з'яўлялася лакальнай і была падпарадкавана воле выпадку — пажару.

Першая вядомая нам мэтанакіраваная і грунтоўная спроба перапланіроўкі Брэст-Літоўска датуецца 1811 г. Адпаведна ёй новы план падзяляў горад на геаметрычна роўныя кварталы, адлюстроўваючы правільны, рэгулярны характар. Асаблівасцю гэтага плана з'яўляецца тое, што добраўпарадкаванню і разбіўцы на правільныя кварталы падлягала не толькі цэнтральная частка горада (цэнтральны востраў), але і яго прадмесці. Разам з тым, змены зазналі і дамінанты паселішча. З дзвюх наяўных гарадскіх плошчаў (Жыдоўскі і Цэнтральны рынкі) была пакінута толькі апошняя, але пры гэтым з'явіліся тры новыя: на Валынскім (2) і Кобрынскім (1) фарштатах. Вуліцы на праектным плане адрозніваюцца выразнасцю межаў і прапарцыянальнасцю. Нягледзячы на тое, што праект адлюстроўвае план рэгулярнай забудовы, ад крывізны вуліц не атрымалася пазбавіцца поўнасцю. Адзін з цэнтральных кварталаў, паўтараючы скажоную форму цэнтральнага вострава, мае адпаведныя скажэнні вуліц, якія ідуць уздоўж яго.

Прыведзены вышэй план 1811 г. хоць і быў зацверджаны, але застаўся нерэалізаваным з прычыны вайны 1812 г. Наступная спроба

---

[4] А. М. Арцюх, *Пажары і стан пажарнай службы ў Брэсце-Літоўскім у першай чвэрці XIX ст.*, [в:] *Актуальные проблемы социально-гуманитарного знания: материалы II Междунар. студ. науч-теор. конф., Минск, 18 апреля 2017 г.*, Минск 2017, с. 10–12.

[5] *Музей гісторыі горада Брэста* (далей — МГГБ), фонд (НВ), адз. зах. 000569. *План представляющий город Бржест до пожара 1802-го года Марта… дня (электронная копія).*

[6] МГГБ, фонд (НВ), адз. зах. 000565. *План: Города Бржеста после пожара по новому прожекту (электронная копія)*; ГДГАМ, фонд (КП), адз. зах. 14773. *План Литовско-Гродненской губернии города Бржестя с прожектом. Сочинен декабря 24-го дня 1824-го года (электронная копія).*



План Брэст-Літоўска 1824 г.

ўпарадкавання планіровачнай канфігурацыі вуліц была здзейснена ў 1820-х гг. Аб гэтым сведчыць надпіс экспілікацыі да плана 1824 г.: „*План Літоўска-Гродзенскай губерні горада Бржэсця з пражэктам*"[7]. Контуры і напрамкі пажаданай канфігурацыі вуліц, якія меркавалася выправіць і параўняць як у шырыні, так і ў даўжыні, пазначаны чырвонымі лініямі. Сярод вуліц, якія планавалася выправіць адпаведна пэўнаму крытэру, значацца як артэрыі цэнтра горада — Мытняя (1815, у дужках пазначаны год, у якім дадзены ўрбанонім быў замацаваны за пэўным адрэзкам вулічнай прасторы — А. А.), Падзамкавая (1824), Слюзная (1824), Зашкольная (1824), Аўгусцінская (1815), Старая Капіская (1823), — так і яго ўскраін — Луская (1824), Войтавая (1823) і інш[8]. Выпраўленню падлягалі таксама невялікія вулачкі ды завулкі. Акрамя таго чырвоным колерам на плане пазначаны і новыя вуліцы, якія ўтваралі вельмі падобныя простакутныя кварталы, як у плане 1811 г. Варта адзначыць, што пры складанні абодвух планаў быў аднолькава ўлічаны мясцовы рэльеф. Так, выцягнутая тэрыторыя на поўначы ад цэнтральнага вострава, якую займала абалона адной з гарадскіх рачулак, адмыслова не забудоўвалася і пакідалася пустой з прычыны яе частага затаплення.

Сапраўднай катастрофай сталі для горада 30-ыя гг. XIX ст. Імперскае вайсковае кіраўніцтва з прычыны знаходжання горада ў створаным самой прыродай надзвычай зручным і стратэгічным месцы вырашыла на яго землях узвесці абарончую крэпасць першага класа. Паступова, пасля пачатку земляных прац у 1833 г., архітэктурныя дамінанты Брэст-Літоўска — культавыя будынкі — прыстасоўваліся пад патрэбы крэпасці, а жылыя дамы руйнаваліся і раскідваліся. Жыхарам горада выплочвалася кампенсацыя пры ўмове, што яны пераселяцца на новаадведзенае гораду месца — на 1,5–2 кіламетры на ўсход, на тэрыторыю новаўтвораных Кобрынскага і Валынскага фарштатаў.

Частыя пажары, паніжэнне ўзроўню жыцця жыхароў горада ды іншыя прычыны стваралі эканамічныя і бытавыя цяжкасці пры перасяленні гараджан на новае месца. Паступова людзі пачалі перасяляцца на спланаваныя з нуля новыя фарштаты. Калі ранейшыя спробы ўпарадкавання сярэднявечнага і навачаснага Брэст-Літоўска з мэтай

---

7 ГДГАМ, фонд (КП), адз. зах. 14773. *План Литовско-Гродненской губернии города Бржестя с прожектом. Сочинен декабря 24-го дня 1824-го Года (электронная копія).*

8 *План погорелой части гор. Бреста-Литовского с 1808 и 1814 гг. с окружностью оного, а в 1815 году составлен, и приложенной при сем описи на плане после тех пожаров, каменным и деревянным домам, номерами означенный.* [Электронный ресурс].— Режим доступа: http://www. prlib. ru /Lib/pages/item. aspx?itemid=136290 — Дата доступа: 19.04.2018.

прывядзення яго да правільнага выгляду не мелі поспеху і скончаліся ў лепшым выпадку вычляненнем кварталаў і акрэсленнем трасіроўкі вуліц, то ў 30–40 гг. XIX ст. у расійскіх улад з'явілася неверагодная мажлівасць спланаваць паселішча патрэбнай канфігурацыі з нуля, ад пачатку ўлічваючы ўсе яго патрэбы. На вялікі жаль, нам невядома імя архітэктара, які зрабіў праект новага горада.

Сам жа праект адносіўся да кратападобнага, шахматнага ці простакутнага планіровачнага тыпу, які быў распаўсюджаны сярод першых каланіяльных гарадоў ЗША[9]. Асноўная частка горада канцэнтравалася на Кобрынскім фарштаце і ўяўляла сабой прастору, разбітую шэрагам простакутнікаў[10]. Праблема адсутнасці радыяльна-дыяганальных артэрый, якія і не былі прадугледжаны ў гэтым тыпе планіроўкі, была вырашана нязвыклым інжынерскім ходам. Нягледзячы на простакутнасць, план быў падзелены на тры рознакірункавыя праекцыі, крайнія вуліцы якіх утваралі неіснуючыя дыяганалі. Некаторыя вуліцы, дзякуючы такому рашэнню, пачалі нагадваць сапраўдныя радыяны, што сыходзіліся ў галоўным цэнтры горада — Думскай плошчы. Паводле класіфікацыі Уладзіміра Сямёнава, план новага Брэст-Літоўска можна было б аднесці да злучанага тыпу (простакутны + радыяльны), але, на нашую думку, пры панаванні простакутнай арганізацыі прасторы з недастаткова развітай радыяльнай сеткай гэты план лепш аднесці да кратападобнага ці шахматнага тыпу[11].

У XIX ст. добраўпарадкаванасць вуліц, як і саміх гарадоў, на думку дарэвалюцыйных, а пазней і савецкіх даследчыкаў гарадоў, вызначалася таксама і характарам забудовы. Доўгія часы аблічча гарадоў выражалася ў дрэве. Гэта вынікала з дзвюх прычын[12]: 1) дрэва было самым распаўсюджаным матэрыялам, а яго апрацоўка не патрабавала надзвычайных прафесійных навыкаў; 2) камень быў дарагім матэрыялам, таму мураваныя дамы маглі сабе дазволіць толькія заможныя жыхары, доля якіх у гарадах была нязначнай. Тэндэнцыя пераважнай „драўлянасці" беларускіх гарадоў была ўласціва паселішчам ажно да пачатку XX ст., а значыць, усе гарады нашага рэгіёна ў перыяд, які мы вывучаем, мелі

---

9 В. Н. Семенов, *Благоустройство городов,* Москва 2003, с. 20–21.

10 *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна* (далей — НГАБ у Гродне), ф. 11, воп. 1, адз. зах. 233. *План Гродненской губерни при городе Бресте двухверстной дистанции 1852 г. поля дня исполнения Указа Гродненского Губернского Правления по линиям означенным литерами А, Б, В, Г, Д, Е, Ж, З, К, отведенной от границ откупной черты, утвержденной для города в 1839 году значущейся по плану литерею К.,* арк. 8–8ад.

11 В. Н. Семенов, *Благоустройство городов,* с. 21–28.

12 Ю. Гардзееў, *Магдэрбургская Гародня. Сацыяльная тапаграфія і маёмасныя адносіны ў XVI–XVIII ст.,* Гародня-Уроцлаў 2008, с. 56.

нядобраўпарадкаваную забудову. Узровень упарадкаванасці вуліц як часткі планіровачнай сістэмы вызначаўся працэнтам мураваных дамоў у агульнай колькасці будынкаў.

Працэнт мураваных дамоў у беларускіх гарадах быў неістотным. Паводле табліцы, прыведзенай у даследаванні Анатолем Лютым, працэнт камяніц па гарадах беларускіх губерняў з канца XVIII па сярэдзіну XIX ст. вагаўся ад 1,3 % да 7 %[13]. Згодна з прыведзенымі звесткамі, самыя высокія паказчыкі на працягу ўсяго перыяду мела найбольш урбанізаваная ў Расійскай імперыі Гродзенская губерня[14].

Паказчыкі Брэст-Літоўска не моцна адрозніваліся ад статыстыкі гэтай губерні. У канцы XVIII ст., пасля ўваходжання ў склад Расейскай імперыі, горад меў усяго толькі 10 (1,66 %) мураваных дамоў (**Дадатак 1).** У 1817 г. працэнт мураванага дойлідства ўзрос да 3,67 %. Гэта адбылося не толькі з прычыны павелічэння колькасці камяніц, але і з-за змяншэння колькасці драўляных дамоў, якіх, у параўнанні з папярэднім годам, стала менш на 23 %. Такое памяншэнне колькасці драўляных будынкаў, на нашу думку, выклікана частымі пажарамі, якіх з пачатку стагоддзя да 1817 г. было як мінімум 4[15]. Акрамя таго, агульнае эканамічнае становішча жыхароў падрываў збор падаткаў срэбраным, а не асігнацыйным рублём, што не спрыяла збіранню грошай на адбудову дамоў[16]. З гэтае прычыны ў адным будынку магло жыць па некалькі сем’яў[17].

Нягледзячы на дадзеныя палітычныя і эканамічныя ўмовы, горад паступова адбудоўваўся, у выніку чаго пры паралельным росце колькасці драўляных і мураваных будынкаў паказчык камяніц ужо ў 1825 г. дасягнуў 6,26 %.

Далейшае развіццё мураванага дойлідства (у 1836 г. — гэта 8,31 % (сама доля камяніц выключна старога горада, без будынкаў перасеrange на фарштаты жыхароў дасягала 9,8 %) зноў адбывалася за кошт памяншэння

[13] А. М. Лютый, *Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII — первой половине XIX века,* Минск 1987, с. 21. Нягледзячы на складзеную аўтарам табліцу па 5-ці губернях, нашыя разлікі не ўлічвалі значэнні Віленскай, паколькі паказчыкі гэтай губерні падаюцца нам сумнеўнымі і яўна не адпавядаючымі рэчаіснасці.

[14] А. М. Лютый, *Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII — первой половине XIX века,* с. 21; *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: в 25 т.*, Санкт-Петербург 1863, т. 5, ч. 1: *Гродненская губерния,* с. 341.

[15] А. М. Арцюх, *Вуліцы Брэст-Літоўска, іх стан і добраўпарадкаванне ў канцы XVIII — перш. палове XIX ст.*, [у:] *Гадавік студэнцкага навукова-даследчага гуртка „НіКа”: зб. навук. арт.*, Гродна 2018, т. 2, с. 46. Усяго ў першай палове XIX ст. у горадзе адбылося не менш за 12 пажараў.

[16] *Память: Гіст.-дакум. хроніка Брэста: У 2 кнігах,* Мінск 1997, кн. 1, с. 88.

[17] А. М. Лютый, *Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII — первой половине XIX века,* с. 23.

колькасці драўляных дамоў. Чарговае скарачэнне будынкаў драўлянага дойлідства Брэст-Літоўска адбывалася з прычыны будоўлі крэпасці, земляныя працы якой распачаліся ў 1833 г. Урадам спачатку ў добраахвотнай, а пасля ў прымусовай форме было арганізавана перасяленне насельніцтва ў новаўтвораныя Кобрынскі і Валынскі фарштаты. Будынкі старога горада разбураліся, а жыхарам выплочвалася кампенсацыя пры выкананні пэўных умоў. На абодвух фарштатах па стане на 1836 год цалкам пабудаваных, прыдатных для жытла драўляных дамоў налічвалася 76, у той час як мураванае дойлідства не было прадстаўлена ніводным будынкам.

Зацягнутая будаўніцтва крэпасці і маруднае перасяленне жыхароў горада адлюстроўваюць рост дыспрапорцыі мураванага і драўлянага дойлідства ў горадзе над Бугам. Праз дэмантаж і руйнаванне дамоў жыхароў у 1842 г. у старым горадзе заставаўся ўсяго толькі 201 драўляны дом і 39 мураваных, што дае велізарную долю камяніц новачаснаму гораду — 19,4 % або 1/5. У той жа час адваротная дыспрапорцыя назіраецца на пераселеных фарштатах, на якіх месцілася ажно 487 драўляных і толькі 9 мураваных дамоў (1,8 %). Калі ж лічыць і стары, і новы горад адным паселішчам, лакалізаваным у двух месцах, то на падставе аб'яднаных даных статыстыкі мы атрымаем фактычна той жа самы паказчык, што і ў 1825 г. да будаўніцтва крэпасці — 6,97 % у 1842 г. і 6,26 % у 1825 г. Дасягненне старых паказчыкаў горадам сведчыла пра яго вяртанне ў сферу агульнагубернскай тэндэнцыі паступовага павелічэння долі мураваных дамоў у гарадах.

Акрамя планіроўкі і забудовы добраўпарадкаванасць горада вызначалася таксама матэрыялам пакрыцця і ўзроўнем чысціні вуліц. Трэба адзначыць, што і ў гэтым плане беларускія гарады не вылучаліся асаблівым узроўнем санітарнай культуры. Не выключэннем быў і Брэст-Літоўск. Яшчэ ў складзе Рэчы Паспалітай, паводле сведчання чэха Бернгарда Танэра, што праязджаў праз ваяводскі цэнтр у другой палове XVII ст., горад вылучаўся больш за ўсё брудам[18]. Падобныя сведчанні пакідае ў канцы XVIII ст. і Карл Фаерабэнд, калі пры наведванні горада падарожніку Брэст падаўся „*ні вялікі, ні прыгожы. Вуліцы пераважна не брукаваныя, вузкія і такія гразкія, што трэба мужнасць, каб праз іх прабрацца*"[19]. Гаротнае становішча ды бруд вуліц адзначаюць і іншыя прыезжыя з Заходняй Еўропы, апісваючы беларускія гарады[20]. Гэта,

[18] Б. Л. Таннер, *Описание путешествия польского посольства в Москву в 1678 г.*, Москва 1891, с. 20.

[19] А. Мальдзіс, В. Грыцкевіч, *Шляхі вялі праз Беларусь: Нарыс*, Мінск 1980, с. 69.

[20] В. Шлемюлер, *Дзённік польскага падарожжа на гарадзенскі сойм, адбытага года Гасподняга 1752,* „ARCHE-Пачатак", 2010, № 1–2, с. 44.

відаць, звязана з тым, што беларускія гарады саступалі еўрапейскім па чысціні і ўтульнасці.

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай і ўваходжання горада ў склад Расійскай імперыі сітуацыя са станам вуліц не змянілася. Канстанцін Булгакаў — расійскі дыпламат, які з кастрычніка па снежань 1812 г. знаходзіцца ў горадзе, часова займаючы пасаду губернатара вызваленай ад французкіх войскаў Гродзенскай губерні, адзначае: „*йсці зусім няма куды, гуляць брудна*"[21]. У сваім чарговым лісце да брата Аляксандра, датаваным 3 лістапада, К. Булгакаў паведамляе: „*я гуляю, калі няма лепшага занятку, за горадам, бо няма мажлівасці зрабіць і крок па нашых цудоўных вуліцах*"[22]. І хоць словазлучэнне „цудоўныя вуліцы" не ўзята ў лісце ў двукоссе, ёсць падстава лічыць, што Булгакаў іранізуе.

Брудным станам вуліц быў незадаволены не толькі Булгакаў, але і наступныя губернатары. У 1821 г., падчас вандроўкі па Гродзенскай губерні з мэтай „*агляду дзеянняў усіх [мясцовых] улад*" тагачасны губернатар Міхаіл Фадзеевіч Бутаўт-Андржэйковіч, наведваючы гарады губерні, у тым ліку Брэст-Літоўск, адзначаў: „*горад ня чысты, у шматлікіх месцах бруку зусім не маецца, а на вуліцах знаходзяцца вадою і брудам запоўненыя рытвіны*"[23].

Акрамя бруду і дажджавой вады, што збіраліся ў ямінах на цэнтральных артэрыях, вуліцы на ўскраіне гарадскіх выспаў і прадмесцяў напаўняліся вадой з ракі Мухавец, якой падтапляліся таксама і масты[24]. З гэтай гарадской праблемай спраўляліся па-рознаму. Так, у 1816 г. Брэст-Літоўскі памежны паштмайстар Канстанціновіч „*патраціў… уласных грошай 22 [р] срэбрам, для пракапання Вялікага Рва, пачынаючы ад паштовага дзяржаўнага будынку, да самага вусця ад ракі Мухаўца, дзе стаіць Кобрынскім званы Мост, а таксама праз гэты ж Канал зрабіў новы масток, як для пешаходцаў, так і праязджаючых*"[25]. Чыноўнік баяўся, што па вясне вуліца, што вяла да паштовага дома, магла быць

---

[21] Н. Александров, *Константин Булгаков и его письма из Брест-Литовска 1812 года*, „Брестский курьер" [Электронный ресурс], 2016, 20 ноября. Режим доступа: http://www. bk-brest. by/2016/11/konstantin_bulgakov_11_2016/ — Дата доступа: 10.01.2018.

[22] Тамсама.

[23] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 2232. *Предписания гродненского губернатора городским полициям, земским исправникам об улучшении планировки и санитарного состояния уездных городов, дорог, почтовых станций и др. Гродненской губерни (1821–1822 гг.)*, арк. 2, 39 адв.

[24] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 2680. *Ведомости уездных маршалов и земских исправников о поступлении земских повинностей по городам и уездам Гродненской губернии за 1822 г.*, арк. 83.

[25] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 943. *Прошение брестскаго пограничного почтмейстера гродненскому губернатору от 22 февраля 1817 г. о выдаче иму денег за рытьё канала от здания почты до устья реки Мухавец. Подлинник.*, арк. 1–1 адв.

затопленай, таму выкарыстаў уласныя грошы, каб не дапусціць з'яўлення вады ля сваёй установы. Патрачаныя сродкі Канстанціновіч планаваў вяртаць, спагнаўшы іх з Ратушы[26].

Варта адзначыць, што і на новым месцы, на вуліцах перанесенага горада, часта збіралася вада. Гэта звязана з няўдалым месцам, абраным пад стварэнне новага горада. Нават у канцы XIX ст., у пастанове Брэст-Літоўскай гарадской думы за 1898 г., карані тагачасных праблем добраўпарадкавання горада бачылі акурат у няўдалым месцы яго лакалізацыі: „*новы гор. Брэст, як пабудаваны ў нізкай, былой лясістай і балоцістай мясцовасці, … дагэтуль захаваў у сабе ў шмат якіх вуліцах значныя яміны стаячых водаў, утвараючых цэлыя азёры з рознымі гнілымі арганічнымі выкідамі, якія… могуць з'яўляцца крыніцамі заразных хваробаў*”[27]. Дзеля вырашэння праблемы затапляльнасці ў 1842 г. „*земляная паверхня вуліц была выраўнена*”[28], а ў 1859 г. праведзена асушэнне ўсяго Кобрынскага фарштата. На падрадныя работы па асушэнні гарадскі ўрад патраціў 2617 руб. 52 кап[29].

Актыўнае забруджванне Брэст-Літоўска адбывалася не толькі з-за рэльефа, але і з-за аграрнага характару беларускіх гарадоў канца XVIII — першай паловы XIX ст. Шмат жыхароў мелі сваю гаспадарку ў горадзе. Асабліва гэта тычылася гараджан з прадмесцяў. Нават у колішняй сталіцы Вільні ў тыя часы па вуліцах спакойна хадзілі каровы і свінні[30]. У такой сітуацыі не з'яўляецца дзіўным і тое, што на вуліцах Брэст-Літоўска акрамя вады ды іншых арганічных выкідаў знаходзіўся гной[31]. Першая вядомая нам спроба заканадаўча забараніць прысутнасць хатняй жывёлы на гарадскіх вуліцах з мэтай перадухілення іх моцнага забруджвання і фармавання гарадской эстэтычнай культуры датуецца 1845 г.[32] За парушэнне закона вінаваты падлягаў штрафу: за адну галаву буйной жывёлы — 10 кап., за дробную — 2. Пры паўторным парушэнні штраф павялічваўся ў 2 разы.

---

26 Тамсама.

27 НГАБ у Гродне, ф. 17, воп. 1, адз. зах. 39. *Копии постановлений Брестской городской думы за 1892 г.*, арк. 321 адв.

28 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 20, адз. зах. 673. *Сведения к годовому отчету Брестской городовой полиции [за 1842 г.]*, арк. 791–792 адв.

29 *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: в 25 т.*, Санкт-Петербург 1863, т. 5, ч. 2: *Гродненская губерния*, с. 703.

30 І. Яніцкая, *Вільня — горад кантрастаў. Выбраныя замалёўкі са штодзённага жыцця горада і яго жыхароў з 1795 г. да 40-х гг. XIX ст.*, „ARCHE-Пачатак”, 2017, № 2, с. 233–234.

31 НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 38, адз. зах. 164. *Об учреждении в г. Бресте должности квартального надзирателя для наблюдения за санитарным состоянием города. Протокол заседания гродненского губернского правления (1825 г.)*, арк. 1177 адв. — 1179.

32 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 12, адз. зах. 61. *Инструкции генерал-губернатора северо-западного края о порядке содержания частных домов (1845 г.)*, арк. 9 адв.; *Уложение о наказаниях уголовных и исправительных*, Санкт-Петербург 1845, с. 540.

Так ці інакш, у добраўпарадкаванні гарадоў былі задзейнічаны ўсе прадстаўнікі вышэйшай губернскай адміністрацыі. У канцылярыі генерал-губернатара мелася аддзяленне з асобным падраздзелам („*сталом*"), сярод шматлікіх спраў якога разглядаліся і пытанні ўпарадкавання, у тым ліку гарадскога[33]. Цывільныя губернатары, якія падпарадкоўваліся як вайсковым, так і генерал-губернатарам, былі праваднікамі законаў Сената, дублюючы загады апошняга, прадпісвалі іх выкананне па губернях. Цывільныя кіраўнікі губерняў пасля паездкі па даручанай ім тэрыторыі маглі загадваць гарадскому кіраўніцтву прыняць меры па паляпшэнні знешняга віду гарадоў. Нагодай выдаць загад, акрамя свайго ўласнага жадання і пастаноў Сената, маглі быць „парада" генерал-губернатара, выданне новага заканадаўчага зборніка, прыезд важнай асобы на тэрыторыю губерні і інш.

На мясцовым, лакальным узроўні добраўпарадкаваннем гарадоў займаўся адміністрацыйна-паліцэйскі апарат у асобе гараднічага і (або) паліцмайстра, квартальнага наглядчыка, соцкіх і дзясяцкіх. У кожнага былі свае кампетэнцыі ў справе ўпарадкавання. Гараднічы і (або) паліцмайстр, прадстаўнікі вышэйшай выканаўчай улады ў горадзе праз губернскае начальства з'яўляліся транслятарамі пастаноў, законаў і рэскрыптаў, выкананне якіх можна прасачыць у штогадовых справаздачах[34]. У падпарадкаванні паліцмайстра і (або) гараднічага меліся квартальны наглядчык, соцкія і дзясяцкія.

Соцкія і дзясяцкія — ніжэйшыя паліцэйскія службоўцы, прадстаўнікі выканаўчай улады, абраныя з жыхароў (ад 100–200 і 10–30 двароў адпаведна) або прызначаныя з адстаўных вайскоўцаў[35]. Упершыню ўзгадваюцца ў Брэст-Літоўску ў 1814 г., калі ў горадзе налічвалася 3 сотнікі і 20 дзясяцкіх[36]. У адрозненне ад гараднічага, які меў заробак 450 руб. срэбрам у год, пасады соцкіх і дзясяцкіх з'яўляліся натуральнай павіннасцю і не аплочваліся. Паводле іерархіі дзясяцкія падпарадкоўваліся соцкім, а соцкія — прыставу, паліцмайстру або гараднічаму. Дзясяцкія назіралі за чысцінёй горада і вады ў рэках, сачылі за выкананнем

33 И. Н. Трестьян, *Институт генерал-губернаторства на территории Беларуси (1825–1856 гг.)*, [в:] *Гуманитарные и социально-экономические проблемы современности: материалы междунар. науч.-практ. конф., Пенза, 25–26 апр. 2017 г.,* Пенза 2017, с. 194.

34 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 4, адз. зах. 35. *Дело о приходе и расходе денежных сумм по г. Бресту (1832 г.),* арк. 8; ф. 1, воп. 12, адз. зах. 61, арк. 21 адв.— 22.

35 П. Розенбах, *Сотский*, [в:] *Энциклопедический словарь: [в 86 т.]* / изд.: Ф. А. Брокгауз, И. А. Ефрон, Санкт-Петербург 1900, т. 30 а. (60), с. 943–944; *МВД России. Энциклопедия* / под ред. В. Ф. Некрасова, Москва 2002, с. 480–481.

36 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 624. *Правящего должность брестского городничаго рапорт за 1815 г.* На працягу вывучаемага перыяду колькасць службоўцаў змянялася.

супрацьпажарных мер, парадкам у час кірмашоў, адсочвалі і выяўлялі няшчасныя, крымінальныя ды іншыя здарэнні.

Па меры пашырэння прасторы горада ажыццяўленне паліцэйскіх функцый патрабавала дадатковага штату служачых. З гэтай прычыны ў 1825 г. гараднічы Брэст-Літоўска хадайнічаў перад губернскім праўленнем, каб у гарадскім апараце была ўтворана новая пасада квартальнага наглядчыка, асноўным абавязкам якога быў нагляд за парадкам і чысцінёй у асобным квартале горада. На гэтую пасаду гараднічым была прапанава кандыдатура адстаўнога вайскоўца з Валынскага ўланскага палка Івана Кулакова, які быў запрошаны ў Брэст-Літоўск і працаваў у горадзе ўжо некалькі месяцаў паводле дадзенай яму інструкцыі на „*паліцэйскай пасадзе*". За гэты час Кулакоў „*паказаў на досведзе дастатковую здольнасць і кемлівасць, цудоўны запал і старанасць у выкананні дадзеных яму даручэнняў і тым ня малую дапамогу зрабіўшы па прадмету ачышчэння вуліц і завулкаў ад бруду балот і гнояў, як таксама ж і ў прымушэнні мяшчан да брукавання*"[37]. Урэшце, праўленне ўхваліла кандыдатуру Кулакова, а той, у сваю чаргу, да прызначэння яго квартальным наглядчыкам, пагадзіўся быць часовым соцкім з аплатай у тры рублі срэбрам за месяц.

Як вынікае з дакумента, прадстаўленага вышэй, разам з усімі пералічанымі асобамі добраўпарадкаваннем вуліц мусілі займацца і самі жыхары, калі іх дамы не стаялі на гарадской зямлі. У адваротным выпадку брукаванне і ачыстка вуліц рабіліся за гарадскі кошт, а самі жыхары мусілі толькі „*насупраць свайго дому для спаду вады, па тры аршыны ў шырыню*" выбрукаваць[38].

Калі першапачаткова жыхары гарадоў толькі ўскосна спрычыняліся да добраўпарадкавання, што праяўлялася ў зборы гарадскога бруковага падатку яшчэ з часоў Вялікага Княства Літоўскага, то паступова яны пад пільным наглядам паліцыі павінны былі сачыць не толькі за сваімі падворкамі, але і за адрэзкамі вуліц, на якія выходзілі іх дамы, незалежна ад прыналежнасці зямлі. У адкрытую палеміку з паліцыяй у першай палове 1820-х гг. з прычыны наступу гарадской адміністрацыі на грамадзянскія правы жыхароў выступіў прыёр Аўгусцінскага кляштара Мартын Бірукевіч. Каталіцкі святар спасылаўся на прывілеі папярэдніх манархаў гораду, паводле якіх Брэст-Літоўск мусіў брукавацца Ратушай

[37] НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 38, адз. зах. 164, арк. 1177 адв.— 1179.

[38] НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 26, адз. зах. 271. *По жалобе настоятеля Брестского монастыря ксендзов-августинов Бирукевича Мартина на Брестскую городовую полицию за требование мощения прилегающей к монастырю улицы (1823 г.)*, арк. 15 адв.

з бруковага, маставога і гандлёвага даходаў[39]. Паліцыя і Ратуша тлумачылі новую сітуацыю па-свойму. Яны меркавалі, што жыхары мусілі рабіць перад сваімі дамамі не толькі стокі, выбрукоўваючы іх, але і брукаваць вуліцу да сярэдзіны. Аргументацыя абапіралася на асэсарскі дэкрэт ВКЛ 1771 г., згодна з якім „…*Магістрат Брэсцкі ex codet proventu з бруковага даходу, брук і ў Рынку Брэсцкім, а па вуліцах мяшчане і духоўныя ды свецкія ўладальнікі, кожны перад сваім домам і забудовай да паловы выкладвалі і направілялі*"[40]. Паліцыя апелявала да дванаццатага пункта прадпісання гродзенскага губернатара Міхаіла Фёдаравіча Бутаўт-Андржэйковіча, які фактычна паўтараў узгаданы дэкрэт. Урэшце, патэр Бірукевіч спрабаваў шукаць справядлівасці ў генерал-губернатара і нават імператара Аляксандра I, але яго прашэнні так і не далі плёну.

Паступова з'яўленне ў першай палове 1820-х гг. прамых абавязкаў гараджан па добраўпарадкаванні стала натуральнай практыкай. Так, у 1821 г. магістрат атрымаў загад Сената, у якім паведамлялася, што кіраўніцтва ўсіх гарадоў і іншых паселішчаў, праз якія праходзілі буйныя дарогі юрысдыкцыі Галоўнага праўлення шляхоў зносін Расійскай імперыі, павінна было асаблівым чынам пільнаваць стан скразных або праезных вуліц. Дзеля выканання пастаўленай задачы былі створаны асобныя правілы. Паводле артыкулаў дадзенага дакумента, штогадовы рамонт скразных вуліц павінен быў ажыццяўляцца на сродкі Галоўнага праўлення шляхоў зносін, тады як ачыстка рабілася абавязкам жыхароў горада і яго кіраўніцтва. Кожны гаспадар, што жыў на скразной вуліцы, павінен быў да сярэдзіны дарогі ўздоўж свайго плаца падмятаць вуліцу ва ўсялякую пару (акрамя зімы). Для гэтага адводзіліся асобныя дні: кожныя серада і субота[41]. У снежную пару жыхары павінны былі адкідаць сумёты і расчышчаць дарогу, калі снег замінаў дарожнаму руху.

Калі жыхары не мелі магчымасці ці часу ўдзельнічаць у прызначаных урадам мерапрыемствах, то з сярэдзіны 1840-х гг. яны павінны былі абіраць са сваіх падначаленых ці наймаць асобу для гэтых спраў. Чалавек ад гаспадара, які займаўся выкананнем такіх абавязкаў, называўся дворнікам. Апроч дагляду падворка і часткі вуліцы, замацаванай за гаспадаром, на дворніка ўскладаліся паліцэйскія і пажарныя функцыі. Ён павінен быў адсочваць прыезжых людзей у доме гаспадара, правяраць

[39] Тамсама, арк. 15 адв.

[40] Тамсама, арк. 20 адв.

[41] НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 3, адз. зах. 132. *Дело по указу Сената о порядке содержания улиц в городах и селениях, лежащих на больших дорогах (1820–1821 гг.),* арк. 36–37 адв.

іх дакументы, у выпадку праблем мусіў даносіць у паліцыю, а таксама павінен быў выходзіць, паводле чаргі сярод жыхароў дамоў вуліцы ці раёна, у начную варту ад свайго раёна, пільнуючы пажары і крымінальныя здарэнні ў цёмны час сутак[42].

Што тычыцца брукавання як меры па ўпарадкаванні вуліц, то яно ўжывалася яшчэ з XVI ст. Знаўца гарадскіх прывілеяў беларускім гарадам на Магдэбургскае права Сяргей Стрэнкоўскі падае самую першую ўзгадку брукавання вуліц Брэст-Літоўска. Паводле прывілея Стэфана Баторыя за 1580 г., кароль і вялікі князь дазволіў спаганяць з купцоў маставое мыта „*па прычыне вялікіх выдаткаў на рамонт мастоў на рэках, а таксама на брукаванне горада*"[43].

Варта адзначыць, што паляпшэнне стану вуліц адбывалася не толькі праз брукаванне. Каштоўны дакумент пад назвай „*Камеральная ведамасць аб павіннасцях спаганяемых грашыма і натураю Літоўска-Гродзенскай губерні па горадзе Брэсту Літоўскаму*"[44] за 1822 г. утрымлівае інфармацыю аб трох тыпах рамонту вуліц, а менавіта: 1) падсыпка (прывоз пяску для засыпання рытвін і выраўноўванне вуліцы пад адзін узровень); 2) утрамбоўванне палотнішча вуліцы/дарогі (прывоз для гэтай мэты звязаных скруткаў галля („фашинника") з паслядоўным насыпаннем пяску; 3) арганізацыя належнага вулічнага пакрыцця — брукаванне вуліц каменнямі або цэглай[45].

Узгаданыя вышэй тыпы рамантавання або наладжвання дарог і вуліц не заўсёды выконваліся ў поўным аб'ёме. Так, напрыклад, наладжванне „*гарадскіх артэрый*" магло абмежавацца толькі падсыпкай пяску[46]. Акрамя таго, маглі весціся не толькі работы па стварэнні новага пакрыцця, але і замена старога. Так, у Брэст-Літоўску, напярэдадні прыезду ў горад цэсарэвіча Канстанціна Паўлавіча стары брук з галоўнага пляца быў абноўлены новым[47]. Да прыезду вялікай асобы паскоранымі тэмпамі ды ў вялікім маштабе абнаўляліся і вуліцы горада, якія падсыпаліся і брукаваліся. Нягледзячы на тое, што адзіным матэрыялам для брукавання з'яўляўся камень, падчас падрыхтоўкі да прыезду цэсарэвіча

42 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 12, адз. зах. 61, арк. 4–4 адв., 8, 20 адв.

43 С. П. Стрэнкоўскі, *Прывілеі Бярэсця як прававая аснова яго самакіравання ў XIV—XVIII стст.*, „Веснік Брэсцкага ўніверсітэта. Серыя 2. Гісторыя. Эканоміка. Права", 2013, № 1, с. 40.

44 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 2680, арк. 82–83.

45 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 19, адз. зах. 1299. *Отчеты о состоянии городов губернии за 1836 г.*, арк. 24; ф. 1, воп. 20, адз. зах. 3. *Отчеты о состоянии городов губернии за 1839 г.*, арк. 15; ф. 1, воп. 1, адз. зах. 2680, арк. 82.

46 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 2680, арк. 82–83.

47 Тамсама.

была выкарыстана і цэгла з фарнага касцёла „*для высцілання дарогі па Валынскаму тракту, у вуліцы горада*"[48]. Трэба адзначыць, што цэгла не была ўзята гарадскімі ўладамі самавольна, а, паводле архіўнага дакумента, набывалася, відаць, у каталіцкай кансісторыі.

Акрамя прыезду ў горад прадстаўнікоў вышэйшай імперскай іерархіі грунтоўнаму ачышчэнню вуліц Брэст-Літоўска ў гэты перыяд спрыялі правядзенне Брэст-Літоўскай шашы (1825 г.)[49], а таксама эпідэмія халеры (1831 г.). Падчас эпідэміі горад быў пераведзены ў надзвычайнае становішча, а вуліцы, што выходзілі на рынак, ачышчаліся штодзень паводле правіл надзвычайнай санітарнай бяспекі[50].

Можна дапусціць, што згаданыя вышэй актыўныя дзеянні ў першай палове 1820-х — першай палове 1830-х гг. палепшылі агульную санітарную сітуацыю ў горадзе. Упершыню за шматлікія гады стан вуліц пачаў ацэньвацца як здавальняючы. Аўтар медыка-тапаграфічных заўваг М. Я. Чарнабаеў занатаваў, што „*вуліцы высцелены каменным брукам,… утрымліваюцца даволі чыста*"[51].

Але той жа Чарнабаеў трапна заўважае, што там, дзе бруку няма, асабліва восенню, лепш не хадзіць, тым самым гаворачы, што гарадскі бруд нікуды не знік, а фактычна перайшоў з цэнтра горада на яго прадмесці „ *…на прадмесцях, куды брук не сягае, бруд увесну і восенню ўскладняе дарогу для пешаходцаў*"[52]. На жаль, нам невядомыя суадносіны цэнтральных і ўскраінных вуліц горада ў працэнтах, але архіўныя даныя гэтага перыяду дапаўняюць словы аўтара наступнай інфармацыяй. Паводле статыстыкі за 1836 г., у горадзе на той час значылася 86 вуліц і завулкаў, сярод якіх брукаваная была 21 (24 %)[53]. Не змяняецца сітуацыя і ў 1839 г., справаздача даносіць тыя ж самыя лічбы і за гэты год[54]. Як бачым, на працягу ўсёй другой паловы 1830-х гг. ад агульнай колькасці вуліц Брэст-Літоўска была забрукавана толькі чацвёртая частка. Такім чынам, статыстыка паказвае пэўную стабільнасць у суадносінах добраўпарадкаваных і нядобраўпарадкаваных вуліц, дзе апошніх больш у 3 разы. Варта зазначыць, што такая стабільнасць

[48] Тамсама, арк. 82.

[49] І. Лаўроўская, *Дар архітэктара Якуба Кубіцкага.* [Электроны рэсурс].— Рэжым доступу: http://euimedia.com/menu/aktualii-1/dar-arkhitektara-iakuba-kubitskagha.— Дата доступу: 14.01.2018.

[50] Н. Я. Чернобаев, *Медико-топографические замечания о городе Бресте-Литовском,* „Военно-медицинский журнал", 1835, ч. XXV/1, с. 27; НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 4, адз. зах. 35, арк. 22 адв.

[51] Н. Я. Чернобаев, *Медико-топографические замечания о городе Бресте-Литовском*, с. 7.

[52] Тамсама.

[53] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 19, адз. зах. 1299, арк. 24.

[54] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 20, адз. зах. 3, арк. 13.

назіраецца з канца XVIII ст., калі яшчэ К. Фаерабэнд адзначаў, што вуліцы горада пераважна небрукаваныя[55].

Паступова, з цягам часу сталі нараджацца гарадскі стыль, парадак і традыцыі ўладкавання. Эстэтыка Брэст-Літоўска праяўлялася ў нешматлікіх рысах, але тым не менш у першай палове XIX ст. яе асноўныя напрамкі ўжо вымалёўваліся. Напэўна, асноўным відам эстэтычнага ўпарадкавання і ўпрыгожвання гарадоў тых часоў з’яўлялася азеляненне.

На вялікі жаль, мы не маем звестак пра наяўнасць расліннага аздаблення Брэст-Літоўска XVIII ст. Матэрыялы візітацый культавых комплексаў даносяць звесткі толькі пра тагачасныя сады, якія меліся на падворках кляштараў і былі прызначаны не для шпацыраў і адпачынку, а перш за ўсё для выкарыстання касцёльнай гаспадаркай[56]. Свае сады мелі не толькі буйныя культавыя комплексы, але і звычайныя жыхары, для большасці якіх валоданне гародамі і садамі ў горадзе з’яўлялася крыніцай дадатковага, а можа і асноўнага харчавання. Гэтая тэндэнцыя чарговы раз падкрэслівае тагачасны аграрны характар беларускіх гарадоў. Пазней, пры перасяленні жыхароў горада, які знішчаўся, на новыя фарштаты, расійскія ўраднікі і далей намагаліся даваць насельнікам паболей месца для гародаў. Сады, як грамадскія, так і прыватныя, былі ў горадзе і ў першай палове XIX ст[57]. У 1830-ыя гг. у старым горадзе сады існавалі толькі ў кляштарных комплексах, прыватныя ж знаходзіліся на Валынскім фарштаце[58].

Што тычыцца прысутнасці зеляніны на гарадскіх вуліцах у XVIII ст, то пра гэта мы не вядаем нічога, што дае падставу лічыць, што ў горадзе над Бугам у тыя часы не было вулічнага азелянення. Пра гэта ўскосна сведчыць гаротны стан горада, для кіраўніцтва якога азеляненне паселішча не было першаснай задачай. Такую раскошу маглі сабе дазволіць толькі заможныя і буйныя гарады рэгіёна, да якіх належаў тагачасны Гданьск[59].

Першыя дакументальныя згадкі пра меры па азеляненні Брэст-Літоўска паходзяць з 1821 г. У тыя часы гандлёвая плошча, што знаходзілася ў цэнтры горада, была абсаджана па перыметры дрэвамі, частка з якіх не прынялася, а таму, у кантэксце падрыхтоўчых перад прыездам расейскага

55 А. Мальдзіс, В. Грыцкевіч, *Шляхі вялі праз Беларусь: Нарыс,* Мінск 1980, с. 69.

56 *Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa brzeskolitewskiego*, Kraków 2013, cz. V, t. 1, s. 39.

57 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 19, адз. зах. 1299, арк. 24; ф. 1, воп. 20, адз. зах. 3, арк. 12–24.

58 Н. Я. Чернобаев, *Медико-топографические замечания о городе Бресте-Литовском*, с. 6.

59 Т. Казакова, *„Дыярыуш” Тэафіліі Канстанцыі Мараўскай у святле ідэалаў Асветніцтва,* [у:] *Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: Навуковы зборнік*, Мінск 2008, с. 45.

цэсарэвіча Канстанціна Паўлавіча мер, высадка была зроблена паўторна. Рынак абсадзілі таполямі, а ля брамы, што вяла ў закрытую дрэвамі прастору, былі высаджаны вяргіні. Сама прастора ўнутры была прыбрана і пасыпана пяском[60]. Лакалізацыю і функцыянальнасць новаўтворанага месца адпачынку пацвярджаюць планы 1823 і 1824 гг. Акружаны дрэвамі прастакутнік у картаграфічных крыніцах праходзіць як бульвар, што адлюстроўвае сапраўднае яго прызначэнне — месца для шпацыраў і адпачынку. У першай палове 1830-х гг. пасаджаныя ў мінулым дзесяцігоддзі дрэвы бульварнай плошчы былі ўжо высокімі, а на самой тэрыторыі стала чыста і прыстойна. Гэтае месца лічылася найпапулярнейшым аб'ектам у горадзе. Акрамя ранішняга разводу войскаў у летні вячэрні час тут можна было спаткаць значную колькасць асоб з „*вышэйшага свету*". Збяднелы люд бавіў вольны час у шынках і корчмах горада[61].

Плошча з'ўлялася адзіным месцам у горадзе, дзе прысутнічалі адмыслова высаджаная насаджэнні. Вуліцы старога горада не былі абсаджаны дрэвамі[62]. Дрэвы раслі толькі ўздоўж галоўных дарог, што вялі ў горад[63].

У канцы 1830-х гг. у звароце да мястэчковага і гарадскога кіраўніцтва гродзенскі губернатар Рыгор Гаўрылавіч Допельмаер прасіў звярнуць асаблівую ўвагу на карысную ролю азелянення паселішчаў. Кіраўнік губерні дрэвы ў гарадах лічыў патрэбнымі дзеля супрацьпажарнай бяспекі, а толькі потым прызнаваў іх эстэтычную каштоўнасць. Раючы мясцоваму начальству высаджваць дрэвы ў паселішчах, Допельмаер спасылаецца на вусны загад Літоўскага генерал-губернатара Мікалая Андрэевіча Далгарукава. У дакуменце прыводзяцца наступныя парады адносна высадкі зеляніны ў гарадах: 1) па лініях вуліц пажадана саджаць таполі, каштаны і грабы, а паміж дамоў, асабліва ў нізкіх і вільготных месцах, — белую іву; 2) ажыццяўленне належнай высадкі дрэваў і наступнага за імі догляду (з дастатковым у памерах карэннем, у адпаведную пару года, з ахоўвай ад пашкоджання хатняй жывёлай); 3) рэалізацыя высадкі дрэваў мае быць паступовай і без прымусу (заахвочванне жыхароў карысцю ад дадзеных мерапрыемстваў, дапамога ўсім, хто выявіў жаданне ўдзельнічаць у азеляненні)[64].

60 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 2680, арк. 80–80 адв.
61 Н. Я. Чернобаев, *Медико-топографические замечания о городе Бресте-Литовском*, с. 7, 18–19.
62 Тамсама, с. 7.
63 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 2680, арк. 83.
64 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 4, адз. зах. 782. *Предписание гродненского губернатора о посадке деревьев в городах и селениях вдоль улиц и между строений для уменьшения пожаров (1838 г.)*, арк. 1–2.

Трэба адзначыць, што дадзены загад даў плён, бо ў тым жа годзе паліцмайстр паведамляў, што *„здзейснена была высадка дрэваў жыхарамі пры дамах на фарштатах, якія зноў будуюцца пры горадзе Брэсце ў цяперашнюю восень* (1838 г.— А. А.)*… на Кобрынскім 460 і Валынскім фарштатах 158 штук дрэваў, акрамя тых, што засталіся з леташняй высадкі”*[65]. У справаздачы начальнік паліцыі падкрэсліваў і тое, што пасадка дрэваў была выканана па ўсіх *„пажаданнях”* губернатара. Высадка дрэваў на фарштатах працягвалася і ў 1842 г.[66]

Акрамя зеляніны на выгляд горада ў тыя часы ўплываў матэрыял, правілы забудовы, нагляд і ініцыятыва аздаблення дамоў жыхарамі. Большасць дамоў у горадзе была драўлянай, мураваных значылася няшмат. Аднапавярховыя (двухпавярховымі былі толькі некаторыя камяніцы), маленькія і старыя, яны былі пакрыты гонтам, зрэдку дахоўкай, хлявы і іншыя гаспадарчыя пабудовы крыліся саломай[67].

Што тычыцца колеру будынкаў, то ў тыя часы заканадаўчага акта, які б рэгламентаваў і вызначаў фарбы, якімі трэба пакрываць дамы, не было. Менавіта таму аўтар медыка-тапаграфічных заўваг Чарнабаеў у першай палове 1830-х гг. адзначае, што дамы Брэст-Літоўска пакрыты разнастайнымі фарбамі. Белымі выглядалі толькі коміны будынкаў, колер якіх сведчыў аб дагледжанасці дымаходаў, пра што неаднойчы жыхарам нагадвала паліцыя[68]. Разам з тым нам вядома канкрэтная колеравая гама некаторых грамадска-адміністрацыйных будынкаў тых часоў. Напрыклад, новы хлеў пад пажарны інвентар, узведзены ў першай палове 1820-х гг. на заходнім баку рынка, выглядаў наступным чынам: сцены жоўтага, калоны і карнізы белага, дах чырвонага, а брама — шэрага колеру. Выкарыстоўваліся алейныя фарбы[69].

Спыняў каляровую стракатасць і разнастайнасць дамоў у горадзе 1368-ы артыкул *„Уложения о наказаниях уголовных и исправительных”* 1845 г., які хутка знайшоў прымяненне і ў Гродзенскай губерні[70]. Паводле дадзенага артыкула жыхарам горада *„забаранялася мець… пачварна… стракатыя дамы ў горадзе, або фарбаваць іх не ў тыя*

---

65 Тамсама, арк. 3–3адв.

66 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 20, адз. зах. 673, арк. 791–792 адв.

67 Н. Я. Чернобаев, *Медико-топографические замечания о городе Бресте-Литовском*, с. 5–6.

68 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 12, адз. зах. 61, арк. 17–17 адв.

69 НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 26, адз. зах. 272. *О строительстве пожарной в г. Бресте на средства городских доходов (1823–1824 гг.)*, арк. 5–5 адв.

70 *Уложение о наказаниях уголовных и исправительных*, Санкт-Петербург 1845, с. 557–558; НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 12, адз. зах. 61, арк. 16 адв.

*колеры, якія для гэтага прадпісаны*"[71]. Тыя з жыхароў, якія ўжо мелі дамы неадпаведнага колеру, мусілі перафарбоўваць сваё жытло. Адказнасць за непадпарадкаванне вызначалася грашовым штрафам ад 5 да 10 рублёў.

У першую чаргу афарбоўцы падлягалі будынкі, што фасадамі выходзілі на вуліцу. Акрамя дамоў упрыгожванню ў фарбах падлягалі таксама платы. Дакумент 1842 г. паведамляе пра гэта наступнае: „*франтавыя дамы… пафарбаваны, і платы пры іх з усялякім упрыгожваннем для лепшай прыстойнасці зроблены*"[72]. Фарбаваліся і гарадскія асвятляльныя прылады — ліхтары. Так, новыя ліхтары, якія меркавалася ўсталяваць у сярэдзіне XIX ст. на фарштатах Брэст-Літоўска, планавалася пафарбаваць у вайсковы (драўляныя слупы) і „*дзікі*" (пастаменты для жалезных ліхтарняў) колеры[73].

Правільнасць планіровачнай сеткі і ўпарадкаванасць забудовы ў выглядзе будаўніцтва тыповых і ўзорных, зацверджаных праектамі дамоў з часоў перасялення, а таксама афарбоўка іх у адзін колер (асноўным колерам будынкаў у горадзе з сярэдзіны XIX ст. становіцца жоўты) спрыялі выпрацоўцы новага, так бы мовіць, карпаратыўнага гарадскога стылю Брэст-Літоўска. Нягледзячы на гэта, новы стыль не выклікаў захаплення ў сучаснікаў, па словах якіх горад меў „*пануры і нудны выгляд*"[74].

Такім чынам, вуліцы Брэст-Літоўска канца XVIII — пачатку XIX ст. знаходзіліся ў нездавальняючым стане, што стварала нязручнасці як самім жыхарам, так і праезжым. Сітуацыя ў лепшы бок пачынае змяняцца ў першай палове 1830-х гг., дзякуючы падрыхтоўцы да прыезду высокапастаўленых асоб, знаходжанню Брэст-Літоўска на буйной дарозе Масква-Вена, а таксама санітарным мерам, накіраваным на прадухіленне распаўсюджвання эпідэміі халеры. У горадзе выкарыстоўваліся тры тыпы наладжвання дарог: падсыпка, утрамбоўванне палотнішча вуліцы/дарогі і арганізацыя належнага вулічнага пакрыцця. Брукаваць вуліцы ў Брэст-Літоўску пачалі яшчэ з XVI ст. Асноўным матэрыялам быў камень, часам цэгла. На працягу перыяду з канца XVIII — першай паловы XIX ст. большасць вуліц горада заставалася без бруку.

Азеляненне ў выглядзе садоў і гародаў прысутнічала ў Брэст-Літоўску ўжо ў XVIII ст. Адмыслова высаджаныя дрэвы ў старым

71 Тамсама, арк. 16 адв.

72 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 20, адз. зах. 673, арк. 791–792 адв.

73 НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 34, адз. зах. 2092. *Дело о проведении уличного освещения в г. Бресте (1850–1858 гг.)*, арк. 6–6 адв.

74 *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: в 25 т.*, Санкт-Петербург 1863, т. 5, ч. 2: *Гродненская губерния*, с. 740.

горадзе былі выключна на галоўнай плошчы, а на вуліцах яны з'явіліся толькі на новаўзведзеных фарштатах. Знешні выгляд вуліц вызначаўся дабрабытам жыхароў. Пераважная большасць дамоў была драўлянай і належала прадстаўнікам збяднелай часткі насельніцтва. Першапачаткова будынкі горада фарбаваліся рознымі фарбамі, але ў сярэдзіне XIX ст. агульнапрынятым колерам дамоў стаў жоўты.

## Дадатак 1

### Мураваная забудова Брэст-Літоўска ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. *

| Год | 1797 | 1817 | 1825 | 1836 | 1842 | 1860 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць і працэнт мураваных дамоў ад агульнага ліку: | 10 (1, 66 %) | 17 (3, 67 %) | 34 (6,26 %) | 41 (8,31 %)** | 48 (6, 97 %) *** | 51 (6, 92 %) **** |
| **Усе дамы:** | 602 | 463 | 543 | 493 | 688 | 736 |

* — пры складанні табліцы не былі ўлічаны: культавыя і скарбовыя (адміністрацыйна-паліцэйскія) будынкі, крамы, навучальныя і дабрачынныя ўстановы, фабрыкі і заводы, корчмы і шынкі, лазні.

** — даныя за гэты год адлюстроўваюць сумму дамоў старога, яшчэ не перанесенага горада (417 драўляных і 41 мураваны) і новаўтвораных Кобрынскага і Валынскага фарштатаў (76 драўляных).

*** — даныя за гэты год адлюстроўваюць суму дамоў старога, яшчэ не перанесенага горада (201 драўляных і 39 мураваных) і новаўтвораных Кобрынскага і Валынскага фарштатаў (487 драўляных і 9 мураваных).

**** — даныя за гэты год не адбіраліся па крытэрах складаемай табліцы

Крыніцы: *Белоруссия в эпоху феодализма,* Минск 1961, т. 3, с. 96–97; J. E. Lachnicki, *Statystyka gubernii Litewsko-Grodzieńskiey,* Wilno 1817, s. 37; *Статистическое изображение городов и посадов Российской империи по 1825 год* / Составленное из официальных сведений под руководством директора Департамента полиции исполнительной, тайного советника Штера, Санкт-Петербург 1829, с. 8–9; НГАБ у Гродна, ф. 1, ап. 19, адз. зах. 1299. *Отчеты о состоянии городов губернии за 1836 г.,* арк. 25–25 адв; НГАБ у Гродне, ф. 1, ап. 20, адз. зах. 673. *Сведения к годовому отчету Брестской городовой полиции за 1842 г.,* арк. 369; *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: в 25 т.*, Санкт-Петербург 1863, т. 5, ч. 2: *Гродненская губерния*, с. 841.

## Streszczenie

Anton Arciuch, *Ulice miasta Brześcia Litewskiego: stan, utrzymanie i etetyka w końcu XVIII — I poł. XIX w.*

W artykule na podstawie materiałów archiwalnych i kartograficznych zaprezentowano procesy urbanistycznych zmian zachodzących w Brześciu w pierwszym dziesięcioleciu jego przynależności do Imperium Rosyjskiego. Początkowo nowe władze planowały zrealizować w mieście koncepcję klasycystyczną na wzór Sankt Petersburga, co oznaczało wyprostowanie średniowiecznych ulic i podział dzielnic na geometryczne figury: kwadraty i prostokąty. Prawdziwą klęską dla miasta były lata 30. i 40. XIX w., kiedy carskie władze wojskowe chcąc wykorzystać, ukształtowane przez przyrodę, jego niezwykle korzystne strategiczne położenie zdecydowały o wzniesieniu na obszarze miasta twierdzy pierwszej kategorii. Stopniowo, po rozpoczęciu prac ziemnych w 1833 r., architektoniczne dominanty Brześcia Litewskiego — budynki kościelne zostały przystosowane na potrzeby twierdzy, zaś domy mieszkalne były dewastowane i wyburzane. W ciągu dwudziestu lat powstało w istocie nowe miasto w nowym miejscu i na zasadach oraz prawach obowiązujących w Cesarstwie Rosyjskim.

Brześć był miastem z przewagą zabudowy drewnianej, co wpływało na stan ulic i politykę ich utrzymania. Jednym z ważniejszych elementów efektywnej walki z brudem i wilgocią było ich brukowanie. W I poł. XIX w. pojawiają się pierwsze przejawy dbałości estetykę miejską Brześcia Litewskiego. Podstawowym sposobem dbałości o estetykę i piękno miasta w tamtych czasach było tworzenie terenów zielonych. Ponadto na wygląd miasta wpływały bogactwo, materiały i reguły zabudowy, nadzór oraz inicjatywy ozdabiania domów przez mieszkańców. Początkowo budynki w mieście malowano różnymi farbami, jednak w połowie XIX w. ogólno przyjętym kolorem stał się żółty.

## Abstract

Anton Artsiukh, *The Streets of Brest-Litovsk: Conditions, Maintenance and Aesthetics at the Turn of the 19th Century*

This article is based on archival and map research and presents processes of urban changes that took place in Brest in the first decade of its belonging to the Russian Empire. Initially, new city authorities planned to implement the idea of classicism typical of Saint Petersburg, which meant the necessity to

simplify the net of medieval streets and divide the city districts into geometrical shapes, mainly squares and rectangles. The city experienced a real catastrophe in the 30s and 40s of the 19$^{th}$ century, when the imperial military leadership, willing to use the city's natural and strategically beneficial location, decided to erect a first-class defensive fortress. After the construction works had begun in 1833, the architectural dominants of Brest, i.e. church buildings, were gradually being transformed to accommodate the fortress, whereas houses were being damaged and pulled down. Within the period of twenty years there was a practically new city erected in a new location, functioning in accordance with the rules of the Russian Empire.

Brest was a city of predominantly wooden architecture, which influenced the condition and maintenance of streets. One of the means to effectively fight dirt and moisture was paving. In the first half of the 19$^{th}$ century there were first signs of a growing awareness of the aesthetic value of the city. Establishing gardens and parks was a basic way of preserving the aesthetic beauty of the city at that time. Additionally, the appeal of the city was enhanced by a wide variety of buildings and used materials as well as urban rules, construction supervision guidelines and the local initiative of city dwellers to ornament their houses. At first, buildings in the city would be painted different colours, but around the middle of the 19$^{th}$ century yellow became the generally accepted colour.

**Maxim Rust**
**(Warszawa)**

# Narracja współczesnych elit rządzących i kontrelit wobec Białoruskiej Republiki Ludowej jako źródła białoruskiej niepodległości

Cechą charakterystyczną dla społeczeństw większości republik poradzieckich była nagła potrzeba wypracowania własnej, już nie radzieckiej, lecz narodowej polityki historycznej. W odróżnieniu od sąsiadów, polityka historyczna i kultura pamięci miała dla Białorusinów jeszcze jeden bardzo istotny cel — wytworzenie wspólnej tożsamości narodowej i państwowej niepodległego kraju. Jednym z najważniejszych elementów tego procesu było uświadomienie źródeł własnej państwowości i niepodległości. Jednak po ponad ćwierćwieczu od uzyskania niepodległości, na Białorusi nie wykrystalizowała się ani wspólna polityka historyczna, ani tożsamość narodowa. Tak charakterystyczna dla transformujących się poradzieckich społeczeństw fragmentaryzacja pamięci historycznej oraz spory o charakterze ideologicznym i politycznym w tej dziedzinie, nadal stanowią sedno polityki historycznej współczesnej Białorusi. Celem artykułu jest przybliżenie tego, jak kształtowała się białoruska polityka historyczna w kontekście zrozumienia własnej państwowości na przykładzie narracji zarówno elity rządzącej, jak i kontrelit, w odniesieniu do politycznej i kulturowo-historycznej spuścizny Białoruskiej Republiki Ludowej.

## Trzy główne narracje historyczne

Po upadku Związku Socjalistycznych Republik Radzieckich próby wytworzenia polityki historycznej, rozumianej jako wyobrażenia przeszłości (i często rozliczenie się z nią) potwierdzające zbiorową tożsamość członków społeczeństwa poprzez stworzenie wspólnej historii[1], podjęto również na Białorusi. Obecnie w białoruskiej historiografii można wyróżnić trzy główne, często rywalizujące ze sobą, dyskursy, które wpływają na kształt polityki historycznej. Przedstawiciele każdego z dyskursów maja swoją wizję historii

[1] Na podstawie: T. Zhurzhenko, *Generational Memory and the Post-Soviet Welfare State*, [w:] J. Fedor, M. Kangaspuro, J. Lasilla, T. Zhurzhenko (red.), *War and Memory in Russia, Ukraine and Belarus*, Palgrave Macmillan 2017, s. 258–261.

*кіраўніка (рэйхсляйтара) Розенберга для акупаваных усходніх абласцей, г. Берлін, г. Кіеў"*), які складаецца са 107 спраў першага вопісу фонда. На дакуменце маецца штамп уваходнага дакумента з датай *„28.5.1943"*. Таксама пазначана, што дакумент быў зарэгістраваны пад нумарам 6246 і паступіў у Галоўны аддзел II упраўлення штаба, які па стане на 1943 г. адказваў за апрацоўку ўсіх інфармацыйных матэрыялаў, якія паступалі ва Упраўленне штаба.

## ДАКУМЕНТ

Аператыўны штаб рэйхсляйтара Розенберга для акупаваных тэрыторый
Галоўная рабочая група „Цэнтр"
Рабочая група „Беларусь"

6343/714[18]

Арыгінал — Кіраўніцтву штаба ў Берліне[19]

1. Копія — Кіраўніцтву штаба ў Берліне
2. Копія — у Галоўную рабочую групу „Цэнтр"
3. Копія — Рабочай групе „Беларусь"

Справаздача пра паездку ў Прагу др. Рыхеля з 27.05 па 12.5.1943[20]
Аўтар: др. А. Рыхель
Крыніца: —
Перакладчык: —
Машыніст: Й. Зандэр
Аб'ём: 11

[18] Устаўка алоўкам — гэта тэматычны шыфр, дадзены справаздачы д-ра Рыхеля ў архіве Упраўлення штаба ў Берліне. Гэты шыфр змяшчае ўказанне на геаграфічную прыкмету і тэматычную галіну працы.

[19] Дакумент, які публікуецца, з'яўляецца арыгіналам, накіраваным ва Упраўленне штаба ў Берліне.

[20] Там сапраўды такія даты.

Дадаткі: —

Кіраўнік Рабочай групы (подпіс)
оберайнзацфюрар Грайнкэ

Мінск, 15 мая 1943
Др. Ры[21]. / За.

Справаздача пра паездку ў Прагу др. Рыхеля з 27.04. па 12.5.1943

Мэта паездкі:

Даследаванне, захаванне і забеспячэнне архіўнай спадчыны былога прэзідэнта Беларускай Народнай Рэспублікі за 1917–1926 гг. Пятра Крачэўскага[22] і яго прэм'ер-міністра В. І. Захаркі[23], які памёр у Празе 14 сакавіка 1943 г., для палітычна-гістарычнага выкарыстання і ацэнкі для новай Беларусі ў Мінску.

Нагода для паездкі:

Просьба кіраўніка Палітычнага аддзела Генеральнага камісарыята „Беларусь" др. Лангера да Рабочай групы „Мінск" Аператыўнага штаба рэйхсляйтара Розенберга аб прафесійнай кансультацыі і абследаванні гэтай пакінутай у Празе пасля смерці Захаркі на волю лёсу каштоўнай палітыка-гістарычнай культурнай спадчыны Беларусі.

Паездка з Мінска ў Прагу ажыццяўлялася 27.4.1943 праз Ваўкавыск, Варшаву і Берлін. Гэта выклікана перадусім практычнай неабходнасцю, таму што дало магчымасць атрымаць у Кіраўніцтве штаба дакладны загад адносна нагоды і мэты паездкі. Гэта адбылося ў чацвер, 29 красавіка, пасля абеда, калі я выпадкова сустрэў у Кіраўніцтве штаба др. Вілля[24], др. Вундэра[25], партайгеносэ Лангкопфа[26] і Хэльбінга і адмыслова далажыў

21 Др. Рыхель.

22 З 13.12.1919 г. і да сваёй смерці ў 1928 г. Пётр Крачэўскі быў старшынёй Рады БНР.

23 З 13.12.1919 г. Васіль Захарка быў намеснікам старшыні Рады БНР. З 8.3.1928 г. — Прэзідэнтам Рады БНР.

24 Герберт Вілль (Herbert Will) — кіраўнік сектара „Усход" ва Упраўленні штаба ў Берліне. Гэты сектар займаўся апрацоўкай інфармацыйных і аналітычных матэрыялаў, перадусім ідэалагічнага зместу, якія паступілі з акупаванай тэрыторыі СССР.

25 Вундер Ґерхард (Wunder Gerhard) (1908–1988) — бібліятэкар, меў ступень доктара філасофіі, член НСДАП. Займаўся таксама гістарычным краязнаўствам, сацыяльнай гісторыяй. З 1935 г.— кіраўнік бібліятэкі горада Дзюсельдорфа. У 1940–1941 гг. займаўся вывучэннем бібліятэчных пытанняў пры падраздзяленні Аператыўнага штаба ў Парыжы, з кастрычніка 1941 г. па жнівень 1942 г. узначальваў Галоўную рабочую групу „Остланд" (дзейнасць якой да мая 1943 г. пашыралася і на Беларусь, пакуль з яе складу не была вылучана асобная Галоўная рабочая група „Цэнтр"). Пазней працаваў ва Упраўленні штаба ў Берліне, дзе курыраваў пытанні, звязаныя з ідэалагічнай апрацоўкай канфіскаваных Аператыўным штабам матэрыялаў (аддзел „Улік і кантроль"). У другой палове 1943 г. пераехаў разам са сваім аддзелам у Рацібор (суч. Рацібуж), дзе працягнуў працу. У 1945 г. быў інтэрнаваны.

26 Герман Лангкопф (Hermann Langkopf) — па стане на май 1943 г. кіраўнік Галоўнай рабочай групы „Цэнтр", адначасова кіраўнік аддзела Упраўлення штаба, які адказваў за справаздачнасць, займаўся ўлікам і ўпарадкаваннем данясенняў супрацоўнікаў Аператыўнага штаба, якія паступалі ў Берлін з падраздзяленняў Аператыўнага штаба, што працавалі на акупаваных усходніх тэрыторыях.

ім пра Мінск і гэтую паездку. Паведамленне пра гэта ў трохі іншай форме ўжо было накіравана ў Берлін. Гаворка не ішла пра пахаванне памерлага 8.03.1943[27] Захаркі, які ў 1917–1918 гг. з'яўляўся віцэ-прэзідэнтам Беларускай Народнай Рэспублікі[28], а пра кампетэнтную ацэнку яго літаратурнай і дакументальнай спадчыны, якая мае надзвычай важнае палітычнае значэнне для Беларусі, а таму трэба выявіць і ацаніць мажлівасці яе выкарыстання для краіны.

На жаль, значнае пагаршэнне майго стану, выкліканае нястраўнасцю і заваротам кішак, таксама як і наяўнасць велізарных фармальнасцей, звязаных з падарожжам і перасячэннем мяжы, прымусілі мяне затрымацца ў Берліне на два дні.

У суботу 1 мая я прыбыў у Прагу.

**–3-**

У Прагу я прыбыў 1 мая 1943 г. разам з камандуючым Мінскім Палітычным аддзелам, партайгеносэ Лангерам, а таксама з кіраўніком Беларускай самапомачы др. Ермачэнкам[29], які сам родам з Прагі і павінен быў затрымацца там на некалькі тыдняў, таксама як і яго ад'ютант („Міністр транспарту") Аўчыннікаў. Згодна з сабранымі звесткамі, з боку пражскага СД, якое зрэшты насуперак Мінскаму СД вельмі добразычліва ставіцца да асобы др. Ермачэнкі як да вернага, старога, адданага немцам нацыяналіста, які ласкава прапанаваў дзейсную дапамогу ў справе спадчыны Захаркі. Цяжкасці ўзніклі з боку кола пражскай беларускай эміграцыі (сям'я др. Геніюш[30], якая лічыць сябе спадчынніцай гэтых дзяржаўных дакументаў і жадае перашкодзіць нямецкаму кіраўніцтву і прадухіліць іх перадачу праз яго на Беларусь). У любым выпадку гэты супраціў на грунце эгаістычных матэрыяльных прычын тыповай эмігранцкай клікі, якая прыкладае ўсе намаганні і гатовая ісці на любыя ахвяры, павінен быць поўнасцю знішчаны.

<u>У</u> <u>панядзелак 3</u> <u>мая</u> праясніліся гэтыя знешнія абставіны. Пані Геніюш, жонка паўгады працуючага ў Слоніме абласнога ўрача, была выклікана на допыт. Пасля некалькіх спроб (тэлефонная размова з яе знаёмым

27 Васіль Захарка памёр 14.03.1943 г.

28 Намеснікам старшыні Рады БНР В. Захарка стаў 13.12.1919 г.

29 Вясной 1943 г. спецыяльнае следства абвінаваціла І. Ермачэнку ў парушэнні статутных задач Беларускай Народнай Самапомачы. У выніку ён быў змешчаны з усіх пасад і 27.4.1943 г. выехаў у Прагу з забаронай займацца палітычнай дзейнасцю.

30 Маецца на ўвазе Ларыса Геніюш (9.09.1910–7.04.1983) — вядомая беларуская паэтка і грамадскі дзеяч. Яе муж Янка Геніюш у той час знаходзіўся ў Слоніме, дзе працаваў лекарам.

штурмбанфюрарам Гестапа Хайдэ[31]) яна нарэшце з'явілася і абвясціла, што пад гнётам абставін гатовая перадаць архіўныя матэрыялы, якія былі перададзены ў яе і др. Абрамчыка[32] з Берліна распараджэнне памерлым Захаркам. Яна растлумачыла, што не зацікаўлена ў тым, каб пакінуць гэтыя беларускія матэрыяльныя каштоўнасці ў сваім распараджэнні. Яна перадала ключ ад памяшкання архіва, хаця яшчэ некалькі гадзін таму ўпарта сцвярджала, што ключа ў Празе няма, што ён знаходзіцца ў Берліне, у руках др. Абрамчыка. Пан Лангер не мог у такой незразумелай сітуацыі аб'явіць пані Геніюш аб прыняцці канчатковага рашэння наконт парадку выкарыстання гэтага архіва. Ён толькі сказаў ёй, што ні ў якім выпадку не мае намеру забраць у яе што-небудзь з маёмасці, якая належыць ёй па законе. Асабістае даследаванне стану архіва і далейшы разгляд пытання прывялі да рашэння, што варта набыць на карысць урада каштоўны беларускі дакументальны матэрыял шляхам пакупкі альбо арэнднага карыстання. У любым выпадку па пытанні выкарыстання матэрыялаў нашым бокам будзе прынята афіцыйнае рашэнне кампетэнтнымі асобамі.

Пытанне пра тое, які парадак будзе канчаткова прыняты адносна матэрыяльнага і асабістага аспекта ўсёй гэтай спадчыны, дагэтуль застаецца адкрытым. Акрамя таго, была яшчэ запрошана старая дама Крачэўская[33], удава памерлага ў 1928 г. былога прэзідэнта Беларускай Народнай Рэспублікі (1917–1918). Яна яшчэ зараз жыве ў кватэры, дзе пазней Захарка знайшоў стары архіў яе мужа, пра які зараз ідзе гаворка. Яна магла даць зусім няшмат тлумачэнняў, але дала зразумець, што некаторая частка архіва была выдалена і перамешчана ў іншае месца. Гэтыя сляды абавязкова трэба знайсці. Пані Крачэўская асабіста паказала нам тое, што засталося ў яе распараджэнні. Разам з панам Лангерам мы давялі да ведама штурмбанфюрара Лэммеля, рэферэнта кіраўніка Пражскага аддзела СД на Саксэнвег, 44, пра гэтыя вынікі, ён згодны і выказаўся ў тым сэнсе, што разглядаць магчымасць канфіскацыі, якая пацягне за сабой мноства

**–4-**

практычных цяжкасцей і будзе спрыяць прыцягненню ўвагі да аўтаноміі ўласнай краіны, можна толькі ў крайнім выпадку. Такім чынам,

31 У *„Споведзі"* Л. Геніюш гэта прозвішча не ўзгадваецца.

32 Мікалай Абрамчык (1903–1970) — беларускі грамадска-палітычны і эміграцыйны дзеяч.

33 Марыя Крачэўская (1883 — пасля 1948) — у дзявоцтве Барткевіч — жонка П. Крачэўскага. Нарадзілася ў Мінску. У Празе з 1921 г.

застаецца толькі разглядаць палюбоўнае пагадненне. Па пытанні надання др. Ермачэнку і яго сям'і нямецкага грамадзянства ён выказаўся стрымана, паколькі поўнасцю падтрымлівае пана Лангера, які звязвае наданне грамадзянства з канцом вайны. Гаўптштурмбанфюрар Лэммэль передаў мне звесткі праз гаўптштурмбанфюрара праф. Бэйера, які з'яўляецца ўпаўнаважаным імперскага кіраўніцтва па славянскіх навуковых установах, я меў з ім асабістую размову наконт пытанняў, звязаных са сферай яго дзейнасці, 5 мая.

У аўторак 4 мая пасля абеду быў праведзены агляд архіва Захаркі на месцы, у Празе, на Модэршан[34], 688. Дыспетчар па лініі імперскага кіраўніцтва прадаставіў у нашае распараджэнне аўтамабіль, які даставіў мяне, пана Ермачэнку і пана Аўчыннікава на адлегласць прыкладна 10 км, у мясцовасць пад назвай Модэршан, якая ляжыць у даліне ракі, у вельмі прыгожым месцы. Там, у невялікім памяшканні абок жылога пакою, старая пані Крачэўская, удава былога прэзідэнта, змясціла акты і дакументы, якія былі перададзены Крачэўскім Захарку, а праз яго перададзены пляменніцы[35] пані Генiюш і пану Абрамчыку з Берліна. Агляд паказаў, што ўся гэтая рукапісная і надрукаваная літаратурная спадчына складаецца з 4 вялікіх валізак. Пасля аддзялення некаторай часткі дакументаў, істотных для палітыкі і гісторыі Беларусі (некалькі слоўнікаў, падшыўкі рускіх эміграцкіх газет, надрукаваныя кнігі), засталося прыкладна 2 валізкі, уласна кажучы, саміх архіўных матэрыялаў. Гэтую гісторыка-дакументальную частку мы спачатку ўважліва праглядзелі на месцы, а потым запакавалі, каб перамясціць у кватэру др. Ермачэнкі ў цэнтры горада на Пульвертурм, 1[36]. Пасля 3-гадзіннай працы большую частку папер мы перавезлі на аўтамабілі ў горад, у той час як рэшта была пакінута на наступныя дні. Такім чынам, нарэшце, мы сабралі ўвесь гістарычна каштоўны матэрыял у кватэры др. Ермачэнкі, дзе ён лёгкадаступны для нас і дзе можна правесці грунтоўнае даследаванне. Вось мой план: пасля ўласнай ацэнкі і напісання справаздачы я зраблю першапачатковы агляд атрыманых матэрыялаў, які будзе прыведзены ў канцы гэтай справаздачы. Ён утрымлівае, адпаведна першапачатковаму ўражанню, матэрыялы па пяці наступных раздзелах:

1) дзяржаўныя дакументы;

2) важныя палітычныя дакументы, справаздачы, выразкі з газет, запісы, карэспандэнцыя, распрацоўкі;

[34] Моджаны (Modřany) — у той час прыгарад Прагі.

[35] Л. Генiюш не была пляменніцай В. Захаркі. У *„Споведзі"* Л. Генiюш піша: *„Немцам я сказала, што архіў пакінуў мне дзядзька Васіль проста як сваей сваячніцы"*.

[36] Кватэра І. Ермачэнкі знаходзілася ў самым цэнтры Прагі па адрасе: U Prašné brány, 1.

3) непалітычныя, асабістыя дакументы;

4) беларуская эміграцыя (асабліва ў Празе);

5) падшыўкі газет, часопісаў, брашуры.

Пасля абмеркавання з праф. Бэйерам з фонда Рэйнхарда-Гэйдрыха ўся спадчына Захаркі разам будзе перададзена ва ўжо падрыхтаваны дэпазіт Рускага гістарычнага замежнага архіва і будзе там ляжаць для далейшага ўпарадкавання і канчатковай апрацоўкі, каб давесці яе да ладу як мага хутчэй.

**–5-**

Пасля правядзення гэтай перададзенай пад адказнасць др. Ермачэнкі працы па ўпарадкаванні, будзе складзены і даведзены да ведама падрабязны пералік наяўных адзінак захавання, дзеля чаго я зрабіў накіды сістэмы класіфікацыі і абмеркаваў яе з др. Ермачэнкам.

Наогул, гэтыя дакументы — вельмі змястоўны ўнёсак у разуменне надзвычай цікавага і палітычна дынамічнага для Беларусі часу, 1917–1926, нават калі вялікая частка гэтых матэрыялаў была згублена. Няма сумнення, што ім ужо нанесены некаторы ўрон, напрыклад пасля Берліна (Абрамчык, Беларускі камітэт[37] і г.д.). Гэтыя выкрадзеныя матэрыялы павінны быць знойдзены ў інтарэсах будучыні і перадрукаваны для таго, каб зацікаўленыя людзі насамрэч маглі карыстацца гэтымі дакументальнымі архівамі. Я асабіста мог толькі ў Празе займацца даследаваннем даступных па-за межамі Беларусі збораў дакументаў, паколькі да гэтага часу сваім беларускім аддзелам быў вядомы толькі Рускі гістарычны замежны архіў. У бліжэйшыя дні будзе праведзена грунтоўная інспекцыя (гл. справаздачу ад 6 мая).

Дадаткам да фондаў гэтага архіва Крачэўскага — Захаркі з’яўляюцца, у прыватнасці, дакументы выбітных дзеячаў той эпохі, такіх як Ластоўскі[38] (Коўна), Русак[39], Грыб[40] (Прага) і Бароўскі[41] (Берлін) — згодна з заявамі

---

[37] Беларускі камітэт самапомачы — створаны вясной 1940 г. пры Беларускім прадстаўніцтве ў Берліне. Філіялы дзейнічалі ў Варшаве, Празе, Вене, Лодзі, Мюнхене і інш. гарадах. Беларускі камітэт самапомачы цесна супрацоўнічаў з нямецкімі разведслужбамі і службай бяспекі (СД), вёў работу сярод ваеннапалонных беларусаў, былых салдат Войска Польскага.

[38] Вацлаў Ластоўскі (1883–1938), грамадска-палітычны дзеяч, пісьменнік, гісторык, філолаг, літаратуразнаўца, этнограф. У 1919–1923 гг. — прэм’ер-міністр БНР.

[39] Васіль Русак (1896 — пасля 1946) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, фалькларыст, выдавец, прадпрымальнік. З 1922 г. у Празе.

[40] Тамаш Грыб (1895–1938) — беларускі палітычны, грамадскі і культурны дзеяч. Член Рады БНР і яе Выканаўчага камітэта, народны сакратар земляробства ва ўрадзе Язэпа Варонкі. З восені 1922 г. у Празе.

[41] Андрэй Бароўскі (1873–1945) — беларускі грамадска-палітычны і эміграцыйны дзеяч. У 1921–1925 гг. кіраўнік дыпламатычнай місіі БНР у Берліне.

некаторых аўтарытэтных беларускіх дзеячоў, ён мог забраць многія з гэтых матэрыялаў, — паколькі гэтыя дакументы шырока раскіданыя па ўсёй Еўропе, трэба іх адшукаць і найлепш было б сканцэнтраваць у Мінску. Для гэтага трэба настойліва мабілізоўваць увесь духоўны актыў Беларусі, асабліва эмігранцкія колы, пад кіраўніцтвам др. Ермачэнкі.

Серада, 5 мая. Прагляд архіўных матэрыялаў быў працягнуты і амаль скончаны. Яшчэ больш узмацнілася ўражанне, што ў выпадку з гэтым архівам гаворка ідзе перадусім пра суправаджальны матэрыял, у той час як з арыгінальных дакументаў выдаленыя істотныя часткі. У сераду пасля абеду я нанёс візіт гаўптштурмфюрару СС праф. Бэйеру, упаўнаважанаму імперскага кіраўніцтва па славянскіх навуковых установах, які ў дадзены момант арганізуе фонд Рэйнхарда-Гэйдрыха па навуковых даследаваннях у Празе. Яго заданнем з'яўляецца навукова-палітычнае кіраўніцтва набытымі чэшскімі інстытутамі, якія збіліся з вернай дарогі з-за сваёй шавіністычна-чэшскай пазіцыі і цесна звязанага з гэтым панславісцкага ўплыву, што супярэчыць нашай палітычнай візіі новага ўсходнееўрапейскага парадку. Фонд Рэйнхарда-Гэйдрыха заснаваны як наша галоўная інстытуцыя ў гэтай галіне. Яна падзяляецца на шэраг інстытутаў, перад якімі пастаўлена задача займацца даследаваннем усіх аспектаў багемска-мараўскага рэгіёна, які дагэтуль заставаўся па-за ўвагай даследчыкаў. Гэтыя інстытуты працуюць у цесным кантакце з персаналам нямецкага Карлаўскага ўніверсітэта,

**–6-**

а кіраўнік фонда мае мажлівасць адначасова быць рэктарам універсітэта. Гэты падзел выключна фармальны, паколькі фонд выконвае задачы імперскага кіравання, а ўніверсітэт з'яўляецца неадкладнай справай імперскага міністра культуры. Акрамя шматлікіх старажытных калекцый інстытута і кнігазбораў, у нашым распараджэнні знаходзяцца багатая Нацыянальная бібліятэка і бібліятэка ўніверсітэта, якія лічацца аднымі з самых шыкоўных збораў славянскай літаратуры ў Еўропе. Я таксама маю магчымасць наведаць славянскі аддзел, які фармальна належыць самому фонду Рэйнхарда-Гэйдрыха з яго прыкладна 250 000 тамамі кніг.

Наконт практычнага вопыту супрацоўніцтва з набытымі чэшскімі інстытуцыямі і навукоўцамі праф. Бэйер у асноўным выказаў сваё задавальненне. Толькі ў галіне гісторыі існуе настолькі глыбокае непаразуменне, што пераадолець яго ніяк немагчыма. Таму празаходняя арыентацыя нацыяналістычнай, прыязнай да немцаў сістэмы Бенэша састарэла, яна будзе замяняцца імперскім парадкам і яго поглядам,

скіраваным на Еўропу. Дагэтуль чэшскія навукоўцы адказвалі поўным маўчаннем. Праф. Бэйер забяспечыў мне доступ да раней закрытага Рускага архіва[42], у якім я перадусім жадаю вывучыць часткі, непасрэдна звязаныя з Беларуссю.

Чацвер, 6 мая. Пані Геніюш, пра якую было ўжо ўзгадана, паведаміла, што яна неадкладна выязджае ў Берлін, каб там падаць скаргу *„ў міністэрства”*[43] наконт архіва Захаркі. Такая патаемная палітыка маленькіх людзей, якія не баяцца ніякіх выдаткаў, каб атрымаць свае грошы, прынясе адваротны вынік, таму што пан Лангер катэгарычна выказаўся за набыццё і далейшае выкарыстанне ўсяго архіва. Дзякуючы даведцы, прадастаўленай пані др. Блюмэль праф. Бэйеру з фонда Рэйнхарда-Гэйдрыха, сёння я магу наведаць разам з др. Ермачэнкам Рускі гістарычны замежны архіў. У пэўным сэнсе можна сказаць, што ён знаходзіцца ў становішчы, калі можа ўплываць на дзяржаўныя і культурныя стасункі на занятых тэрыторыях. Фармальна ён належыць да чэшскага Міністэрства ўнутраных спраў. Па распараджэнні спецыяльнага ўпаўнаважанага імперскага кіраўніцтва славянскімі навуковымі ўстановамі ў сваёй дзейнасці ён звязаны з праф. Бэйерам і праз яго з фондам Рэйнхарда-Гэйдрыха, а таксама з аддзелам па культурнай палітыцы пры імперскім кіраўніцтве, штурмбанфюрарам СС Вольфам і вышэйшай інстанцыяй, дзяржаўным сакратаром Франкам пры імперскім кіраўніцтве. Спецыяльнае кіраўніцтва ажыццяўляе былы брэслаўскі[44] саветнік па архівах др. Свентэк, упаўнаважаны райхспратэктара па справах архіваў у пратэктараце. Грамадскасці ён недаступны. З асаблівага дазволу ён выкарыстоўваецца выключна зацікаўленымі нямецкімі ведамствамі, перадусім Усходнім міністэрствам, міністэрствам прапаганды, галоўнакамандаваннем вермахта, службамі абвера, райхспратэктарам, СД, службай па пытаннях друку Берлін-Далем[45]. Унутраная апрацоўка прыкладна 11 000 інвентарных нумароў аб’ёмных актавых матэрыялаў і больш за 60 000 тамоў вялікай бібліятэкі інтэнсіўна ажыццяўляецца шматлікім чэшскім і рускім персаналам і знаходзіцца пад кіраўніцтвам чэха др. Пешара[46].

42 Маецца на ўвазе Рускі загранічны гістарычны архіў у Празе.

43 Відаць, маецца на ўвазе Імперскае міністэрства акупіраваных усходніх тэрыторый.

44 Вроцлаўскі.

45 Выдавецкая служба пад назвай „Publikationsstelle Berlin-Dahlem” была аддзелам Прускага тайнага архіва ў Берліне-Далеме (прадмесце Берліна), які існаваў з 1931 па 1945 г. і займаўся апрацоўкай і публікацыяй статыстычнага і картаграфічнага матэрыялу пра краіны Усходняй Еўропы і СССР з мэтай службовага выкарыстання.

46 Маецца на ўвазе др. В. Пешак (V. Pešák), які з 7.3.1939 г. узначальваў т. зв. Славянскія архівы (РЗГА, Украінскі гістарычны кабінет і Беларускі замежны архіў). Гэтыя архівы з 1 студзеня 1939 г. былі перададзены ў падпарадкаванне архіва Міністэрства ўнутраных спраў ЧСР.

## –7-

Канфіскаваны ў 1928 г. Міністэрствам замежных спраў Чэхаславацкай Рэспублікі архіў, створаны па ініцыятыве рускай эміграцыі ў 1923 г., меў на мэце сабраць разам, захаваць і апрацаваць на навуковай аснове ўсе дасягальныя рукапісныя і друкаваныя дакументы, звязаныя з рускай гісторыяй. Першапачаткова ён быў змешчаны ў Тасканскім палацы на плошчы Градчаны, сёння знаходзіцца ў 3 акрузе Прагі на алеі Ларэтта[47].

Названыя беларускія часткі, пра якія ідзе гаворка, у асноўным існавалі ў агульнарасійскім кантэксце і не разглядаліся як нешта асобнае. Такім чынам, па меры набходнасці трэба збіраць іх у адпаведнасці з храналагічным парадкам. Аднак у наяўнасці маюцца толькі 2 невялікія асобныя беларускія калекцыі:

1. У асобным пакоі знаходзяцца 5 шаф, цалкам запоўненых беларускімі матэрыяламі, перададзенымі архіву ў надзейныя рукі ў якасці дэпазіту колішнім Беларускім камітэтам у Празе[48], а таму яны ніколі не былі ўласнасцю архіва. Наконт гэтага маецца пісьмовы пратакол. Да яго належаць 2 шафы са звязкамі папер галоўным чынам пра беларускую эміграцыю, а таксама невялікая колькасць дзяржаўных актаў колішняй Беларускай Народнай Рэспублікі за 1917 г. Першая шафа, няпоўная, утрымлівае беларускія газеты; 2 іншыя шафы змяшчаюць друкаваную літаратуру нацыянальна-беларускага зместу, каля 500 кніг і брашур і прыкладна столькі ж сшыткаў часопісаў. Яны паходзяць амаль цалкам з тэрыторыі Польскай дзяржавы, Вільні, Варшавы і г.д. Там зусім мала ранне-савецкага. Распачатае ўпарадкаванне спынілася напачатку, таму наогул збор робіць неарганічнае, хаатычнае ўражанне.
2. Набыты архівам і атрыманы ў падарунак ад Бароўскага ў Берліне 2 часткамі ў 1927 і 1930 гг. збор дакументаў. Ён быў перададзены сюды, у адзінае надзейнае сховішча эміграцыі, былым членам урада Беларускай Народнай Рэспублікі Бароўскім. Пад інвентарнымі нумарамі 6886 і 7920 змешчаны матэрыялы ў вялікіх кардонных скрынках памерам 11 на 26 на 47 см, якія носяць назву „Архив Белорусскаго Бюро в Берлине”[49].

---

47 У красавіку 1939 г. Славянскія архівы былі перавезены з Тасканскага палаца ў новы будынак па адрасе: Loretánská ulice, 6.

48 Маецца на ўвазе Беларуская рада ў Празе (1923–1939) — беларуская грамадска-палітычная арганізацыя ў Чэхаславакіі. Пераняла выкананне функцый распушчанай Беларускай грамады. У розны час арганізацыю ўзначальвалі Леанард Заяц, Васіль Захарка, Мікалай Вяршынін.

49 Перададзеныя А. Бароўскім дакументы (або іх частка) у РЗГА на сённяшні дзень з'яўляюцца фондамі № 5782 (Беларускае бюро друку ў Берліне) і № 6463 (Місія Беларускай Народнай Рэспублікі ў Берліне) ГАРФ.

Ён складаецца з актаў гэтага прэс-бюро, праектаў бюлетэняў, пашпартоў, каля 50 нацыяналістычна-прапагандысцкіх брашур, геаграфічных мап, 2 гадавых падшывак выданняў прэс-бюро з Берліна. Шмат каштоўнага знаходзіцца ў 2 скрынках з самімі дакументамі і дзяржаўнымі актамі ранняга перыяду БНР і яе міністэрстваў за 1919 г., напрыклад пра ўзаемадачыненні з Літвой і іншымі краінамі-суседкамі, пра ўдзел у Парыжскай мірнай канферэнцыі, некаторая дзяржаўная карэспандэнцыя. Няма сумнення, што гэты матэрыял прадстаўляе сабой вялікі гістарычны інтарэс і каштоўнасць. Канешне, было б вельмі карысна, калі б уся гэтая спадчына Захаркі, якая прадстаўляе велізарную каштоўнасць, была ў распараджэнні даследчыкаў Беларусі. Першы збор, які перададзены сюды выключна ў якасці дэпазіту, можна атрымаць адносна проста і належным чынам перавезці ў Мінск. З другім, зборам Бароўскага, значна складаней. У любым выпадку ўсё гэта трэба абмеркаваць з адпаведнымі нямецкімі інстанцыямі; найлепшым выйсцем для нас была б перадача рускага архіва ў Мінск. Перад гэтым абавязкова трэба правесці грунтоўную працу па ўпарадкаванні ўсіх беларускіх архіўных збораў, для чаго, калі будзе трэба, можна камандзіраваць на 2 ці 3 месяцы мінскіх архівістаў.

**–8-**

Пятніца, 7 мая. Раніца прынесла заканчэнне першапачатковага агляду актавых матэрыялаў, якія раней знаходзіліся на кватэры др. Ермачэнкі. Знойдзена яшчэ некалькі мап з вельмі цікавым дзяржаўна-палітычным матэрыялам, а таксама шматлікія важныя грунтоўныя распрацоўкі, якія тычацца беларускай ідэі і гісторыі, і аб'ёмістая палітычная карэспандэнцыя. Але арыгіналы палітычных дакументаў складаюць сярод іх меншую частку, асабліва гэта тычыцца тых дакументаў, пра існаванне якіх пан Ермачэнка ведаў асабіста ад пана Захаркі. Месцазнаходжанне гэтых важных дакументаў абсалютна невядомае.

Наведванне разам з праф. Гесэманам, дырэктарам Інстытута даследавання Усходняй і Паўднёвай Еўропы (раней — Славянскі семінар) Нямецкага Карлаўскага ўніверсітэта прадэманстравала, што сярэдні і паўночны ўсход прадстаўлены там вельмі слаба. Не існуе ніякага беларускага аддзялення альбо прадстаўнічай інстытуцыі. Зразумела, што гэтая тэрыторыя выпадала таксама са сферы навуковых інтарэсаў нямецкага ўсходазнаўства, прадстаўленага папярэднікамі Усходняга інстытута. Таму праф. Гесэман выказаў пажаданне, каб па інстанцыі было перададзена яго жаданне ўключыць у штат яго інстытута даследчыка-

беларусазнаўцу, як гэта ўжо даўно мае месца з даследчыкам Украіны Рудніцкім. Ён мог бы, акрамя таго, працаваць у іншых навуковых інстытуцыях, перадусім у фондзе Рэйнхарда-Гэйдрыха, які дагэтуль прадстаўляў у Празе пакуль што цалкам маргінальныя ў навуцы беларускія даследаванні. Гэта было б вельмі карысным сродкам паглыблення ведаў пра Беларусь у нямецкай і еўрапейскай навуцы.

Я яшчэ раз сустракаўся са спецыяльным упаўнаважаным райхспратэктара праф. Бэйерам, які адказвае за славянскі напрамак у навуковых даследаваннях, каб разам з ім абмеркаваць магчымую перадачу ў Мінск беларускіх матэрыялаў з Рускага замежнага архіва. Праф. Бэйер лічыць гэтую справу, нягледзячы на некаторыя фармальныя цяжкасці, цалкам магчымай, асабліва што тычыцца ўжо афіцыйна перададзенай архіву часткі Бароўскага. Дзяржаўнаму сакратару пры райхспратэктары Карлу Герману Франку ўжо было паведамлена пра адпаведнае мерапрыемства па перадачы публікацый, прадстаўленых выключна савецкай літаратурай, большая частка якой адносіцца да перыяду пазней 1938 г., якая паходзіць з багемска-мараўскай тэрыторыі і Паўднёвай Еўропы. Найлепш было б прапанаваць яму асабіста ўзначаліць яе як адказнаму за такія справы ў адпаведнасці са службовай пасадай. У нашым распараджэнні неацэнны і адзіны ў сваім родзе скарб, які распавядае пра палітыку і гісторыю Беларусі перыяду пасля царызму (1917–1926).

Вечарам я прывёз на машыне рэшткі палітыка-гістарычнай спадчыны Захаркі з Модэршана ў кватэру др. Ермачэнкі. Гэта была менш значная частка, каля 3–4 скрынак, поўных кніг і часопісаў беларускага, агульнарасійскага і ўкраінскага зместу, толькі невялікая частка якіх прадстаўляе сапраўдную каштоўнасць і рэдкасць. Яны таксама былі збольшага рассартаваныя і ўпарадкаваныя.

**–9-**

Наконт перадачы ўсёй гэтай літаратурнай спадчыны, разам з часткамі, якія не ў поўнай меры з’яўляюцца беларускімі, я вырашыў, што было б немэтазгодна раз’ядноўваць увесь гэты адзіны працоўны матэрыял у адпаведнасці з асобамі стваральнікаў (палітыкаў ці навукоўцаў) і пакідаць на волю лёсу нейкія выбракаваныя яго часткі. Пасля канчатковай апрацоўкі пражскімі беларусістамі можна, калі спатрэбіцца, выключыць непатрэбнае.

Субота, 8 мая. Апошняя тэлефонная размова з праф. Бэйерам прынесла разуменне, што архіў, спадчына Захаркі, разам з іншымі беларускімі

дэпазітнымі калекцыямі Рускага замежнага архіва пасля канчатковай апрацоўкі будзе захоўвацца ў надзейных руках. Др. Ермачэнка сам выказаў пажаданне ўзяць архіў пад сваю асабістую адказнасць, каб такім чынам мець магчымасць абараніцца ад папрокаў сваіх суайчыннікаў. Такім чынам, ён будзе адказваць за маючую неўзабаве адбыцца перадачу. Праф. Бэйер будзе афармляць гэтае мерапрыемства дакументальна. Такім чынам беларускі актавы матэрыял з Прагі зменіць месцазнаходжанне, што вельмі патрэбна для рэкамендаванай яму апрацоўкі праз айчыннага супрацоўніка.

Далейшы лёс гэтай спадчыны залежыць ад рашэння аб наступнай працы з усімі беларускімі актамі Рускага замежнага архіва, якія павінны быць перададзены ў Мінск.

Заключная размова з хаўптштурмфюрарам пражскага СС Лэммелем прайшла ў сяброўскай атмасферы. Я азнаёміў яго з вынікам акцыі, якая тычылася архіва Захаркі, і паведаміў, што з боку пані Геніюш была выкарыстана традыцыйная славянская падпольная палітыка, якая ні ў якой меры не можа прымусіць нас перапыніць ажыццяўленне мерапрыемстваў на карысць нашай краіны. Я зрабіў націск на тое, што ў любым выпадку мэтазгодна ясна і недвухсэнсоўна давесці гэтую інфармацыю да кіраўніцтва ў Берліне. Лёгка растлумачыць, чаму трэба было забраць перададзены ў рукі пані Геніюш ключ ад пакоя са спадычнай і рэштай асабістых рэчаў.

Двухгадзіннае наведванне Славянскага аддзела Нацыянальнай і ўніверсітэцкай бібліятэк[50], якія падпарадкаваны фонду Рэйнхарда-Гэйдрыха і падначалены Нацыянальнай бібліятэцы толькі ў прафесійным плане, дало наступнае: аддзел з яго амаль 240 000 тамамі, у свой час арганізаваны праз чэшскае Міністэрства ўнутраных спраў, утрымліваецца вельмі добра. Яго фонды, якія ахопліваюць усе тэрыторыі, заселеныя славянскімі народамі, вельмі багатыя, так што трэба прызнаць: у сваёй галіне ён займае першае месца. Ён добра забяспечаны савецкімі матэрыяламі, але ў іншых адносінах мае вялікія недахопы. Савецкая палітыка, згодна з якой выключна Масква з'яўлялася адзіным цэнтрам, мела

**–10-**

прымусовы характар і прадугледжвала строгую цэнзуру ўнутры савецкай дзяржавы, у выніку чаго істотная частка літаратуры, асабліва

[50] Маецца на ўвазе Славянская бібліятэка, якая была створана ў 1924 г. МЗС ЧСР і спачатку называлася Руская бібліятэка Міністэрства замежных спраў. З 1927 г. стала называцца Славянскай бібліятэкай Міністэрства замежных спраў. У бібліятэцы існаваў асобны беларускі аддзел. Пасля закрыцця Беларускага навуковага кабінета ў Празе яго кніжныя зборы папоўнілі беларускі аддзел Славянскай бібліятэкі.

ў галіне гуманітарных навук, была схавана. Асабліва вялікія прабелы маюцца па гадах пасля 1937. Яшчэ ў большай ступені гэта тычыцца адносна нешматлікай беларускай часткі, якая складаецца самае большае з 2–3 тысяч тамоў, сярод якіх пераважае масавая прадукцыя, якая не мае вартасці (шматлікія брашуры, шэраг часопісаў, напрыклад *„Бальшавік Беларусі"*. Жаданне з боку кіраўніцтва бібліятэкі і ўсіх навуковых колаў, якія маюць да гэтага дачыненне, па магчымасці запоўніць дадзеныя прабелы вельмі зразумелае і павінна быць падтрымана з боку ўсіх інстытуцый, якія ў стане з гэтым дапамагчы.

Першая частка дня ад'езду, нядзеля, 10 мая: быў праведзены канчатковы агляд усяго, што звязана са спадчынай Захаркі, а таксама адбылося абмеркаванне з др. Ермачэнкам стратэгіі ажыццяўлення далейшых мерапрыемстваў і фармальнасцей. Першапачатковае выяўленне і ўпарадкаванне ўсяго збору спадчыны на актавыя матэрыялы і кнігі завершана, склаўся агульны малюнак, згодна з якім немагчыма назваць канкрэтныя лічбавыя даныя, а можна толькі прадставіць прыкладную ацэнку каштоўнасцей. Асноўныя групы былі названыя ў прадстаўленай у чацвер справаздачы. 1 група ўтрымлівае 248 аркушаў, 2 група — 3 700 аркушаў, да гэтага трэба дадаць пару соцень газетных выразак і некалькі соцень старонак нататак у чвэрць аркуша; 3 група ўтрымлівае каля 500 аркушаў актаў, а таксама больш за 300 лістоў асабістага характару; 4 група ўтрымлівае 4 вялікія скорасшывальнікі і сшыткі, якія разам складаюць прыкладна 800 аркушаў; 5 група ўтрымлівае вялікія стосы старых беларускіх часопісаў, газет і брашур, прыкладна 1.5 вышыні звычайнага стала. У апошнюю пятніцу была дастаўлена рэшта спадчыны Захаркі, якая складаецца пераважна з кніг, брашур і гадавых падшывак газет, яна ўтрымлівае, паводле прыкладнага падліку, наступнае: 3 слоўнікі; 43 тамы агульнага зместу (гісторыя, белетрыстыка і г.д.); 18 звязак з 50 сшыткамі часопісаў і 1 вялікі пакет з украінскімі газетамі; 4 тамы па Польшчы; 60 звязак і 80 сшыткаў рускіх і агульнаславянскіх часопісаў; пра Літву 4 тамы; 13 чэшскіх тамоў; пра казакоў, акругляючы, 150 брашур і сшыткаў часопісаў.

На гэтым скончана праца па ўпарадкаванні, якая праводзілася на кватэры др. Ермачэнкі, і перададзеная пад нашую апеку калекцыя са спадчыны Захаркі падрыхтавана для перадачы ў якасці дэпазітнага аддзела Рускаму замежнаму архіву, з якім др. Ермачэнка ўжо абмеркаваў гэтую перадачу.

Вяртанне назад адбылося ў прадпісаным парадку, праз Берлін і Кёнігсберг 11 і 12 мая, пра што я далажыў па тэлефоне ў Мінск кіраўніцтву штаба (партайгеносэ Хэльбінгу[51]).

Абагульненая справаздача на прыкладзеным да гэтага аркушы.

**–11-**

Абагульняльная выніковая справаздача пра прагляд і ахову літаратурнай спадчыны Крачэўскага і Захаркі ў Празе 3–10 мая

Колішні прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі 1917 г. пакінуў пасля смерці сваю палітычную спадчыну сябру, віцэ-прэзідэнту Захарцы. Апошні памёр 14.03.1943, таму прадставіўся зручны выпадак набыць гэтую важную ў палітычным і гістарычным сэнсе спадчыну для выкарыстання ў інтарэсах новай Беларусі.

Гэтую магчымасць выкарыстала Палітычнае аддзяленне Генеральнага камісара ў Мінску, яно ажыццявіла класіфікацыю, экспертызу і ахову гэтага матэрыялу, палітыка-гістарычнай спадчыны, пад кіраўніцтвам займаючага пасаду кіраўніка аддзялення партайгеносэ Лангера, прафесійныя кансультацыі ажыццявіў др. Рыхель з штаба рэйхсляйтара Розенберга ў Мінску.

Супраць гэтай апрацоўкі была пані Геніюш, якая выдае сябе за спадчынніцу Захаркі і зыходзіць выключна з матэрыяльна-эгаістычных меркаванняў, разам з беларусам Абрамчыкам з Берліна яны называюць сябе спадчыннікамі гэтага збору. Пасля завярэнняў з боку пана Лангера, які дзеля гэтага застаўся на некалькі дзён у Празе, што значная ў палітычным і гістарычным сэнсе частка спадчыны наўрад ці будзе пакінута ў яе распараджэнні, бо павінна служыць высокім нацыянальным мэтам (праз арэнду альбо набыццё шляхам пакупкі, будзе растлумачана пазней), яна аддала ключ ад пакоя са спадчынай у доме ў Модэршане, 688, які знаходзіўся ў яе распараджэнні. Але яна была гэтым вельмі незадаволеная, бо на наступны дзень з'ехала ў Берлін, каб там падаць скаргу ў „вышэйстаячыя інстанцыі".

Нягледзячы на гэтыя дзеянні, мы перамясцілі значную ў палітычным і гістарычным сэнсе рукапісную і друкаваную літаратурную частку спадчыны Захаркі ў кватэру др. Ермачэнкі ў Прагу, на Пульвертум, 1/1. Там былі праведзены ўпарадкаванне, першапачатковая класіфікацыя і прыкладны падлік, згодна з якім калекцыя складаецца з наступнага: 1 група матэрыялаў — „Дзяржаўныя дакументы" — утрымлівае каля

[51] Адказны супрацоўнік сектара „Усход" упраўлення штаба ў Берліне, які займаўся матэрыяламі, вывезенымі з акупаваных тэрыторый СССР.

250 аркушаў; 2 група — „Істотныя палітычныя дакументы, справаздачы, запісы, карэспандэнцыя і г.д.” — амаль 4000 аркушаў, пара соцень газетных выразак і некалькі соцень старонак нататак; 3 група — „Непалітычнае, асабістае” — мае каля 500 аркушаў актаў і больш за 300 асабістых лістоў; 4 група — „Беларуская эміграцыя” — утрымлівае добрых 800 аркушаў; 5 група — „Газеты, часопісы. Брашуры” — вялікія стосы матэрыялаў, прыкладна 1.5 вышыні звычайнага стала.

З друкаваных кніг было атрымана: агульнага і гістарычнага зместу каля 43 тамоў; рускія 60 тамоў і 60 сшыткаў часопісаў; украінскія — 182, 50 сшыткаў часопісаў і 1 вялікі пакунак газетных выразак; польскія — 4 тамы; літоўскія — 4 тамы; чэшскія — 13 тамоў; казакі — 150 брашур і часопісаў і 3 слоўнікі.

Пасля абмеркавання з адказным з нямецкага боку, спецыяльным упаўнаважаным рэйхспратэктара па славянскіх навуковых інстытуцыях праф. Бэйерам, спадчына Захаркі, якая прайшла першапачатковае ўпарадкаванне, была перададзена ў якасці дэпазітнага аддзела ў надзейныя рукі Рускага гістарычнага замежнага архіва ў Празе. Ён ляжыць там разам з перададзенымі раней 2 групамі беларускіх архіўных матэрыялаў, якія чакаюць канчатковага грунтоўнага ўпарадкавання, для гэтага я ўжо распрацаваў сістэму класіфікацыі, якую прывяду ў гэтай справаздачы. Ключ ад пакоя са спадчынай Захаркі, дзе знаходзяцца самыя розныя асабістыя рэчы (радыёапарат, інструменты і г.д.), перададзены хаўптштурмфюрару Лэммелю, рэферэнту галоўнага аддзела СД у Празе (Заксэнвэг, 44, тэл. 77841), у якога пані Генюш можа атрымаць ключ у сваё распараджэнне.

Дзве астатнія групы беларускіх дакументаў гэтага архіва:

**–12-**

1) дэпазіт пражскай групы беларускіх эмігрантаў, дзе пераважае друкаваны матэрыял і менш вядомыя дакументальныя матэрыялы;

2) набытая ў Бароўскага частка дзяржаўнага архіва Беларускай Народнай Рэспублікі за 1917–1919 гг. з надзвычай важнымі асобнікамі — абедзве гэтыя групы дакументаў пасля вывучэння праф. Бэйерам і ўладжвання неабходных фармальнасцей у Празе, перадусім адпаведнага афіцыйнага хадайніцтва з прапановай да дзяржаўнага сакратара К. Г. Франка, будуць свабодна перададзены ў Мінск. Беларускі матэрыял, які знаходзіўся на працягу гэтага часу ў нашым распараджэнні, мае неацэннае значэнне для палітычнай і гістарычнай працы на карысць Беларусі. Калі абставіны складуцца добра, пасля апрацоўкі спадчыны Захаркі на месцы праз

дастаўленага з Мінска прафесіянала, які прывёў бы ў парадак таксама і гэтыя дзве групы дакументаў, яны будуць грунтоўна класіфікаваныя і зарэгістраваныя. Тады можна было б атрымаць агульнае ўяўленне і ажыццявіць канцэнтрацыю ў адным месцы ўсяго беларускага дакументальнага матэрыяла, які дагэтуль знаходзіўся ў Празе.

Прага, 5 мая 1943

**Канчатковая класіфікацыя спадчыны Крачэўскага — Захаркі**

А. Беларуская Народная Рэспубліка

1. Афіцыйныя дзяржаўныя дакументы. Справаздачы, мемарандумы, статуты, інструкцыі і г.д.

2. Палітычныя і гістарычныя дакументы, прадстаўленні, справаздачы, якія маюць асаблівую важнасць, навуковыя і палітычныя распрацоўкі. Таксама выразкі з газет, публікацыі ў друку, палітычная карэспандэнцыя і г.д.

3. Палітычныя матэрыялы невялікай значнасці.

Б. Агульны матэрыял пра Беларусь. Навуковыя апісанні і рукапісы, выразкі з газет.

В. Беларуская эміграцыя па-за межамі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Г. Небеларускі матэрыял. Расія, Украіна, Польшча і інш.

Д. Непалітычнае, асабістае.

Е. Кнігі, брашуры, часопісы:

1. Беларускія.

2. Рускія, агульнаславянскія, з Усходняй Еўропы.

3. Украінскія.

4. Непалітычнае, белетрыстыка, падручнікі, слоўнікі.

Усе гэтыя рэчы былі часова дэпаніраваныя др. Ермачэнкам са згоды пана праф. Бэйера з фонда Рэйнхарда-Гэйдрыха ў беларускім аддзеле Рускага замежнага архіва.

Др. А. Рыхель,
упаўнаважаны Палітычнага аддзела
Генеральнага камісара ў Мінску.

***ЦДАВО Украіны, ф. 3676, воп. 1, адз. зах. 107, арк. 1–14. Арыгінал. Машынапіс. Нямецкая мова. Пераклад Вольгі Сабалеўскай****

* Калектыў аўтараў выказвае падзяку к.г.н. Андрэю Чарнякевічу, дзякуючы якому была арганізавана праца над перакладам і каментаваннем дадзенага дакумента

## Метадалогія даследавання гісторыі Беларусі: праблемы, дасягненні, перспектывы: зборнік навуковых артыкулаў / Інстытут гісторыі НАН Беларусі; [уклад. В. В. Яноўская; рэд. калегія: В. В. Даніловіч (гал. рэд.) і інш.]. Мінск: Беларуская навука, 2018. — 261 с.




Рэцэнзаваная кніга ўяўляе з сябе том матэрыялаў канферэнцыі, якая адбылася ў 2016 г. у Інстытуце гісторыі НАН Беларусі і была арганізавана названай установай разам з Беларускім дзяржаўным універсітэтам і Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэтам імя М. Танка. Яна стала чацвёртай у серыі такіх форумаў, прысвечаных пытанням метадалогіі, гістарыяграфіі і крыніцазнаўства.

У прывітальным слове да ўдзельнікаў дырэктар Інстытута гісторыі Вячаслаў В. Даніловіч сказаў пра выдатныя навуковыя дасягненні падначаленых і адзначыў, што многія вынікі іх даследаванняў „не маюць аналагаў”. Нечакана высокая ацэнка! Каб не быць зусім галаслоўным, дырэктар падаў прыклады такіх дасягненняў. Сярод іх, аказваецца, ёсць *„метадалагічныя падыходы да вырашэння шэрагу ключавых для беларускай гістарыяграфіі праблем”*, якія

*„выпрацаваны і замацаваны"* ў інстытуце. Гучыць як сенсацыйная заява. Што ж гэта за метадалагічныя падыходы? *„Абгрунтавана і зацверджана новая трактоўка тэрміна дзяржаўнасць, вызначаны гістарычныя і нацыянальныя формы беларускай дзяржаўнасці"*,— паведамляецца ў слове (с. 8). Выходзіць, Інстытут гісторыі здольны без спецыяльных кадраў і арганізацыйных структур (бо ва ўстанове не было і няма спецыялістаў, якія б займаліся метадалогіяй гісторыі[1]) распрацоўваць новыя метадалагічныя падыходы і даваць новыя трактоўкі агульным тэрмінам, змест якіх збольшага агульнапрыняты ў сацыяльна-гуманітарных навуках. Шкада, што засталося невядомым, у чым сутнасць абвешчанай навізны трактавання тэрміна *дзяржаўнасць* супрацоўнікамі інстытута. Бо калі меўся на ўвазе выдадзены нядаўна двухтомнік па гісторыі беларускай дзяржаўнасці, то там няма ніякай метадалогіі, а наконт гістарычнай і нацыянальнай формы дзяржаўнасці ў прадмове і заключэнні выказана некалькі банальных думак, далёкіх ад сутнасці справы[2].

Далей, падзяліўся дасягненнямі В. Даніловіч, *„упершыню ў гістарычнай навуцы да 70-годдзя Вялікай Перамогі створана цэласная аб'ектыўная карціна ўдзелу беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі ў важнейшых падзеях Вялікай Айчыннай вайны", „паказаны агульны ўклад беларускага народа ў перамогу"*. А вось такім сцвярджэнням ніводзін абазнаны чытач не зможа даць веры. Бо, як вядома, у новых выданнях Інстытута гісторыі[3] ў асвятленні названай вайны дамінуюць тыя ж падыходы, што і раней: яна паказваецца як усенародная гераічная барацьба, без крытычнага аналізу прычын і вынікаў, без разбору злачынстваў і памылак сталінскага кіраўніцтва, без спакойнага разгляду калабарацыі значнай часткі насельніцтва і да т.п. А аднабаковая карціна вайны не можа быць „цэласнай і аб'ектыўнай".

Трэба адзначыць, што ў ацэнцы сваёй установы кіраўнік акадэмічнага інстытута апеляваў толькі да фармальных крытэрыяў, якія не дазваляюць атрымаць уяўлення пра рэальныя дасягенні яе супрацоўнікаў. Так, паказчыкам эфектыўнасці даследчыцкай дзейнасці падначаленых яму

---

1 Хоць нядаўна і з'явіўся „Аддзел гістарыяграфіі і метадаў гістарычнага даследавання", ён не забяспечаны кадрамі.

2 Гл.: *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст.: у 2 кн.* / гал. рэд. А. А. Каваленя, кн. 1, Мінск 2011, с. 7–8; кн. 2, Мінск 2012, с. 601. Больш за тое, у заключэнні другой часткі сцвярджаецца, што *„аўтарскі калектыў абапіраўся на метадалогію прычыннай абумоўленасці і заканамернасці развіцця гістарычных падзей і з'яў"* (?!). Лішне казаць, што ніякай падобнай метадалогіі проста не існуе.

3 Гл.: *Вклад белорусского народа в Победу в Великой Отечественной войне* / А. М. Литвин и др.; редколлегия: А. А. Коваленя (главный редактор) и др.]; Национальная академия наук Беларуси, Институт истории, Мінск 2015, другое выданне — 2016.

вучоных ён назваў „публікатарскую актыўнасць" (с. 9), іншымі словамі — колькасныя параметры, або „вал", а да чарговых дасягненняў залічыў калектыўную працу *„Беларусь — старонкі гісторыі"*, якая выйшла ў Пекіне на кітайскай мове (с. 10) і, на маю думку, не мае ніякага дачынення да развіцця гістарычнай навукі ў Беларусі.

Параўнальна з выступленнем кіраўніка акадэмічнага інстытута прывітальнае слова дэкана гістарычнага факультэта БДУ намнога больш сціплае. Аляксандр Г. Каханоўскі лаканічна сказаў пра ролю факультэта ў падрыхтоўцы кадраў і распрацоўцы розных аспектаў метадалогіі вывучэння гісторыі Беларусі і заклікаў удзельнікаў да працы і дыскусій.

Зборнік складаецца з двух раздзелаў, з якіх у першы ўключаны выступленні тэарэтычна-метадалагічнага зместу (агульная назва *„Канцэпцыі і метады гістарычнага пазнання"*). Тут змешчаны 22 даклады галоўным чынам беларускіх гісторыкаў (з замежных удзельнікаў апублікаваліся тры з Украіны і толькі адзін — з Расіі). Другі раздзел з 8 дакладаў, усе аўтары якіх рэпрэзентуюць Беларусь, цалкам прысвечаны методыцы выкладання гісторыі. Паколькі пытанні методыкі выкладання не маюць наўпроставых адносін да метадалогіі гістарычных даследаванняў, пакінем іх па-за ўвагай і абмяжуем гэты агляд зместам толькі першага раздзелу, даклады якога таксама значна адрозніваюцца не толькі навуковым узроўнем, але і адпаведнасцю тэме канферэнцыі. Адна іх частка сапраўды прысвечана тэарэтычнаму кампаненту гістарычных ведаў, другая больш звязана з эмпірычным аспектам даследаванняў, а некаторыя даклады, хоць у іх назве фігуруе слова *„метадалогія"*, па сутнасці не маюць з ёй нічога агульнага[4].

У першым выступе мінскія гісторыкі Аляксандр М. Бяляўскі і Кірыл В. Сыцько разглядаюць праблемы архівазнаўства, звязаныя з выклікамі постмадэрнізму, і тэматызуюць паняцце „архівалогія" (*„Архивология: отвлеченное философствование или будущее архивной науки?"*, с. 14–21). Абапіраючыся на прыклады з вопыту заходнееўрапейскіх вучоных, аўтары робяць аптымістычную выснову, што архівазнаўства не знікае, як гэта падаюць сацыёлагі, а толькі змяняе парадыгмы і падыходы. Даклад Марыны У. Глеб (Мінск) *„Акторно-сетевая теория и изучение истории Национальной Академии наук Беларуси"* (с. 38–45) знаёміць з *„актарна-сеткавай тэорыяй"* (*actor-networktheory*) — новым для постсавецкай прасторы падыходам да вывучэння гісторыі навукі, які быў распрацаваны

[4] З гэтай прычыны даклады разглядаюцца не ў алфавітным парадку, як яны апублікаваны ў зборніку, а згодна з падзелам аўтара агляду.

і выкарыстоўваецца ў Заходняй Еўропе і ЗША. Праўда, з улікам розніцы грамадска-палітычных сістэм, прынцыпаў арганізацыі і развіцця навукі на Захадзе і тут, яе прыдатнасць для вывучэння гісторыі Акадэміі навук Беларусі адразу выклікае пытанні.

У дакладзе Паўліны С. Ляснічай (Луцк) *„Повседневная жизнь провинциальных городов Российской империи (2-я половина XIX — начало XX в.): проблемное поле исследований”* (с. 101–108) спачатку абмяркоўваецца сам прадмет гісторыі штодзённасці, а затым разглядаюцца розныя катэгорыі крыніц для вывучэння штодзённага жыцця беларускіх гарадоў Расійскай імперыі. Шкада, што нават у развагах пра тэарэтычныя падставы гэтага накірунку гістарычных даследаванняў аўтарка абапіраецца толькі на беларускія, расійскія і ўкраінскія публікацыі, не звяртаючыся да прац класікаў гісторыі штодзённасці (Альф Людке і інш.).

Мінскі антраполаг Вольга У. Марфіна прысвяціла даклад уніфікацыі метадаў антрапалогіі як навукі ад сярэдзіны XIX ст. да метадалагічных асноў сучасных антрапалагічных даследаванняў (*„Основные методологические принципы в антропологических исследованиях”*, с. 108–116). Яна абмежавалася сапраўды асновамі дысцыпліны і абапіралася пры гэтым толькі на расійскую акадэмічную літаратуру — як і абсалютная большасць аўтараў зборніка.

Своеасаблівым наватарствам вызначаецца артыкул Сяргея А. Сергачова (Мінск) *„Ідэнтыфікацыйныя метады даследавання архітэктуры Беларусі XVI–XVIII стст.”* (с. 141–148). Калі звычайна гісторыкі архітэктуры вывучаюць архіўныя крыніцы з мэтай атрымання фактаў аб існаванні канкрэтных будынкаў, то аўтар прапануе рабіць крок далей — выкарыстоўваць іх як *„факты для ідэнтыфікацыйных метадаў”*, што дазваляюць на падставе супадзення прыкмет вызначаць *„тоеснасць невядомага аб’екта іншаму, пра які вядома”*, і так ідэнтыфікаваць аб’ект даследавання. Ён прадметна, на канкрэтных прыкладах тлумачыць, як гэта можна рабіць па выявах (гравюры, планы, чарцяжы і інш.), як агульнае ідэнтыфікаваць па частках, па агульным паходжанні, па ўяўным вобразе, а ў заключэнні фармулюе рэкамендацыі для падобных практык (с. 147). Бясспрэчная вартасць публікацыі ў тым, што на аснове даследчыцкага вопыту прапанаваны новыя прыёмы, якія могуць удасканаліць магчымасці вывучэння архітэктурнай спадчыны. Трэба толькі мець на ўвазе, што любая ідэнтыфікацыя як дапушчэнне павінна быць максімальна асцярожнай і імкнуцца да мінімалізацыі храналагічнай і геаграфічнай дыстанцыі.

Своеасаблівым кантрастам да выступу гісторыка архітэктуры падаецца даклад Уладзіміра Н. Сідарцова (Мінск) *„Белорусская историография в свете современной методологии”* (с. 148–156). Гаворка пра нізкі тэарэтычна-метадалагічны ўзровень гістарычнай навукі Беларусі з крытычнымі заўвагамі ў адрас доктарскіх дысертацый і канферэнцый, якія праводзяцца Інстытутам гісторыі, пераходзіць тут у пахвалу сінэргетыцы, сістэмным мадэлям і развагі пра дэтэрмінізм. Крытыкуючы беларускую гістарыяграфію, аўтар залічыў да яе недахопаў *„фактаграфічную хваробу”*, *„адыход даследчыкаў ад прадстаўлення асобы як адзінага чалавечага арганізма”* і тое, што ў ёй застаецца незапатрабаванай тэорыя *„дэтэрмінаванага хаоса”* (?!). Даклад універсітэцкага метадолага не задаў узору метадалагічнай рэфлексіі, а распаўся на агульныя развагі, якія адлюстроўваюць адарванасць ад рэальных гістарычных даследаванняў, актуальных праблем сучаснай метадалогіі, да якой аўтар неаднаразова апелюе, ды і ад патрэбаў беларускай гістарычнай навукі.

Да новай у Беларусі праблематыкі звярнулася Ніна В. Стахно (Мінск) — яна тэматызавала ўяўленні пра смерць і тагасветнае жыццё прадстаўнікоў грамадскіх эліт Беларусі ранняга Новага часу і прапанавала метады, якія лічыць эфектыўнымі для іх вывучэння (*„Выкарыстанне міждысцыплінарных метадаў пры даследаванні праблемы ўспрыняцця смерці беларускай шляхтай у канцы XV — XVIII ст.”*, с. 164–170). Такімі метадамі, як сцвярджаецца, могуць быць кантэнт-аналіз, дыскурс-аналіз, метады мастацтвазнаўства і нават псіхагісторыя. Аднак для якога эмпірычнага матэрыялу? З публікацыі амаль немагчыма даведацца пра корпус крыніц, які аўтарка вывучала або плануе вывучаць пры дапамозе абраных метадаў. Толькі агульна гаворыцца, што прааналізаваны пахавальныя казані XVII ст., сярод якіх 56 створана аўтарамі каталіцкага веравызнання і 40 — праваслаўнымі (а дзе ж тады ўніяцкія?), а таксама тастаменты, але пра іх колькасць, паходжанне, час і г.д. не пададзена наогул ніякіх звестак. Між тым для вывучэння абраны перыяд вялікіх грамадска-палітычных трансфармацый, цягам якога рэлігійнасць грамадства, абумоўленая сацыяльна, істотна мянялася, што адлюстроўвалася ў тым ліку ў тастаментах. Наогул тастаменты — складаная крыніца, якая пры належным падыходзе даследчыка можа даваць унікальную інфармацыю. Прадэманстраваная тут абыякавасць да крыніц насцярожвае. І яна, здаецца, не выпадковая, бо Н. Стахно сцвярджае, што метады (а не крыніцы! — *Г. С.*), на яе думку, — *„аснова вывучэння любой тэмы”* (с. 165). Калі раней для большасці айчынных гісторыкаў быў характэр-

